# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА*
*ДЗЕВЯТАЯ—ДЗЕСЯТАЯ*



МЕНСК—1937

*А. С. Пушкін*

# КАМЕННЫ ГОСЦЬ

Leporello: O statua gentilissima
Del gran Commendatore!
... Ah, Padrone!
*Don Giovanni*

## СЦЭНА 1.

Дон Жуан і Лепарэлло.

Дон Жуан.

Да ночы пачакаем тут. Урэшце мы
Варот Мадрыта дасягнулі. Хутка
Памчуся я па вуліцах знаёмых,
Вусы плашчом закрыўшы, бровы капялюшам.
Як думаеш? пазнаць мяне не лёгка?

Лепарэлло.

Так, Дон Жуана мудрана пазнаць!
Такіх, як ён, такая процьма!

Дон Жуан.

Жартуеш?
Ды хто-ж мяне пазнае?

Лепарэлло.

Першы з варты,
Гітана, або п'яны музыкант
І свой-жа брат, нахабны кавалер
Са шпагаю пад пахай і ў плашчы.

Дон Жуан.

Няма бяды, хоць і пазнаюць. Толькі-б
Мне сам кароль не стрэўся. Але ўрэшце,
Нікога я ў Мадрыце не баюся.

Лепарэлло.

А заўтра, як дачуецца кароль,
Што з ссылкі самавольна у Мадрыт
З'явіўся Дон-Жуан—тады, скажыце,
Што з вамі зробіць?

Дон Жуан.

Адашле назад.
Не адсякуць жа галаву мне мабыць.
Бо не злачынца-ж я перад дзяржавай.
Мяне саслаў ён, любячы мяне,
Каб не магла, чапіцца да мяне
Сям'я забітага...

Лепарэлло.

Ну вось жа, вось!
Сядзелі вы сабе спакойна там.

Дон Жуан.

Вялікі дзякуй! З адзіноты там
Я чуць-чуць не памёр. Ї што за людзі,
Што за зямля! А неба?.. бы той дым.
Што за жанчыны? Я не прамяняю,
Вось бачыш ты, дурны мой Лепарэлло,
Апошняй ў Андалузіі сялянкі
На першых прыгажунь адтуль—павер мне.
Мне спадабаліся яны спачатку
Вачамі сінімі ды бялізною,
Ды скромнасцю—а болей навізною;
Ды дзякуй богу, хутка здагадаўся—
Убачыў я, што з імі грэх і знацца—
Жыцця няма ў іх, як у ляльках з воску;
А нашыя!.. Ды слухай, гэта месца
Знаёма нам; ці ты пазнаў яго?

Лепарэлло.

Як не пазнаць: Антоньеў манастыр
Мне ў памяці. Вы ездзілі сюды,
А ў гэтым вось гаю трымаў я коней.
Праклятая, прызнаюся, пасада. Вы
Куды прыемней бавілі свой час тут,
Чым я, паверце.

Дон Жуан *(задуменна)*.

Бедная Їнеза!
Яе няма! Як я кахаў яе!

Лепарэлло.

Інеза!—чорнавокая... О, помню,
Тры месяцы за ёй хадзілі вы,
Нарэшце дапамог вам дух нячысты.

Дон Жуан.

Уночы... ліпень. Дзіўную прыемнасць
Я ў сумным поглядзе яе знаходзіў
Ї ў памярцвелых вуснах. Гэта дзіўна.

Яе прыгожаю ты не лічыў тады,
Здаецца мне. І сапраўды, нямнога
Чароўнага было ў ёй. Вочы,
Толькі вочы. Ды погляд іх... Такога
Погляду я больш не сустракаў. А голас
Яе быў ціхі, слабы, як у хворай.
Муж у яе нягоднік быў суровы,
Даведаўся я позна... Бедная Інеза!..

Лепарэлло.

Пасля яе былі другія.

Дон Жуан.

Праўда.

Лепарэлло.

А будзем жыць, то будуць і другія.

Дон Жуан.

І гэта праўда.

Лепарэлло.

А цяпер якую
Ў Мадрыце мы адшукваць пачнем?

Дон Жуан.

О, Лауру!
Я проста да яе спяшаю.

Лепарэлло.

Справа.

Дон Жуан.

К ёй проста ў дзверы—а калі хто-небудзь
Ужо ў яе—я скочыць папрашу ў акно.

Лепарэлло.

Вядома. Ну, павесялелі мы.
Нядоўга нас нябожчыцы трывожаць.
Хто к нам ідзе?

Уваходзіць манах.

Манах.

Вось зараз прыдзе
Яна. Хто тут? Мо' людзі Доны Анны?

Лепарэлло.

Не, самі мы сабе паны і тут
Гуляем.

Дон Жуан.

А вы каго чакаеце?

Манах.

Сюды прыедзе зараз Дона Анна
На мужаву грабніцу.

Дон Жуан.

Дона Анна
Дэ-Сольва! Як! супруга камандора,
Забітага... не помню кім?

Манах.

Распусным,
Бязбожным, бессумленным Дон-Жуанам.

Лепарэлло.

Ого! вось як! Аб Дон-Жуане чуткі
Не абмінулі нават мірны манастыр
І хваляць песнямі яго манахі.

Манах.

Ён можа вам знаёмы?

Лепарэлло.

Нам? ніколькі.
А дзе цяпер ён?

Манах.

Тут яго няма,
Далёка ў ссылцы ён.

Лепарэлло.

І дзякуй богу.
Тым лепей, чым далей. Усіх бы іх
Распуснікаў, у адзін мех ды ў мора.

Дон Жуан.

Што? што ты брэшаш?

Лепарэлло.

Ціха: я наўмысля...

Дон Жуан.

Дык тут і пахавалі камандора?

Манах.

Тут. Яму паставіла супруга помнік.
І прыязджае кожны дзень сюды

За супакой душы яго маліцца
І плакаць.

Дон Жуан.

Што за дзіўная ўдава!
Прыгожая?

Манах.

Прыгожасцю жаночай
Мы не павінны спакушацца,
Ды грэх хлусіць; напэўна і угоднік
Яе цудоўную красу засведчыць.

Дон Жуан.

Нездарма ж нябожчык быў рэўнівы.
Ён Дону Анну пад замком трымаў,
Ніхто не бачыў з нас яе, ніхто.
Пагутырыць хацеў бы з ёю я.

Манах.

З мужчынаю ніколі Дона Анна
О не, не стане гаварыць.

Дон Жуан.

А з вамі?

Манах.

Са мной другая справа; я манах.
Ды вось яна.

Уваходзіць Дона Анна.

Дона Анна.

Айцец мой, адчыніце.

Манах.

Я вас чакаў, сеньёра; зараз, зараз.

Дона Анна ідзе за манахам.

Лепарэлло.

Ну як яна?

Дон Жуан.

Яе зусім не ўбачыш
Пад покрыўкаю чорнаю ўдавы,
Чуць вузенькую пятку я заўважыў.

Лепарэлло.

Даволі з вас. У вас выабражэнне
Астатняе ў хвіліну дарысуе;
Яно спрытней у вас, чым ў мастака.

З чаго пачаць, вам усё роўна гэта,
З брывей ці з ног.

Дон Жуан.

Дык слухай, Лепарэлло,
Я з ёю пазнаёмлюся.

Лепарэлло.

Ну вось!
Куды як трэба! Мужа паваліў
Ды хоча слёзы бачыць удавы.
Няма сумлення ў вас.

Дон Жуан.

Але ўжо змеркла.
Пакуль над намі месяц не ўзышоў
І ў светлы змрок не ператварыў начы,
Увойдзем у Мадрыт. (*Выходзіць*)

Лепарэлло.

Іспанскі гранд наш,
Як злодзей, месяца баіцца—божа!
Праклятае жыццё! За ім ці доўга
Яшчэ хадзіць мне? Сіл ужо няма!

СЦЭНА II.

Пакой. Вячэра ў Лауры.

Першы госць.

Даю прысягу я, Лаура, ты
Так дасканала не іграла.
Як ролю правільна ты зразумела!

Другі.

Яе так моцна выканала ты!

Трэці.

З якім мастацтвам!

Лаура.

Так, мне удаліся,
І слова кожнае і кожны рух мой,
Я вольна аддавалася натхненню.
Ліліся словы, бы іх нараджала
Зусім не памяць, але сэрца...

Першы.

Праўда.
Ды вочы і цяпер твае блішчаць,
Палаюць шчокі, тваё захапленне

Яшчэ не знікла. Не давай яму
Астыгнуць бескарысна; праспявай, Лаура,
Што-небудзь праспявай.

Лаура.

Падайце мне гітару. *(Спявае).*

Усе.

О, brava! brava! Надзвычайна добра!

Першы.

Табе удзячны, чараўніца. Сэрца
Зачаравала. З асалод жыццёвых
Каханню толькі музыка уступіць;
Але мелодыя й каханне—тое-ж;
Расчулены сам Карлос, госць пануры.

Другі.

Якія гукі! колькі ў іх душы!
А чые словы гэта?

Лаура.

Дон Жуана.

Дон Карлос.

Што? Дон Жуан!

Лаура.

Калісьці склаў іх верны
Мой друг, мой палюбоўнік ветраны.

Дон Карлос.

Твой Дон Жуан бязбожнік і агіднік,
А ты дурная!

Лаура.

Ты розум страціў?
Маім я слугам зараз загадаю,
Хоць ты іспанскі гранд, цябе зарэзаць.

Дон Карлос *(устае).*

Пакліч жа іх.

Першы.

Лаура, перастань;
Дон Карлос, не сярдуй. Яна забыла...

Лаура.

Што? што Жуан сумленна на дуэлі
Брата яго забіў? І толькі шкода,
Што не яго.

Дон Карлос.

Дурны я, што злаваўся.

Лаура.

Ага! сам прызнаешся, што дурны.
Тады памірымся.

Дон Карлос.

Даруй, Лаура,
Але ты ведаеш: я не магу
Абыякава чуць гэтае імя.

Лаура.

Ці ж вінавата я, што кожнае хвіліны
Прыходзіць на язык мне гэтае імя?

Госць.

Ну, каб давесці, што ты не сярдуеш,
Яшчэ раз праспявай, Лаура.

Лаура.

Добра,
На развітанне, бо ўжо ноч. Але
Што ж праспяваць? А, слухайце. (*Спявае*).

Усе.

Цудоўна!

Лаура.

Бывайце, панове.

Госці.

Бывай, Лаура...

Выходзяць. Лаура спыняе Дон Карлоса.

Лаура.

А ты ў мяне застанешся, шалёны,
Ты спадабаўся мне; ты Дон Жуана
Мне нагадаў, як вылаяў мяне
І сціснуў зубы з скрыгатам.

Дон Карлос.

Шчаслівец!
Дык ты яго кахала?

Лаура дае пацвярджальны знак.

Вельмі?

Лаура.

Вельмі.

Дон Карлос.

І любіш зараз?

Лаура.

У гэтую мінуту?
Не, не кахаю. Двух кахаць мне нельга.
Цяпер цябе люблю.

Дон Карлос.

Скажы, Лаура,
Колькі год табе.

Лаура.

Год? Восемнаццаць.

Дон Карлос.

Ты маладая... і такою будзеш
Яшчэ гадоў пяць, або шэсць. Вакол
Цябе яны яшчэ гадоў шэсць будуць,
І пеставаць, і лашчыць, надараць
І серэнадамі начнымі цешыць,
І забіваць адзін другога за цябе
На перакрыжаваннях ноччу. А калі
Пяройдзе час і вочы западуць
І пачарнеюць зморшчаныя векі,
Сівізна мільгане ў касе тваёй,
І называць цябе старою будуць,
Тады—што скажаш ты?

Лаура.

Тады? Нашто
Аб гэтым думаць? Што за гаворка?
Або ў цябе заўжды такія думкі?
Лепш адчыні балкон. Як ціха ў небе!
І нерухома цёплае паветра—
Лімонам, лаўрам пахне ноч. А месяц
На сіні цёмнай і густой блішчыць—
Крычаць працяжна вартавыя: ясна!..
На поўначы далёка—у Парыжы—
Быць можа, неба хмарамі закрыта,
Ідзе халодны дождж і вецер дзьме—
Якая наша справа? Слухай, Карлос,
Усмешкі патрабую я твае;
Ну то-та ж!

Дон Карлос.

Любы дэман!

Стукаюць.

Дон Жуан.

Гэй! Лаура!

Лаура.

Хто там? чый гэта голас?

Дон Жуан

Адчыні...

Лаура.

Няўжо!.. бог мой!..

Адпірае дзверы, уваходзіць Дон Жуан.

Дон Жуан.

Вітаю.

Лаура.

Дон Жуан!..

Лаура кідаецца яму на шыю.

Дон Карлос.

Як! Дон Жуан!..

Дон Жуан.

Лаура, любая!.. *(цалуе яе)*
Хто ў цябе ёсць, мая Лаура?

Дон Карлос.

Я,—Дон Карлос.

Дон Жуан.

Нечаканая сустрэча!
Я да тваіх паслугаў заўтра ўвесь.

Дон Карлос.

Не! Вось цяпер.

Лаура.

Дон Карлос, перастаньце!
Вы не на вуліцы, а вы ў мяне—
Ідзіце прэч адсюль.

Дон Карлос.

Чакаю я. Ну што-ж,
Пры шпазе-ж ты тут.

Дон Жуан.

Ну, калі табе
Не церпіцца, бяры.

Лаура.

Ай, ай! Жуан!..

Кідаецца на пасцель. Дон Карлос падае.

Дон Жуан.

Устань, Лаура. Скончана.

Лаура.

Што там?
Забіты? Добра! у маім пакоі!
Што мне рабіць цяпер з ім, д'ябал, чорт?
Куды я выкіну яго?

Дон Жуан.

А можа
Жывы яшчэ. *(Аглядае цела).*

Лаура.

Жывы! Глядзі, пракляты,
Ты проста ў сэрца ткнуў—ты ткнуў не міма,
І нават кроў не йдзе з трыкутнай ранкі,
А ўжо не дыша—бачыш?

Дон Жуан.

Што-ж рабіць? Сам
Ён гэтага хацеў.

Лаура.

Эх, Дон Жуан.
Нясцерпны проста выбрыкі твае.
А ўсё не вінен... Ты адкуль цяпер?
Даўно ты тут?

Дон Жуан.

Я толькі што прыехаў
І то сакрэтна—мне-ж не даравалі...

Лаура.

І зараз-жа Лауру ўспомніў.
Што добра, тое добра. Але хопіць,
Не веру я. Ішоў ты выпадкова
І дом убачыў.

Дон Жуан.

Не, мая Лаура,
Спытай у Лепарэлло. Я стаю
За горадам, у ненавіснай венце
І цябе ў Мадрыце я шукаць прышоў.

(Цалуе яе).

Лаура.

Любы мой!.. Чакай!.. пры мёртвым... што рабіць.

Дон Жуан.

Пакінь яго—як днець пачне, заранкам,
Пад епанчою вынесу яго я
І пакладу на перакрыжаванні.

Лаура.

Каб не заўважылі цябе—глядзі.
Зрабіў ты надзвычайна, што з'явіўся
Пазней адной хвілінай! У мяне
Твае сябры вячэралі тут. Толькі
Што пайшлі адсюль. Каб ты застаў іх!

Дон Жуан.

Лаура, ты даўно яго кахаеш?

Лаура.

Каго? Трызніш ты мабыць.

Дон Жуан.

А прызнайся:
Ці многа ты разоў мне здрадзіла,
Калі не быў я тут?

Лаура.

А ты, гуляка?

Дон Жуан.

Скажы... Хаця, пагутарым пасля!

СЦЭНА III.

Помнік Камандора.

Дон Жуан.

Да лепшага ўсё рушыць: ненарокам
Дон Карлоса забіўшы, я пакорна
Схаваўся тут—і бачу кожны дзень
Маю прыгожую ўдаву і ёю
Заўважаны здаецца. Ды дасюль
Адзін другога, мы не зачапілі;
Гаворку з ёй пачну я сёння, час...
З чаго-ж пачаць? „Асмелюся"... не, не:
„Сеньёра"... а! Што прыдзе ў галаву,
То і скажу я ёй без рэпетыцый,
Імправізатарам кахання песні...
Пара ўжо-б ёй прыехаць. Без яе—

Я думаю—сумуе камандор.
Сапраўдным волатам ён тут прадстаўлен!
Якія плечы! Што за Геркулес!
А сам нябожчык быў маленькі, хілы,
На цыпачкі падняўшыся тут ён не змог бы
Дастаць рукой да свайго носу.
Калі зышліся мы за Эскур'ялам,
Наткнуўся мне на шпагу і замёр ён,
Як на булаўцы страказа—а быў
Ён горды, смелы—і суровы дух меў.
А! Вось яна.

Уваходзіць Дона Анна.

Дона Анна.

Ізноў ён тут. Айцец мой,
Я перапыніла вас у вашых думках.
Прабачце.

Дон Жуан.

Прабачэння я павінен
Прасіць у вас, сеньёра. Перашкодзіў
Я, мабыць, вам аддацца вольна смутку.

Дона Анна.

Не, мой айцец, мой смутак весь ва мне,
Пры вас мае маленні ў неба могуць
Узносіцца. Пакорліва—прашу я
І вас свой голас далучыць да іх.

Дон Жуан.

Мне, мне маліцца з вамі, Дона Анна!
Я гэтага зусім, зусім не варты.
Няма адвагі вуснамі гулякі,
Маленні вашыя святыя паўтараць—
Я толькі здалеку павагі поўны
Гляджу на вас, калі свой стан схіліўшы,
Вы чорныя, даўгія валасы
Рассыплеце на мрамар белы—
Здаецца мне—анёл грабніцу
Наведаў, і я ў сэрцы не знаходжу
Тады літанняў. Я гляджу маўкліва
І думаю—шчаслівы той, чый мрамар
Яе нябесным подыхам сагрэты
І слёзамі яе кахання змочан.

Дона Анна.

Як дзіўна вы гаворыце!

Дон Жуан.

Сеньёра!

Дона Анна.

Мне... Вы забылі.

Дон Жуан.

Што, што я няварты
Манах? што грэшны голас
Разносіцца тут не павінен гучна?

Дона Анна.

Здалося мне... не зразумела я...

Дон Жуан.

Ах, бачу я: дазналіся пра ўсё вы!

Дона Анна.

Пра што дазналася?

Дон Жуан.

Так, не манах я—
Ля вашых ног прашу мяне прабачыць.

Дона Анна.

О божа мой! устаньце... Хто-ж вы?

Дон Жуан.

Няшчасны, безнадзейнага кахання
Ахвяра.

Дона Анна.

Божа! тут, пры дамавіне!
Ідзіце прэч!

Дон Жуан.

Хвіліну, Дона Анна,
Адну хвіліну!

Дона Анна.

А калі хто ўвойдзе!..

Дон Жуан.

Замкнёна агарожа. На хвіліну!

Дона Анна.

Ну? Што? Што трэба ад мяне вам?

Дон Жуан.

Смерці!
О, зараз хай памру ля вашых ног,
Хай бедны прах мой тут-жа пахаваюць,
Не каля праху, мілага для вас,
Не тут, не блізка—а дзе-небудзь далей,

Там—ля дзвярэй—ля самага парогу,
Каб майго каменя маглі крануцца
Вы лёгкаю нагой або адзеннем,
Калі сюды, на гордую труну
Вы плакаць пойдзеце схіліўшы голаў.

Дона Анна.

Вы розум страцілі.

Дон Жуан.

Хіба жадаць
Мне смерці зараз—значыць страціць розум?
Калі-б я быў вар'ят, тады-б хацеў
Жывым застацца, меў-бы я надзею
Крануць каханнем кволым ваша сэрца;
І каля вашага балкона ночы
Я-б да канца праводзіў. І ваш сон
Я-б непакоіў серэнадамі не раз:
Хавацца-б я не стаў, наадварот, я
Імкнуўся ўсюды-б быць заўважан вамі;
Калі-б я быў вар'ят, не стаў-бы
Маўкліва сумаваць.

Дона Анна.

І гэтак вы
Маўчыце?

Дон Жуан.

Выпадак, Дона Анна,
Прывёў мяне—а то ніколі-б вы
Пра таямніцу сумную не зналі.

Дона Анна.

І любіце даўно ўжо вы мяне?

Дон Жуан.

Даўно або нядаўна, сам не знаю,
Але з пары той толькі ведаю цану
Жыццю, што так праходзіць хутка, з той пары
Я зразумеў што значыць слова шчасце.

Дона Анна.

Ідзіце прэч—вы вельмі небяспечны.

Дон Жуан.

Дык чым-жа? чым?

Дона Анна.

Я вас баюся слухаць.

Дон Жуан.

Я замаўчу, хоць не ганіце прэч
Таго, каму вас бачыць—радасць.
Няма зусім ва мне надзеяў смелых,
Нічога я не патрабую, але бачыць
Павінен вас, калі ўжо на жыцце
Асуджаны.

Дона Анна.

Ідзіце—тут не месца
Такім гаворкам і бязглуздзям. Заўтра
Прыдзіце да мяне. Калі клянецеся
Павагу захаваць такую-ж да мяне
Я вас—пазней—увечары—прыму
Нікога я не бачу з таго часу,
Як аўдавела.

Дон Жуан.

Ангел, Дона Анна!
Хай вас суцешыць бог, як самі сёння
Суцешылі няшчаснага ў пакутах.

Дона Анна.

Ідзіце-ж прэч.

Дон Жуан.

Яшчэ адну хвіліну.

Дона Анна.

Не, мабыць мне ісці... Маленне сёння
У галаву не йдзе. Нагаварылі
Вы свецкіх мне прамоў, іх вуха
Маё даўно, даўно не чуе. Заўтра
Я вас прыму.

Дон Жуан.

Яшчэ не смею верыць,
Аддацца шчасцю я свайму не смею...
Я заўтра вас убачу!—і не тут,
І не украдкам.

Дона Анна.

Так, заўтра, заўтра.
Як вас завуць?

Дон Жуан.

Дыего дэ Кальвадо.

Дона Анна.

Бывайце, Дон Дыего. (*Выходзіць*).

Дон Жуан.

Лепарэлло!

Лепарэлло ўваходзіць.

Лепарэлло.

Што вы хацелі?

Дон Жуан.

Любы Лепарэлло!
Шчаслівы я!.. Увечары назаўтра...
Мой Лепарэлло, заўтра—падрыхтуй...
Я як дзіця шчаслівы!

Лепарэлло.

З Донай Аннай
Вы гаварылі? Можа быць, яна
Сказала вам два ласкавыя словы
Або яе благаславілі вы?

Дон Жуан.

Не, Лепарэлло, не! Яна спатканне,
Спатканне мне прызначыла.

Лепарэлло.

Няўжо!
О ўдовы, вы ўсе такія!

Дон Жуан.

Шчаслівы я!
Спяваць гатовы я, ўвесь свет абняць.

Лепарэлло.

А камандор? што скажа ён пра гэта?

Дон Жуан.

Ты думаеш, ён стане рэўнаваць?
Ўжо мабыць не; ён чалавек разумны
І пасля смерці мабыць пацішэў.

Лепарэлло.

Не, паглядзіце на яго статую.

Дон Жуан.

Што-ж?

Лепарэлло.

Глядзіць на вас яна, здаецца,
І сярдуе.

Дон Жуан.

Ідзі-ж ты, Лепарэлло,
Прасі яго прыйсці да мяне ў госці—
Не, лепш не да мяне—да Доны Анны.

Лепарэлло.

Статую ў госці зваць! Нашто?

Дон Жуан.

Ужо пэўна
Не для таго, каб з ёю гаварыць—
Прасі яго да Доны Анны заўтра
Прыйсці пазней увечары і стаць
На варце пры дзвярах.

Лепарэлло.

Ахвота ў вас
Да жартаў з ім!

Дон Жуан.

Ідзі-ж?

Лепарэлло.

Але...

Дон Жуан.

Ідзі!

Лепарэлло.

Найслынная, прыгожая статуя!
Мой барын, Дон Жуан, пакорна просіць
Прыйсці да... О, дальбог жа, не магу,
Мне страшна.

Дон Жуан.

Трус! я цябе!..

Лепарэлло.

Дазвольце.
Мой барын, Дон Жуан, вас просіць заўтра
Прыйсці пазней у дом супругі вашай
І стаць пры дзверах...

Статуя ківае галавой.

Ай!

Дон Жуан.

Што там?

Лепарэлла.

Ай, ай!..

Ай, ай!.. Памру!

Дон Жуан.

Што робіцца з табою?

Лепарэлла (*ківаючы галавой*).

Статуя... ай!..

Дон Жуан.

Ты кланяешся?

Лепарэлла.

Не.

Не я, яна!

Дон Жуан.

Што за лухту нясеш!

Лепарэлла.

Ідзіце самі.

Дон Жуан.

Паглядзі-ж, бяздзейнік.

(*Статуі*). Я, камандор, прашу цябе прыйсці
Да удавы тваёй, дзе заўтра буду я,
І стаць на варце ў дзверах. Будзеш?

Статуя ківае галавой.

О божа!

Лепарэлла.

Што? Казаў я...

Дон Жуан.

Пойдзем.

СЦЭНА IV.

Пакой Доны Анны.
Дон Жуан і Дона Анна.

Дона Анна.

Я вас прыняла, Дон Дыего; толькі
Баюся што вам прыкры будуць словы
Мае. Усё помню, бедная ўдава,
Аб сваёй цяжкай страце я. І слёзы
З усмешкаю мяшаю, як красавік.
Што ж вы маўчыце?

Дон Жуан.

Асалода моўчкі,
Глыбока думкаю быць сам-на-сам
З цудоўнай Донай Аннай, тут—не там,
Не пры магіле мёртвага шчасліўца—
І бачу вас ужо не на каленях
Перад статуяй мужа.

Дона Анна.

Дон Дыего,
Вы такі рэўнівы—муж і ў дамавіне
Вас мучыць.

Дон Жуан.

Рэўнаваць я не павінен.
Яго абралі вы.

Дона Анна.

Не, мая маці
Прымусіла руку даць Дон Альвару,
Былі мы бедны, Дон Альвар багаты.

Дон Жуан.

Шчаслівы! Скарб нікчэмны і пусты
Прынёс да ног багіні ён, за гэта
Ён асалоду раю меў! Калі-б
Вас ведаў я раней—з якім імпэтам
Маё імя, багацці—ўсё аддаў-бы
Ўсё за адзін прыхільны погляд ваш!
Рабом бы быў святое вашай волі,
Жаданні вашы ўсе я вывучаў-бы,
Каб папярэдзіць іх, і каб жыццё
Было аднымі чарамі бясконца,
Ды лёс прызначыць мне другое!

Дона Анна.

Дыего, перастаньце: грэх раблю,
Калі вас слухаю—кахаць мне нельга вас,
Ўдава павінна вернай быць і праху.
Калі б вы ведалі, як Дон Альвар
Мяне кахаў! О, Дон Альвар ўжо мабыць
Не прыняў бы ў сябе, каб аўдавеў,
Сваю каханку даму, быў-бы верны
Каханню нашаму.

Дон Жуан.

Не мучце сэрца
Мне, Дона Анна, частым успамінам
Пра мужа. Хопіць вам мяне казніць,
Хоць смерць я заслужыў, быць можа.

Дона Анна.

Чым-жа?
Не звязаны-ж вы сувяззю святою
Ні з кім—ці так? Кахаючы мяне
Не вінаваты вы перада мной і небам.

Дон Жуан.

І перад вамі! божа!

Дона Анна.

Хіба вінны
Перада мной вы? Ў чым, скажыце.

Дон Жуан.

Не,
Ніколі, не.

Дона Анна.

Дыего, што такое?
Вы перад мною вінны? У чым скажыце?

Дон Жуан.

Не! Ні за што!

Дона Анна.

Дыего, гэта дзіўна:
Я вас прашу, я патрабую.

Дон Жуан.

Не.

Дона Анна.

А! Так маёй вы паслухмяны волі!
А зараз што вы тут казалі мне?
Што вы-б нявольнікам маім жадалі быць.
Я зазлую—адказвайце, Дыего:
У чым вы перад мною вінны?

Дон Жуан.

Не смею,
Вы ненавідзець станеце мяне.

Дона Анна.

Не, не. Я прабачаю вас зараней,
Але жадаю ведаць.

Дон Жуан.

Не жадайце
Даведацца жахлівай таямніцы.

Дона Анна.

Жахлівае! не катуйце мяне.
Цікаўна я страшэнна—што такое?
І як маглі мяне абразіць вы?
Я вас не ведала і ворагаў няма
У мяне і не было. Забойца мужа
Адзін і ёсць.

Дон Жуан *(сам сабе)*

Ідзе к развязцы справа!
Скажыце мне: няшчасны Дон Жуан
Вам не знаёмы?

Дона Анна.

Зроду яго я
Не бачыла.

Дон Жуан.

А да яго ў душы
Варожасць адчуваеце?

Дона Анна.

Законна.
Але вы адхіліцца хочаце
Ад запытання, Дон Дыего—
Я патрабую...

Дон Жуан.

Што каб з Дон Жуанам
Вы стрэліся?

Дона Анна.

Я злодзею тады
Кінжал у сэрца-б усадзіла.

Дон Жуан.

Дона Анна!
Дзе твой кінжал? вось грудзі.

Дона Анна.

Дон Дыего!
Што вы?

Дон Жуан.

Я не Дыего, я Жуан.

Дона Анна.

О божа! не, не можа быць, не веру.

Дон Жуан.

Я Дон Жуан.

Дона Анна.

Няпраўда.

Дон Жуан.

Я забіў
Твайго супруга; нават не шкадую
Аб тым—няма раскаяння ва мне.

Дона Анна.

Што чую я? Не, не, не можа быць.

Дон Жуан.

Я Дон Жуан, і я цябе кахаю.

Дона Анна.

Дзе я?.. дзе я?.. мне дрэнна, дрэнна.

Дон Жуан.

Неба!
Што з ёю? што з табою, Дона Анна?
Устань, апамятайся: твой Дыего,
Нявольнік твой ля ног.

Дона Анна.

Пакінь мяне.
*(Слаба)* Ты вораг мне—ў мяне ты адабраў
Усё, што я ў жыцці...

Дон Жуан.

Любае стварэнне!
Я ўсім гатовы ўдар мой акупіць,
Ля ног тваіх чакаю я загаду,
Скажы—памру; скажы—я дыхаць буду.
Табе адной...

Дона Анна.

Дык гэта Дон Жуан...

Дон Жуан.

Ён злодзеем апісан вам быў—праўда?
Агіднікам благім,—о, Дона Анна?
Быць можа чуткі праўдзяць не зусім,
На стомленым сумленні шмат благога
Быць можа лічыцца. Распусты доўга
Я быў старанным добрым вучнем,
Але з тых пор, як вас убачыў я,
Здаецца мне, я увесь перарадзіўся.

Вас пакахаўшы, я кахаю дабрачыннасць
І першы раз пакорны перад ёй
Згінаю я дрыжачыя калені.

Дона Анна.

О, Дон Жуан—я чула—красамоўны,
Я ведаю, што хітры ён спакуснік,
Сапраўдны дэман. А жанчын няшчасных
Вы колькі загубілі?

Дон Жуан.

Не кахаў я
Ніводнае дагэтуль.

Дона Анна.

Я паверу,
Каб Дон Жуан кахаў упершыню,
Каб не шукаў ва мне ахвяры новай!

Дон Жуан.

Калі-б я захацеў вас абмануць,
Ці-ж я прызнаўся-б, ці сказаў бы імя,
Катарага не можаце пачуць вы?
Дзе-ж бачыце тут лютыя абманы?

Дона Анна.

Хто вас ведае?— Але як маглі вы
Сюды прыйсці! Тут могуць вас пазнаць,
І ваша смерць была-б няўхільнай.

Дон Жуан.

Што смерць мне? за салодкі міг спаткання
Жыццё аддам я бездакорна.

Дона Анна.

Як-жа
Адсюль вы выйдзеце, неасцярожны!

Дон Жуан *(цалуючы ёй рукі)*.

І вы клапоціцеся пра жыццё
Жуана беднага! Нянавісці няма
У душы тваёй нябеснай, Дона Анна?

Дона Анна.

Ах, калі-б вас магла я ненавідзець!
Аднак жа вам патрэбна разыйсціся.

Дон Жуан.

Калі-ж ізноў сустрэнемся?

Дона Анна.

Не знаю.
Калі-нібудзь.

Дон Жуан.

А заўтра?

Дона Анна.

Дзе-ж?

Дон Жуан.

Ды тут.

Дона Анна.

О, Дон Жуан, як слаба маё сэрца.

Дон Жуан.

Ў знак прабачэння мірны пацалунак...

Дона Анна.

Пара, ідзі.

Дон Жуан.

Адзін, халодны, мірны...

Дона Анна.

Які ты неадчэплівы! на, вось ён.
Што там за стук? о, знікні, Дон Жуан.

Дон Жуан.

Бывай жа, любы друг, да пабачэння.

*Выходзіць і ўбягае зноў.*

А!..

Дона Анна.

Што з табой? А?..

*Уваходзіць статуя камандора.*
*Дона Анна падае.*

Статуя.

Я на запрашэнне.

Дон Жуан.

О божа! Дона Анна!

Статуя.

Кінь яе,
Усё скончана. Дрыжыш ты, Дон Жуан.

Дон Жуан.

Я? не. Я зваў цябе і рад, што бачу.

Статуя.

Дай руку.

Дон Жуан.

Вось яна... Які цяжкі
Яго каменнае дзясніцы поціск!
Пакінь мяне, руку, руку пусці мне...
Я гіну—скончана—О, Дона Анна!..

*Правальваюцца.*

*Пераклад Л. ЦАРАНКОВА.*

*Вл. Кандраценя*

# КАЛЯ ГРАНІЦЫ

Наперадзе—між гладкіх гонкіх сосен—плаўна выгінаецца глухая нешырокая дарога, засланая тонкім рудым пластом шыпулек. Патрэсканымі карычневымі жыламі набухаюць пад нагамі цвёрдыя карані; каля іх рэдзенькімі грыўкамі распаўзаецца дробная зялёная трава.

Гэтак моцна пахне смала, што ружовае паветра здаецца густым, адчувальным на вобмацак. Дзе-ні-дзе паміж сосен урачыста высяцца валахатыя яліны, па цемнаватай кары іх ствалоў, ад сонечнага боку, спаўзае смала тонкімі срэбнымі шнурамі.

Ідзём гаманліва-вясёлым гуртам. На плячах у такт крокам паблісквающь косы. Босыя ногі мякка і прыемна халодзіць дробненькая дарожная трава, чамусьці думаецца, што прырода знарок разаслала тут зялёныя травяныя істужкі, абы толькі чым-кольвечы дагадзіць чалавеку-працавіку.

Мы касілі сёння дальнюю сенажаць, касілі ўвесь дзень пад гарачым сонцам каля самай граніцы.

Шчымліва нлюць звярэджаныя мускулы. Ва ўсім целе—стомленасць, цяжкая, як каменная глыба, і прыемная, як пякучая, ясная радасць. Весела, і на душы крылатая лёгкасць,—пэўна такія адчуванні поўняць чалавека, які зрабіў і для другіх людзей і для самога сябе нешта вельмі каштоўнае. Хто цураецца працы, таму ніколі не адчуць багатай радасці адпачынку.

Імжаць няўлоўныя блакітна-ружовыя змрокі. Дзесьці заходзіць сонца, і над зямлёю, нібы ціхая-ціхая песня мілае дзяўчыны, плывуць ужо гэтыя лёгкія, ружовыя змрокі.

— Песню зацягнем, ну, хлопцы,—давай!—прапануе Міхась—малады нізкаросла дзяцюк з горда паднятай галавой—і пачынае звонкім высокім голасам.

Прыемна-пявучы голас дрыжыць, пераліваецца,— будзіць насцярожана-ўрачыстую лясную маўклівасць.

Выпрагайце, хлопцы, коні
Ды ідзіце спачываць...

Дзесяткі крыкліва-прыгожых галасоў падхопліваюць песню—яна раптам зазвінела дзіўным, ніколі нябачаным струменем... Зялёны бор ажыў, ён аж разлягаецца ад песні. Здаецца, маўклівыя сосны адчулі чаруючае хараство чалавечага сэрца...

А я найду ў сад зялёны,
У сад крынічаньку капаць.

... Дзесьці між стройных красунь-сосен быстра-быстра коціцца срэбны ручэй і зззяе ў сонечным бляску нез'яснёна-квяцістымі фарбамі. Дзіўнае асляпляючае хараство гэтых казачных жывых колераў—наша песня...

У грудзях робіцца цесна, спірае дыханне... І томячыся радасна-хвалюючым узрушэннем, да болю хочацца крыкнуць як мага мацней, хочацца гукнуць так, каб аж зазвінела само неба... Зморany за дзень, ступаю лёгка і цвёрда, і нават самому дзіўна, адкуль такая ўзнятая весялосць!

У ружовую вышыню імкліва падымаюцца стромкія сосны. Нацтрунена-маўклівыя і гордыя, яны стаяць, нібы зачараваныя, узняўшы пышныя зялёныя чубы сваіх крон.

А гонкая квяцістая песня коціцца далёка-далёка... няма ёй канца-краю... З лясной маўклівасці насустрач нам нясуцца дальнія водгаласы. І здаецца, што адгукваецца то не чуткае вячэрняе рэха; здаецца, з усіх бакоў ляснымі дарогамі сыходзяцца на спачын натоўпы стомленых, велічна-гордых касароў... Вяртаюцца ў вёску касары—у зацені казыркоў шчасліва і ясна зззяюць вочы... Ідуць яны ў белых расхрыстаных рубашках і гукаюць песні... У каго радасці больш і зырчэйшы агонь у грудзях,—у таго і песня галаснейшая.

Упоравень са мною ідзе, паспешна перастаўляючы кароткія ногі, дзед Ахрэм. Маўчаць няёмка, і дзед памагае нам несці песню; ён раскрывае маленькі рот і, не ведаючы слоў, напявае матыў, шавеліць тонкімі выгаленымі губамі.

— Нешта голас...—жартаўліва і нібы дакараючы самога сябе, пакруціў дзед галавою.—Але. Старасць, на яе ліха! От як малады быў,—замілавана ўсміхнуўся ён усім сваім дробным выгаленым тварам з маленькім і смешным кірпатым носам, і ганарліва глянуў мне ў вочы.—Гукнеш, бывала,—лес аж разлягаецца. Дый цяпер не маўчу, хоць не тыя гады. Але. Хай сабе стары, а яшчэ такую штуку адпалю, што малады пазайздросціць. Тут от граніца пад бокам, рознае здараецца. Так.

Ён будзе гаварыць доўга, не змоўкне пэўна да самага дому,—я пазнаю гэта па рэзвым бляску яго мутнавата-шэрых вачэй пад пасівелымі, касматымі брывамі, па ўзрушаным твары з кірпатым, па-дзяцінаму маленькім носам. У ясныя хвіліны шчаслівага адпачынку не любіць чалавек маўчаць.

— Я табе ўжо раскажу. Так. Гэткая са мной была справа.

Мы трошкі адсталі ад мужчын, яны ўжо ведаюць дзедаву гісторыю. А я нядаўна прыехаў на канікулы ў родную вёску. Зімою дома не быў, так-што пра многія падзеі я толькі-што даведваюся.

Мне вельмі хочацца выслухаць дзедава апавяданне. Неяк аднаго разу вечарам бацька намякнуў мне пра дзіўнае здарэнне на граніцы. Я пачаў быў дапытвацца, што там такое выйшла, але бацька толькі таямніча ўсміхнуўся:

— Нецярплівы які, пачакай. Дзед табе сам усё-чыста раскажа, от распытай у яго.

Дзед скруціў з газеты тоўстую папяросу.

— От,—жартаўліва засмяяўся ён, агаліўшы з-пад тонкіх губ дробныя, белыя да бляску зубы,—такая труба да самага сяла дымець будзе.

Да вёскі хады яшчэ на добрае поўгадзіны.

Спераду ў нас пачалі новую песню.

Ружовае паветра плавае ў бары.

Звініць і імкліва ляціць у лясную далячынь песня.

Гладкія роўныя ствалы сосен гараць зыркай чырванню. А на тоўстых ствалах кашлатых ялін, ад сонечнага боку, блішчаць жывым срэбрам вытканыя з смалы-жывіцы доўгія, тонкія шнуры.

Навакол усё адсвечвае ціхім залатым бляскам, спераду пераліўста звініць-звініць песня, і на душы гэтак-жа хораша...

* * *

Летась гэта было,—зіма пачыналася. На балоце лёд умацаваўся, можна было ўжо з возам ехаць. То мы ўзяліся стагі з балота даставаць. Адразу з далёкай сенажаці пачалі, каб не рупела. Каля дому ў любы час можна забраць і цэлае будзе, а на граніцы шэльмы з таго боку на чужое зараццa. Так.

Акурат пад той час тут шпіён бадзяўся. Яго ўсюды шукалі, цэлыя ночы спакою не было. Шпіён, мабыць, добра ведаў гэтую мясцовасць, калі ўмеў так спрытна хавацца, што ніяк не маглі на яго след натрапіць і злавіць. Мужчыны з нашымі пагранічнікамі ўвесь лес абхадзілі, усе да аднаго кусты перапаролі,—няма. Як у вадзе растаў, так...

Нязлосным чмелем кружыцца і гудзе па-над вухам дзедаў басок. У голасе прыметна гучыць добрадушная іронія, як гэта бывае ў дужых людзей з мілымі натурамі. Глыбока схаваныя пад сівымі касматымі брывамі маленькія, мутнавата-шэрыя вочы свецяцца рэзвым, дабрадушна-вясёлым бляскам.

.. Аднаго дня да позняга абеду ледзь не ўсё забралі, на адзін воз там асталося. То я вызваўся паехаць забраць. Мужчыны ў мой бок слова-другое закінулі: можа, маўляў, дзед лепей бы адпачыў, у цяпле—дома пасядзеў, знойдзецца нехта маладзейшы, дужэйшы—паедзе ды забярэ тую астачу. Хораша слухаць добрае слова чалавека, што ідзе з душы,—не выказаць, як хораша... І самому тады хочацца для людзей рабіць, як найлепш. За дабро ліхам не плацяць.

— Што вы,—кажу,—хлопцы! Кроў у мяне яшчэ гарачая і рукам да работы не прывыкаць. Паеду.

З другою брыгадаю у нас такі ўгавор быў: хто хутчэй звозіць і без ніякіх каб страт. То ў маёй галаве думка такая, каб недабраны стажок сёння прывезці. Заўтра работы па горла, а мне давядзецца за свет ехаць, калі сёння не ўпраўлюся. Так.

Старая полудзень на стол,—давай я завіхацца.

— То куды ты гэтак?—пытаецца старая.

От я ёй і сказаў. Яна гэтак-жа здзіўлена на мяне паглядзела!

— Ці ты маеш лад?..—кажа.—Хіба ты забыўся, што тут.

— Не, не,—кажу.—Ты, старая, не агіцірніца, лепш маўчы.

— От,—кажа яна, і рукі сашчапіла, і гэтак дакорліва галавою ківае.—От,—кажа,—людзі добрыя! Адзін ды насупроць ночы... Гэта-ж калі высунецца з лесу той звяруга...

Адгаворку нашла. Так.

Жонка мая—я табе скажу—добрая жонка, ліхога слова пра яе не скажаш. У згодзе ды ладзе жывем. Але адна ў яе, сказаць праўду, ганьба: вельмі-ж за мяне калоціцца. Нібы Ахрэм—дзіця якое... Але. Гэта-ж толькі падумаць!

— Ці то блізкі свет...—кажа.

— Да вечару заеду.

— Пасмейся, стары,—кажа, ледзь не моліцца.—Пасмейся... Цяпер неспакой такі, дыверсанта цягаецца, а ты ехаць надумаўся...

— Нашла,—смяюся,—каго баяцца! З дыверсантамі гэтымі самымі ды шпіёнамі мне не першыня: ужо двух у кардон завёў; трапіць на вочы трэці—ведаю, куды яму дарогу паказаць.

— Глядзі, чалавеча...—дакорліва, і паказваючы, што вельмі-ж злуецца, кажа старая...—Глядзі...

— Як з лесу вытнецца, то ўгледжу.

— Але...—падняла яна злосныя вочы.—Дыверсанта аб'явіўся, а ты не дбаеш...—За свет аднаму ехаць...

— Я табе,—адказваю,—не дзіця. Вунь колькі год па зямлі тупаю.

А старая слухаць не хоча. Вядома—жанчына: ёй што ў галаву як прыдзе, то яна табе будзе ў адно сваё права правіць; не адгаворыш—прыступу няма. Ну, а мне перад жанчынаю скарыцца—зусім не фасон, так.

— Не едзь, Ахрэмка,—упрашвае,—не едзь...

Смешна мне, але выгляду не паказваю.

— Пакінь, — кажу,—старая, пацеры свае чытаць,—за Ахрэма не бойся. Наважыўся—паеду, і ніякіх гутарак. Балазе конь адпачыў: пужку яму пакажу, дык свістаць ён у мяне будзе. Не бойся,—кажу,—твой Ахрэм яшчэ чорту рогі скруціць.

Засмяялася яна—не вытрывала, глядзіць мне ў вочы і смяецца, кветка мая шчарбатая. Ведаю, адкуль у яе трывога,—хто-ж, як не я, будзе ведаць?—і самому прыемна—душа радуецца, калі жонка такая. Ты, Валодзя, малады, мала пажыў на свеце, то па сакрэту табе скажу, помні: моцна і ласкава ўмее кахаць жанчына. Не толькі маладога, але і на старасці,—няхай сабе без гарачых пяшчот, але—шчыра, з душою. Так.

— Глянь, што на дварэ робіцца,—паказвае на замарожанае акно.

На панадворку сапраўды неяк хмурна. Неба тое—як попелам асыпанае. Ці то вечар, ці то хмара насунулася,—не разабраць. У спорнай рабоце дзень праходзіць няўпрыкмет.

Зверху вецер падае, парывісты такі, сярдзіты. У частаколе сцюдзёна шуміць і пасвіствае, рвецца ў поле—на прастор.

Мне-ж тут некалі было варажыць. Трэба астатак стога забраць, і ўсё.

Сеў я ў сані, ды па кані. Конь аддыхнуў, пакуль я абедаў і з жонкаю ваяваў, і панёс, як чорт. Так. Неўзабаве ў лес ускочылі.

Тут намнога пацямнела. „Не можа быць,—думаю,—каб ужо вечар“. А сам тымчасам за лейцы тузаю, конь аж рысуе—лёгкі на ногі!

Над самаю дарогаю ельнік, лахматыя лапы абвіслі ў снезе; б'ецца вецер па белых лапах, і зверху снегавы пылок асыпаецца, мяккім холадам твар казыча.

Выскачыў я на балота, адсюль і недабраны стог недалёчка. Навокал цішыня такая, ані душы нідзе. На балоце чорнымі пруцінамі кусты альшэўніку тырчаць. Глянеш—і маркотнасць адразу. А тут сняжок пачаў цярусіць, от нібыта белыя матылькі перад вачамі замітусіліся. Аднекуль вецер нахапіўся, сярдзіта шугануў, і пашло кruціць. Каб так куды ехаў—хутчэй аглоблі назад і канец на гэтым. Вярнуцца то можна, але сена колькі прападзе,—чыёй галаве клопат? Гэтулькі праехаў, з голымі санямі назад не выпадае. Ды каб-жа хто выпраўляў сюды, а то сам падахвоціўся.

Снег, ліха на яго, вачавідкі гусцее; вецер шугае і круціць. Навокал мігам закіпела, не раўнуючы, як у гаршку. Што далей, то ўсё мудрэй. Снег вочы засыпае і мітусіцца-мітусіцца... Дзіўна неяк: белая такая ноч трымціць—і белата кругом і цёмна. Ужо і каня не бачу—так нешта спераду чарнее... Чорт яго ведае,—у такую замець граніцу можна пераехаць. Бачу—бяда. Трохі не па сябе стала. Але...

Пусціў я свабодна лейцы; па следу, думаю, конь прывядзе. А там перачакаю трохі: завіруха гэтая як хутка нахапілася так і скончыцца. Толькі гэтак не выйшла. Так.

Сані ледзь-ледзь варушацца, памаленьку плывуць. Конь ступа ў ступу клыпае, а пасля раптам зусім прыпыніўся. Пацягнуў я лейчыну—з месца не кратаецца. Папаўся як у нерат: ні ўзад, ні ўперад. Старую ўспомніў: яна як ведала, што гэтак перасцерагала. Але...

Гукнуў на каня, сані паварушыліся, а мяцеліца—ну проста свету не відаць. „От,—думаю сабе,—старая там перакалоціцца.“

І тут нібы вядро халоднай вады на галаву...

— Стой!—крычыць нехта з мяцеліцы.

Ёкнула ў нутры, духі заняло... І не ведаю, што рабіць, што казаць... Думкі блытаюцца, мітусяцца, як гэтая чортава замяць...

Недзе зусім блізка жалеза пстрыкнула. „Ну,—думаю,—папаўся, к палякам заехаў..“

І што бы ты думаў?

Вылазіць з завірухі той, што крыкнуў, і мне пад нос нешта жалезнае тыцкае. Так. Што тут рабіць—сам не ведаю.

— Хто ты?—пытаецца.—Куды едзеш?

А я не падбяру, што і адказаць, каб лепш. Маўчу, быццам бы не дачуў. Толькі голас яго нешта нібы знаёмы, а дзе яго я чуў—забі мяне—прыпомніць не магу.

— З Польшчы сам?

Эге! Мяне як хто пад бок штурхануў—адразу ўсё да кропелькі ўспомнілася. „Ог, дзе,—думаю,—собіла стрэцца... каб цябе зямля не насіла!.. Стрэліся як...—думаю.—Значыцца расквітацца пара прыйшла“. Так.

— З Колку,—адказваю. (Такая вёска ёсць ужо на тым баку, пры граніцы). Хацеў стажок забраць...—кажу і такім голасам, каб на мой не падобен быў.

Стаіць ён каля мяне, ад ветру каўнер настаўляе, пытаецца:

— Знаеш пастэрунак?

А ў руцэ ўсё ляворвар дзяржыць, каб мне страху паддаць.

— Чаму-ж не,—кажу.—Вядома нам.

— Вязі туды,—загадвае.—Патрапіш?

— Уга,—кажу,—патраплю, куды трэба.

Кажу так, стараючыся пад чужы голас, а ў самога ўсё нутро калоціцца,—такая мяне злосць апанавала. Рукі так і цягнуцца, каб за горла яго й тут-жа, на месцы, рашыць...

Страшны пажар мне ўспомніўся, над сялом рудыя клубы валяць... Густы дым сонца засланіў, як жоўтая талерачка яно вісіць, невясёлае такое. Мужчыны далёка ад дому сенажаць касілі. К сялу адны жонкі з поля кінуліся. Прыбеглі, крычаць і галосяць, рукі ломяць, дым вочы выядае, гарачыня слёзы высушвае... Але, жудасна, як той лямант нясусветны ўспомніш.

То я хацеў яго задушыць,—такая злосць закіпела, што сківіц не расчаплю. Але падумаў, што я стары такі, можа ці ўбяру яго... Ды яшчэ ўсякія ён пры сабе ляворвары носіць...

— Едзь, едзь,—падганяе мяне.

Мяцеліца словы яго глушыць.

Ось табе, зладзюга,—дарма што па воўчых сцежках два гады лазіш, а з дарогі збіўся.

Прымасціўся ён ззаду ў санях, скурчыўся, галаву у каўнер цягне,—холадна!

Завярнуў я каня, паехалі.

— Толькі, пане, наконт платы хачу...

Пра плату я—для адводу вачэй.

— Паганяй!—камандуе і злуецца.

Па голасе чую, што злосць яго разбірае.

А снег тым часам не перастае, у твар сыпле, і вецер—духі забівае. Азірнуўся—сядзіць ззаду зладзюга. Праз снегавую мітусню відаць, як цёмная спіна варушыцца, нібы от сярод белага дня я з хаты гляджу, а пад замарожаным акном нехта лазіць. „Не выпушчу,—думаю,—злыдня, я ўжо на цябе ўправу знайду!“ А тады сумненне закрадзецца: а як возьме, ды агледзіцца? „Эге,—думаю,—пачакай, у Ахрэма—працавітыя рукі. Што якое—прыцісну, але каб не ўцёк“.

Як малым я быў, то мы на грэблі, каля маста, гадзюк білі. Ужо як прыціснуў палкаю слізкі хвост, дык бі да смерці, бо вылужыцца, у нару ўцячэ, а тады некага за нагу. Так што як спаймаў, то не выпускай!

Твар мой мокры, правая шчака ледзяняе. Патрохі адну лейчыну нацягваю. „Ну,—ціханька думаю,—будзе справа, ражон табе ў бок!“

Фыркнуў мой конь, пудліва захроп, падковы звонка ляснулі. Сані ўпалі нібы ў яму і тут-жа зноў выскачылі на роўнае. У мяне на душы праяснела. Гэту канаву, значыць, пераскочылі,—адсюль недалёка...

— Што так доўга?—чую ззаду.

— Зараз, пане,—адказваю,—зараз прыедзем.

— Паганяй, мужык!—хрыпла крычыць; я азіраюся—нікога не бачу і на момант здаецца, што сярод мяцеліцы нехта гоніцца за падводаю, адстае і пагрозліва, як вецер, хрыпіць...

— Паганяй, мужык!—

Але. Так і сказаў—мужык. Крыўднае слова, даўно яго я не чуў—абразлівыя мянушкі патроху забываюцца. Сярдзіты ён быў. Па нашых ваколіцах туляўся, а воўка ад жылля прэч гоняць, не то, што, каб пакармілі. Ад таго і сярдзіты. Добра, што мароз чужой злосці разгарнення не даваў.

І мае шчокі гараць, мароз праз суконныя рукавіцы пальцы пашчыпвае. На мне кажух цёплы, а—павер—холад да грудзей паціху прабіраецца. Вецер шугае—пякучы вецер ды з снегам. Адно збавенне, што мне трохі ямчэй стала сядзець: то дзьмула ў шчаку, а гэта ўжо ззаду круціць... Б'ецца ў плечы, як разлаваны гусак куксамі крылаў.

Неўзабаве памаленьку аціхаць пачало. Не гэтак ужо круціла.

Маўчком каня тузаю, блізка ўжо—зусім блізка! Сэрца тахкае, аж заходзіцца,—чаго яно так—сам не ведаю. Конь як страла ляціць, зямлі пад сабою не чуваць, нібы ў белым воблаку плывем.

К самым варотам падскочылі, тут і кардон блішчыць вокнамі а высока над дахам—чырвоны сцяг.

Насустрач пагранічнік бяжыць, вінтоўку з плеч зрывае.

— Ну,—кажу,—от і прыехалі,—і засмяяўся.

А ён—як спружына ўсхапіўся.

— Што?! Што такое?!—шыпіць, як гадзюка, і задыхаецца, а рукою—у кішэню.

Ды позна было,—скамандаваў яму пагранічнік, дык ён зусім збянтэжыўся, адно вочы вылупіў, і над галавою правая рука дрыжыць, пальцы натужліва варушацца, нібы па іх нехта абухам агрэў.

— Ага!..—задыхаецца.—Прыехалі!..

— Як, пан, бачыць,—усміхаюся.—Прыехалі,—кажу.

Злосць у мяне, і смешна. То я і кажу яму, спакойна гэтак, нібы па пісанаму чытаю:

— Не турбуйся,—кажу,—пане Жыбуртовіч. Па кішэнях позна лазіць. Тут хлопцы кемлівыя, цябе дагледзяць Яшчэ як! Даволі табе глумицца над нашымі людзьмі Цябе раскулачылі, ды ты—за граніцу, а тады людзям спакою не даваць? Мала таго, што калісь мы ад твае добрае ласкі крывавымі слязмі плакалі, дык і цяпер табе хочацца ўкусіць! Сёлы нашы з дымам пускаць? Ах ты—ідал ты!—кажу, і чую, што ўвесь ад злосці дрыжу, спакой прапаў.

Ён на мяне вочы скасіў, халодныя вочы,—звярыная сцюжа ў іх, і ні капелькі чалавечага. Каб прымеў, дык разарваў-бы мяне на месцы. Я помню гэты позірк: на мяне воўк з перабітым азадкам гэтак глядзеў і зубамі клацаў.

— Ой-жа,—кажу,—канец табе тут. Звер ты...

На тым і скончылася.

* *
*

Дзед Ахрэм ступае бойка і хутка—нібы коціцца па лясной дарозе. Я ледзь паспяваю з ім сыйсціся. На яго дробным выгаленым твары, з маленькім кірпатым носікам, ляжаць маўклівыя сляды ўнутранага ўзрушання ад толькі-што скончанага апавядання.

— А шпіёны часта сюды пераходзяць?

— Дзіва што!—пасля кароткага маўчання ахвотна спахапіўся дзед, напэўна задаволены тым, што ёсць з кім пагаварыць праз усю дарогу.—Наша шчасце ім поперак горла, але. Адно што, мабыць, рэдка каторы назад варочаецца. Нашы трывогу на граніцы паднімуць, калі што якое, ну і мы—усім калгасам—на аблаву. Так. Калісь на ваўкоў аблавы рабілі, а цяпер гадаў гэтых ловім, каб на іх сырая зямля!

Канчаецца лесавая дарога. Уперадзе бліснула ружовая далечыня. На небасхіле, рассцілаючыся па лёгкіх дымчатых воблаках, гараць нез'яснёна-цудоўныя пасмы залатога румянцу. Глянеш—залюбуешся, і як птушка ўстрапянецца маладое сэрца, напоўненае чымсьці яркім шчымлівым, радасна-хвалюючым... Напорыста і звонка стукае сэрца, нібы—схаванае—яно падслухала дзіўную музыку жыцця і прагне вырвацца з грудзей, каб аддацца сузіранню маўклівага хараства прадвячэрніх колераў, каб паслухаць чаруючыя гукі дзявочай песні, палашчыцца на мяккім, цёплым ветрыку, што павявае над зямлёй і гэтак ціхенька, нібы мілая дзяўчына, нашэптвае нешта пяшчотнае і задушэўнае...

— ... То хай на іх немач ліхая, спакою не даюць. Так. Здаецца, і ціха так, хораша, а яны—поўзаюць тут.

Полем ідуць дзяўчаты з сенажаці—граблі там сена,—і над палеткамі пералівіста звініць іх песня.

Спяваюць дзяўчаты, высыпаная пяском дарога вядзе іх к вёсцы:

> У садочку на галінцы
> Кветка белая цвіце.
> Праца радаснаю стала,
> Як ніколі, як нідзе.

Падыходзяць к вёсцы дзяўчаты, звонка гукаюць. Ім дружна адказваюць касары:

> Эх, девушки, гляньте-ды,
> Гляньте на дорогу нашу,
> Вьется-ды дальняя дарога
> Эх-да развесёлая дорога...

Хутка сыйдземся з дзяўчатамі, і нашы песні сальюцца ў адну—стройную і квяцістую.

... Думаю аб тым, якое вялікае трэба мець сэрца, каб магло ўмясціць яно кіпучую радасць жыцця, і тут-жа ўспамінаю дзедавы словы:

— Здаецца, і ціха так, хораша, а яны—поўзаюць тут.

Менск—Смалічы
1937 г.

*Абульгасем Лахуці*

## ЛЕНІН ЖЫВЕ!

Па ўсіх шляхах у горад ад раўніны
Жанкі, старыя, дзеці і мужчыны
Ідуць сцяной.
На трыццаць градусаў ударыў холад,
І рэкі закаваў марозны молат
Сваёй бранёй.

Праносяць смутак хваляю бязмежнай,
Як з горам быць?
Усе узрушаны і розум іх мяцежны
Бурліць нібы.
Не змерыць болю страты безнадзейнай.
Хвалююцца, нясуць дарогай снежнай
Агонь журбы.

Ужо Масква. І цішыня, ні слова,
Жалобы дом.
Лёг чорны крэп на душы, на галовы
На ўсё вакол.
Усе стаяць ад самага світання,
Натоўп у плачы, стогнах, у рыданні,
Глядзіць на дол.

Дрыжыць зямля пад марш калон рабочых,
Магутны крок.
І стыне кроў усіх, у слёзах вочы,
Памёр прарок.
І гнеў насустрач непагодзе ўзняўся,
Што нават леў ад сполаху схаваўся
Той стрэўшы зрок.

Суцiхлі пролетарскія кварталы,
Прастор знямеў.
Пайшлі рабочыя, шарэнгамі пасталі,
Час гора стрэў.
Застаўся толькі ў хаце пролетарый
Стары-стары. Ён з думаю на твары
Адзін сядзеў.

Ён аб агульным плачы ля магілы
Яшчэ не знаў.
Раптоўны жах
Старыя жылы
Яго скаваў.
Ён паглядзеў, убачыў: перад домам
Па вуліцы ідзе з вялікім громам
Народны вал.

І раптам цішыня... усё знямела...
Зямля замры!
Гудкоў жалоба толькі зазвінела,—
Надрыўны крык.
Убачыў ён, праходзіць рад за радам,
І голас быццам тайнага загаду:
„Устань, стары!“

Праз пяць хвілін пайшлі кругамі вуліц,
З тугою на плячах.
І быццам земная наноў устала куля,
Стары, крычаў:
„Што гэта?“—сэрца запытала,
„Няўжо не знаеш,—Леніна не стала,
Не стала Ільіча“.

Стары паў ніц. Раптоўны наваліўся
Цяжкі удар.
Прачнууўся, з болю калаціўся,
Кідала ў жар.
Глядзіць—партыйцы між натоўпу, як раней.
Старому стала ў сэрцы спакайней,
Ён выцер твар.

Рабочыя у руху нескончоным,
Сваіх калон,
І з імі армія: за батальёнам
Зноў батальён.
Комуны спеў гучыць з нястрыманым разгонам,
У тысячах сцягоў і зор чырвоных
Ім шлях відзён.

Глядзіць—„ЦК РКП(б)“ праменіць.
Па ўсёй зямлі.
Чытае: „Комінтэрн“—
Калоны мацней пайшлі.
Пайшоў упэўнена, спакойна і сурова
І чуў „Інтэрнацыянала“ словы
У свет плылі.

Ён бачыў клас,—адзінага імкнення
У даль заве.
Глядзіць, стварыў як многа Ленін.
На новы свет,
Ён маладым стаў,
Усміхнуўся горда,
І выказаў упэўнена і цвёрда:
Ільіч жыве!

*Пераклаў* ПЯТРУСЬ БРОЎКА

*Тыцыян Табідзе*

## ЭРНСТУ ТЭЛЬМАНУ

1

Ты абаронены грудзямі класа
Усёй зямлі, усіх яе куткоў,
Ты—наш герой, і ніякая „раса“
Не спыніць да заложніка шляхоў.
Хай злосны кат і у скляпенні сцюжа,
Вітанне дзеці зноў табе пашлюць,
Нясуць табе квітнеючыя ружы,
Грыміць табе братэрскі наш салют.
Прымі ад іх—дарунак ты агністы,
Яны вянок збіралі у журбе.
Ты бессмяротны ў гэтых сэрцах чыстых,
Што так вітаюць горача цябе.

2

Дзяльцы крычаць на біржы і ў кафейні,
Чугунны статак для вайны стаіць,
На плошчах нішчаць, паляць кнігі Гейне
І небасхіл ад сораму гарыць.
І кпіць паэт: „Куды такое гожа?“
Пачуўшы дым разбэшчаных агнёў,
Ды полымя ў полымі згарэць не можа,
І не забіць ваяцкіх, буйных слоў.
Нямецкі край Атылам новым цесен,
Над светам меч занеслі і праклён,
І кружыць дым згарэўшай „кнігі песень“...
Але вітае Тэльмана і ён!

3

Няхай агонь радкі з'ядае Гейне,
Ды з кожным днём рабочыя смялей.
Няхай гудуць пропелеры на Рэйне—
Не заглушыць ім спеву Лорэлей!
Твой голас і ў засценках будзе жыць,
Увесь Саюз у смутку па табе,
І думамі да камеры ляціць...
Ты не адзін у жорсткай барацьбе!

Не пагасіць распалены пажар,
Увесь германскі ў баях народ,
Вітае палымнеючы штандар,
Магутна ўзнімаючы: Рот фронт!

4

Ганьбуем мы падкупленых паэтаў!
Брыдотаю спавітыя яны,
Бо з кожнай песні іх і з кожнага сонэта
Фантаны брызгаюць агіднае брахні.
Героем ты застаўся і ў няшчасці,
Змагання поўны ты, твая душа гарыць...
І тысячы крывых, праклятых свасцік
Бліскучай зоркі век не засланіць.
Дарэмна брэшуць, праклёны раскідаюць!
Зара чырвоная краінаю плыве.
Узнімецца Германія другая
І Тэльмана ў дзень славы пазаве.

*Пераклаў ПЯТРУСЬ БРОЎКА*

*Н. Шпанаў*

# ДВАНАЦЦАЦЬ ГАДЗІН ВАЙНЫ

*Раман [1])*

*22 г. 00—23 г. 00*
*18/VIII*

Атрымаўшы данясенне пра вынікі бойкі над Масарыкавай вобласцю, генерал Вронскі не адразу адважыўся далажыць пра іх камандуючаму. Страты імперцаў былі надзвычай вялікія ў параўнанні з дасягнутымі вынікамі.

| | | |
|---|---|---|
| Гарматных знішчальнікаў збіта | — | 44 |
| Выйшлі з строю з цяжкімі пашкоджаннямі | — | 2 |
| " " лёгкімі " | — | 27 |
| Кулямётныя знішчальнікі: збіта | — | 68 |
| Выйшлі з строю з цяжкімі пашкоджаннямі | — | 14 |
| " " лёгкімі " | — | 81 |
| Бамбардыроўшчыкі „Хайн 60": збіта | — | 18 |
| Выйшлі з строю і разбіліся пры пасадцы | — | 11 |
| Выйшлі з строю з цяжкімі пашкоджаннямі | — | 26 |
| " " лёгкімі " | — | 41 |
| Экспрэсы „Юмерс": загінулі | — | 121 |

Лёс, што напаткаў злучэнне „Юмерсаў" такі: упусціўшы ў змроку з свайго міннага поля калоны Халюціна, камандуючы „Юмерсамі" віцэкамандор Гагенау правільна ацаніў манеўр, якім камкор здолеў гэтага дасягнуць—страта вышыні. Не жадаючы ўсёткі выпусціць праціўніка, Гагенау загадаў частцы „Юмерсаў" зменшыць вышыню палёта.

Камандзір другой брыгады павёў машыну ўніз з павышанай хуткасцю і праз некалькі хвілін аказаўся пад брыгадай Гагенау. Так яны і ішлі некаторы час, шукаючы знікшыя СБД. Пасля Гагенау спрабаваў намацаць Халюціна манеўраваннем па гарызанталі. Ён загадаў сваёй брыгадзе зніziцца да вышыні другой брыгады, абодвум брыгадам разгарнуць фронт і гэтак расцягнутым ланцужком ісці мяркуемым курсам Халюціна. Манеўр зноў-такі быў задуманы правільна. Але Гагенау не ўлічыў адной акалічнасці: экапіжы „Юмерсаў" былі сабраны з афіцэраў рэзерва, якія яшчэ не зляталіся. Яны былі грамадзянскімі пілотамі, не надта трэніраванымі ў групавых палётах. Складанасць работы ўзмацнялася яшчэ змрокам. Адзін брыгадны штурман загінуў, а яго намеснік зрабіў па-

[1]) Канец. Гл. №№ 7 і 8 „Полымя рэволюцыі" за 1937 г.

мылку ў пракладцы курса. Таму кірункі палёта „Юмерсаў" першай і другой брыгад ляглі не побач, як хацеў Гагенау, а пад сыходзячымся кутом адзін да аднаго. У часе зніжэння першай брыгады „Юмерсы" другой брыгады натрапілі на міны, што былі спушчаны з самалётаў Гагенау.

Пра сутычку Гагенау мог меркаваць толькі па ўзрывах мін, што пачаліся. Бліскацне іх было занадта кароткім, каб дапамагчы арыентавацца. Тады ўспыхнулі асвятляльныя ракеты і ў іхным трапяткім, мярцвяным святле адкрылася нечаканае відовішча: замест совецкіх бамбардыроўшчыкаў, пад яго мінаносцамі ішлі свае „Юмерсы" другой брыгады.

Страі брыгад безнадзейна зблыталіся. Адбываліся шматлікія ўзрывы мін і простыя сутычкі самалётаў. Шмат хто з пілотаў страцілі роўнавагу і пачалі, пакідаючы строй, пікіраваць. Каб пазбегнуць узрыва ў выпадку сутычкі з таварышамі, большасць аслабанялі мінныя тросы. На галовы ніжніх пасыпаўся дождж знарадаў велізарнай руйнуючай сілы.

Тых, хто бачыў гэтую трагедыю, асталося вельмі нямнога— з ста трыццаці двух „Юмерсаў" непашкоджанымі вярнуліся на свае базы ўсяго адзінаццаць. Рэшта або загінулі, або цяжка пашкодзілі сябе пры панічнай пасадцы на выпадковай мясцовасці.

Вярнуўся і камандор Гагенау. У гэтага чалавека хапіла знаходлівасці шукаць выратавання не ў зніжэнні, а ў хутчэйшым наборы вышыні. Пры гэтым ён не скінуў ніводнай міны з свайго самалёта, каб не зрабіць шкоды таварышам, што знаходзіліся ніжэй. Ён зусім выразна ўяўляў сабе памеры катастрофы.

Самазнішчэнне ста дваццаці самалётаў было адной з самых трагічных старонак гісторыі першага дня вайны.

Брулоў панура выслухаў даклад і доўга моўчкі глядзеў на карту.

— Значыць...—выціснуў ён нейкім чужым, хрыпатым голасам,— значыць, па-вашаму, бамбардыроўка Форта няўхільна?

— Яго можа выратаваць толькі ноч.

— Абарона не надта надзейная. Добрае становішча, га?

— Ваша прэвасхадзіцельства,—суха сказаў Вронскі,—мы не раз падкрэслівалі поўную рэальнасць з'яўлення над нашым тылам самалётаў з паравымі рухавікамі. Але камандаванне заўсёды з пагардаю ставілася да гэтых перасцярог і пераацэньвала значэнне сродкаў, што перашкаджаюць рабоце матораў варожых самалётаў. Тэхніка надзвычайная штука, ваша прэвасхадзіцельства, але ёю нельга падмяняць жывых людзей. Ніякія баражы не заменяць адкрытага бою.

Брулоў, думаючы пра сваё, перапыніў яго:

— Для абароны Форта ў нас асталася толькі маскітная дывізія?

Вронскі насцярожыўся:

— Я не веру ў гэты метад.

— Вы-ж самі толькі што сказалі, што верыце людзям больш, чым тэхніцы.

— Атака лётаючымі тарпедамі—голы тэхніцызм, ваша прэвасхадзіцельства. І пры гэтым, тэхніцызм, што грунтуецца на неправеранай тэорыі. Эксперыменты мелі палігонны, лабараторны характар. Мы не ведаем практыкі гэтай справы.

— Відаць, мы адзін аднаго не разумеем. Калі таран можна назваць тэхнікай, дык хіба толькі сярэдневяковай. Нашы продкі, генерал, білі галовамі барачоў па варотах абложаных замкаў. Можа тады гэта і было перадавой тэхнікай, але ў нашы часы, згадзіцеся, гэта пахне паўтарэннем пройдзенага.

— Ці павінен я зразумець...—амаль с галохана сказаў Вронскі,—ці павінен я зразумець, што мы будзем атакаваць і другой брыгадай?

Камандуючы насмешліва паглядзеў на свайго начальніка штаба:

— У вас, як ва ўсякага габінетнага чалавека, слабыя нервы, генерал. Так, я іменна гэта і хачу сказаць: мы будзем атакаваць абодвымі брыгадамі.

— Уначы?

— Хоць-бы было цёмна, як у пекле. Другога выйсця ў мяне няма.

Ён працягнуў Вронскаму дэпешу: „Камандуючаму паветраным флотам генералу ад кавалерыі Бетман фон Брулову. Правадыр загадаў паведаміць вам: „На горад Форт не павінна ўпасці ні адна бомба. Дзяжурны статссакратар граф Рыкс“.

— Зразумелі?

— Я падам рапарт пра неразумнасць такой аперацыі ўначы,—панура адказаў Вронскі.

— Заадно напішыце і завяшчанне. А пакуль што пішыце загад маскітнай дывізіі.

Вронскі моўчкі вышаў з габінета.

Каб зрабіць зразумелай гэтую размову паміж генераламі, трэба даць некаторыя тлумачэнні. Так званая „маскітная“ дывізія імперцаў складалася з ста дваццаці знішчальнікаў, у якіх канструктары, упершыню за ўсю практыку самалётабудаўніцтва, спалучылі такія супярэчлівыя якасці, як высокая вертыкальная і гарызантальная хуткасці. Гэтага дасягнулі не шляхам якіх-небудзь новых вынаходак у аэрадынаміцы; канструкцыя таксама не змяшчала ў сабе нічога асабліва арыгінальнага. Сакрэт заключаўся ў тым, што камандаванне вызваліла канструктароў ад звычайна жорсткага патрабавання мінімальнай пасадачнай хуткасці. Яно ўступіла ў гэтай асаблівасці машыны на карысць яе скарасных паказальнікаў.

Яно ахвяравала элементарнейшымі ўмовамі захавання машыны, а з ёю і лётчыка. Пры пасадцы ў нагружаным стане (г. ё. з тарпедай) хуткасць даходзіла да 140 кілометраў у гадзіну. Начная пасадка была асабліва цяжкой, амаль рызыкоўнай. Чаму камандаванне пайшло на такую рызыку? Ды перш за ўсё таму, што бачыла ў гэтым выхаваўчы момант; на яго погляд спецыфічнасць баявой работы знішчальнікаў „маскітаў“—мела на ўвазе непатрэбнасць пасадкі, як такой. Імкнуліся прывучыць лётчыка да таго, што ў баявых умовах „маскіт“ раз падняўшыся, ужо не павінен рабіць пасадку. Маскіт не варочаўся з бою. Насцігаючы ворага,

ён тараніў яго тарпедай, наглуха ўмацаванай у яго пад корпусам паміж коламі шасі. Па прынцыпу ён нагадваў сабою даўнейшую шастовую міну на моры. Шансаў выратавацца ў атакуючага лётчыка не было ніякіх. Ён свядома ішоў на гібель разам з сваёй ахвярай.

З прычыны спецыфічнасці гэтага віду авіяцыі, лік маскітных часцей быў невялікі. Яны набіраліся з дабраахвотнікаў. Органы военнай прапаганды даводзілі спосабы прыцягнення туды моладзі да зусім фанатычных хітрыкаў, блізкіх да вычварнай містыкі. Ідэі патрыятызма атрымалі формы ахвярнасці, няўхільнасці смерці лётчыка-маскіта ў баі з ворагам. Маскітная авіяцыя набывала паступова характар адасобненага, закрытага ордэна. Спачатку неафіцыйна, а пасля ўжо і адкрыта лётчыкі-маскіты пачалі называць сябе „рыцарамі паветра". Культ „вялікага" Манфрэда [1]), абранага патронам ордэна, набываў пачварныя формы.

Незадоўга да вайны думкі афіцэраў у адной з маскітных брыгад набылі зусім нечаканы для фашысцкага ўраду кірунак. Бязвусыя „рыцары", падупаўшы пад уплыў некаторых колаў апазіцыйнага генералітэта, стварылі падпольную арганізацыю. Яна ставіла сабе на мэце напад на рэзідэнцыю дыктатара. Некаторыя старыя генералы-манархісты лоўка скарысталі „асуджанасць" рыцараў і рыхтаваліся зрабіць іхнымі рукамі пераварот. Але змова была раскрыта і ўсе восемдзесят яе ўдзельнікаў былі забіты ў адну ноч.

Спалох ураду быў такі вялікі, што ён хацеў тут-жа расфармаваць усе маскітныя часці. Камандаванне запярэчыла: супроцьпаветраная абарона рада важнейшых военнапрамысловых пунктаў краіны грунтавалася на маскітах. Абмежаваліся чысткай часцей і ўзяліся за спешную распрацоўку тэхнічных метадаў, якія стварылі-б ілюзію захавання жыцця лётчыку-маскіту і тым наблізілі-б маскітныя часці да іншых авіяцыйных войск, знялі-б з іх арэол рыцарства і звышчалавечнасці.

Нічога свайго імперцы не прыдумалі, але ўдала прыстасавалі ўкрадзеную ў альбіонцаў вынаходку, што ляжала без скарыстання амаль дзсяць год. Нейкі капітан каралеўскіх паветраных сіл Норман Макмілан у сакрэтным парадку запатэнтаваў яшчэ ў 1928 годзе і прадаў паветранаму міністэрству Альбіонлэнда „лётаючую тарпеду".

Імкненне Макмілана зводзілася да таго, каб зрабіць магчымай у паветры такую-ж мінную атаку, якую мы прывыклі бачыць на моры. З гэтаю мэтаю ён пабудаваў тарпеду з нясучай паверхняю і хваставым апярэннем, якая была падобна на планер. Тарпеда гэта прымацоўваецца да самалёта тарпеданосца. Пабудова тарпеды па ідэі падобна да міны Уайтхеда. Яна з'яўляецца снарадам, які сам рухаецца і сам кіруецца. Але паколькі паветраная тарпеда можа перасоўвацца за конт уласнае вагі, робячы плануючы

[1]) Манфрэд фон Рыхтгофен—германскі лётчык-знішчальнік вайны 1914 г., так званы „ас"—атрымальнік 51 перамогі ў паветры, які загінуў у паветраным баі ад кулі англійскага лётчыка.

спуск, дык ёй не патрэбен рухавік. Вольная грузапад'ёмнасць скарыстана ў ёй для змяшчэння аўтаматычнага пілота-робота. Робот імкнецца ўтрымаць тарпеду на траекторыі планіруючага палёта, якая была ёй зададзена ў момант пуску з самалёта. Такім чынам, задача лётчыка заключаецца ў тым, каб, правільна нацэліўшыся, своечасова пусціць тарпеду. Яна сама пройдзе адлегласць, што аддзяляе атакуючага ад ахвяры.

Паводле думкі вынаходніка Нормана Макмілана, яго тарпеда павінна была даць магчымасць атакаваць у паветры дырыжаблі імперцаў. Як вядома, імперцы ўзмоцнена займаліся пабудовай вялікіх дырыжабляў і Альбіонлэнд увесь час баяўся іхнага налёту. Апрача таго, паветранае міністэрства праектавала ўзброіць лётаючымі тарпедамі ўсю высотную бамбардыровачную авіяцыю. Яно лічыла, што гэта дазволіць рабіць налёты на такіх вышынях, з якіх звычайныя метады бомбамятання не даюць амаль ніякага эфекта. Аднак, работы праводзіліся альбіонцамі вельмі павольна, так што к пачатку вайны яны не мелі нічога апрача двух-трох выпрабавальных машын, прыстасаваных для правядзення эксперыментаў з тарпедай Макмілана. Альбіонцы не здолелі атрымаць ад сваёй вынаходкі ніякай практычнай карысці. Зрабілі гэта за іх імперцы. Украўшы чарцяжы тарпеды, яны адразу ўзяліся за пераўзбраенне сваіх маскітных часцей. Спуск добра нацэленай тарпеды з невялікай адлегласці пакідаў лётчыку некаторы шанс на выратаванне.

К 18 жніўня пераўзброенымі аказаліся першыя брыгады ўсіх маскітных дывізій, у тым ліку і дывізія, што ўваходзіла ў сістэму СПА горада Форт. Другія брыгады па-ранейшаму былі забяспечаны старой тарпедай, што патрабавала непасрэднай сутычкі з атакуемым самалётам.

Па сутнасці, розніца ў сэнсе рызыкі для лётнага складу абодвух брыгад пры дзейнічанні ўначы, была толькі маральная. Цяжка сабе ўявіць, каб у атацы ноччу знішчальнікам першай брыгады, забяспечаным тарпедай Макмілана, удалося абыйсціся без ахвяр. Каб іхныя мінныя атакі былі разлічаны на максімальную трапнасць пападання, лётчыкам давядзецца падыходзіць да праціўніка вельмі блізка. Інакш, у змроку яны рызыкуюць страляць сваімі мінамі ў пустату. А раз гэтак, дык выйсці з атакі для іх практычна амаль немагчыма; ва ўсякім выпадку—вельмі цяжка. Калі нават каму-небудзь з іх, захоўваючы трапнасць стральбы мінай, удасца пазбегнуць сутычкі, дык гэта не значыць, што ён выратуецца.

Хаця камандаваннем узмоцнена прапагандавалася думка, што пры такім спосабе атакі лётчыку забяспечана жыццё, сакрэтныя матэрыялы сведчылі: сіла ўзрыва тарпеды дастатковая для таго, каб разбурыць самалёт у радыусе 50 метраў ад цэнтру ўзрыву. Для камандавання было ясна, што лётчыкі-маскіты асуджаны. Яно „забылася" ўвесці парашуты нават у тых брыгадах, якія былі ўзброены мінай Макмілана, каб у лётчыкаў не было спакусы выйсці з атакі, не давёўшы яе да канца.

Вярнуўшыся к сабе, Вронскі хутка напісаў тэлеграфны загад. Праз дванаццаць хвілін расшыфраваны тэкст быў у руках камандзіра маскітнай дывізіі Мольке.

Мольке быў старым лётчыкам. Ён і ў камандзіры гэтай дывізіі трапіў іменна таму, што разам з адным з цяперашніх правадыроў фашызма,—бліжэйшым сябрам і памочнікам дыктатара,—служыў калісьці ў часцях імператарскай авіяцыі. Ніхто іншы, як легендарны Манфрэд быў іхным агульным камандзірам. Абодва яны былі тады лейтэнантамі і абодва біліся за самы поўны „мяшок“ [1]) і звязанае з гэтым званне „аса“. Але адзін з лейтэнантаў завецца цяпер паветраным маршалам і з'яўляецца фактычным распарадчыкам трох міністэрстваў—паветранага, ваеннага і ўнутраных спраў, а другі—скромны дывізіянер.

Праўда, прызначаючы дывізіянера на гэтую пасаду, паветраны маршал асабіста запэўніў яго ў тым, што камандаваць першай з сфармаваных маскітных дывізій—вялікі гонар. Ён заклікаў зрабіць з юных „рыцараў паветра“ сапраўдную кагорту смерці, вартую імя вялікага патрона, але занятак гэты быў з сярэдніх. Калі-б не вайна, дывізіянер пэўна не астаўся б тут. Яму не па сэрцу былі вывіхнутыя рыцары, з іх містычным трызненнем пра звышпатрыятызм, які патрабуе крывавых ахвяр на алтар арыйскай бацькаўшчыны. Дывізіянер быў салдатам толькі па інерцыі. Ад рамантызма 14 года не асталося і следа. Трэба было выслужыць поўную пенсію радавога афіцэра і ісці на спакой. Для яго гэта была прафесія, нікольві не больш рамантычная чым усякая іншая. Каб не вайна...

Дывізіянер яшчэ раз прачытаў кароткі загад Брулова-Вронскага і дастаў з сейфа запячатаны канверт. Мольке сам не ведаў яго зместу. Спяшаючыся, зламаў сургуч. Перад ім быў доўгі, на некалькі старонак тэкст. Пры ўсёй павазе да кіраўніка дзяржавы, у дывізіянера не было часу прачытаць тое, што аказалася „пасланнем да адданых рыцараў паветра, патомкаў славутага Манфрэда“.

Дывізіянер бегла праглядзеў „пасланне“. Дыктатар заклікаў лётчыкаў выканаць доўг перад вялікай радзімай арыйцаў і ў заключэнне пісьма загадзя ўзнагароджваў кожнага з тых, хто сабе варожы самалёт, жывога або мёртвага, вялікім крыжом „Pour lemérite“. Дывізіянер іранічна скрывіў губы. На шыі яго вісіць такі крыж, але ён атрымаў яго за сваю дзесятую машыну і зусім не збіраючыся паміраць, як разлічвае збіць скончыць свой першы бой гэтыя юнакі. Які, сапраўды, дзіўны, вывіхнуты час...

У афіцэрскім сабранні панаваў паўзмрок. Лямпы з вялікімі абажурамі асвятлялі столікі і ўзгалоўі канап. Панавала ўрачыстая цішыня, якая святататна парушалася лёгкім пахрапваннем. Адзін афіцэрык, зусім малады, заснуў чытаючы. Пухлая губа яго з ледзь намечанымі вусамі ўздрыгвала, прапускаючы няроўнае дыханне. Палец трымаў адгорнутую старонку тоўстай кнігі ў ба-

---

[1]) У атрадзе Манфрэда Рыхтгофена гаварылася пра кожнага зноў збітага ворага: „Паклаў у мяшок“.

гатай вокладцы. На яркім каленкоры яе блішчэла вязь готыкі „Мой шлях“.

Па сценах залы, усцяж карнізаў гарэлі дзіўным таямнічым агнём словы надпісаў. Надпісы гэтыя ішлі няспыннай чарадой. Іх было не шмат, але яны паўтараліся, настойліва лезлі ў вочы, як прописы падручніка. Адны з іх нагадвалі пра далёкае змрочнае мінулае чалавецтва:

„З намі нашы старыя багі“,

або:

„Рыцар, меч укладзены ў тваю руку багамі і правадыром, павінен паразіць ворага ў сэрца!“

Некаторыя былі больш сучасныя і ясныя:

„Удар маскіта нясе пэўную смерць варожаму самалёту, які-б той ні быў вялікі“.

І нарэшце:

„Жыццё дзесяці за адно маё!“

Над усім панавалі вялікія партрэты Манфрэда і дыктатара. За шахматным столікам пад партрэтамі два лейтэнанты лянiва перасоўвалі фігуры. Адзін пускаючы кольцы папяроснага дыму, лоўка пранізваў іх тонкім дымавым струменьчыкам. Любуючыся сваёй работай, ён кідаў партнёру:

— Двух поглядаў быць не можа: мы іх размятлашым.

— Вядома,— спакойна пацвердзіў партнёр.—Шах каралю... Па самай прыродзе сваёй яны не здольны супроцьстаяць такому ўдару, як наш. Натоўп простых салдат, у які ўразаецца фаланга рыцараў!

— Ты ў правах: рознапляменны зброд.

Афіцэр з пагонамі ротмістра, што сядзеў збоку ад тых, што гулялі ў шахматы, заўважыў:

— А вам не здаецца, што ў гэтага зброда ёсць істотная перавага перад намі: для іх бой не азначае няўхільнай смерці, яны маюць шанс на жыццё.

Лейтэнант з папяросай непрыязна прыжмурыўся:

— Табе то жыццё наўрад ці патрэбна.

Яго партнёр шматзначна ўзняў вочы на готыку надпіса. „Жыццё дзесяці за адно маё“.

— Не такая дрэнная цана за аднаго сіфілітыка.

Ротмістр зачырванеўся, але стрымаўся. Толькі пабялелі касцяшкі сціснутых кулакоў:

— Добры доктар яшчэ можа зрабіць мяне чалавекам, а табе не дапаможа ўжо ніхто.

Курыльшчык зачэпліва пусціў струмень дыму ротмістру ў твар:

— Кажы проста: ты баішся.

Ротмістр парывіста ўскочыў. Узняўся, раняючы шахматы, і курыльшчык. Ён з пагардаю цадзіў:

— Табе не месца сярод нас. Гэта ясна ўжо даўно.—Ён павярнуўся да фіцэраў, што ляжалі на канапах.—Панове...

Яго абарваў партнёр:

— Пакінь Гуго. Карл дурня строіць.

Ён сілай пасадзіў курыльшчыка на месца:

— Каб ты ведаў, што такое дзяўчаты, ты можа зразумеў-бы яго. Часам дзеля гэтага хочацца жыць.

Ён не спяшаючыся дастаў з кішэні маленькі касцяны карабок і, пастукаўшы па крышцы, асцярожна адчыніў яго. Адсыпаўшы шчэпаць какаіну, лоўка ўцягнуў носам. Знясілены твар наркамана з цяжкімі складкамі зморшчын і цмянай рыхлай скурай выявіў задавальненне. Ён працягнуў карабок ротмістру, які ўсё яшчэ стаяў:

— Панюхай-тка. Ты адчуеш сябе ў раю.

У залу ўвайшоў дывізіянер Мольке.

Нехта крыкнуў: „Паны, афіцэры!“ Усе ўсталі. З прасонку ўскочыў і юны афіцэрык, раняючы на падлогу томік „Майго шляху“. Твар яго выяўляў поўную замяшанасць, нават разгубленасць. Воінская дысцыпліна патрабавала ад яго ўвагі да ўвайшоўшага дывізіянера і нерухомасці, але ў той-жа час твор правадыра ні секунды не павінен быў знаходзіцца ў такім прыніжаючым становішчы—каля ног радавога афіцэра. Яго выручыў дывізіянер.

— Вольна, панове! Атрыманы загад камандуючага паветраным флотам: мы атакуем ворага. Праз гадзіну ён будзе над намі. Сілы яго вялікія: звыш чатырохсот баявых машын СБД. Іхная задача—знішчэнне Форта. Правадыр загадаў: ні адна бомба не павінна ўпасці на Форт. Тут,—дывізіянер узняў над галавою друкаваныя чырвоным ліскі,—асабістае пісьмо правадыра да вас, афіцэраў першай мас...

Яго голас заглушыў аднадушны крык афіцэраў:

— Няхай жыве Манфрэд!..

Пухлыя губы юнага афіцэра, які ўсё яшчэ сціскаў „Мой шлях“, дрыжэлі.

— Слава Манфрэду,—грымела пад столлю залы.

Дывізіянер спрабаваў абвясціць:

— Няхай жыве правадыр!

Але маладыя глоткі заглушылі яго:

— Няхай жыве Манфрэд!

Мольке ўзняў руку. Зрабілася ціха:

— Панове, ад'ютант прачытае асабістае пасланне правадыра.

Сярод напружанай маўклівасці, з задніх радоў пачуўся голас:

— Лепш скажыце, як мы будзем весці бой...

— Ён у правах,— не саромячыся, пацвердзіў адзін з афіцэраў побач з Мольке.—Пакуль ёсць час, растлумачце абставіны і задачу. Хто астанецца жывым, той прачытае пасланне пасля бою...

Пачуўся смех.

— Правільна, ва ўсякім разе яго не зачытаюць да дзірак. Чытачоў будзе не шмат.

Мольке павольна абвёў афіцэраў поглядам і скамандаваў:

— Камадзіры атрадаў да мяне. Пілоты па самалётах!

— Слава Манфрэду!—Крычалі афіцэры, пакідаючы залу.

14

Але ёсць войны, якія рабочы клас павінен назваць адзіна справядлівымі войнамі —гэта барацьба за вызваленне ад рабства, ад прыгнёту капіталістаў, і такія войны павінны быць, бо інакш, як у барацьбе, мы не дасягнем вызвалення.

*Ленін* (Прамова на мітынгу ў Алексееўскім народным доме 25 жніўня 1918 года).

(Збор твораў, 3 выд., т. XXIII, стар. 190).

*23 г. 00—00 г. 30 хв.*
*18/VIII-19/VIII*

З набліжэннем да мэты камкор Халюцін выяўляў усё больш ажыўленую дзейнасць радыё праціўніка. Прычына ажыўлення не пакідала сумненняў: рыхтаваўся прыём яго калонам. Халюцін не баяўся новага бою. Ён з поўнаю падставаю лічыў, што ў начных умовах на яго баку значная перавага. Перш за ўсё яго трэба знайсці ў прасторы. Нават чатырыста самалётаў, калі яны захочуць унікнуць сустрэчы з праціўнікам, не так проста выявіць. Няхай пасты земнага назірання з поўнай дакладнасцю акустычна адзначаюць яго шлях, ухіліцца ад сустрэчы з самалётамі ён здолее.

Халюціну трэба было вырашыць асноўнае пытанне: ці працягваць палёт ранейшым курсам, або зрабіць абыходны рух з тым, каб падыйсці да мэты з тылу.

Урэшце, камкор вырашыў, што, падышоўшы на адлегласць 250 кілометраў (г. зн. прыкладам на сорак хвілін палёта, ён рэзка зменіць курс на паўднёвы і абыйдзе Форт. Бомбамятанне будзе весціся на паўночным курсе.

Капітан Касых улавіў загад, што перадаваўся флагманскай рацыяй усім штурманам калоны: падрыхтавацца да выхаду на новы баявы курс.

З боку Халюціна такі манеўр быў вялікаю адвагаю. Ужо на працягу чатырох з палаваю гадзін эскадра ляціць без усякай земнай арыентыроўкі. Кіруючыся выключна прыборамі, яна павінна выйсці на мэту з такой дакладнасцю, каб мець магчымасць беспамылкова скінуць бомбы на горад і плаціну.

Ні для каго не сакрэт, што мэта к моманту падыходу калон будзе схавана ў цемры і не будзе адрознівацца ад навакольнай мясцовасці. У лепшым выпадку, калі будзе свяціць месяц, удасца зрабіць візуальную праверку з кантрольнага самалёта, які дзеля гэтага знізіцца да паўтары-двух тысяч метраў. У адваротным выпадку, уся эскадра астанецца на інструментальным вызначэнні.

Касых добра ведаў, што ўсе штурманы эскадры ўжо на працягу доўгага часу з вялікай дасканаласцю, не адрываючыся ад

табліц і прыбораў, вылічаюць шлях. Лётчыкі, з усёй даступнай для іх дакладнасцю, стараюцца весці самалёты па зададзенаму курсу, не ўхіляючыся ні на градус. І вось, калі ўсіхная ўвага і сілы сканцэнтраваны на тым, каб прывесці лінію курса да мэты, Халюцін адным махам ламае яе.

Думкі капітана былі перарваны незвычайным відовішчам, што адкрылася ў паўночна-заходнім кірунку, ад новага курса калон.

Ноч адсунулася з паловы неба. Нешта нябачанае, падобнае да паўночнага з'яння палымнела на гарызонце.

Гэта былі пражэктары загароднай зоны маскітнай дывізіі. Дзвесце пражэктараў магутнасцю ў сто мільёнаў свечак кожны. Усё неба, усё паветра, здаваліся пранізанымі асляпляючымі промнямі.

Прайшло некалькі секунд і капітану здалося, што святло рабілася цмяным. Аднак гэта было абманам зроку: тыя-ж дваццаць мільярдаў свечак шугалі сваім святлом, але нешта непараўнана больш яркае ўрэзалася раптам у гэта мора празрыстага срэбра— магутныя светлавыя гейзеры ўзняліся з зямлі. Пачалі дзейнічаць базісныя пражэктары-пеленгатары. Пасылаючы ў неба сноп магутнасцю ў два з паловаю міліярды свечак, кожны такі пражэктар даваў дзвесце промняў, падзеленых нібы сеткаю шахматнай дошкі. Астаючыся нерухомымі, промні давалі магчымасць вызначыць істотныя даныя палёта праціўніка: кірунак і хуткасць.

Усю рабочую магутнасць бліжэйшых электрацэнтраляў, усе рэзервы „Плаціны правадыра“ паглынала гэта вакханалія святла.

Мы ўжо бачылі, што, атрымаўшы данясенне пра набліжэнне калон Халюціна, дывізіянер Мольке аддаў распараджэнне пра падрыхтоўку да палётаў. У яго аставалася яшчэ каля поўгадзіны на тое, каб праверыць сваю гатоўнасць, узняцца ў паветра і на баявой вышыні чакаць падыходу большэвікоў. Дывізіянер з хваляваннем сачыў за сігналамі радыёстанцый, што даносілі пра рух Халюціна. Вось яго калоны пераляцелі славенска-імперскую мяжу, вось ім асталося 270 кілометраў да Форта... 260... 250... Інакш кажучы да зоны боя—100... 90... 80... раптам пачалася дзіўная блытаніна. Нечакана станцыі, размешчаныя па шляху следавання асобага корпуса, данеслі, што не чуюць больш праціўніка. Яго пачалі чуць пасты, размешчаныя к поўдню. І калі Мольке гатовы быў ужо змяніць загад пра кірунак вылета, уся сетка станцый размешчаных к поўначы, таксама пачала даносіць, што зноў чуе праціўніка. Але ў той час, калі паўднёвыя станцыі даносілі пра праціўніка, што аддаляўся на поўдзень, паўночныя паведамлялі пра яго набліжэнне: гэта было бязглуздым, амаль неверагодным. Пачаў працаваць перадатчык дывізіянера, раскідаючы ў эфір праверачныя запытанні. Але станцыі ўпарта паўтаралі сваё: „Праціўнік адыходзіць на поўдзень... Праціўнік набліжаецца з поўначы“.

На поўдзень адыходзіць? З поўначы набліжаецца? Што заставалася рабіць дывізіянеру? Сіла праціўніка, што набліжаўся, была невядома. Нельга было сустракаць яго ў змроку. Дзвесце сорак пражэктараў паўночнага сектара асвятлілі неба. У іх блакітным

святле плылі рэдкія шматкі воблакаў. Моцная оптыка зенітнага назірання дазваляла заўважыць над воблакамі блесткі самалётаў. Сто дзве малюсенькія мошкі.

Гэта была калона камбрыга Брэдзіса. На максімальнай хуткасці, даступнай аблегчаным СБД, Брэдзіс ішоў для злучэння з Халюціным. Не парушаючы загада камандавання, Брэдзіс імкнуўся як мага раней сыйсціся з камкорам. Замысел яго быў просты: адцягнуць на сябе супроцьпаветраную абарону Форта і аблягчыць Халюціну падыход да мэты. Брэдзіс не паспеў яшчэ ўмовіцца з Халюціным пра план дзеяння, бо не хацеў заўчаснай радыёперакліччай прыцягнуць да сябе ўвагу імперцаў. Але вышла так, што ў той момант, калі Халюцін пайшоў паўднёвым курсам і пачаў аддаляцца ад асноўнай лініі палёта, Брэдзіс увайшоў у зону чутнасці маскітнага назірання і пачаў з поўначы набліжацца да пакінутай Халюціным простай лініі на Форт. Гэта адбылося роўна ў 24 гадзіны 18 жніўня па сярэдне-еўрапейскаму часу. Брэдзіс меў намер прапанаваць Халюціну паўднёвы абыход, а самому ісці яго ранейшым курсам. Халюцін, яшчэ не ведаючы пра набліжэнне Брэдзіса, як-бы ўгадаў яго думку і ачысціў яму шлях для прыкрыцця. Але раней чым Брэдзіс выйшаў на яго, камандзір маскітнай дывізіі страціў раўнавагу. Яму трэба было спяшацца сустрэць нечаканага ворага з поўначы і, адагнаўшы яго, перакінуць дывізію ў паўднёвы сектар абароны. Калона, што пайшла на поўдзень, магла ў любую хвіліну змяніць кірунак і пайсці к Форту.

Мольке ні хвіліны не сумняваўся ў тым, што сто самалётаў, якія з'явіліся з поўначы, будуць спынены яго маскітамі. Цяжка нагружаныя бамбардыроўшчыкі не здолеюць весці бой з рухавымі знішчальнікамі. Частка будзе адразу збіта таранньмі атакамі. Рэшта, бачучы немагчымасць далейшага прасоўвання, не вытрымаюць і павернуць назад.

Маскітныя часці стартавалі адна за адной. Дакладна, як на парадзе, хвост у хвост, крыло ў крыло зрываліся яны з аэрадромаў, імкліва ўскідваемыя стартавымі ракетамі. Агнявыя сляды гэтых ракет цягнуліся за нябачнымі ў змроку самалётамі, як хвасты камет.

На адной і той-жа вышыні хвасты гэтыя абрываліся. На некалькі хвілін усё знікала ў бездані начы, пакуль, урываючыся ў мора святла, што акружала СБД, маскіты не абрушваліся на іх імклівай лавінай. СБД палалі бляскамі стрэлаў, як агнявыя дыкабразы. Гэта было шаленства агня. Каб дайсці да праціўніка, маскітам трэба было прарвацца праз смяротную заслону свінца і сталі. Нямногія з іх мелі шанс дасягнуць намечанай мэты непашкоджанымі. Але яны не змянялі курса, працягваючы атаку. Калі-б стралкі СБД былі здольны на працягу тых нешматлікіх секунд, што цягнулася атака, разважаць і аналізаваць, яны павінны былі-б прыйсці ў панічны жах ад гэтага небывалага націску. Як правіла, знішчальнік, наблізіўшыся да атакаванага на пяцьсот-шэсцьсот метраў, імкнуўся ўхіліцца з яго шляху, каб пазбегнуць сутычкі. Яму аставалася ўабрэз часу, каб адвесці самалёт ад няўхільнай пагібелі. А маскіты, як звар'яцелыя, імчаліся на пэўную сутычку. У вельмі нямногіх лёт-

чыкаў СБД дайшло да свядомасці, што неасцярожнасць маскітаў невыпадковая. Большасць пілотаў інстынктыўна навальваліся на штурвалы ўжо тады, калі катастрофа рабілася відавочнай. Не ўсім СБД удалося пазбегнуць сутычкі. Другая брыгада атакуючых вырвала з радоў Брэдзіса не адну ахвяру.

Маючы магчымасць атакаваць лётаючымі тарпедамі толькі на блізкай адлегласці, маскіты першай брыгады таксама павінны былі прарвацца праз шчыльную агнявую заслону або адступіць, не зрабіўшы ворагу шкоды. СБД, вялі ўраганны агонь з усіх гармат і кулямётаў. Яны былі ахутаны фантанамі пырскаючага метала. І ўсётакі маскіты першай брыгады працягвалі атаку. Яны, як сляпыя, ішлі на ахутаныя ўспышкамі СБД. Яны не звярталі ўвагі на тое, што многія іхныя таварышы без парадку падаюць.

Цяпер для экіпажаў СБД зрабілася ясным, што праціўнік шукае сутычкі. Яны своечасова пачыналі манеўраванне. У такім разе хуткасць атакуючых аказалася пагібельнай для іх саміх. Пікіруючы, яны не маглі рэагаваць на манеўр ухіляўшыхся СБД. Маскіты з выццём імчаліся ў цёмную бездань. Толькі тыя з іх, што выпадкова натыкаліся на бамбардыроўшчыкі, якія не справіліся зманеўраваць, узрываліся разам з сваёю тарпедаю. Рэшта пралятал скрозь строй СБД к зямлі, знікаючы за межамі святла пражэктараў. Аддаеныя свайму доўгу, яны спрабавалі выйсці ў другую атаку, але змрок і скучанасць былі супроць іх. У змроку бліснулі падвойныя ўзрывы тарпед сутыкнуўшыхся знішчальнікаў. Рэшта, убачыўшы гэтыя страшныя ўзрывы, зразумелі іх значэнне і пайшлі на пасадку. Гэта было адзіна разумным, што яны маглі зрабіць. Нават тая частка іх, якім удалося-б не пашкоджанымі выйсці ў другую атаку, мелі мала шансаў дагнаць у межах дасягальнасці пражэктараў хуткаходныя СБД.

Для Мольке, які назіраў знізу, прайшла цэлая вечнасць напружанага чакання. Толькі праз хвіліну пасля пачатку боя ён адзначыў першы ўзрыў тарпеды. Урэшце! Маскіту ўдалося прарвацца праз агнявое кальцо СБД і тараніць праціўніка. На здзіўленне дывізіянера, за барвовым бляскам тарпеднага ўзрыву, не паследавала полымя і грукату ўзарваных бомб праціўніка. У наступную хвіліну Мольке налічыў дзевятнаццаць удалых таранаў. Ён бачыў, як ахутаныя полымем падалі шчэпленыя самалёты. Але бомбы бальшэвікоў па ранейшаму не ўзрываліся. На зямлі, у тым баку, куды падалі палаючыя самалёты, таксама не чутна было разрываў. Мольке не ведаў, што змагаецца з Брэдзісам, які не мае на барту ніводнай бомбы!

Звыш адзначаных Мольке дзевятнаццаці ўзрываў, адбылося яшчэ семнаццаць. Трыццаці шасці маскітам удалося давесці справу да сутычкі з СБД. З пункту гледжання Мольке гэта было нікчэмна мала, але Брэдзіс з болем адзначаў кожны новы ўзрыў. Ён страціў трыццаць процантаў свайго складу. Затое ён мог запісаць сабе ў актыў восемдзесят маскітаў (у тым ліку: трыццаць два загінуўшых у сутычках, сорак восем збітых агнём СБД).

Наўпярок чаканням, узбраенне маскітаў новымі самарухавым тарпедамі не зменшыла страт тараннай дывізіі. Лётаючыя тарпеды

вельмі падыходзілі для атакі маларухавых, не здольных да хуткіх манераў самалётаў, гружаных бомбамі. Але на здзіўленне лётчыкаў, самалёты большэвікоў выяўлялі велізарную рухавасць і манеўранасць. Большасць лётчыкаў гатовы былі перайсці на ранейшую, больш прывычную тактыку простага тарана, якая здавалася ім у гэтым выпадку адзіна правільнай, але было позна—вораг ухіліўся ад удара.

Удала ўжыць крылатыя тарпеды і выйсці цэлымі з бою ўдалося толькі чатыром маскітам.

Празмерна высокая пасадачная хуткасць маскітаў стварыла для іх вялікія цяжкасці пры звароце з атакі. Ноч, неасветленая з-за асцярогі аэрадромная плошча, неразбярыха ў паветры—усё гэта прывяло да шматлікіх аварый. Некалькі машын сутыкнуліся. Чатыры маскіты перавярнуліся ў часе пасадкі. Адзін сеў на свае ангары. Адзін уваткнуўся ў зямлю, прычым адбыўся ўзрыў яго тарпеды (відаць, лётчык забыўся апусціць ахоўнік узрывальніка). Сорак маскітаў, што вярнуліся непашкоджанымі, не былі здольнымі працягваць бой. Маральная нагрузка лётчыкаў аказалася празмернай. Ніякая містыка не магла ўзнагародзіць затрату нервовай энергіі „рыцараў“. Многія не маглі пакінуць кабін, бо былі вельмі стомлены і параненыі. Кулі і снарадныя асколкі СБД зрабілі сваю справу. Беглы агляд людзей і машын паказаў, што не ўсе самалёты, што селі, здолеюць пасля некаторага адпачынку вылецець насустрач новаму ворагу, пра набліжэнне якога з поўдня панічна крычалі цяпер усе радыёстанцыі. Гэта будзе сапраўды толькі маскітны ўкус для калоны Халюціна, якая налічвае ў сваім складзе каля чатырохсот машын.

І ўсётакі Мольке даў загад падрыхтаваць да палёта яго лётную машыну і выклікаў дывізіённага доктара:

— Як пілоты?

— Да апошняга знясілены. Шмат апрача таго паранены.

— Гэта я ведаю без вас. Я хачу ведаць: надалі вы ім належны выгляд.

— Я, пан дывізіянер, без вашага загаду...

— Вы не ведаеце інструкцыі?

— Я абавязаны вас папярэдзіць, што заўтра ніводны з іх не будзе годны да палётаў.

Мольке нецярпліва крыкнуў:

— Яны патрэбны мне не заўтра, а праз дваццаць хвілін! Усе: здаровыя і параненыя! Усе. Убірайцеся к чорту і рабіце вашу справу.

— Ёсць, пан дывізіянер.—Доктар павярнуўся да памочніка:—Раздаць панам афіцэрам пакет № 3. Параненым — укол. — Ён зноў павярнуўся да дывізіянера:—Праз чвэртку гадзіны пілоты жывыя палезуць у любое пекла, але заў...

Мольке, не даслухаўшы, крута павярнуўся і пашоў да ангара, дзе рыхтавалі яго самалёт:

— Заўтра?—мармытаў ён сярдзіта,—я-б дорага даў, каб ведаць, ці ўбачыць хто-небудзь з іх гэта заўтра...

## 15

... вайна павінна будзе, напэўна, скончыцца не мірам, а агульнай рэволюцыяй.
Генерал *Фуллер* (Англія)

*24-00—02 г. 00*
*18|VIII 19|VIII*

Палітычны інспектар пры дырэкцыі самалётабудаўнічых заводаў „Бр. Крон“ у Форце, пан Отто Рам—трыццацігадовы чалавек з бледным стомленым тварам,—быў заняты тэлефоннай размовай, калі далажылі пра тое, што яго хоча бачыць начальнік даследчага аддзела заводаў.

Твар інспектара не выявіў пры гэтым вялікага задавальнення, хаця той, што прышоў, і быў яго старэйшым братам—доктарам прыкладнай механікі, інжынерам Эгонам Рам. Отто хацеў быў сказаць, што ён заняты, але дзверы ўжо расчыніліся і ў іх, стукаючы кастылямі, увайшоў Эгон. Твар Эгона выяўляў вялікую раздражненасць. Ён крыкнуў з парога:

— Мне сказалі, што гэта твая фантазія...

Отто перабіў:

— Перш за ўсё гавары другім тонам. А пасля...

Але Эгон не слухаў:

— Я не прыму гэтага даручэння. Дурная выдумка.

— Цяпер я разумею пра што ты гаворыш: у цябе ёсць заўвагі пра арганізацыю эксперыментальнага аддзела па высотнаскарасных машынах?

— У мяне ёсць адна заўвага: аддзел, што ты задумаў арганізаваць, нікому не патрэбен.

Отто выскачыў з-за стала і ў раздражненасці пачаў хадзіць па пакоі:

— З нас досыць таго, што мы капаемся ў тваіх дурных тэорыях. Гэта можна было трываць у мірны час. Вайна! Ты павінен зразумець, што гэта значыць...

Эгон засмяяўся:

— Я то ведаю лепш за цябе.

Балансуючы на пратэзах, ён трос кастылямі:

— Вось! Добры ўспамін.

Отто незадаволена махнуў рукой:

— Ты заўсёды збіваешся на дробязі. Гаворка ідзе пра тое, што прышоў час пусціць у справу ўсе нашы формулы. Нам патрэбна самая магутная авіяцыя, якую здольна стварыць чалавецтва.

— Мілы мой, ваенная авіяцыя знаходзіцца каля мяжы сваіх знішчальных магчымасцей. Каб ісці далей, трэба перарабляць не машыну, а чалавека.

— Глупства! Можна лётаць яшчэ вышэй, яшчэ хутчэй. Гэта вы нам і дасце.

Эгон адставіў кастылі і апусціўся ў крэсла. Ужо значна спакайней сказаў:

— Усё, што ты надумаўся рабіць, такое элементарнае...

— Вось таму мне і дзіўна, што трэба табе тлумачыць...

— Ты не даслухаў: такое элементарнае ў сэнсе непісьменнасці і дурасці, што шкода траціць словы на тлумачэнне. Машыны могуць закінуць лётчыкаў ужо на такія вышыні, якія не дадуць вам карысці. Мы можам несці вас з такой хуткасцю, што чалавечы арганізм з цяжкасцямі вытрымлівае яе, нават у простым кірунку, не кажучы пра якія-небудзь эвалюцыі. Вам патрэбны семсот, восемсот кілометраў? Мы іх дадзім. Але навошта яны вам? Пятнаццаць тысяч метраў вышыні. Бярыце, але што вы будзеце там рабіць?

— Гэта ўжо наша справа. Дайце нам іх.

Эгон насмешліва паглядзеў на брата:

— Паспрабуй, Отто, зразумець тое, што я табе скажу. Хоць ты і вельмі малапісьменны чалавек, але цёрся каля авіяцыі і па чутках тое-сёе ведаеш. Мне нядаўна давялося кансультаваць, калі выпрацоўвалі новыя нормы трываласці для ваенных самалётаў. Пра тое, якая гэта цяжкая справа, табе пакажа просты прыклад: у выпадку пікіравання, трэба рабіць разлік машыны, прымаючы пад ўвагу хуткасці парадка ад тысячы да тысячы двухсот кілометраў у гадзіну...

— Выпадак акадэмічны,—аўтарытэтна ўставіў Отто.

— Наадварот, зусім рэальны. Уяві сабе, на вышыні васьмі-дзевяці тысяч метраў (заўваж: толькі восем, дзевяць, а не пятнаццаць, як вы марыце), ідуць знішчальнікі. Ім трэба атакаваць праціўніка, які ідзе над самай зямлёй, або проста перайсці ў брэючы палёт. Пачаўшы пікіраваць, яны ўжо на палове адлегласці да зямлі набудуць хуткасць названага мной парадка.

— Калі-б гэта было так, то пілоты не здолелі-б зрабіць ніводнага хоць крыху рэзкага манеўра. Яны рызыкавалі-б страціць свядомасць пры выхадзе з піке. Так, напэўна, і машыны былі-б пашкоджаны. Тут нешта не так.

— Я не ведаю, што можа здарыцца з пілотамі, але наконт машын я хачу табе сказаць: пры найменшай спробе рэзка выйсці з піке на такіх хуткасцях, яны разваляцца. Каб самалёт мог рабіць рэзкія рухі ў гэтых умовах, трэба даць яму такі запас трываласці, які зробіць яго цяжкой скрыняй, а не лётальным апаратам. А калі хочаш абмежавацца разумным запасам трываласці, дык выхад з апісанага мною піке трэба будзе пачаць ужо на вышыні чатырох з паловай, максімум чатырох тысяч метраў. Пры гэтым, выраўноўваць машыну трэба вельмі павольна, асцярожна. Тое-ж самае трэба будзе рабіць у часе ўсіх эвалюцый у паветраным баі, у часе любога манеўравання.

Отто грэбліва ўсміхнуўся.

— Калі-б тое, што ты кажаш, аказалася праўдай, мы павінны былі-б шукаць іншых шляхоў развіцця і іншых метадаў барацьбы ў паветры. Але ў такім выпадку новаму аддзелу належыла-б давесці, што мяжа дасягнута. Так ці інакш, вы павінны паказаць нам навуковы шлях...

— Не кажы слова „навука“, яно вам не да твару. Да таго-ж, навука не ў сіле зрабіць для вас больш, чым зроблена. Вам астаецца

адно—рэгрэс. Гэта, мой сябра, нешта падобнае да звароту ад электрычнага стула да тапара. Гэты шлях прасцейшы і больш прывычны для вас. Хаця і ён закрыты, калі вы не згаворыцеся з вашымі фактычнымі і патэнцыяльнымі ворагамі: „Давайце лётаць больш павольна, а то на сучасных хуткасцях мы ўжо не можам збіваць адзін аднаго. Давайце адступім хоць-бы к часам першай сусветнай вайны чатырнаццатага-восемнаццатага гадоў, да яе хуткасцей і вышынь. Мы ўжо дастаткова выраслі, каб на тых хуткасцях страляць без памылкі, бамбіць без промаху. Гарантуем паветранай зброі надзвычайную жатву...“

— Досыць. Ты зноў за глупства. Калі-небудзь ты дагаворышся, не гледзячы на маю абарону.

— О, я вельмі табе ўдзячны, што ты мне гэтак прыяеш, але...

Отто спыніў яго:

— Пры любых умовах у нас ёсць сродкі, каб паразіць ворага. Няхай хуткасці дойдуць да таго, што манеўранасць сыйдзе да нуля. І на паралельным курсе можна развіць такі агонь, што яго ніхто не вытрымае. Мы знойдзем формы барацьбы, толькі дайце нам хуткасць і вышыню.

Эгон перапыніў:

— Паралельны курс? І тут, сябра, ёсць свае ножніцы: пры хуткасці руху ў дзевяцьсот кілометраў, г. зн. 250 метраў у секунду, ціск сустрэчнага паветра на паверхню цела, якое рухаецца, такі вялікі, што страляць з кулямёта або гарматы можна толькі проста супроць руху або ў адваротны бок. Наогул, паралельна струменю паветра. Страляючы-ж пад кутом да гэтага патока, ціск паветра на бакавую паверхню кулі або знарада будзе такі вялікі, што яна паляціць па нейкай фантастычнай крывой, зусім іншай, чым пры стральбе з нерухомага пункта. Пачатковыя хуткасці сучасных кулямётаў занадта малыя. Я магу табе, вядома, падлічыць, куды іменна прыдзе куля, выпушчаная пад любым кутом да лініі палёта, на любой хуткасці руху, але для кожнага з узаемных становішчаў стралка і мэты, вынік будзе не аднолькавы. А такіх становішчаў тысячы. Страляць вы будзеце ў белы свет, як у капеечку.

— Ты хочаш сказаць, што агонь на паралельных курсах пры вялікай хуткасці немагчымы?

— Чаму-ж? Калі супрацоўнікі, сыйшоўшыся, згадзяцца не змяняць узаемнай пазіцыі на працягу часу, якога хопіць добраму матэматыку, каб вылічыць траекторыю кулі, то стралкі, вядома, здолеюцьператварыць адзін аднаго ў рашоты.

Разам з тым, як гаварыў старэйшы брат, бледны твар Отто пакрываўся румянцам, ён ледзь стрымліваў нервовую дрыготку рук.

— Чаго ты прышоў? Не марнуй мне часу.

— Азнаямленне пана інспектара з некаторымі дэталямі яго спецыяльнасці ты называеш стратай часу? Трэба-ж і табе што-небудзь ведаць. Ва ўсякім разе будзеш мець уяўленне пра адзінае выйсце: рэгрэс.

— Не палохай нас словамі. Мы іх не баімся.

— Вядома, яшчэ-б! Вы—адважныя. Вы гатовы вярнуцца да дагістарычнага абардажа.

— Трэба будзе—вернемся. Калі вы з вашымі фаліантамі формул, з пірамідамі навуковых трактатаў, з усімі інстытутамі і лабараторыямі, што бяруць кучы грошай, з усёю вашай пратухлай навукай акажацеся няздольнымі; калі вы абанкроціцеся і не здолееце забяспечыць нам тэхнічную перавагу над ворагам, дык у нас засёды застанецца тое, чаго не здолее адабраць ніхто—дух фашызма. Мы пашлём к чортавай матары ўсю вашу тэхніку з яе фокусамі. Нашы продкі змагаліся дубінамі. Яны зубамі ірвалі горла ворагу. У такой бойцы няважны ніякія патокі паветра, ні сустрэчныя, ні бакавыя. Грудзі ў грудзі, лоб у лоб. Тут не прамахнёшся. Сёння ў нас усяго некалькі маскітных брыгад. Заўтра мы ўсю знішчальную авіяцыю ператворым у таранную. Мы прымусім вас будаваць знішчальнікі адзіночкі, адзіным прызначэннем якіх будзе збіваць ворага ўдарам уласнага цела. На гэта нас хопіць...

— Ды вядома,—на гэта то вас хопіць...

— Маўчы! Не табе меркаваць пра нашу мужнасць. Машына за машыну. Дзесяць іхных галоў за адну нашу. Гульня пойдзе без пройгрышу і рызыкі. Мы выкінем з знішчальніка ўсякую зброю. Мы прывучым лётчыка да думкі, што адзінай яго зброяй з'яўляецца маса ўласнай машыны. Таран, нічога іншага...

— І ты, ты сам таксама пойдзеш у гэтую бойку?

— Фашызм прызначыў мне іншую ролю. Мне дадзена ўлада распараджацца чужым жыццём і для гэтага трэба захаваць маё.

Эгон узняўся хутка, наколькі дазвалялі яго пратэзы:

— Няпраўда! Не захаванне твайго нікчэмнага жыцця патрэбна для таго, каб камандаваць іншымі. Наадварот: патрэбна смерць іншых, каб выратаваць ад яе цябе і да цябе падобных. Народ не дае ўлады тым, хто штурхае яго на смерць. Улада даецца таму, хто імкнецца захаваць жыццё іншым цаною свайго ўласнага. А вы, вы вандалы. Так, так, гэта вандалізм. Цябе прывучылі да таго, што чалавек—самае таннае з усяго, што ёсць на свеце. Ты маньяк!

Отто паківаў галавою:

— Эх ты, сапля матэматычная... Ты чытаў калі-небудзь правадыра? У яго ёсць такія словы: „чалавецтва становіць сабою сумесь дурасці, трусасці і перавялічаных прэтэнзій“. Гэтым сказана амаль усё... Вы ўяўляеце, што ваша жыццё—фокус, у якім сыходзіцца ўвесь сэнс існавання зямлі, у сапраўднасці, вы створаны ўсяго толькі для ўгнаення. Ты гной, якім будзе ўгноена глеба для чалавецтва чыстай крыві і здаровага розуму.

— Апошняга вам якраз і не хапае,—крыкнуў Эгон.—Мне брыдка цябе слухаць. Я адчуваю сябе ў вар'яцкім доме...

Отто выклікалі па тэлефону. Разам з тым, як ён слухаў, твар яго рабіўся ўсё больш сур'ёзным. Кідаючы трубку, ён махнуў брату:

— Мне няма часу. Заўтра-ж за арганізацыю новага бюро.

Эгон рашуча адказаў:

— Я гэтым займацца не буду.

— Не час жартаваць, Эгон. Калі ты яшчэ на волі, дык толькі дзякуючы мне.

Калека рушыў да дзвярэй. Інспектар крыкнуў:

— Стой!

Эгон спыніўся.

— У мяне няма выбару, Эгі,—сказаў Отто.—Падумай пра матку. Яна цябе вельмі любіць.

Эгон ускіпеў:

— Пакінь гаварыць пра матку! Многа ты думаў пра яе, калі замест таго, каб вучыцца, пайшоў у сваю дружыну. Яна хацела зрабіць з цябе чалавека, так, так, чалавека, а ты стаў фашыстам!

— І цяпер я інспектар, а не ты. Я твой начальнік, а не ты мой.

— Так, таму што ў вас нарукаўнік дружынніка замяняе мазгі. Ты такі-ж тупіца, як і ўсе твае...

Ён не дагаварыў. Отто размахнуўся і ўдарыў яго па твары. Кастылі з стукам упалі. Нялоўка балансуючы рукамі, калека спрабаваў устояць, але новы ўдар паваліў яго.

З маўклівым шаленствам Отто біў ляжачага брата нагамі. Потым ён сарваў тэлефонную трубку і выклікаў камендатуру:

— Людзей да мяне, узяць арыштаванага...

Але раней чым ён дагаварыў, зазваніў другі апарат. Адміністрацыя ваенна-прамысловых прадпрыемстваў Форта атрымала паведамленне ўлады пра тое, што калоны бальшэвікоў набліжаюцца да горада.

Хутка ўсім зрабілася вядомым, што ўсе перашкоды актыўнай абароны знішчаны бальшэвікамі. Самая надзейная частка іх—маскіты, не прымусілі бальшэвікоў павярнуць назад, або хоць-бы змяніць кірунак. Асталася пасіўная абарона, што канцэнтрычнымі кольцамі апаясала горад.

Кольцы складаліся з звычайных шахматных камбінацый зенітнай артылерыі і аэрастатаў загароды. Але калі парадак іх размяшчэння быў звычайны, дык зусім незвычайнымі былі самі сродкі. Дзякуючы прымяненню надзвычай тонкіх тросаў, аэрастаты загароды маглі ўзнімацца значна вышэй і прымацаваныя да іх сеткі маглі быць больш доўгімі. Па галоўных прывязных тросах, што трымаліся двума суседнімі аэрастатамі, падаваўся ток высокага напружання. Далей ток ішоў у загароду такім чынам, што ланцуг аставаўся разамкнутым, пакуль які-небудзь староннi прадмет не замыкаў яго паміж суседнімі дроцікамі сеткі. Такім прадметам павінен быў быць самалёт, які сустракаўся з загародай. Металічная маса самалёта—добры праваднік для току. Усе людзі і прыборы, не ізаляваныя ад масы, аказваліся пад дзейнічаннем току напружаннем у тысячу вольт.

Аднак імперскае камандаванне не ведала пра тое, што савецкімі канструктарамі былі своечасова ўжыты захады супроць гэтай смертаноснай загароды. Было зроблена ўсё, каб адвесці ток ад прыбораў, якія яго баяліся і надзейна ахаваць экіпаж самалёта.

У той-жа ступені, у якой электрычныя паветраныя загароды адрозніваліся ад простых аэрастатных баражоў, адрозніваліся ад

звычайнай зенітнай артылерыі і батарэі, што абаранялі Форт—сталіцу ваеннай прамысловасці імперыі. Сярод зенітных батарэй, што абаранялі Форт, меліся ўзброеныя буйнакаліберньмі гарматамі, якія стралялі новымі знарадамі Мюлера. Гэты снарад станавіў сабою вялікі шрапнельны стакан, з якога на зададзенай вышыні выпіхаўся маленькі рулон тонкай сталёвай сеткі. Прымяненне спецыяльнай высокалегіраванай сталі з вельмі вялікім супраціўленнем разрыву (да 130—140 кілограм на квадратны міліметр) рабіла сетку выключна трывалай. Сетка падвешвалася да парашутыка, які аўтаматычна раскрываўся ў часе вылету стакана. Павольна апускаючыся, сетка гэта станавіла сабою пагрозу для прапелераў самалётаў. Выкідваючы вялікую колькасць снарадаў, батарэі Мюлера стваралі суцэльны заслон з сетак на ўсю вышыню стрэла. Вышыня, якой дасягалі снарады, у сваю чаргу была вельмі вялікая (тэарытычна яна даходзіла да 15 тысяч метраў, дзякуючы пачатковай хуткасці снарада да 1500 метраў у секунду).

Аднак вера фортаўцаў у дзейснасць сродкаў абароны была неаднолькавай. Кожнаму з „кольцаў“ абароны верылі пераважна тыя з фабрыкантаў, хто рабіў для іх абсталяванне. Тэма надзейнасці гэтых кольцаў не раз узнікала ў колах прамыслоўцаў.

Раней адзіным праціўнікам, з'яўленне якога каля Форта было магчымым, лічыліся славенцы. Хаця ў рэальнасць гэтага ворага ніхто не верыў: „Славенцы ніколі не адважацца пераляцець імперскую граніцу, а апрача славенцаў прыляцець да нас няма каму“. Такая была агульная ўпэўненасць. Таму спрэчкі насілі звычайна акадэмічны характар. Яны ўзнікалі ў клубе „капітанаў“ прамысловасці Форта—мільянераў, уласнікаў буйнейшых ваенна-прамысловых прадпрыемстваў. Заўсёды пераможцам у дыскусіях быў Крон Старэйшы—фактычны ўласнік вялізных самалётабудаўнічых заводаў „Браты Крон“, што пастаўлялі баявыя машыны на палову паветранага флота імперыі. Выдатныя якасці яго вырабаў не выклікалі сумнення. Яго марку насілі і нядаўна створаныя знішчальнікі маскіты. У надзейнасці такой аховы ніхто з фортаўцаў не сумняваўся і менш за ўсё сам пан Крон, якому было пра што непакоіцца. Авіяцыйныя заводы „Браты Крон“, будучы адным з галоўных пастаўшчыкоў авіяцыйнага міністэрства і „Паветранага лойда“, давалі нядрэнныя дывідэнды. Крон меў філіалы.

Па шкляных дахах доўгіх заводскіх будынкаў сінелі велізарныя надпісы „Браты Крон“. Скрозь цмяныя шыбы святло шугала ў начное неба. У залітых электрычнасцю цэхах панаваў аднастайны рытм канвеера. Канвеер на самалётным заводзе—гонар фірмы! Ён даў ёй вялікую „медаль правадыра“ ў пробную мабілізацыю 36-га года, у часе славутага злёту ў Бюрэнбергу.

Аднастайным крокам рухаліся побач з канвеерам рабочыя. Відаць былі толькі каротка падстрыжаныя патыліцы схіленых галоў. На палатняных камбінезонах тыя-ж яркія, блакітныя росчыркі: „Браты Крон“, „Браты Крон“, „Браты Крон!“

Шумець мелі права толькі машыны. Рабочыя не павінны былі траціць час на размовы. Шопат, якім яны абменьваліся, пагражаў карцарам, бізуном. Але нават гэтыя забітыя людзі, якія траплялі

сюды з канцэнтрацыйных лагераў, не маглі сёння маўчаць. Дружыннікі расхаджвалі парачкамі. Гэтыя бульдогі ў сініх куртках, якія наводзілі страх адным сваім з'яўленнем, сёння не рабілі ніякага ўражання.

Шэптам ад рабочага да рабочага, ад схіленай галавы да сагнутай спіны і далей, далей, абганяючы шкілеты самалётаў, што рухаліся па канвееру, бегла незвычайная вестка: „калона большэвікоў ідзе на Форт“.

Адкуль, якім чынам дайшла сюды гэта навіна, якую ўсімі сродкамі хавалі нават ад вольна нанятых служачых? Але яе ўжо ведалі, яе абмяркоўвалі прыглушаным шопатам па ўсяму шкляному гораду завода.

— Кажуць, большэвікі адбілі наш налёт...

— Дай божа!

— Бог тут ні прычым.

— Не прыдзірайся, я радуюся, калі толькі гэта праўда.

— Праўда? Гэтага мала. На наша праклятае гняздо ляцяць чатырыста машын.

— Кажуць—шэсцьсот!..

— Можа тысяча?!

— Ва ўсякім разе дастаткова для таго, каб прабіць башку праклятым...

— Так, гэта не восемнаццаты год.

— У большэвікоў адраслі зубы.

— Хоць-бы яны ўсыпалі нашым свінням.

— Каб узялі іх за глотку.

— Парвалі на шматкі!

— Ірваць, ірваць!

Шопат бяжыць, бяжыць. Ад аднаго да другога, такі ціхі, што яго не ўлоўліваюць тлустыя адтапыраныя вушы дружыннікаў. І раптам з другога канца залы, дзе шопату няма ўжо куды бегчы, ён варочаецца ледзь улоўным, ціхім спяваннем. Пачаў доўгі худы рабочы. Песня пайшла ўсцяж канвеера. Спяванне скрозь сцятыя зубы, як гуд шмялінага рою, разлівалася па цэху. Слоў не было, але гуд набываў матыў, ён узлятаў да шклянога даху баявым напевам інтэрнацыянала.

Як вартавыя псы, што прачнуліся, спахапіліся дружыннікі.

— Маўчаць!

На крык збягаліся сінія курткі.

— Маўчаць!!

Але спяванне, сціхнуўшы ў тым месцы, куды яны падбягалі, адразу-ж успыхвала там, дзе іх не было.

Дружыннік з рэвальверам у руцэ падбег да інжынера:

— Спыніць канвеер.

Інжынер толькі паціснуў плячамі:

— Праграма, пан камісар, я адказваю за праграму.

— Я арыштую вас,—плюючыся шыпеў дружыннік і цягнуўся жылістай лапай да пабляднеўшага інжынера. Але лапа павісла ў паветры. Гуд ціхай песні прарэзала трэль трывожных званкоў.

Над канвеерам, над канторкамі майстроў, над сталом інжынера ўспыхнулі яркія надпісы экранаў:

„Паветраная трывога“.

Святло, за секунду да таго асляпляюча яркае, пагасла. Яшчэ і яшчэ. Праз паўхвіліны, акрамя цмяных лямпачак каля дзвярэй, у доўгім будынку цэха не было ніводнага агенька.

Разам з тым, як згасала электрычнасць, узмацняўся напеў. З нясмелага невыразнага гуду, ён вырас у баявую песню, узняўся да пачарнелага шклянога неба, запоўніў усю залу цэха, заглушыў хрыпаты рык дружыннікаў. Магутныя гукі інтэрнацыянала стыхійна грымелі ў цэху. Пагаслі апошнія лямпачкі каля ўваходаў. Спяванне працягвалася. Сінія курткі, якія ачмурэлі ад уласнага крыку, гналі рабочых.

Узняўшы над галовамі кішэнёвыя ліхтарыкі, дружыннікі білі рабочых па чым папала. Гумавыя палкі з тупым гукам апускаліся на спіны, плечы, галовы. Белыя камбінезоны працэсіяй зданяў цягнуліся да выхаду пад незмаўкаемыя гукі гімна...

Сярод агульнага тлуму і сумятні, той высокі рабочы, што першым пусціў па цэху напеў, спяшаючыся гаварыў суседу:

— Трэба разумець, Ганс, гэта адзіны выпадак разнесці к чорту ўсю лавачку.

Сусед спалохана адхіснуўся:

— Ты звар'яцеў, Эрых!

—... Слізняк!

— Што будзе з намі?

— У вялікай справе нельга без страт.

Ганс паківаў галавой:

— Я не хачу быць стратай.

Эрых ускіпеў:

— А чаго ты ішоў у партыю?

Натоўп рабочых быў ужо на заводскім двары. Галава яго, падганяемая палкамі і ботамі дружыннікаў, уцягвалася ў нару сховішча. З гудам мільгалі клеткі патэрностэра.

Эрых учапіўся ў рукаў Ганса. Яны прабягалі каля дзвярэй, праз якія ў шчылінку свяціў слабы промень святла. За дзвярамі бялеўся мрамар размеркавальнага шчыта. Дзяжурны электрык стаяў каля рубільнікаў.

Эрых пацягнуў Ганса да дзвярэй:

— Ганс! Толькі ўключыць рубільнікі, ты разумееш?

— Не, не,—спалохана прашаптаў Ганс і вырваў рукаў з пальцаў Эрыха.

— Ідзі к чорту!

Эрых знік у дзвярах будкі.

Але следам за Эрыхам у будку электрыка ўбег і Ганс. Калі Эрых пацягнуўся да рубільнікаў, электрык залемантаваў. Ганс ударыў яго ключом. На крык беглі дружыннікі. Грымнулі стрэлы. Эрых павіс на рубільніку і цяжарам спаўзаючага цела ўключыў яго. На момант заводскія двары заліліся святлом.

Успышка была такая кароткая, што капітан Касых не здолеў-бы нават у паказаць месца, дзе яна ўзнікла. Зразумела было толькі адно,—унізе быў горад. Астатняе павінны былі зрабіць прыборы і спрактыкаванасць бамбардыраў. Капітан ведаў, што за час праходу скрозь кольцы пасіўнай абароны Форта, склад калон зменшыўся яшчэ на некалькі машын. Кожная бомба ўлічвалася. Ён ад душы парадаваўся загаду Халюціна: „Весці бомбамятанне з пікіравання"! Гэта зробіць бамбардыроўку больш дзейснай. Можна было меркаваць, што трэцяй калоне, якую вёў сам Халюцін, удасца нашчэнт зруйнаваць прызначаныя аб'екты. Абы толькі не падвялі бамбардыры...

Становішча другой калоны, якая за пяцьдзесят кілометраў ад Форта павярнула на Захад, было цяжэйшае. Ад шасцідзесяці СБД у яе складзе асталося ўсяго толькі трыццаць восем машын. Да таго-ж электрацэнтраль, пэўна, мае яшчэ ўласную абарону і пікіраванне для скідвання бомб абыдзецца калоне не танна.

Станцыя ўжо ведала пра набліжэнне калоны. Яе высокі палац з шкла, аблямаванага чырвоным гранітам, хаваўся ў змроку. Меладычна гулі турбіны. З пяцісот васьмідзесяці тысяч кіловат у сетку пасылаліся толькі трыста,—тое, што паглыналі Карлсбург і Луіс— малодшыя браты Форта. А яму, які забіраў ільвіную частку, не патрэбна было ніводнага вата. Спыніліся станкі. Пачарнелі ніткі ліхтароў. Скаваны страхам, Форт стаіўся. Упершыню з моманту адкрыцця станцыі прамысловы гігант адмаўляўся ад электрычнасці.

Турбіны станцыі круціліся на палавінных абаротах. Вада зլівалася пад узнятыя шчыты гіганцкай плаціны. Праз шчыліны вадаспускаў трэба было аддаць амаль поўнае цячэнне магутнай ракі. Інакш, яна пагражала перапоўніць напорнае возера верхняга б'ефа, што разлілося падобна да вялікай марской затокі.

З люстраных акон машыннай залы была відаць роўнядзь возера. Малады інжынер, памочнік дзяжурнага па залі, стараючыся стрымаць нервовую дрыготку, узіраўся ў змрок. Ён спрабаваў знайсці лінію, што аддзяляла неба ад вады. Недзе там, за гэтай лініяй ідуць ворагі. Інжынер павярнуў бледны твар да старога, што сядзеў перад пультам:

— А можа яны ляцяць не да нас?

У голасе яго гучэла надзея. Але стары з усмешкай сказаў:

— У гэтым, мой сябра, вы можаце не сумнявацца.

— Што-ж будзе?

— Вы так пытаецеся, як быццам я ўсё жыццё прасядзеў пад аэрапланнымі бомбамі.

— Вы былі на вайне чатырнаццатага году...

— Тады ў нас шпурлялі цацкамі ў 25—50 кілограм, цяпер да гэтага трэба прыпісаць нуль справа. Тады лёталі для запалохвання, цяпер лётаюць для знішчэння. Ды і наогул тады не ўмелі лётаць. Не гледзячы на тое, што ў тыя гады на адзін збіты аэраплан зенітная артылерыя траціла звыш пяці тысяч снарадаў, а паветраныя баі адбываліся толькі адзін на адзін, не гледзячы на ўсё гэта, з 485 самалётаў, што прымалі ўдзел у 28 налётах на Парыж, намечанай мэты дасягнулі толькі 37. У такіх умовах нікому і ў галаву

не прыходзіла бамбіць гарады, што знаходзяцца за паўтары тысячы кілометраў ад варожай граніцы. Пустым хвастуном палічылі-б таго, хто сказаў-бы, што ён знішчыў начкой бамбардыроўкай з паветра плаціну.

— А цяпер?

— Цяпер?.. Чорт яго ведае, што будзе цяпер. Мы з вамі пра гэта скора будзем мець магчымасць меркаваць.

— Перспектыва!—сказаў малады інжынер, нервова торгаючы плячыма.

— Я магу даць вам невялікі прыклад: аднойчы рака Каларадо, што дае энергію Сан-Францыско, прарвала плаціну. Да берага мора масе вады аставалася прайсці ўсяго восемдзесят кілометраў— тры гадзіны дарогі. Але на працягу гэтых трох гадзін вада нарабіла разбурэнняў на пяцьсот мільёнаў долараў, г. зн. на два мільярды нашых імперскіх крон... Залатых, вядома. Хаця, вы не ведаеце што такое залатая крона. Гэта штука, за якую можна купіць вас з усімі вантробамі на цэлы дзень...

— Вы кажаце, што на працягу васьмідзесяці кілометраў вада паспела нарабіць страт на два мільярды крон? Якая-ж была там маса вады?

— Усяго толькі 47 мільёнаў кубаметраў. Сорак сем мільёнаў тон вады.

— А наша плаціна трымае 260 мільёнаў кубаметраў!

— Зусім правільна,—дзвесце шэсцьдзесят мільёнаў тон вады змяшчаецца вось у гэтым ціхім возеры.

— І гэта маса вады павінна будзе прайсці па нашай краіне звыш трохсот кілометраў...

— Вы пачынаеце разумець у чым справа, дзіця маё. Трыста кілометраў вольная вада будзе імчацца па горных далінах Паўднёвай Імперыі. Пасля гэты паток ўвойдзе ў межы такой прыемнай для нашага імперскага сэрца сястры Остэрыі. Што вада будзе рабіць там, нас ужо не датычыцца, але яе дзейнасць тут на нашай уласнай...

Інжынер не дагаварыў. Жоўтае зарыва бліснула на мрамары шчытоў. Мядзяная абводка кажухоў турбін адкінула ззянне аж да столі, якая здрыганулася. Выпхнутая слупом паветра, шкляная сцяна абвалілася ў сярэдзіну машыннай залы, хаваючы пад сваімі асколкамі субяседнікаў. Знадворку, на роўнай паверхні ціхага возера ўзняўся ў неба пеністы фантан вады. Грукат узрыву дайшоў да залы пазней, калі над возерам узняўся ўжо новы бліскаючы гейзер. Ён перакінуў пеністы струмень праз шырокае палатно дамбы, злучаючы яго з фантанам бетона і сталі, ускінутым наступнай бомбай. Нібы ўзрадаваўшыся волі, вада кінулася ў прарывы. Плаціна дрыжэла ад напору ўспененай ракі. Вада абвальвала надламаныя краі бятоннай сцяны. Кожная бомба што падала ў возера, узнімала асляпляючы фантан вады і камення. Гідраўлічны ціск падводных узрываў ірваў трыццацімятровую таўшчыню бетона, як гнілую фанеру.

Дзвесце шэсцьдзесят мільёнаў тон вады не хацелі чакаць. Яны спяшаліся. Адразу, усёзнішчаючым патокам, яны абрушацца на

Форт, якому столькі часу па-рабску пакорліва аддавалі сваю блакітную энергію, ператвораную ў электрычны ток.

Запальваючыя бомбы, скінутыя першымі эшалонамі трэцяй калоны Халюціна выклікалі пажары ва ўсіх прамысловых раёнах Форта. Тэмпература ў 3200 градусаў, якая ўзнікае, калі гараць начыненыя тэрмітам бомбы, была-б дастатковай для таго, каб запаліць матэрыялы, якія загараюцца найбольш цяжка. К таму часу, калі ўпалі першыя фугасныя бомбы, палова горада была ахоплена агнём. Слупы полымя ўзнімаліся к небу, афарбоўваючы яго барвовымі, трапяткімі блікамі. Агнявыя патокі імчаліся ў новыя вуліцы і праспекты, якія ўтвараліся разрывамі вялікіх фугасных бомб. Пра змаганне з велізарным акіянам агня не магло быць і гаворкі. Полымя было ўсюды. Яно ўзнікала ўсё ў новых і новых месцах; вырывалася з новых і новых руін. Шкляныя дахі цэхаў лопаліся ўраз з жаласлівым дзынканнем. З гулам горнага абвала, апаўзалі шматпавярховыя карпусы. Як нікчэмныя дзіцячыя цацкі, скручваліся ў клубкі стальныя каркасы палаючых самалётаў. Распаленыя скрынкі танкаў рабіліся празрыстымі. Іх ніхто не спрабаваў выратоўваць. Усё жывое спяшалася пад зямлю. Нават пажарныя і ахова, як толькі ўбачылі клубкі жоўтага дыму, што ўзняліся над горадам, у паніцы кінуліся ў падзямеллі. Гэты дым быў першай адзнакай таго, што бомбы трапілі ў карпусы „Ананімкі“[1]). Загарэліся склады серкі, нарыхтаванай для вытворчасці іпрыта. Людзі разумелі, што нельга будзе выратавацца, калі пачнуць узрывацца гіганцкія газгольдэры, з мільёнамі кубаметраў атрутных матэрый. Нарыўныя, слёзатачывыя, задушаючыя, узвесяляючыя газы: іпрыт, люізіт, фасген, адамсіт, дыфенілхлорарсін, вінсеніт,—усё тое, пра што з жахам гаварылі ў мірныя часы і ва што не верылі, як у страшную здань пекла, усё гэта, дастатковае для знішчэння ўсякіх адзнак жыцця на плошчы ў тысячы квадратных кіламетраў, накіруецца на ахоплены полымем Форт. Тады не выратуюць ніякія працівагазы. Ніякія ахоўныя касцюмы, ніякія заслоны. Хто не будзе атручаны АМ, тыя памруць ад недахопу кіслароду. Само паветра будзе выцеснена з вуліц патокамі цяжкога фасгена[2]).

На далёкіх ускраінах горада, там, дзе на высокіх узгорках, абкружаных жалезнымі кратамі і патройным радам калючага дроту, стаялі баракі рабочых-канцэнтрацыённікаў, панавала насцярожаная цішыня. Дзесяткі тысяч рабочых, з вольнай змены заводаў, былі запёрты ў лагерах. Замкнуўшы вароты, ахова ў паніцы пакінула ўзгоркі. Дружыннікі шукалі ратунку ў сховішчах, пакінуўшы сваіх

---

[1]) Так назвалі ў сваіх колах славутую ананімную кампанію анілінавых фарбаў.

[2]) Такі выпадак меў месца ў часе сусветнай вайны 14—18 гг. на італаўстрыйскім фронце, на рацэ Ізонцо. Батальён італьянцаў стрымліваў наступленне вялікіх аўстра-германскіх сіл, запіраючы вузкую цясніну. Цясніна была недаступна для артылерыйскага агня. Яе нельга было забраць атакай пяхоты. Германскае камандванне вырашыла адолець супраціўленне італьянцаў сродкамі ваеннай хіміі. Цясніна была затоплена фасгенам, які выцясняў з яго ніжнія, больш лёгкія пласты паветра. Шэсцьсот італьянцаў задушыліся. Іх не маглі выратаваць ніякія працівагазы; у цясніне не было паветра.

паднадзорных на волю лёсу. Каля ста тысяч зняволеных глядзелі з вышыні сваіх узгоркаў на палаючы горад.

А там унізе, на яго вуліцах, людзі біліся за права схавацца пад зямлю. У жылых буржуазных кварталах, што знаходзіліся каля самай ракі і каля ўваходаў у падземныя сховішчы, клакатаў вадаварот людзей, што страцілі развагу.

Электрычнасці не было. Ліфты, напоўненыя людзьмі, якія крычалі ад жаху, стаялі сярод цёмных шахт. На глыбіню трыццаці метраў трэба было спускацца па жалезных сходках. У паўзмроку, да якога яшчэ не прызвычаіліся вочы, людзі спатыкаліся і падалі. Іх ніхто не падтрымліваў. Дзесяткі і сотні ног дапамагалі ім сыйсці ўніз па слізкіх ад крыві і бруду ступеньках.

Але сховішчы яшчэ не паспелі напоўніцца і напалову, калі над натоўпам, які страціў развагу, пранёсся крык:

— Вада!

Вада з'явілася на вуліцах. Спачатку ёй не надавалі значэння. Але, калі ўзровень вады на працягу трох мінут узняўся да поўметра, калі па галоўных вуліцах ужо можна было прайсці толькі па пояс у вадзе, калі вада патокамі хлынула ў сутарэнні і ў першыя паверхі, калі ўслед за людзьмі ў падзямелле з грукатам рынуліся вадаспады, усе зразумелі. Крык больш страшны, чым усё, што можна было пачуць да таго часу, узняўся над горадам:

— Плаціна!..

Можна было мець надзею выратавацца ад агня—большэвікі не кінулі ніводнай бранябойнай бомбы, каб разбурыць сховішчы.

Можна было спадзявацца выратавацца ад АМ—большэвікі не скінулі ніводнай хімічнай бомбы, каб атруціць людзей. Газы „Анапімкі" цяклі па паверхні, ад іх можна было схавацца пад зямлю або на дахі.

Але куды было схавацца ад вады? Праз восем хвілін патокі яе на вуліцах узняліся ў чалавечы рост.

Тыя, хто шукаў ратунку ад агня і газаў, не верылі таму, што вада можа заліць падзямеллі, і па-ранейшаму імкнуліся ўніз. Тыя, каму ўнізе вада даходзіла ўжо да горла, як раз'юшаныя звяры біліся за права ўчапіцца за ступеньку лесніцы.

Скора хвалі пачалі заліваць уваходы герметычна закрытых заводскіх сховішчаў. Ахова ўбачыла, што загнаныя ёю пад зямлю канцэнтрацыйнікі, у большай бяспецы, чым яны самі. Дружыннікі спрабавалі цяпер прабрацца да сваіх паднадзорных. Але як толькі яны адчынялі стальныя дзверы казематаў, туды накіроўвалася вада. Частка рабочых змяла сінерубашачнікаў і нястрымным патокам накіравалася насустрач вадзе. Яшчэ не разумеючы ў чым справа, яны накінуліся на ахову і авалодаўшы зброяй, плыўма дабіраліся да пажарных лесніц. Там, паміж раз'юшанай вадой і шугаючым над дахамі полымем, ратаваліся іхныя былыя гаспадары. Яны з панічным страхам чапляліся за знадворныя лесніцы будынкаў. Адны з іх, як сляпыя, лезлі вышэй, проста ў абнімкі агня; другія з вышыні некалькіх паверхаў скакалі ў ваду.

Атрутныя матэрыі рознакаляровымі воблакамі імчаліся паміж вадой і агнём.

Усё новыя патокі рабочых выходзілі з сховішчаў, пакуль адзін з іх, сарваўшы працівагаз з застрэленага дружынніка, не дабраўся да цэнтральнага паста заводскіх сховішчаў. Адтуль ён па тэлефону папярэдзіў таварышоў, пра тое, што робіцца наверсе.

З гэтага моманту больш ніводныя дзверы рабочых сховішчаў не адчыняліся, пакуль не сыйшла на вуліцах вада.

Праз некалькі дзён імперскай уладзе належала вырашыць загадку: у Форце загінулі дзевяноста процантаў пануючых класаў і толькі трынаццаць з паловай процантаў рабочых канцэнтрацыйнікаў.

Адразу выявілася велізарная патэнцыяльная сіла рэволюцыйнага руху, які здаваўся задушаным раз і назаўсёды. Яшчэ раней, чым сышла вада, рабочыя вольных змен, якіх на высокіх узгорках не кранулі ні навадненні, ні газы, разбурылі ўсе агарожы і змялі дэмаралізаваныя рэшткі ашалелых ахраннікаў. Рабочыя атрадамі спускаліся ў горад.

Рэшткі вады яшчэ цурчэлі па вуліцах Форта, полымя бушавала ў большай частцы горада, калі падпольныя комуністычныя арганізацыі ўзялі на сябе кіраўніцтва паўстаннем. У набітых рабочымі падзямеллях сховішчаў, у казармах прадмесцяў, якія зрабіліся выспамі ратунку для тых, хто здавалася быў асуджаным на пагібель у першую чаргу, арганізоўваліся атрады паўстання.

Комуністы сталі камандзірамі амаль двухсоттысячнай арміі паўстаўшых.

Першай зброяй гэтай арміі была нянавісць. Кожным нервам сваім, кожнай клеткай мазгоў салдаты яе ненавідзелі фашызм. Іх не трэба было ўгаварваць ісці ў бой. Кожны з іх добра ведаў: паражэнне не абяцае нічога апрача здзекаў, катаванняў і сякеры ката.

Недахопу ў дысцыплінаванасці таксама не было. Турэмны рэжым стварыў жалезную з'яднанасць, свяшчэннае брацтва прыгнечаных і абяздоленых. Комуністычныя правадыры атрымалі надзвычайна баявы матэрыял. Дванаццаць тысяч членаў комуністычнага падполля фортаўскіх казарм-турмаў, выхаваных у баявых традыцыях партыі Эрыха Дэльмана, стварылі сталёвы касцяк рабочых кагорт.

Пачуўся ўпэўнены, не скрываемы больш заклік:

— Узбройвайцеся!

Рукі, што прывыклі працаваць, ператваралі ў зброю кожны абломак жалеза, кожны цвік, кожную цэгліну. Гэта трэба было для таго, каб вышаўшы напаверх, з бою ўзяць зробленыя іхнымі-ж рукамі запасы вінтовак, кулямётаў, патронаў і ў першую чаргу працівагазаў, якія далі-б магчымасць выйсці з сховішчаў усёй масе рабочых.

Усяго гэтага было вельмі многа на складах заводаў, дзе працавалі зняволеныя. Гэтым арсеналам трэба было авалодаць.

Але нават комуністычныя правадыры — разумныя, асцярожныя, навучаныя цяжкасцямі гераічнай пяцігадовай барацьбы з фашызмам, — не маглі прадбачыць таго, што здарылася. Яны былі гатовы да таго, што давядзецца голымі рукамі змагацца з узброенай да

зубоў зграяй дружыннікаў, што давядзецца раззбройваць атрады паліцыі, можа трэба будзе з каменнем і малаткамі выступіць супроць рэгулярных войск, але яны зусім не чакалі таго, што, вышаўшы з сховішчаў, яны не сустрэнуць праціўніка. Яны не маглі марыць пра тое, што ніхто не перашкодзіць ім распараджацца не толькі вінтоўкамі і кулямётамі, але нават гарматамі, мінамётамі, бамбамётамі, танкамі, бранявікамі і самалётамі. Усяго гэтага было шмат у горадзе-арсенале, усё гэта было нарыхтавана для патрэб вайны і ўсё гэта было да іхных паслуг. Добрую палову нельга было выцягнуць з-пад вады, шмат чаго было завалена рэшткамі зруйнаваных будынкаў. Не мала папсавалі бомбы і пажары, але і таго, што асталося, было дастаткова для ўзбраення арміі, што стаяла пад сцягамі паўстання.

Кіраўнікі паўстання маглі фармаваць сваю артылерыю, бронесілы і авіяцыю. Сярод масы зняволеных былі дзесяткі тысяч салдат, тысячы ветэранаў мінулай вайны. Яны ведалі, як абыходзіцца з гарматамі, яны не спасавалі-б і перад неабходнасцю кіраваць бранявікамі. Хіба толькі самалёты былі для іх навіною.

Але наперадзе было шмат працы. Кіраўніцтва не магло на працягу некалькіх гадзін прарабіць складанейшую работу па адсартоўванню людзей і арганізацыі велізарнай арміі. Належала вырашыць цяжкое пытанне пра далейшую тактыку паўстання, пра месца яго ва ўсім ходзе імперскай рэволюцыі. Адарванасць ад свету, ад кіраўніцтва партыі, вымушала фортаўскіх комуністаў дзейнічаць, грунтуючыся на самастойных рашэннях. Часу для пасылкі эмісараў у падпольныя цэнтры не было.

Якія абставіны ў Імперыі? Ці пойдзе ЦК КПІ [1]) на паўстанне ва ўсёй краіне? Ці гатовы да гэтага імперскі пролетарыят?

Да напоўразбуранага жалезнага пакгауза, дзе засядаў штаб паўстаўшых, пад'ехаў прыгожы лімузін. З яго стомлена вылез высокі чалавек з змучаным жоўтым тварам. Запэцканая арыштанцкая роба целяпалася вакол яго хударлявага цела, як на манекену, зробленым з дроту. Спрабуючы разгледзець вартавога, прыезджы наблізіў блізарукія вочы да самага яго твару.

— Дзень добры, доктар Нейбельзон,—сказаў рабочы ў гэткай-жа паласатай робе, што стаяў на варце.

Гэта сапраўды быў Нейбельзон, прафесар Натан Нейбельзон, доктар hanoris causa [2]) дзесятка універсітэтаў Еўропы і Амерыкі, сусветнае свяціла радыётэхнікі.

— Праклятыя вочы,—прабурчэў Нейбельзон,—я не бачу, хто перада мной?

— Скора мы зробім вам надзвычайныя акуляры, доктар. Рэволюцыя гэта напэўна зробіць.

— О, гэта будзе надзвычайна, таварыш... мне патрэбен камітэт.

Рабочы крыкнуў, прыадчыніўшы дзверы:

— Таварыш Нейбельзон!

---

[1]) КПІ—комуністычная партыя Імперыі.

[2]) Hanoris causa—літаральна, дзеля гонару (лацінскае); доктар hanoris causa—ганаровая навуковая ступень.

Нейбельзон увайшоў амаль вобмацкам, ні да кога не звяртаючыся, ён у замяшанні прамармытаў:

— Мы яе пусцілі. Мы маем сувязь з усёй Еўропай, таварышы. Радыёстанцыя Форта пушчана?

Рэволюцыйны штаб мае сваю радыёстанцыю!

Гэта змяняла ўсю справу.

16

*к 02 г. 00*
*19.VIII*

У дзве гадзіны 45 хвілін начальнік паветраных сіл Чырвонай арміі быў выкліканы для даклада галоўнакамандуючаму:

Ён далажыў:

— К цяперашняму часу мне вядома, што:

1. Згодна вашаму загаду, чыгуначны вузел Сорнье падупаў бомбамятанню. Рух спынены. Станцыя і склады гараць. У момант бамбардыроўкі пуці вузла былі забіты саставамі, якія рабілі выгрузку пяхотных і артылерыйскіх часцей.

2. Па патрабаванню камандавання паўночнага сектара сёмая лёгкабамбардыровачная дывізія атакавала скрыжаванне аўтастрад у раёне сканцэнтравання матарызаваных часцей праціўніка. Віадукі разбураны. Рух спыніўся. Бронечасці праціўніка вымушаны былі перайсці на цаліну.

У гэты час увайшоў даручэнец з данясеннем:

— Таварыш маршал, тэрміновае данясенне камандуючага паўднёва-заходнім фронтам.

— Так.

— Другая конная армія не здолела выканаць ваш загад аб акружэнні матацыклетнай дывізіі праціўніка і вымушэнні яе к здачы дывізіі, што прарвалася каля Влошчы.

— Ей удалося вырвацца?

— Не. Дывізія аказала занадта ўпартае супраціўленне. Каб забраць у палон, трэба было затрымаць наступленне і былі-б вялікія страты. Камандарм вымушаны быў знішчыць дывізію, каб не затрымліваць свайго руху.

— І правільна зрабіў.

Маршал адпусціў даручэнца і шырокім жэстам разгладзіў карту.

— Асобы корпус?

Начальнік ВПС маўчаў.

Маршал ледзь заўважна крануў брывом:

— Няўдача?

— Плаціна знішчана. Горад Форт зруйнаваны бамбардыроўкай. Усе прадпрыемствы можна лічыць знішчанымі. Іх аднаўленне немагчыма. Прарваўшы плаціну, вада кінулася ў даліну. Карлсбург і Луіс ужо затоплены. Чакаем далейшых данясенняў пра размешчаныя ніжэй прамысловыя цэнтры...

— Перадайце корпусу па радыё гарачую падзяку камандавання.

— Есць.

— А цяпер вось: сёння, на досвітку, ударная група Міхальчука павінна прарваць фронт на гэтым участку. Неабходна, каб вы яго падтрымалі,—голас маршала траціў лагоднасць.—У першую чаргу, як мага хутчэй, заперці гэта дэфіле,—ён адзначыў раён.—Праціўнік схаваў тут механізаваныя рэзервы ўдарнай групы Фіша. Трымаць там гэтыя рэзервы. Не даць ніводнаму танку выйсці ў даліну. Зразумелі?

— Зусім так, зразумеў.

— Вы вольны, таварыш камандарм.

Камандарма, які амаль ужо дайшоў да дзвярэй, спыніла пытанне:

— Як Халюцін?

— Ранены, таварыш маршал.

— Працягвае камандаваць?

— Не, перадаў Брэдзісу.

— Чаму Брэдзісу? Хіба ён старшы?

— Не... але абодвы намеснікі забіты.

Маршал падышоў да камандарма і моўчкі паціснуў яму руку. Услед сказаў:

— Паспяшайцеся з дэфіле... ды паклапаціцеся пра тое, каб звароту Брэдзіса была зроблена максімальная палёгка. Яны змучаны, небаракі...

У гэты-ж час, за тысячу шэсцьсот кілометраў ад штаба маршала, паніклы ад стомы і непасільнага грузу адказнасці, генерал Брулоў слухаў свайго начальніка штаба.

Бледны, асунуты, з горка апушчанымі куткамі рота, Вронскі гаварыў глуха, не сваім голасам. Даклад быў сумны. Ноч і ўдалыя манеўры дапамаглі Асобаму корпусу дасягнуць мэты. Тое, чаго патрабаваў дыктатар,—устанавіць бяспеку ваенна-прамысловага сэрца краіны,—аказалася не па сілах імперскай авіяцыі і ўсім сродкам СПА.

Стомлена перасунуўшы ў куток роту зжаваны акурак, Брулоў запытаў:

— У якім стане нашы стратасферныя дырыжаблі?

— Як заўсёды, у дрэнным.—Толькі пяць гатовы да палётаў.

— Нябожчык Рамул быў праў,—гэтага Бекенера даўно трэба было адхіліць. Яго штучкі абыйдуцца нам дорага... Але трэба скарыстаць хоць-бы гэтыя пяць караблёў.

Уласна кажучы назва, якую даў дырыжаблям генерал Брулоў, не адпавядала сапраўднасці. Паветраныя караблі, пра якія ён гаварыў, не з'яўляліся стратасфернымі. Вышыня, якой яны дасягалі, была яшчэ субстратасферай. Але паколькі зона іх палётаў была ўсё-ж значна вышэйшай патолка большасці сучасных ім самалётаў, тэрмін „стратасферны“ з'явіўся тады і ўтрымаўся нароўні з гэткім-жа мала законным для таго часу тэрмінам „стратаплан“ [1]). Самы факт з'ўлення гэтых паветраных караблёў заслугоўвае ўвагі, пра іх тады нічога не пісалася. Імперцы трымалі іх у строгім сакрэце.

З уласцівай імперцам акуратнасцю, якая не раз выручала іх там, дзе не ставала шырыні думкі і вопыта, яны на працягу не-

[1]) Стратасферны самалёт.

калькіх год збіралі за мяжой матэрыялы па вывучэнню стратасферы. Добра наладжаная агентурная сетка здабывала з сакрэтнейшых тайнікаў чужых ваенных міністэрстваў тысячы падрабязнасцей, якія лічыліся даступнымі толькі вельмі абмежаванаму колу спецыялістаў. Усё, што было дасягнута амерыканцамі ў галіне тэхнікі вытворчасці найтанчэйшых газанепранікальных тканяў; рацэпты атрымання ультралёгкіх сплаваў высокай трываласці; спосабы таннага здабывання вялікіх мас гелія; практычныя вывады з выпрабавання раду цікавейшых канструкцый кантрольных высотных прыбораў; францускія герметычныя кабіны для стратапланаў і г. д. і г. д.—усё дасканала падбіралася, правяралася і перапрацоўвалася ў імперскіх лабараторыях. Вялікі вопыт у справе будаўніцтва дырыжабляў дапамог імперскім паветраплавальнікам прыстасаваць чужы вопыт да сваіх патрэб. Тое, што з такімі цяжкасцямі і так павольна перамагалася канструктарамі і вучонымі асобных краін, імперцы без усякага сораму, крадучы ідэі і чарцяжы, суміравалі, выклікаючы задавальненне свайго паветранага міністэрства. Першыя выпрабавальныя мадэлі стратасферных паветраных караблёў былі вывучаны ў небывала кароткі тэрмін—тры месяцы. Выбраная міністэрствам сістэма паступіла ў серыйную вытворчасць. Першая эскадра кіруемых стратасферных аэрастатаў павінна была складацца з дзесяці караблёў аб'ёмам каля ста дваццаці тысяч кубічных метраў. Экіпаж карабля павінен быў складацца ўсяго з чатырох чалавек: камандзір, яго памочнік (ён-жа штурман), малодшы афіцэр (ён-жа бамбардзір) і механік.

Ніякага ўзбраення дырыжаблі не мелі. Уся вольная пад'ёмная сіла ў 4,5 тоны скарыстоўвалася для бомб. Важным адрозненнем гэтых дырыжабляў ад ранейшых тыпаў была здольнасць з надзвычай вялікай хуткасцю набіраць вышыню.

Паветранае камандаванне пакладала вялікія надзеі на гэтую стратасферную эскадру. Яно разлічвала скарыстаць яе для скрытых дзеянняў па найбольш аддалёных тылах праціўніка. Але-ж першыя практычныя палёты эскадры яго расчаравалі. Спехам пабудаваныя караблі, мелі шмат заган. З дзесяці аэрастатаў не больш чатырох-пяці былі звычайна здольны да палётаў. Рэшта ўвесь час знаходзіліся ў рамонце. Адзін да таго-ж перад самым пачаткам вайны пацярпеў вялікую аварыю і выбыў з строю!

У адказ на прапанову Брулова скарыстаць дырыжаблі, Вронскі пацікнуў плячыма: што яны маглі зрабіць пры тым становішчы, якое стварылася? Вронскаму не хацелася больш думаць. Прывычныя схемы рассыпаліся ў пыл, а з імі знік і апломб генштабіста.

— Вазьміце сябе ў рукі, генерал!—ускіпеў Брулоў.—Пяць караблёў—пяць пунктаў. Вышыня, недаступная для знішчальнікаў, захавае дырыжаблі ад праследвання. На 14 тысячах ім не патрэбна хуткасць. Адзін дырыжабль добра можа зрабіць тое, чаго не зробіць эскадра самалётаў. Пяць караблёў прыкуюць да пяці пунктаў не мала знішчальнікаў.

— Навошта гэта патрэбна, ваша прэвасхадзіцельства?—вяла запытаў Вронскі.

— Для таго, каб звязаць ім рукі к моманту звароту гэтага праклятага Халюціна...

— Брэдзіса, ваша прэвасхадзіцельства.

— Яго трэба знішчыць. Яшчэ адзін такі налёт і ніхто не прызнае нашага права есці хлеб. Яшчэ адна падобная бамбардыроўка і наш паветраны флот будзе абяскроўлены. На цэлыя месяцы большэвікі зробяцца гаспадарамі паветра...—Брулоў з-пад ілба, як загнаны воўк, паглядзеў на Вронскага.—Паклапаціцеся зрабіць усё для таго, каб знішчыць гэтыя СБД. У большэвікоў няма рэзерваў для гэтага корпуса. Трэба выратаваць наш глыбокі тыл.

— Я баюся...—пачаў быў Вронскі.

Але на гэты раз Брулоў яго не слухаў. Ён выразна праказаў:

— Я не хачу ведаць, чаго вы баіцеся. Не магу сказаць, чаго я баюся... баюся за вашу галаву, калі хоць адзін СБД вернецца на сваю тэрыторыю.

Вронскі ўсхапіўся:

— Ваша прэвасхадзіцельства...

— Вы чулі якраз тое, што я хацеў сказаць, а цяпер выберыце аб'екты для налёта дырыжабляў. Няхай гэта будуць пункты, да якіх у выпадку бамбардыроўкі большэвікі кінуць усё, што ў іх ёсць.

— Каб адцягнуць сілы ад аховы СБД гэта павінны быць пункты прыфрантавой паласы, а там няма прамысловых цэнтраў. Тут большэвікам няма чаго абараняць з той энергіяй, якой вы ад іх чакаеце.

— Не паказвайце з сябе інстытутку, генерал. Тут няма фабрык і заводаў, але затое ёсць жанчыны і дзеці. Мы ваюем, а не засядаем у Лізе Нацый. Вы загадаеце ўзяць на дырыжаблі „сінія“ бомбы. Мы створым у іх рассаднікі такіх эпідэмій, якіх не ведалі Кітай і Індыя. А пасля... пасля вы паклапоціцеся пра тое, каб наша авіяцыя не прапусціла дамоў ніводнага СБД...

Тое, што генерал Брулоў толькі цяпер адважыўся на прымяненне „сініх“, г. зн. бактэрыялагічных бомб, зусім не сведчыла пра яго вялікае чалавекалюбства, або пра страх перад міжнароднымі згодамі, якія не раз асудзілі бактэрыялагічную вайну. Камандаванне баялася толькі аднаго: выклiканыя бактэрыямі эпідэміі і хваробы могуць быць занесены салдатамі працўніка на тэрыторыю імперыі. Але цяпер гаворка ішла пра налёт на пакінутыя войскамі гарады, дзе асталіся толькі жанчыны, дзеці, старыя і рабочыя, што абслугоўваюць тылавую прамысловасць. Яны не прыдуць на фронт да межаў імперыі. Можна было адважыцца на прымяненне гэтай зброі, якая дасканала рыхтавалася ў мірны час ваеннымі лабараторыямі Імперыі.

Думка аб прымяненні выклікаючых хваробы бактэрый не была новай. Віды „мабілізаваных“ бактэрый былі многастайнымі. Уласцівасць кожнай з іх і магчымасць прымянення яе на вайне былі загадзя дасканала вывучаны. Некаторыя з іх былі нават спецыяльна культываваны для хуткага размнажэння ў патрэбны момант. Фактарамі, што абумоўлівалі выбар тых або іншых бактэрый для вайны, былі, з аднаго боку, лёгкасць іх прымянення, з другога „ваенныя“ ўласцівасці захворванняў, якія імі выклікаюцца.

Вельмі трывалая бацыла брушнога тыфуса. Брушны тыфус дае высокі процант смяротнасці, асабліва ва ўмовах ваеннага часу.

Яшчэ больш эфектыўная чума. Смяротнасць ад яе даходзіць да 80%. Распаўсюджваецца чумная эпідэмія надзвычай хутка і яе цяжка папярэдзіць. У ваенна-бактэрыялагічных лабараторыях Імперыі была атрымана бактэрыя новага віду чумы. Ніякія дэзінфекцыі і карантыны не маглі-б лакалізаваць гэтую эпідэмію. Выратаваць ад распаўсюджання заразы магло толькі выпальванне ачагоў з усімі будынкамі і людзьмі. Але самалёты могуць стварыць колькі заўгодна новых ачагоў і аднаўляць іх няспынна.

Халера таксама ўвайшла ў арсенал бактэрыёлогаў. Смяротнасць ад яе дасягае 70%. Мікроб халеры добра вядомы. Шляхі яе распаўсюджання добра вядомы. Усе прадметы абыходу, харчовыя прадукты, мошкі, якія залятаюць з заражонай зоны, могуць быць носьбітамі інфекцыі.

Адным з захворванняў, якое можна скарыстаць, з'яўляецца эпідэмічны энтэрыт. Узбуджальнік энтэрыта—кішэчная палачка—вельмі добра вытрымлівае знадворныя ўплывы і добра захоўваецца. Лепшым распаўсюджвальнікам з'яўляецца вада для піцця, носьбітамі інфекцыі таксама з'яўляюцца гародніна, садавіна, машкара.

Заслугоўвае ўвагі стаўбняк. Ён хаця і не заразны, але дае смяротныя вынікі.

Вадабаязнь, што распаўсюджваецца жывёламі, заражанымі шаленствам, таксама досыць зручная, бо навучыць кошак і сабак правілам хімічнай абароны немагчыма.

Нарэшце, цэрэбраспінальны менінгіт—пакутлівае, цяжкое захворванне, якое выклікаецца дыплакокам Вейксельбаума, што пранікае ў арганізм праз носаглотку.

Можна было-б назваць яшчэ дзесяткі менш вядомых грамадскасці, але добра вывучаных ваеннымі бактэрыёлогамі Імперыі і прызваных на ваенную службу бактэрый. У супрацоўніцтве з бактэрыялагічнымі лабараторыямі артылерыйскае ведамства выпрацавала спецыяльныя знарады для закідвання бактэрый у размяшчэнне праціўніка. Але найбольш эфектыўныя з бактэрый,—хуткія і смертаносныя,—былі недасяжнымі для гармат. Яны вельмі хутка аказаліся-б занесенымі ва ўласную армію імперыі. Адзіным надзейным сродкам занясення эпідэміі ў глыбокі тыл праціўніка з'ўлялася авіяцыя. Авіяцыйным ведамствам было створана некалькі ўзораў бактэрыялагічных бомб, стасоўна да розных тыпаў бактэрый і выпадкаў іх прымянення. Адзін з іх станавіў сабою шкляныя сасуды, якія скідваліся ў адкрытай мясцовасці і разбіваліся проста аб зямлю. Другія складаліся з тонкасценных шкляных ампул, якія разбіваліся спецыяльнымі дыстанцыйнымі прыладамі, не далятаючы да зямлі, і раскідвалі заразу ў паветра. Нарэшце была распрацавана камбінаваная бомба. Яна станавіла сабою звычайную фугасную бомбу, унутры якой змяшчаўся сасуд з пажыўнай для мікробаў вадкасцю. Там-жа маецца балон з кіслародам, які няспынна паступае да бактэрый для падтрымання іх жыцця. Дзе-

янне такой бомбы, абазначанай сінім кругам, забяспечвала раскіданне бактэрый на вялікай плошчы і занясенне іх па магчымасці ў рознае асяроддзе (вада, зямля, раны, харчы і г. д.). Вось гэтыя бомбы абазначаныя сінім кругам і павінны былі ўзяць атмасферныя дырыжаблі генерала Брулова.

17

*На досвітку*
*19/VIII*

Кацярына Іванаўна, жонка палкоўніка Старун,—прымусіла сябе расплюшчыць вочы. Аказваецца яна так і заснула ў крэсле апранутая. З учарашняга вечара яна—старшы тэхнік аўтамабільна-санітарнага атрада. Атрад існуе ўсяго некалькі гадзін: работы хоць завалíся. Кацярына Іванаўна прыехала дахаты позна ўначы, а пасля яшчэ доўга сядзела, чакаючы званка. Але тэлефон маўчаў; відаць, брыгада мужа яшчэ не вярнулася. Дзіўна: усе тэрміны звароту даўно мінуліся. Трывожна, вельмі трывожна на сэрцы... Так вось і заснула ў крэсле. А бывала, яна яшчэ смяялася над Старуном, калі ён зьнячэўку, перад вячэрнім чаем, засынаў на тым-жа старым скураным крэсле. Галачка забіралася на пакатую спінку і ручонкамі закрывала бацьку вочы:

— Прачніся, і скажы, хто гэта?

Кацярына Іванаўна спехам папраўіла на сабе адзенне і апранула напоўсонную Галачку. Меншы сын так і не прачнуўся. Кацярына Іванаўна спяшалася: у чатыры раніцы да дзіцячага сада па яе пад'едзе машына. Ледзь справяцца дабегчы.

Ужо з хлопчыкам на руках, хацела была пазваніць. Узяла тэлефонную трубку, але пачуўшы гудок аўтамата, паспешна, нават нібы спалохана кінула яе на месца. Даведацца пра мужа? Але хіба яна адна, хто з болем у сэрцы чакае звароту брыгады? Калі ўсе будуць званіць...

Рашуча бразнула дзвярыма. Абцасы гулка, неяк асабліва насцярожана застукалі па лесніцы. Кацярына Іванаўна з няпрывычнай раздражненасцю глядзела на дачку, што спускалася за ёй. Дзяўчынка, не спяшаючыся, старанна пераступала ўсё адной і той-жа ножкай з ступенькі на ступеньку. На вуліцы было па восенскаму холадна. Світанне прабівалася праз важкія хмары, што ўкрылі ўсё неба. Хмары, пашматаным ватным адзеялам, імчаліся над суцішаным горадам. Некалькі буйных дажджавых кропляў упалі на асфальт пустой вуліцы.

Міліцыянер на скрыжаванні паглядзеў угару і разгарнуў пелерыну. На чорным прасторы праспекта міліцыянер быў непрызвычаена адзінокі. Зрэдку імчаўся аўтамабіль. Прахожыя—амаль адны жанчыны, не затрымліваючыся, як раней, ішлі па тратуарах. Над пад'ездамі вецер калыхаў белыя палотнішчы. На іх непрывычныя словы: „Лазарэт для газаатручаных“, „Хірургічнае аддзяленне галоўнага шпіталя“, „Штаб СПА другога раёна“, або нарэшце: „Дзіцячы сад і яслі для дзяцей жанчын-добраахвотніц“.

Шырокія шкляныя дзверы раз-па-разу адчыняліся. Адна за

другой выходзілі жанчыны, якія здалі дзяцей. Новыя падыходзілі з дзецьмі на руках, некаторыя вязлі малышоў у калясках.

Галачка ледзь спраўлялася за маткаю. Яна беражліва прыгарнула да сябе лялькy, стараючыся трымаць яе так, як маці трымала маленькага брата.

Дзяўчынка заклапочана запытала:

— Мама, а лялек у дзіцячы сад бяруць?

Маці не справілася адказаць. Да пад'езда пад'ехаў аўтамабіль чырвонага крыжа. Жанчына-доктар сышла з машыны. Кацярына Іванаўна кіўнула ёй:

— Я затрымліваю? Прабачце. Зараз здам сваю каманду.

— Нічога, нічога,—дабрадушна сказала жанчына-доктар і прысела перад Галачкай:—А ты таксама дачку прынесла?

— Так. Толькі не ведаю, бяруць лялек ці не?

Старун выпусціла яе ручонку і пайшла да дзвярэй...

Узрыў страсянуў вуліцу. Падкінутая паветрам дзяўчынка ўдарылася аб дзверы. Яна выбіла цельцам шыбы і ўпала ў сярэдзіну дома. Абліваючыся крывёю, ляжала на кафельнай падлозе. Адна ручка была бездапаможна выцягнута, другою яна прыгарнула да сябе лялькy. Маці ляжала на тратуары, часта і няёмка перабіраючы рукамі. Выкручваючыся ўсім целам, яна спрабавала вызваліць прыціснутыя перавернутай машынай ногі. Дзіка расшыраныя вочы пазіралі на адкінуты на сярэдзіну вуліцы труп хлопчыка.

Завальваючы чорны прастор асфальта, сыпалася каменне, абломкі бярвення. У паветры павісла белае воблака звесткі.

Непадалёку грымнуў новы ўзрыў. Капітэль дома насупраць ясляў хістанулася і паляцела ўніз разам з падкошанай каланадай...

У дзяжурцы знішчальнай эскадрыльі кіраваградскай СПА зачырванеў сігнал камутатара і дробная трэль званка разанула цішыню.

— Ёсць!—каротка кінуў у трубку дзяжурны і ірвануў рубільнік. Адначасова ён уключыў на камутатары гняздо камандзіра.

У агульных памяшканнях, сталоўках, у майстэрнях, у ангарах, на лётным полі віскліва застагналі сірэны.

Камандзір тым часам прымаў паведамленне штаба:

„Кіраваград падупаў паветранай бамбардыроўцы. З-за нізкай воблачнасці наземныя пасты СПА нічога не бачаць. Фанічнае назіранне таксама нічога не заўважыла. З штаба СПА тыла паведамляюць пра тое, што адначасова была зроблена спроба бамбардыраваць яшчэ чатыры гарады. Там дырыжаблі своечасова выяўлены. Яны знішчаны раней, чым справіліся зрабіць якую-небудзь шкоду. Ціха дрэйфуючы над воблакамі, яны спрабавалі пры дапамозе падвесных люлек весці карэктаванне агня. Перш за ўсё неабходна пазбавіць іх гэтага назірання.“

Ужо седзячы ў машыне, Граза прыняў загад і паведамленне пра абставіны. Знішчальнікі-перахватчыкі, вісучы на вінтах, лезлі ўгару амаль старчма. Насустрач ім, усё ўзмацняючыся, ліў дождж. Кроплі перайшлі ў струмені. Яны білі па клапанах, як сталёвыя бізуны.

Адарваўшыся ад аэрадрома, Граза пачаў прадумваць заданне. Калі ўсім атрадам пачаць шукаць загубленую пад воблакам маленькую назіральную люльку, то дырыжабль справіцца скінуць яшчэ шмат бомб, раней чым удасца знішчыць яго назіральніка.

Павел падзяліў атрад: два звяны будуць шукаць гандолу назіральніка пад воблакамі; сам ён з трэцім звяном праб'е воблакі і атакуе паветраны карабель.

Праз пяцьдзесят секунд Граза ўвайшоў у густое малако даждждавых воблакаў. І скора над яго галавой зззяла блакітам восеньскае неба. Плылі рэдкія пёркі разарваных цырусаў. Усхваляванае мора дажджавых воблакаў асталося ўнізе.

Воблакі былі пройдзены. Альтыметр паказваў дзве з лішнім тысячы, але ні навакол, ні над галавой, па ранейшаму не было відаць ніякага дырыжабля. Граза зрабіў поўны круг над Кіраваградам, і толькі замыкаючы яго заўважыў у промнях узыходзячага сонца ледзь заўважны бляск нечага староннягa сярод кволых мазкоў перыстых воблакаў. Плямка бліснула і ў той-жа час знікла. Граза настойліва, метадычна, румб за румбам, пачаў аглядаць неба. Нарэшце, ён знайшоў тое, што шукаў,—палоска бліснула зноў. На гэты раз ён не даў ёй знікнуць і старанна навёў аптычны прыцэл. Скрозь лінзы ён выразна ўбачыў сігару дырыжабля.

Граза на вока вызначыў яго перавышэнне над сабой тысячы ў дзве метраў. Дырыжабль на такой вышыні? Граза гатовы быў праверці вочы, калі-б яны не былі закрыты шкелцамі скафандра.

На высотамеры—каля чатырох тысяч, да дырыжабля яшчэ дзве-шэсць. „Справы ўсяго на дзве з паловай хвіліны“,—падумаў Граза і пасунуў сектар. Стрэлка тахометра здрыганулася і пашла ўправа. Граза ўпэўнена лез угару...

У навушніках радыётэлефона пачуўся выклік камандзіра аднаго з пакінутых пад воблакамі звенняў:

— Люльку знайшоў.

Скрозь прыглушанае шыпенне мембраны і трэск разрадаў Граза не мог пачуць вялікай радасці, што гучэла ў голасе лейтэнанта. А лейтэнант, не спускаючы з гандолы смяшлівых ад радасці воч, рабіў вакол яе кругі. Ён баяўся нават зірнуць скаса на прыборы: а што, як раптам люлька знікне? Моцна застукала сэрца, калі ў навушніках пачуўся голас Гразы:

— Расстраляць!

Да гэтага часу лейтэнанту даводзілася страляць толькі ў нікчэмныя палатняныя конусы, буксіруемыя таварышамі, ды ў мёртвыя кругі мішэняў. Ён навёў прыцэл і націснуў кнопку спуска. Лёгкае ўздрыгванне машыны сведчыла пра тое, што абодва кулямёты пасылаюць кулі. Лейтэнант даў поўную чаргу. Зрабіў разварот і даў другую. Хутчэй за ўсё ад назіральніка, што знаходзіўся ў люльцы, асталося рэшата. Лейтэнант паднёс ужо да губ мікрафон, калі ў навушніках пачуўся сярдзіты вокрык:

— Пра што вы марыце? Расстраляйце назіральніка!

— Ужо выканана!—з гонарам прабасіў лейтэнант.

Але замест чаканага задавальнення камандзіра, ён пачуў:

— Вы страляеце халастымі? Ён працягвае кідаць бомбы.

Лейтэнант разгубіўся. Даў яшчэ дзве чаргі з самай кароткай дыстанцыі. Промахаў быць не магло, а вуха ўлавіла новы выклік зямлі: „Яшчэ адна бомба разарвалася каля шпіталя Чырвонага крыжа“.

Лейтэнант спікіраваў на люльку і даў чаргу. Ён падышоў так блізка, што мог разгледзець кожную заклёпку на сталёвым пакрыцці люлькі. Зусім выразна блішчэлі пісягі садранай фарбы:— кулі саслізвалі па люльцы, не робячы ёй шкоды.

Лейтэнант далажыў Гразе.

— Люлька браніраваная.

Ї раней чым пачуў адказ камандзіра, вочы яго расшырыліся: люлька павольна папаўзла ўгару, яна набліжалася да ваты воблакаў. Зараз яна знікне ў іхняй бялявай муці і тады...

У навушніках зазвінеў голас Гразы:

— Перабіце трос!

— Яго не відаць. Перабіць можна толькі таранам.

— Рабіце, як падказваюць абставіны.

З раздражненасцю даўшы такі загад, Граза тут-жа пашкадаваў. Чаго добрага, хлопец сапраўды ўдарыць сваёй машынай, каб абарваць гэтую праклятую люльку. Няўжо нельга збіць яе агнём?

— Глупства,—буркнуў Граза.

Ён узняў вочы да дырыжабля, каб змерыць адлегласць і ледзь не крыкнуў ад здзіўлення: сігара, да якой аставалася ўжо не больш двух тысяч метраў, хутка пайшла ўгару.

„Таранів!“—пранеслася думка пра лейтэнанта, і Граза перасунуў сектар яшчэ далей. Матор зароў, як асатанелы. Стрэлкі прыбораў зрушыліся з месца. Павялічваліся абароты. Тэмпература масла ўзнімалася. Вінт патрабаваў усё большага і большага кута [1]).

Стрэлка альтыметра перайшла ўжо за сем тысяч, на якіх за хвіліну да таго ішоў дырыжабль, а цяпер да яго было больш, чым раней. Граза трымаў яго ў полі зроку. Дырыжабль зноў ператварыўся ў срэбраную рыску на блакітным фоне неба. Граза ўсё ўзнімаўся. Да дырыжабля зноў было не больш двух тысяч. Альтыметр падышоў да „12“, асталася адна тысяча да чырвонага дзялення „13“—паталка знішчальніка. Граза мог не памыляючыся сказаць, што дырыжабль знаходзіцца за межамі гэтай чырвонай рыскі.

На вышыні дванаццаці з паловай тысяч метраў адзін з спадарожнікаў Гразы данёс па радыё, што яго матор затыхаецца. Стрэлка падышла якраз да „13“, калі і другі спадарожнік паведаміў, што яго самалёт правальваецца. Што мог зрабіць камандзір? Яго ўласная машына з кожным метрам вышыні траціла ўстойлівасць. Граза добра ведаў сімптомы паталка.

Граза зверыўся з картай. Уражанне яго было правільнае: дырыжабль ляцеў у бок Імперыі. Кіраваград астаўся на ўсходзе. Мяжа ўжо недалёка.

Справа ясная: або Граза цяпер-жа дабярэцца да дырыжабля, або той, пакуль прыляцяць стратапланы, паспее ўцячы да сябе.

---

[1]) Знішчальнікі былі забяспечаны вінтамі з крокам, які рэгулюецца ў палёце.

Павел ад душы пашкадаваў, што ў руках яго не адпілаваная ручка абадранага трэніровачнага самалёта. Тут усё на месцы. Мала таго: тут яшчэ чатыры кулямёты ў крыллях, гармата ў развале матора[1]).

Граза яшчэ раз змерыў адлегласць да дырыжабля—больш за тысячу. Трэба перамагчы метраў дзвесце, каб мець магчымасць страляць з гарматы. Дзвесце метраў на такой вышыні—не жарт. Трэба значна аблягчыць машыну. Але за кошт чаго. І тут прышла думка: бензін патрэбен толькі на дарогу туды, калі ўдасца дабрацца да дырыжабля. Уніз Граза спланіруе і з сухім бакам...

Пацягнуўшы рычажок апаражняльніка бензінавых бакаў, ён насцярожана сачыў за стрэлкай бензінамера. Яна была ўжо блізка да нуля, калі ён, нарэшце, адпусціў рычажок. Бак быў амаль пусты. Машына ахвотна ўзнялася на пяцьдзесят метраў. Наступныя пяцьдзесят яна перамагла праз сілу. Далей ісці адмовілася. Пры малейшым руху ручкі на сябе, самалёт правальваўся. Нават цяжка было трымаць яго на ранейшай вышыні. Бензін даў сто метраў. Мала.

На самалёце шмат лішняга масла, але масляны бак не апаражняецца ў палёце. Граза азірнуўся—перад вачыма панель радыётэлефона, яму нічога не абыходзіць яе сарваць, але самая апаратура пад сядзеннем, яе не выцягнеш. Кабіна такая цесная, што немагчыма нават павярнуць плечы. Што ёсць яшчэ лішняе? Кулямёты? Яны далёка. Ага! Пры іх ёсць тысяча непатрэбных патронаў...

Скрозь гул матора выразна прарывалася дробнае татаканне кулямётаў. Граза не здымаў пальца з спуска да таго часу, пакуль шчотчык не паказаў, што ў кулямётаў не асталося ніводнага патрона.

Стрэлка альтыметра лянівa адмярала дзесяцімятровыя дзяленні. Два дзяленні—дваццаць метраў... Мала! Мала!

Аставалася адно—снарады. Іх сто. Вага снарада—700 грам. Разам гэта яшчэ паўсотні метраў. Калі пакінуць сабе дзесяць снарадаў, можна падысці на дыстанцыю простага стрэлу.

Граза рашуча пацягнуў спуск гармат. Выразны белы след кожнага трэцяга снарада прачырчваў крывую траекторыі ў бок дырыжабля і не дайшоўшы да яго, знікаў у прасторы[2]).

Фендрых, што стаяў каля рулёў у гандоле дырыжабля, з усмешкай пазіраў на гэтыя прыгожыя белыя лініі. Ён кінуў камандзіру карабля:

— Пан камендант, паглядзіце. Гэты дурань страляе ў неба.

Камендант—хударлявы афіцэр з сівымі вусікамі, пахмура агрызнуўся:

— Вы-б думалі, перш чым гаварыць. Аблягчыць самалёт—значыць наблізіцца да нас...

Ён асцярожна пастукаў тоўстым пальцам пальчаткі па запацеламу шклу альтыметра. Не абарачваючыся крыкнуў:

— Механік! Як з баластам?

---

[1]) Гармата, што страляе праз пусты ў сярэдзіне вал рэдуктара вінта.

[2]) Трасіруючыя снарады і кулі для паветранай стральбы. Яны пакідаюць за сабой яркі след, які дае стралку магчымасць праверыць наводку.

— Чыста, пан камендант.

Камендант нагнуўся к борту. Праз зашаранелае шкло гандолы ён з цікавасцю глядзеў на знішчальнік, які павольна набліжаўся.

— Малайчына!—сказаў ён, ні да каго не звяртаючыся.—З такімі можна рабіць справу.—Прасачыўшы вачамі новую крывую траекторыі:—Ідыятызм: аблягчаць баявыя дырыжаблі за кошт узбраення.

— Каб у нас быў хоць адзін кулямёт,—уставіў малады афіцэр,—мы-б яго зараз убралі.

— Вось каб ён нам з вамі не даў пуцёўку да Ромула...—ядавіта заўважыў камендант.—Калі ў большэвіка ёсць яшчэ з дзесятак снарадаў, ён да нашай скуры дабярэцца.

У большэвіка не было дзесяці снарадаў. У вочку шчотчыка выразна чарнела лічба „6". Рабіць лягчэйшым самалёт больш не было чым. Граза ўсё яшчэ пазіраў на альтыметр. Стрэлка нерашуча ўздрыгвала каля аднаго і таго-ж дзялення: 14200. Самалёт не хацеў ісці ні на адзін метр вышэй. Граза падумаў і выпусціў яшчэ чатыры снарады. Яны прайшлі пад самай гандолай карабля. Асталося два стрэлы.

Стрэлка бензінамера каля самага нуля.

Прынцыпы паветранай стральбы, прымененыя ў некаторых часцях совецкай знішчальнай авіяцыі, былі зусім новымі, яны адрозніваліся ад усяго раней вядомага паветраным флотам: шырокае прымяненне ў інжынернай практыцы фотаэлементаў навяло канструктароў на думку пра тое, што прыбор, які грунтуецца на аўтаматычнай падачы рэакцыі фотаэлемента, можа стварыць наводку агнястрэльнай зброі (кулямёта або гарматы) больш дакладнай, чым даступна чалавечаму воку. Дзеянне добрага механізма будзе заўсёды лепшым, хутчэйшым і дакладнейшым, чым рэакцыя арганізма стралка. У выніку работы двух маладых канструктароў, пад кіраўніцтвам прафесара Шурбатава, быў створаны цікавы прыбор. Здавалася, што канструкцыйна ён быў зроблены складана, але ён забяспечваў добрую работу і дакладнасць пападання. Рэакцыя механізма на рухі лётчыка была амаль імгненнай і змена кута прыцэльвання, апярэджвання і інш. адбывалася аўтаматычна, разам з перамяшчэннем дыстанцыйнага рычажка лётчыкам.

У параўнанні з самалётам, дырыжабль станавіў сабой незвычайна зручную мішэнь: быў вялікі і рухаўся павольна. Усё пытанне было ў тым, ці дакіне гармата снарад на лішнія сто метраў, на якія дыстанцыя перавышала дальнасць стрэла.

Граза ў апошні раз змерыў вачыма адлегласць. Ён плаўна перасунуў сектар да канца. Стрэлка тахометра пераскочыла за чырвоную рыску крытычных абаротаў. Але Граза ўжо не глядзеў на яе. Яго не цікавіў больш і альтыметр, стрэлка якога павольна пайшла ўправа. Не выклікала непакою нават трывожная вібрацыя ўсяго самалёта. Увага была сканцэнтравана на прыцэле. Граза ўключыў кнопку аўтамата...

Стрэлкі трох шчотчыкаў газа перад механікам дырыжабля з катастрафічнай паспешнасцю пабеглі ўлева.

— Пан камендант, змяншаецца газ у трох балонах!—крыкнуў механік і пачаў нацягваць на твар зацвярдзелую ад холаду гуму маскі.

Камандзір скасавурыў вочы на прыборы і адпіхнуў Фендрыха ад штурвала:

— Дапамажыце яму там.

Тлумачэнні не патрэбны былі. Фендрых бачыў: альтыметр падаў. Рулі не маглі ўтрымліваць вышыні. Дырыжабль траціў газ.

Граза бачыў, як задзіраючы карону, дырыжабль пачаў спускацца. Адлегласць паміж ім і паветраным караблём магла-б цяпер хутка скараціцца, каб можна было прымусіць самалёт ісці ўгару. Але матор безнадзейна чыхаў. Бак быў сухі...

Фендрых працісну́ў у люк сваё нязграбнае ад камбінензона цела. Ён паспешна сарваў маску. Твар яго быў разгублены.

— Пан камендант...

Камандзір не азірнуўся. Ён, як зачараваны, глядзеў на стрэлку альтыметра, якая рухалася ўсё хутчэй: кожная секунда каштавала дырыжаблю некалькіх дзесяткаў метраў вышыні. Да страты пад'ёмнай сілы дадавалася дынамічнае ўскарэнне велізарнай масы дырыжабля.

— Пан камендант,—паўтарыў афіцэр,—трэці і чацверты балоны узадраны знарадам на працягу некалькіх метраў. Яны выбылі з строю. Пяты балон мае невялікую прабоіну. Механік яе рамантуе.

Камандзір працягваў глядзець на стрэлку. Ён крыкнуў:

— Баласт!..

Афіцэр машынальна кінуўся быў да рычага, але ўспомніў:

— Выкінуты ўвесь, пан камендант.

Ён падазрона паглядзеў на камандзіра, здзіўлены яго забыўлівасцю. Яго ўзлаваў вокрык:

— Якога чорта вы мною любуецеся?! Я не мадонна, чорт-бы вас забраў: баласт!

Афіцэр нерашуча узяўся за рычаг баластнай цыстэрны.

— Дурань!—крыкнуў камандзір і, пакінуўшы штурвал, падскочыў да галоўнага люка. Ен пачаў зрываць з сцен знаражэнне. Ірвануў столік з картамі так, што адляцелі петлі і ўвагнулася пераборка гандолы. У старога раптам знайшлася жалезная сіла. Ён хапаў усё, што папала, і кідаў у люк. Фендрых ледзь спраўляўся маніпуляваць крышкамі[1]). Каля яго ляцелі запасная вопратка, бутэлькі з кіслародам, грымнуўся алюмініевы ларэц з харчамі.

Пралятаючы, зачапіў яго па галаве нейкі мяккі прадмет. Ужо зачыняючы крышку люка, афіцэр усвядоміў, што гэта быў парашут.

Наступны парашутны мяшок упаў на неадчыненую крышку.

— Люк!—крыкнуў камандзір, трымаючы над галавой трэці мяшок.

Фендрых не зварухнуўся. З яго пабялелага твару на камандзіра пазіралі расшыраныя страхам вочы.

— Вы аглухлі?—крыкнуў стары.

---

1) Для захавання ў гандоле ціску, які-б забяспечваў дыханне, люкі стратасферных апаратаў мелі падвойныя і патройныя крышкі. Яны дазвалялі выходзіць з гандолы не вельмі паніжаючы ў ёй ціск, што падтрымліваўся вялікімі бутэлькамі з сціснутым кіслародам.

Губы Фендрыха дрыжэлі. Зрываючымся голасам хлапчука ён выціснуў:

— Пан камендант, парашуты па статуту...

— Пляваў я на статут,—крыкнуў стары.

У люку знік зялёны мяшок, што ляжаў на ім.

Апошні парашут камандзір кінуў да ног Фендрыха.

— За борт!—лаканічна загадаў ён і павярнуўся да штурвалаў.

Як самнамбула, Фендрых нагнуўся і спіхнуў мяшок...

Граза глядзеў: з дырыжабля адзін за адным ляцелі нейкія рэчы. Ён уважліва сачыў за тым, які гэта зробіць уплыў на рух дырыжабля ўніз, але ён не толькі не спыняўся, але, наадварот, паскараўся з кожнай секундай. Дырыжабль зблізіўся з планіруючым самалётам Гразы і апярэдзіў яго ў руху да зямлі. Цяпер Граза глядзеў зверху на яго шырокую срэбраную спіну. Аддегласць да гэтай спіны павялічвалася. Граза даў ручку ад сябе. Ён не хацеў адставаць ад дырыжабля, хоць і павінен быў аставацца пасіўным сведкай яго падання: ніводнага знарада, ніводнай кулі...

Камандзір дырыжабля пазіраў на альтыметр. Разам з выкіданнем рэчаў, рух стрэлкі рабіўся больш павольным, але ён усё-ж аставаўся сыходзячым. Трэба было ва што-б там ні было перамагчы інерцыю карабля і ўраўнаважыць яго хоць-бы на гэтай вышыні. Інакш ён увойдзе ў зону зенітнага агня і пры сваіх памерах зробіцца ахвярай першай-жа батарэі СПА большэвікоў, на якую натрапіць.

У гандолу ўлез механік. Ён ледзь трымаўся на нагах і прыхіліўшыся да пераборкі, доўга сцягваў маску. Стомлена павярнуўся да камандзіра:

— Пяты балон адрамантаваны, пан камендант.

— Трэці і чацверты?

— У безнадзейным стане.

— Мне патрэбна вышыня.

Механік безнадзейна махнуў рукой.

— Ураўнаважцеся хоць тут.

— Усё што можна было выкінуць—за бортам.—Уставіў Фендрых.

— Патрэбны яшчэ хоць-бы сто кіло,—сказаў механік.

— У нас няма ніводнага грама,—пачаў быў зноў Фендрых, але камандзір сярдзіта перабіў яго:

— Не лезце... вы!—ён павярнуўся да механіка.—На люк!

— Ёсць, на люку,—машынальна адказаў той і перасунуў рычаг. Крышка апусцілася.

Трымаючыся левай рукой за штурвал, камандзір павярнуўся ў гандолу:

— Жыва!—суха кінуў ён Фендрыху.

Той неўразумліва азірнуўся:

— Скакаць!—гэтак-жа адрывіста загадаў камандзір.

Фендрых спалохана падаўся назад. Кроў адліла ў яго твару.

— Пан камендант... вы-ж выкінулі парашуты.

— Скакаць!—крыкнуў камандзір.

Фендрых у жаху туліўся да сценкі гандолы. Як-бы абараняючыся, ён выставіў быў руку, але раптам хутка апусціў яе ў кішэню і выхапіў рэвальвер...

Пад уважлівым поглядам воч старога, Фендрых апусціў руку. Яго зірк упаў на спіну механіка, які моўчкі схіліўся над люкам. Хударлявая фігура механіка выяўляла бязмежную стомленасць. Здавалася, ён нават не заўважае, што адбываецца навакол. Камбінезон адтапырваўся гарбом над вострымі худымі лапаткамі.

Фендрых павольна прыцэліўся і стрэліў у гэту сутулую спіну. Механік упаў галавой у люк. Фендрых пацягнуў рычаг. Дырыжабль пайшоў уніз цішэй і, нарэшце, ураўнаважыўся.

Граза паглядзеў уніз. Зямля была добра відаць. Чорныя масы воблакаў цяжкіміваламі адкочваліся на паўднёвы ўсход. Заліты яркім сонцам пейзаж быў вырысаваны ў дэталях, як добрая карта. Граза прыглядзіўся—мясцовасць незнаёмая. Ён параўнаў яе з картай. Не хацелася верыць вачам: выходзіць, што ён нават не заўважыў, як мінуў над воблакамі лінію фронта. Нажаль, памылкі быць не магло: вось гэты вузельчык тонкіх павуцінак на захадзе нішто іншае, як Сігізмундопаль. Граза зразумеў: калі пачаць зараз планіраваць, дык ёсць надзея дацягнуць да сваіх. Яшчэ невялікая страта вышыні і пасадка ў месцы размяшчэння працўніка зробіцца няўхільнай.

Граза павярнуўся да дырыжабля. Адлегласць паміж самалётам і дырыжаблем зноў скарачалася. Граза не мог захаваць яе. Для ўстойлівасці самалёт патрабаваў пэўнай хуткасці зніжэння. Яшчэ дзесяць секунд і Граза пройдзе міма дырыжабля, які ўраўнаважыўся. Скрозь спяванне планіравання ён выразна адрозніў гук матора дырыжабля.

Яшчэ пяць секунд і дырыжабль уцячэ ад яго назаўсёды. Граза ўжо бачыў, як варухнуліся велізарныя паверхні яго рулёў. Апісваючы плаўную крывую, карабель пачаў паварочвацца на заходні курс.

Дзве секунды і самалёт Гразы пройдзе міма спіны дырыжабля.

Граза штурхнуў ад сябе штурвал. Спяванне крылляў узмацнілася, перайшло ў рэзкі свіст. Машына клюнула носам і ўвайшла ў піке. Граза варухнуў рулямі. На вялікай хуткасці знішчальнік набыў нармальную кіруемасць. Лёгкі рух рулёў і нос самалёта накіраваўся проста на шырокую спіну гіганта. Раней чым капітан Павел Раманавіч Граза ўявіў сабе, як адбудзецца тое, што ён задумаў, як шырокая спіна дырыжабля ператварылася ў неабсяжную срэбраную плоскасць.

Граза апамятаваўся ад страшнага свісту і болю ў вушах. Ён ледзь усведамляў, што адбылося: прыбор Макарава пачаў дзейнічаць [1]). А ён быў зусім забыўся пра яго існаванне. Але цяпер думка працавала з незвычайнай выразнасцю, не гледзячы на моцнае галавакружэнне. Цела яго ўвайшло ў штопар, але, зрабіўшы некалькі рэзкіх рухаў нагамі, Граза вышаў з штопара і пацягнуў

[1]) Прыбор, сканструяваны студэнтам казанскага авіяцыйнага інстытута Макаравым, станавіў сабою выратавальную прыладу, якая ўжывалася на аднамесных знішчальніках у выпадку вялікай небяспекі для жыцця лётчыкаў—пры сутычцы самалётаў. Яна давала шанс на ратунак у выпадках, якія да таго лічыліся безвыходнымі і няўхільна цягнулі за сабой пагібель пілота.

кальцо. Крыллі павольна распускаліся. Спачатку невялікія паверхні стабілізавалі паданне, надаўшы яму ўстойлівасць. Разам з павялічэннем плошчы крылляў, паданне рабілася больш павольным. Урэшце, яно перайшло ў плаўнае планіраванне, якое пазбаўляла ад непрыемнасцей рэзкай змены ціскаў. Граза адшпіліў паясны рэмень і сядзенне аддзялілася.

У баку і вышэй за сябе Граза ўбачыў палаючыя рэшткі дырыжабля. Яны парашутыравалі, пакідаючы за сабой струмень густога чорнага дыму. Больш нічога Гразе не было патрэбна, ён мог цяпер спакойна разглядаць мясцовасць, якая была пад ім. Робячы планіраванне больш павольным, ён выбраў месца для прызямлення. Добра было-б мінуць вунь тую вёску і сесці на лясной палянцы, але для гэтага не хопіць планернасці. Давядзецца сесці на зжатым полі за вёскаю.

За трыста метраў ад зямлі, калі ён ужо не мог мінуць намечанае поле, Граза раскрыў дапаможны парашут.

Прызямліўшыся, ён паспрабаваў адразу-ж падняцца, але ўпаў ад вострага болю ў назе. Прышлося лежма вызваляцца ад парашутных лямак і скафандра.

Ад вёскі полем беглі двое паспалітанскіх сялян. Граза сабраў усю сілу, каб устаць. Але гэта яму не ўдалося. Ён на карачках папоўз да ляска, але праз хвіліну зразумеў, што яму не ўцячы. Сяляне хутка даганялі.

Граза сеў. Праследвальнікі наблізіліся. Адзін з іх, хударлявы мужычок у падранай світцы, зняў шляпу і загаварыў на няправільнай рускай мове:

— Пану лётчыку не тшэба баяцца. Пан з тамтэй каманды, цо упадла з рана?

— Якая каманда?—здзіўлена запытаў Граза.

Сяляне пераглянуліся.

— Пан—чырвоны?

Граза, не вагаючыся, адказаў:

— Так.

— І пан не ве чырвонай каманды, цо сядла на парасолях у тых месцах?

— Калі?

— На зожы.

Граза зразумеў, што гаворка ідзе пра дэсант, але раней чым ён вырашыў як трымацца, з боку вёскі паказаўся яшчэ адзін селянін. Ён рабіў нейкія знакі і нешта крычаў.

Паспалітанцы замітусіліся. Да вёскі падыходзяць імперскія часці. Пана лётчыка трэба занесці ў бліжэйшы лес. Там яго схаваюць, каб пры першай магчымасці перакінуць да Сігізмундопаля, куды села на „парасолях" савецкая каманда...

Над вёскай бліснулі клубкі шрапнелі. Грымнулі разрывы. У адказ застукацеў кулямёт, другі, трэці. Граната ўскінула чорны слуп сярод поля.

— Уцячэм, бо вашы б'юць па імперцах,—крыкнуў селянін і падхапіў Гразу пад пашкі. Сяляне, прыгінаючыся, пацягнулі яго к лесу. Ад болю Граза страціў прытомнасць.

18

*02 г. 00 — 05 г. 00*
*19|VIII.*

З таго моманту, калі цяжка паранены Халюцін перадаў камандванне корпусам Брэдзісу, яго ўласная машына пайшла за машынай новага флагмана.

Камкор ляжаў у рубцы, зусім знясілены, упадаючы час-ад-часу ў забыццё. Ён прымусіў надзець сабе на галаву, наверх на белую чалму бінтоў, навушнікі радыё. Не ўмешваючыся ў распараджэнні Брэдзіса, ён стараўся не прапусціць з іх ні слова.

Скончыўшы складанне дакладнай зводкі страт, капітан Касых мог зноў сачыць за пераклічкай флагманскага самалёта з калонамі і з зямлёй.

Разведвальны аддзел штаба фронта паведаміў, што ім улоўлена шыфраваная перадача імперцаў. Відаць, праціўнік ведае пра намечаны маршрут, якім Асобы корпус паляціць назад. Ён рыхтаваўся адрэзаць корпусу дарогу.

Прыняўшы пад сваю каманду корпус, Брэдзіс зрабіўся яшчэ асцярожнейшым. Ён ведаў, што людзі да немагчымага стомлены. Амаль васьмігадзінны палёт з радам напружаных баёў не даўся дарма. Цяжкія страты ў матэрыяльнай часці аслабілі склад корпуса да чатырохсот самалётаў. Пашкоджанні многіх самалётаў, вялікія выдаткі агняпрыпасаў, усё гэта паніжала боездольнасць.

Улічыўшы ўсе акалічнасці, Брэдзіс вырашыў зрабіць абыходны рух. Павярнуўшы на поўдзень, ён разлічваў прайсці ў хвасце кінутых яму напярэймы сіл праціўніка. Але праверка бензінавых запасаў СБД паказала, што тады не хопіць гаручага, каб даляцець да сваёй граніцы. Запасы паліва давалі магчымасць звароту дамоў толькі па найкарацейшай лініі—простай.

Натуральнай была ў такіх умовах спроба абыйсці заслон зверху. Ведучы ненагружаныя бомбамі, агняпрыпасамі і палівам машыны Брэдзіс мог з поўнай падставай разлічваць на некаторае перавышэнне над масай самалётаў праціўніка. Калі асобныя тыпы знішчальнікаў і дастануць яго, то справіцца з імі будзе не цяжка. Але флагінжынер далажыў, што і гэты шлях немагчымы: выдаткі гаручага для таго, каб набраць патрэбную вышыню, перавысяць магчымасці корпуса.

Брэдзіс перадумаў масу камбінацый—усе яны ўпіраліся ў адно і тое-ж, паліва, паліва. Камбрыг працягваў упарта адшукваць спосаб, які дазволіў-бы дасягнуць свайго размяшчэння з мінімальнымі магчымасцямі сустрэць ворага. Захаваць жыццё davераных на яго людзей, захаваць кожны лішні СБД для будучай работы—вось задача Брэдзіса. Цяпер, калі яны не нясуць бомб і адзінай іхняй задачай з'яўляецца дасягненне сваіх аэрадромаў, было-б злачынным не ўхіліцца ад сутычкі ў паветры.

Але, відаць, сродкаў да таго каб пазбегнуць сустрэчы, усёткі не было, калі не лічыць плана, які супярэчыў усім устаноўленым уяўленням пра нормы паветранай вайны і палёты ў складзе вялікіх авіязлучэнняў.

Абдумваючы гэты план, Брэдзіс прадбачыў, што камандзіры паставяцца да яго адмоўна. Цяжкасць яго выканання ўзмацнялася незнаёмствам з тэрыторыяй Славеніі, якая ляжала ўнізе. Штурманы былі пастаўлены ў зусім незвычайныя ўмовы работы. Усё гэта добра ўлічваў Брэдзіс. І ўсёткі ён адважыўся: флагманская рацыя перадала па калонам загад: усе чатыраста машын пераходзяць на зніжэнне.

Плаўна трацячы вышыню, пры крэйсерскіх абаротах турбін, СБД набудуць хуткасць парадка 480—500 кілометраў. Пры зніжэнні, прыкладам, у 150, цяперашняя сямітысячная вышыня дазволіць з гэткай хуткасцю прайсці каля трохсот пяцідзесяці кілометраў. Гэта будзе якраз тая паласа, дзе праціўнік меў намер сустрэць корпус. Але паколькі праціўнік разлічвае на хуткасць СБД максімум 410—420 кілометраў у гадзіну, то Брэдзіс пройдзе зону намечанай сустрэчы раней, чым чакаюць імперцы. Калі-ж гэтыя разлікі не апраўдаюцца і імперцы будуць ужо там, астаецца яшчэ надзея, што знішчальнікі, якія патрулірують на вялікай вышыні, не заўважаць яго і, нарэшце, калі імперцы яго ўсёткі заўважаць,—ім прыдзецца ўступіць у бой з СБД, якія ідуць на вышыні, не больш за 200 метраў. Другімі словамі, знішчальныя сілы імперцаў будуць пазбаўлены ўсякай магчымасці манеўраваць па вертыкалі. СБД астанецца абараняць толькі верхнюю поўсферу. З набліжэннем да фронта Брэдзіс будзе працягваць зніжэнне. Паласу зенітнай артылерыі ён пройдзе без малага на брэючым палёце. Па-першае, гэта дасць яму шанс нечаканасці, па-другое, зенітныя гарматы амаль што не здолеюць зрабіць яму шкоды. Ён будзе па-за прыцэлам.

Аставалася перамагчы адну вялікую перашкоду, здолець правесці корпус каля самай паверхні незнаёмай гарыстай тэрыторыі.

Разлікі Брэдзіса апраўдаліся толькі ў другой частцы. З'явіцца ў намечанай зоне раней за праціўніка яму не ўдалося. Імперскія паветраныя часці ўжо сцягваліся да раёна сутычкі. Але маючы на ўвазе сустрэць большэвікоў на звычайнай для іх вышыні—шэсць, сем тысяч, імперскія знішчальнікі стараліся трымацца як мага вышэй. Гэта дало Брэдзісу магчымасць падыйсці да раёна амаль незаўважаным: на чужой тэрыторыі імперцы былі пазбаўлены простай дапамогі зямлі. Імперцы не заўважылі перадавыя часці Брэдзіса, але і тое, што сігналы шпіёнаў звярнулі, урэшце, увагу знішчальнікаў на калоны СБД, што ішлі ўнізе, з'явілася толькі прычынай вялікіх непрыемнасцей для імперцаў.

Лётчыкі адважна кінуліся на выяўленага ворага. Яны павінны былі ва што-б там ні было навязаць большэвікам бой раней, чым тыя даляцяць да размяшчэння сваіх часцей, або пад прыкрыцце высланых ім насустрач знішчальнікаў. У імперцаў ужо не было часу, каб выйсці ў бой на паралельных курсах. Трэба было скарыстоўваць самую нявыгодную атаку з піке. Назіраючы зверху ды яшчэ пры бакавым ранішнім сонцы, вельмі цяжка было вызначыць вышыню палёта СБД. Імперцы імкліва пікіравалі на шматлікія атрады бамбардыроўшчыкаў. Хуткасць іх зніжэння даходзіла да семісот-васьмісот кілометраў у гадзіну. Інерцыя, якую набылі

апараты, была велізарная. Занадта позна камандзіры ўбачылі сваю памылку: большэвікі імчаліся над самай зямлёй. Часамі нават лавіравалі паміж гарамі, скарыстоўваючы лагчыны. Атакуючы іх з велізарнымі хуткасцямі, імперцы не мелі магчымасці прайсці міма большэвікоў—яны няўхільна ўрэзаліся-б у зямлю. Трэба было выйсці з піке, не даходзячы да працўніка. Такі манеўр рабіў немагчымым колькі-небудзь дзейсны агонь. Між тым, СБД мелі магчымасць з найбольшай зручнасцю карыстацца перавагамі аўтаматычнай наводкі і стральбы.

Імперскае камандванне зразумела гэта, але ўжо было позна. Спыніць лавіну знішчальнікаў, што падалі ўніз, не было магчымасці. Камандзіры асобных атрадаў паспрабавалі своечасова вывесці свае часці з неразумнай атакі. Рэзкім манеўрам яны вырывалі машыны ўгару. Становішча не пакідала месца для элементарнай асцярогі. Следуючы за камандзірамі, лётчыкі таксама рэзка выходзілі з піке. У многіх машын ад такой перагрузкі, якая перавысіла ўсе запасы трываласці, ламаліся крыллі. Пры імгненным пераходзе ад хуткасці зніжэння ў 800 кілометраў да імклівага пад'ёму целы людзей аказваліся прыціснутымі да машын з такою сілаю, што выпінаўся метал сядзенняў. У лётчыкаў ламаліся пазваночнікі. Скура на целе лопалася ад празмернага ціску. Кроў цякла з вушэй. Унутраныя органы, з прычыны інерцыі, перамяшчаліся ўвіз з такою сілаю, што ў многіх лёгкія былі змяты. Людзі трацілі прытомнасць.

Шалёны агонь ашчаціненых у верхнюю паўсферу СБД даканчваў тое, чаго не зрабіў няўдалы манеўр працўніка.

Другой атакі імперцы не зрабілі. Частка з іх, тыя, хто астаўся цэлым і справіўся дагнаць СБД, пашлі з некаторым перавышэннем над Брэдзісам, спрабуючы весці абстрэл на паралельным курсе. Але на знішчальніках было ўзбраенне, якое не падыходзіла для такога бою. У СБД была відавочная агнявая перавага.

Сілы імперцаў аказаліся прыкаванымі да недаступнага ворага. Яны не маглі пакінуць яго, але і не маглі перагарадзіць яму дарогу. Між тым, імперскае камандванне настойліва патрабавала хутчэйшай ліквідацыі Брэдзіса. Знішчальныя часці, што былі кінуты ў гэту аперацыю, былі патрэбны на другім, вельмі важным участку: да штаба паўднёвай ударнай групы фельдмаршала фон-дэр-Фіш набліжаліся злучэнні вялікіх совецкіх самалётаў. Гэта былі ўстарэлыя бамбардыроўшчыкі ТД—цяжкія чатырохматорныя машыны. Паводле даных камандвання, большэвікі абсталявалі вялікую колькасць гэтых старых бамбардыроўшчыкаў для перавозкі войск. Мэта цяперашняга палёта ТД не была яшчэ зразумелай імперцам, але яны імкнуліся затрымаць іх прасоўванне. Трэба было меркаваць, што на ТД ускладзены сур'ёзныя задачы: франтавыя сілы чырвоных ВПС прыклалі ўсе намаганні, каб правесці ТД праз зоны мясцовага паветранага супрацўлення імперцаў.

К гэтаму часу абставіны на зямлі складваліся наступным чынам: група прарыва камандарма другога ранга Міхальчука, пра якую ўначы гаварыў Глаўком, атакавала фронт фельдмаршала Фіш, які ў сваю чаргу рыхтаваўся да прарыва. Фіш не справіўся

ажыццявіць свой план з-за таго, што яго танкавы корпус і матацыклетныя кулямётчыкі былі запёрты чырвонай авіяцыяй у дэфіле, якое напярэдадні з'яўлялася для іх укрыццем. І яны не маглі вырвацца ў поле і разгарнуцца для бою. Фіш астаўся з матарызаванай пяхотай і з лёгкай „артылерыяй прарыва". Цяпер, калі Міхальчук імкліва кінуўся на групу Фіша, мнучы яе сваімі бронетанкавымі фалангамі, фельдмаршалу не было чым абараняцца. Чырвоная авіяцыя працягвала трымаць яго мехчасці пад ударамі сваіх бамбардыроўшчыкаў. Збіць з дарогі лёгкія бамбардыроўшчыкі і штурмавікі бальшэвікоў Фішу не ўдавалася. Уласныя паветраныя сілы Фіша разрываліся паміж барацьбой з часцямі, што запіралі яго тэхнічныя часці, і аховай штаба фельдмаршала, да якога накіроўваліся вялікія злучэнні ТД.

З пенай на губах Фіш выкрыкваў у радыётэлефон лаянку на адрас тых паскудных ідыётаў, брудных штацкіх свіней, якія пакінулі яго без абяцанага авіяцыйнага падтрымання. У яго намеры, вядома, не ўваходзіла разам з штабам трапіць у палон к савецкаму дэсанту.

Стаўка нічога не магла зрабіць. Яна ўжо не патрабавала ад Фіша прарыва прымежных ліній СССР, за якімі павінен быў-бы паследваць адыход усяго бальшэвіцкага фланга і, значыць, перанос вайны на тэрыторыю Савецкага Саюза. Галоўнае камандванне прасіла цяпер толькі пра адно: стрымаць удар Міхальчука. Але Фіш не мог абяцаць гэтага. Яму патрэбны былі ў першую чаргу мехчасці і авіяцыя. Калі-б ён яшчэ быў гатовы да абароны, то ён здолеў-бы пэўна спыніць бальшэвікоў сілай хімічнай зброі—газамі і агнямётамі. Паліваючы савецкія танкі гаручымі злучэннямі, ён ператварыў-бы іх у распаленыя скрынкі; ён задушыў-бы матарызаваную пяхоту газамі. Але ўсе яго сродкі былі разлічаны на імклівае прасоўванне наперад. Яны не мелі пры сабе арсенала ваеннай хіміі...

Прышлі трывожныя весткі. Перадавыя часці групы змяты ўдарам Міхальчука. Пазбаўленая дапамогі і бронесіл пяхота пачала адыходзіць. Пакуль што адыход мае спакойны, планамерны характар, але калі пяхоце не будзе адразу-ж аказана рашучае падтрыманне...

Фіш сціскаў радыётэлефонную трубку так, што склератычныя вены на яго руцэ набухлі. Ён даводзіў, патрабаваў, прасіў. У камандвання не было сродкаў даць фельдмаршалу рэзервы ў тэрмін, які ён лічыў рашаючым для ўсёй сваёй аперацыі—дзве-тры гадзіны.

Фельдмаршал перарваў размову на поўслове і не гледзячы, шпурнуў трубку. Асколкі эбаніта разляцеліся па пакоі. Ён прадыктаваў тэлеграму ў стаўку: „Ні за што не адказваю. Неабходна лічыцца з няўхільнасцю перанясення ваенных дзеянняў на нашу тэрыторыю". Гэта было выйсцем для раздражненасці старога чалавека, але не для ста дваццаці тысяч чалавек яго ударнай групы. Лёс ста дваццаці тысяч адступаючых салдат патрабаваў неадкладных рашэнняў і Фіш вырашыў: мехчасці павінны быць вызвалены любою цаной і кінуты ў бой. Фіш загадаў усёй авіяцыі аховы

штаба атакаваць большэвіцкую авіяцыю, якая трымала запёртымі бронечасці і не даць ёй магчымасці ў далейшым наблізіцца да дэфіле, пакуль з яго не выберуцца танкі.

Праз некалькі хвілін стары фельдмаршал даведаўся, што прыняў правільнае рашэнне: да яго штаба накіроўвалася частка сіл, якія праследавалі Брэдзіса. Галоўнае камандванне адважылася адарваць іх ад бескарыснага эскартавання калон СБД.

Фельдмаршалу далажылі, што да аэрадромаў 172 і 174 наблізіліся дэсантныя самалёты большэвікоў. Фіш перадаў аперацыйнае кіраўніцтва начальніку свайго штаба і загадаў падаць машыну. Ён хацеў зблізку бачыць карціну ліквідацыі дэсанта. Яго паветраныя сілы знішчаць пасадачныя ашалоны чырвоных раней, чым яны зробяць пасадку, а тым часам на зямлі адзін за адным будуць знішчаны парашутныя атрады дэсанта. Гэта маленькая перамога будзе некаторай кампенсацыяй за той вялікі ўдар, няўхільнасць якога прадбачыў стары.

Фіш з ганку штаба глядзеў, як ад самалётаў аддзяляліся чорныя кропкі парашутыстаў. У імгле раніцы відаць былі сотні кропак. Яны імкліва падалі. Старому зрабілася нават непрыемна— кропкі гэтыя ляцяць, як бомбы. Ніводнага раскрытага парашута. Быццам-бы людзі вырашылі разбіцца аб паверхню зямлі. Але вось, як па камандзе, на адной і той-жа адлегласці ад зямлі над кропкамі раскрыліся парашуты. Іх імклівае паданне перайшло ў плаўны палёт. Праціўнік спускаўся ўпэўнена, выбіраючы кірунак.

— Каб тут быў кінематограф, я сказаў-бы: надзвычайны кадр,— усклікнуў фельдмаршал.—Але зараз большэвікі зразумеюць, што яны асуджваюць людзей на пэўную смерць. На іхнае няшчасце— гэта вайна, а не тэатральны паказ.

Хтосьці з афіцэраў, што састаялі пры фельдмаршале, заўважыў:

— Вельмі шкода, што мы з нашай тэхнікай, не карыстаемся гэтым сродкам уздзеяння на тыл большэвікоў. Нашы дэсанты маглі-б...

Не аднімаючы бінокля ад вачэй, фон-дэр Фіш уедліва перабіў:

— Адзіная карысць, якую маглі-б даць дэсанты ў тыл большэвікоў—знішчэнне такіх тупіц, як вы, ротмістр. Але на жаль вы ў дэсант не трапіце. Вось калі-б членамі калгасаў былі паны імперскія афіцэры, а не рускія мужыкі, і фабрыкі не былі-б набіты рускімі рабочымі, вось тады іншая справа. Гэта былі-б абставіны, якія неабходны дэсанту ў чужой краіне, калі ён не хоча быць знішчаным па адным, раней чым салдаты збяруцца для бою.

Фон-дэр Фіш накіруе да месцаў прызямлення парашутыстаў конніцу.

За спіной фельдмаршала пачалася мітусня. Ніхто не мог вызначыць адлегласць да месца высадкі. Паказваліся самыя розныя рубяжы. Дыстанцыі хісталіся паміж кілометрам і дзесяццю.

Фіш грэбліва паціснуў плячыма: афіцэр без глазамеру—не афіцэр.

Ён узяў карту з рук ад'ютанта. Пукаты пазногаць старога чалавека зрабіў на ёй тры выразныя крыжы—месца мяркуемай пасадкі трох галаўных атрадаў Багульнага.

Падалі бранявік. Фіш сеў у яго з ад'ютантам.

Бранявік імчаўся паводле ўказанняў камандуючага. Шаша змянілася прасёлкам. Скончыўся прасёлак, перайшлі на сенажаці. Пасля пачалася пахаць. Лавіруючы паміж дрэвамі, ехалі ляснымі прагалінамі. Першы з адзначаных Фішам пунктаў быў дасягнуты, але там не было і следа дэсанта. Імперская конніца прасоўвалася наўздагад, не бачачы праціўніка. Фіш павярнуў да другога пункта. Той-жа вынік. Да трэцяга—таксама. Сяляне давалі самыя розныя весткі. На погляд адных, людзі з „парасолямі" падалі за кілометр, другія чухалі патыліцу і казалі: „Не менш пяці". Фіш з раздражнёнасцю торгаў сябе за вус. Ад'ютант раіў вярнуцца к штабу:

— Мы рызыкуем трапіць у пастку,—сказаў ён нерашуча.

Фіш загадаў высадзіць ад'ютанта сярод нейкіх кустоў:

— Убірайцеся!—сказаў ён афіцэру.—І скажыце там, што я вярнуся не раней, чым убачу дэсант. Яны не маглі праваліцца скрозь зямлю.

Ён загадаў ехаць праз названыя ім раней пункты. Гэта было дугой пяцікілометровага радыуса, цэнтрам якой з'яўляўся штаб Фіша.

Бранявік прабіраўся праз кусты, пераязджаў праз ручаі і паваленыя дрэвы. Фельдмаршал быў гатовы прызнаць сябе пераможаным і вярнуцца ў штаб, калі мімаволі здрыгануўся ад раптоўнага грукату. Шофер паспешна апусціў заслонку перад вачыма. Стралок захлопнуў верхні люк. Па брані загрымела другая кулямётная чарга.

Бранявік спыніўся. Камандзір машыны—бязвусы афіцэр—уважліва прыгледзеўся і паказаў фельдмаршалу на ўскрай ляска. Хмызняк варушыўся. Кусцікі рухаліся насустрач бранявіку. Па брані зноў застукацелі кулі. Машына задрыжэла ад стрэлаў сваіх кулямётаў. Аглушаны стары схапіўся за галаву: грукат быў нясцерпны.

Стараючыся перакрычаць шум, Фіш загадаў рухацца ўсцяж страляючага ланцуга дэсанта.

— Калі ў іх ёсць бранябойныя кулі, вы рызыкуеце, ваша прэвасхадзіцельства!—крыкнуў камандзір.

Фіш настойліва паказаў шоферу: усцяж ланцуга.

Бранявік рушыў. Камандзір крануў за плячо генерала і прысунуў перыскоп да яго воч, перыскоп павольна павярнуўся. Спераду і ззаду бранявіка рухавыя кусты паварачвалі. Яшчэ праз секунду—кусты падняліся. Байцы абягалі машыну. Камандзір, не пытаючыся больш пра жаданні генерала, накіраваў бранявік у яшчэ не самкнуты інтэрвал абкружэння. Напярэймы бег чалавек у сінім камбінезоне і ў касцы. Бранявік імчаўся проста на яго. Чалавек не спыняўся. Камандзір бранявіка на хаду даў па ім чаргу. Чалавек упаў на калені. Ён падняў над галавою руку і шпурнуў насустрач машыне звязку гранат. Шофер у паніцы пачаў круціць абаранак руля. Полымя разрыва шуганула збоку.

Асколкі загрукацелі па бранi. Фельдмаршал мімаволі ўцягнуў галаву ў плечы. Камандзір у вежы працягваў страляць з кулямёта.

Бранявік імчаўся пералескам. Ён выскачыў у інтэрвал ахопу і паляцеў полем. Дарога, як быццам, была чыстая. Шофер дадаў газу, маючы намер выехаць на блізкі тракт, калі камандзір пранізліва крыкнуў:

— Стой!

Ад рэзкага тармажэння Фіш ударыўся тварам аб пярэднюю сценку.

З прыдарожнай канавы тырчэлі каскі. Калі бранявік спыніўся, людзі з канавы выскачылі, на іх былі сінія камбінезоны, у руках мільганулі гранаты. Каля самага бранявіка грымнулі ўзрывы.

Востры пах талуолавых газаў уварваўся ў глядзельныя шчыліны. Адзін стралок закрыў твар рукамі і моўчкі асеў, як гумовая лялька з якой выпусцілі паветра.

Бранявік заднім ходам адыходзіў да палянкі. Там ён зрабіў разварот і паімчаўся ў прамежак паміж ранейшым ланцугом парашутыстаў і гэтым новым атрадам. Але яму ўдалося праехаць не больш кілометра—дарогу перагарадзілі кулямёты. Кулі стукацелі па бранi, як пнеўматычныя малаткі. Камандзір больш не хацеў сустракацца з гранатамі. Ён адразу павярнуў і паехаў у новым кірунку. З-за кустоў услед машыне паляцела граната, за ёй другая. Машына нахілілася і фельдмаршал адчуў, што пачало трэсці яшчэ мацней.

Ён з-запытаннем паглядзеў на камандзіра. Той кіўнуў:

— Пэўна сарвала шыну. Едзем на вобадзе.

— Накіроўвайцеся да аэрадрома, гэта бліжэй за ўсё!—крыкнуў фельдмаршал.

Машына вышла ў поле. У далячыні паказаўся слуп з мухалоўкай—аэрадром каля пункта 172.

Машыну трасло і кідала так, што фельдмаршал некалькі разоў балюча ўдараўся галавой. Ён нават узрадаваўся, калі камандзір зноў закрычаў:

— Стой!

Па ўскраі аэрадрома ланцужком беглі людзі ў сініх камбінезонах. Вакол іх зямля ўскідвалася пылам вінтовачных і кулямётных пападанняў. Яны ўсё яшчэ беглі, калі на адным з палявых ангараў узняўся слуп полымя і з'явіўся густы чорны дым. На гэты раз камандзір паглядзеў з запытаннем на фельдмаршала. Стары працірраў манокль, які выпаў ад штуршка.

Камандзір прыадчыніў глядзельную шчыліну.

— Відаць, і там праціўнік.

— Відаць,—спакойна адказаў Фіш.

— Куда загадаеце ехаць?

Фельдмаршал крыва ўсміхнуўся і адказаў пытаннем:

— Вы, Фендрых, былі на паляванні на ваўкоў?

— Зусім не, ваша прэвасхадзіцельства,—здзіўлена і нават пакрыўджана буркнуў афіцэр.

— Вось такая прагулка, як наша, дазваляе зразумець псіхалогію ваўка ў часе аблавы. Паскудная псіхалогія, Фендрых! А?

— Куды загадаеце ехаць?

— Куды-небудзь... Куды хочаце. Вывазіце мяне, Фендрых. Я варты таго, каб мяне вывезці, га?

Стары дастаў сігару. Яна была зламаная. Ён пашукаў у кішэнях. Другой не было. Ён адкінуў зламаны канец і палез даставаць запалку.

— Папрашу не курыць,—нервова агрызнуўся Фендрых і жэстам паказаў шоферу кірунак.

Нахіліўшыся, бранявік пабег прасекаю.

## 2

Алеся наладжвала сваю маленькую шпітальную гаспадарку ў былым акалотку штаба Фіша, калі яе спехам выклікалі на аэрадром да бацькі.

Перад Багульным стаяў паспалітанскі селянін паміж двума чырвонаармейцамі.

— Гэты хлопец,—сказаў Багульны Алесі,—чаўпе нейкае глупства вельмі падобнае на праўду. Нібы, каля іх вёскі сеў наш парашутыст і зламаў нагу.

Алеся з падазронасцю паглядзела на селяніна:

— Гэтага не можа быць. У нас не было пераломаў.

— Але паранены зусім дакладна сказаў яму, што калі ў складзе нашага дэсанта ёсць доктар Багульная, то пра яго трэба сказаць абавязкова ёй.

— Дзіўна... хто-б гэта мог быць?

— Хто-б ні быў—трэба яго ўзяць. Праедзь-ка на трафейнай генеральскай машыне. Бяры двух байцоў і айда.

— Навошта мне байцы?

— Ці мала што можа быць...

Алеся махнула рукой.

— Мне патрэбна медыцынская сястра, а не байцы.

— Ладна, на дрэнны выпадак—з табой шофер з памочнікам.

Алеся павярнулася да селяніна:

— У парашутыста зламана нага?

— Яшчэ твар крыху абгарэў.

Алеся пераглянулася з бацькам.

— Абгарэў?

— Так, так, абгарэў. Калі ён падаў з палаючага аэраплана.

Багульны раззлаваўся.

— Эх ты... галава! Чаму-ж ты раней не казаў, што ў яго згарэў самалёт?

— Тату!—спалохана ўскрыкнула Алеся,—тады гэта можа быць толькі...

— Ладна, ладна, едзь. Хто-б там ні быў—прывязеш яго сюды.

На хаду аддаючы распараджэнні, Алеся бегла да машыны. Думкі віхром імчаліся ў галаве: „упаў з палаючага самалёта і назваў яе?“ Яна баялася гадаць.

Селяніна пасадзілі к шоферу, каб паказваў дарогу. Машына паімчалася. Паводле слоў паспалітанца, лётчык, што ўпаў, схаваны на ўзлессі. Да яго не больш пяці кілометраў.

Фарсісты фельдмаршальскі Мерседэс уехаў у лясок і пачаў прабірацца паміж рэдкімі дрэвамі. Селянін упэўнена паказваў кірунак.

Алеся не заўважала дарогі. Яна блыталася ў здагадках—адна больш неверагодная, чым другая. „Хто, хто-ж, урэшце?...“

Раптам шофер рэзка затармазіў і павярнуў у кусты. Веццe пачало хвастаць па тварах: наперадзе, па вузкай прасецы, насустрач ім павольна ішоў бранявік. Ён часта спыняўся, нібы прыслухоўваючыся.

Раней чым хто-небудзь мог яму перашкодзіць, селянін мяшком выкуліўся з машыны і нырнуў у кусты.

— Пастка,—мільганула думка ў Алесі.

Шофер шукаў вачыма месца, дзе можна было-б машыне зрабіць разварот. Алеся ўчапілася яму ў плячо:

— Там-жа параненыя!

Яна выскачыла з машыны. Тады шофер каротка кінуў памочніку:

— Кулямёт.

Памочнік шофера выцягнуў ручны кулямёт і паставіў на сошку. Лежачы ў кустах, шофер перакінуў з спіны гранатную сумку. Алеся працягнула руку.

— Дай.

Той дакорліва паківаў галавою:

— Няма як. Вы-ж медработнік.—Павярнуўся да памочніка.— Падрыхтуй звязку ў тры гранаты. Кідаеш пасля мяне.

Бранявік зноў пайшоў. Ён рухаўся, прыпаўшы на адно кола. Наблізіўшыся да канца прасекі, нібы ўзрадаваўся і дадаў газу. Калі ён паварочваў ужо да ўзлесся, шофер узмахнуў гранатай.

Алеся раскрыўшы рот, прытулілася да зямлі.

З-пад перадка бранявіка шуганула полымя; паветра ірванула ўзрывам. Праз долю секунды разарваліся гранаты памочніка шофера. Узрыў іх падкінуў перадок скалечанага бранявіка. Пярэднія колы раз'ехаліся ў бакі, як ногі параненага звера. Канцы перабітай восі ўпёрліся ў зямлю. Вежа бранявіка стукацела. Відаць было, як ад стральбы кулямётаў дрыжаць лісты брані, якія разыйшліся.

Бранявік вёў агонь наўздагад. Відаць, стралкі яго не думалі, што праціўнік ляжыць пад самым іхным носам. За спінамі байцоў з дрэваў клоччамі ляцела кара. Высокая сасна хістанулася і ўпала, зрэзаная кулямі.

— Нічога, нічога, няхай панервуюцца,—супакойваюча сказала Алеся,—не выяўляйце сябе.

Бранявік чакальна змоўк. Пасля, намацваючы па лесе, даў некалькі кароткіх чаргаў. Зноў сціх.

Алеся глядзела на ручны гадзіннік: стрэлка пасоўвалася надзвычай павольна. А думкі імчаліся. Там, у лесе ляжыць чалавек з зламанай нагой.

Сярод лясной цішыні выразна прагучэў стрэл унутры бранявіка. Пасля другі.

Шофер хацеў устаць.

— Ляжаць!—загадала Алеся.

— Яны страляюцца, трэба іх узяць, таварыш.

— А калі бяруць на пушку?

— Магчыма, што і на пушку...—неахвотна згадзіўся шофер.

— Пачакаем.

Стрэлка на браслеце пасунулася на некалькі хвілін.

Цішыню лесу зноў разарваў кулямёт. Бранявік адкрыў агонь.

— Вось, гады!—прабурчэў шофер.

Ён падрыхтаваў гранату і кінуў яе, цэлячыся ў вежу.

Кулямёт на момант сціх. Пасля перамяніў прыцэл і, намацваючы байцоў, што ляглі ў кустах, пачаў даваць кароткія чаргі. Кулі клаліся бліжэй.

— Агонь!—скамандавала Алеся шоферу.

Свой кулямёт ірвануў паветра ў яе над вухам.

Кулямёты стракаталі на розныя галасы. Часта, басіста,—той, з бранявіка, і радзей, слабей, свой, ручны.

Шофер падрыхтаваў гранату і, дасканала прыцэліўшыся, кінуў яе ў вежу. Узрыў атрымаўся нейкі асабліва глухі. Нібы ўдарылі па вялікаму жалезнаму карыту.

Калі сціх звон у вушах, Алеся заўважыла, што страляе толькі адзін кулямёт—тут, над вухам. За жоўтым воблачкам гранатнага ўзрыву, яна ўбачыла звернуты на бок ствол кулямёта на бранявіку.

І зноў у цішыні лесу выразна прагучэў стрэл унутры бранявіка.

— Устарэла!—усміхнуўся шофер.—Два разы на адну прыманку не бяруць!

Але следам за стрэлам бранявыя дзверы машыны прыадчыніліся, высунулася рука і ўзмахнула белаю хусткай.

— Зрэзаць?—запытаў шофер.

— Што вы, таварыш?—Алеся выцягнула хустку і ўзняла над галавою.

З бранявіка нязграбна вылез імперац. Ён сам падняў рукі і адышоў у бок. Ён быў стары. Сівыя вусы сярдзіта шчацініліся над пагардліва сцятымі тонкімі губамі.

Калі ён падышоў, Алеся паставіла яго пад дула кулямёта і паслала шофера агледзець бранявік.

Кулямётчык быў даўно забіты асколкам гранаты ў галаву. У вежы захрас афіцэр, які застрэліўся. У шофера рэвальверным стрэлам была разбіта патыліца.

Калі Алеся запыталася ў імперца пра імя, ён зрабіў выгляд, што не разумее.

Алеся перапытала па-імперску: падумаўшы, ён адказаў:

— Унтэр-афіцэр Франц Хашке.

Ніякіх дакументаў пры ім не аказалася. Пагоны з мундзіра былі сарваны.

Імперац папрасіў курыць. Папярос ні ў кога не аказалася.

З-за кустоў, задыхаўшыся, бег селянін. Радасна ўсміхаючыся, ён сказаў, што да параненага лётчыка асталося не больш двух кіламетраў. Ён толькі што быў там.

Алеся заспяшалася. Мерседэс крануўся з месца. Палонны стары прывычным жэстам адкінуў кішэню на задніх дзверцах машыны і дастаў вялікі скураны партсігар.

„У нечым мы пралічыліся, здорава пралічыліся...“—прамармытаў ён сам сабе і, не заўважаючы здзіўленага погляду Алесі, адкусіў кончык сігары.

3

Сяляне пашлі.

Граза ляжаў нерухома. Боль суняўся. Нага вельмі распухла. Гэта быў вывіх або разрыў звязак.

Ляжаць было зручна. Сяляне паклалі пад галаву мяккі, пругкі мох. Ад яго пахла вільгаццю і грыбамі. Каля твару калыхалася пажоўклая восеньская трава. Час-ад-часу па верхавінках дрэў прабягаў вецер. Яны шумелі ласкава, не заглушаючы заклапочаных птушыных галасоў. Лес жыў не спяшаючыся, як жыве ён ужо сотні і тысячы гадоў. Жыццё гэта было спакойнае і ўтульнае, з грыбамі, арэхамі, чарніцамі...

Скрозь гоман лесу чуваць былі гукі далёкага бою. Застукацеў кулямёт. Суха, адрыўчаста ірваліся ручныя гранаты. У хуткім часе далучыліся разрывы артылерыйскіх снарадаў. Спачатку гэта было высокае, аксамітнае спяванне шрапнелі. Яго змяніў пранізлівы свіст брызантных гранат. І раптам усё сціхла. Скрозь нядоўгую насцярожаную цішыню Граза пачуў гуд самалётаў. Іх было шмат. Ішлі ў баку над лесам. Зусім блізка. І зараз-жа недзе блізка загрукала, зазвінела. Гэта было знаёма. Авіяцыйныя бомбы. Недалёка. Зусім недалёка! Прыслухаўся. У прамежках паміж разрывамі стукацелі станавітыя галасы буйнакаліберных зянітных кулямётаў. І таксама зусім блізка.

Стомленасць і нервовая рэакцыя бралі сваё. Пад спяванне птушак, пад татаканне кулямётаў ён быў задрамаў. Але зноў ірванулі паветра бомбы. Граза сагнаў дрымоту і прыўзняўся на лакцях. Там за ўзлессем ішла бойка. Тут яму нічога не пагражала, ён ляжаў як у бліндажы. Іменна ад гэтага зрабілася раптам ніякавата. Хацелася туды, дзе стукаціць кулямёт, да сваіх. Легчы на жывот і ўзяцца за ручку кулямёта... Там не будзе лагоднага спакою, імшыстай пасцелі, там бой. Але бой плячо ў плячо з сваімі.

Не звяртаючы ўвагі на боль у назе, Граза папоўз паміж дрэваў у бок супроцьлеглы таму, з якога яго прынеслі сяляне. Узлессе было недалёка. Граза бачыў скрозь рэдкія дрэвы неба і клубы чорнага дыму. Але наблізіцца да самага ўскраю лесу было нялёгка. Кожны рух прымушаў скрыгаць зубамі.

Прыхінуўшыся да дрэва, Граза пазіраў у поле. Па краях, укрытыя ляском, стаялі лёгкія палявыя ангары. Большасць іх гарэла. Некалькі самалётаў у самых незвычайных становішчах ляжалі на аэрадроме: на крыллях, угару коламі, угару хвастом. Там-сям, узніміліся груды пакарэжанага метала. Яны яшчэ дыміліся. З двух уцалелых ангараў механікі выводзілі машыны. Гэта былі невялікія самалёты сувязі.

Раптам чорнае воблака зямлі і дыму магутным фантанам узнялося сярод поля і закрыла ад Гразы аэрадром. Граза зразумеў, што гэта бомба замаруджанага дзеяння, кінутая савецкімі штурмавікамі, якія тут праляталі. Калі дым разышоўся, Граза ўбачыў, што яшчэ некалькі самалётаў ляжаць у беспарадку на аэрадроме. Два або тры ярка палаюць. Разгублена мітусяцца санітары.

Зусім недалёка ад Гразы два механікі, спяшаючыся, цягнулі самалёт. Да яго, зашпільваючыся на хаду, бег афіцэр. Граза выразна пачуў словы загаду. Гаварылі па-імперску. Афіцэр улез у машыну, падняў руку. Механікі адбеглі. Прапелер, падпарадкуючыся самаспуску, паспеў зрабіць сударгавы рух, калі новы магутны разрыў страсянуў паветра. Над галавой засвісталі асколкі. Граза спалохана прыгнуўся.

Калі ён узняўся—у вушах стаяў туманны гул. Адзін механік ляжаў ніцма каля самалёта. Другі праз сілу падняўшыся, прытрымліваў правай рукой акрываўлены абрубак левай. Ён, спатыкаючыся, пацягнуўся да ангараў. Лётчыка не было відаць. Самалёт выдаваў не пашкоджаным. Граза глядзеў на яго, як зачараваны.

Выкручваючыся, ён папоўз на жываце. Граза поўз, шчыльна туляючыся да зямлі, каб астацца незаўважаным на чыстым полі.

Непашкоджаны самалёт—палёт да сваіх, да сябе, да роднай зямлі! Палёт на радзіму!

Граза падпоўз з-пад крыла і, ухапіўшыся за скобы, падцягнуўся на руках. Робячы намаганне, мімаволі абапёрся на абедзве нагі. Усё пайшло кругамі, ён адпусціў рукі. Боль ад падання быў нясцерпным. Каштавала вялікіх намаганняў прымусіць сябе пачаць усё спачатку. На гэты раз удалося падцягнуцца настолькі, што можна было дастаць да ступенек, выразаных у фюзеляжы. Але, як на зло, ступенька прышлася супроць параненай нагі. Войкнуўшы скрозь зубы, Граза адпіхнуў хворую нагу здаровай і ступіў у выраз.

З пілоцкай кабіны на яго ўтаропіліся, расшыраныя ад болю і здзіўлення, вочы. Відаць, ранены афіцэр не адразу зразумеў, што перад ім не свой. Ён працягнуў быў руку да Гразы, але калі той загаварыў—рука ўпала. Ледзь валодаючы ёю, афіцэр мацаў усцяж пояса. Ён шукаў рэвальвера. Убачыўшы кабуру, Граза нагнуўся і ўдарыў афіцэра па руцэ. Апошнім намаганнем афіцэр схапіў Гразу за валасы. Граза спрабаваў узняцца, але рука афіцэра не разнімалася. Гразе здалося, што ён чуе на аэрадроме галасы. Ён схапіў афіцэра за горла. Вочы афіцэра зрабіліся яшчэ большымі і агарнуліся плёнкай. Пальцы, што трымалі Гразу за валасы, разняліся. Граза перагнуўся праз борт кабіны і ўпаў галавой на пустое месца назіральніка.

Пакуль ён збіраўся з сіламі, каб сесці як трэба, больш за ўсё мучыла думка, што з аэрадрома могуць убачыць ногі, якія тырчаць з самалёта. Здавалася, што ён усаджваецца цэлую вечнасць. Вывіхнутую нагу ён узяў рукамі ніжэй калена і сунуў у педаль.

Паварушыў штурвал: элероны ў парадку. Каб паглядзець на рулі, трэба было высунуцца. Прышлося даверыцца так. Скрозь вялікую стомленасць адчуў як б'ецца сэрца, калі націснуў самаспуск...

Праз дзіск прапелера, які пачаў круціцца, убачыў на ўзлессі, з якога толькі што выпаўз, людзей. Размахваючы рукамі, яны беглі да самалёта.

Слёзы забівалі неабароненыя акулярамі вочы Гразы. Ён рашуча перасунуў сектар і адарваў хвост. Самалёт бег.

Нечакана, наперадзе, там, куды бегла машына, узнялася чорная сцяна зямлі і, разыходзячыся кудравымі краямі ўзрыва, закрыла ўсё поле, ангары, неба. Чарговая бомба з замаруджвальнікам! Даўшы сектар да адказу, узяў на сябе ручку. Адчуў, як падкінула ўзрывам пад правае крыло, але зямля, ангары, клубы дыму, усё было ужо ўнізе. Машына паслухмяна лезла крутою горкай. Упэўнена гудзеў матор. Граза паглядзеў навакол. Ён вывеў машыну проста на сонца, якое ляніва падымалася над ружовым гарызонтам. Усход. Радзіма.

Правёўшы вачыма машыну, Алеся запытала ў селяніна:

— Ты ўпэўнен, што гэта ён?

— А то як-жа? Вось і капялюш яго каля дрэва.

Яна зірнула на працягнуты падраны камок скуры—так, гэта былі рэшткі палётнага шлема совецкага ўзору. Зноў была павярнулася туды, дзе знік самалёт, але ўбачыла імперцаў, якія ішлі па аэрадрому. Рухам рукі паклала сваіх людзей...

З узлесся па кучках людзей, што капашыліся на аэрадроме, застукацеў кулямёт. А крыху глыбей у лесе, на прагалінцы, у вялікім фельдмаршальскім мерседэсе сядзеў высокі стары ў мундзіры з адарванымі пагонамі. Ён нервова лавіў ніжняй губой пракураную сівую шчаціну вуса і смактаў яе, смактаў.

4

Імперскае камандаванне пралічылася. І перш за ўсё ў падліку тэхнічнай магутнасці Асобага корпуса і маральных сіл яго лётнага складу. Гэта памылка пацягнула за сабою і рад іншых. З таго, што Брэдзіс ідзе над зямлёю і ўсімі сіламі ўхіляецца ад бою імперцы зрабілі вывад, што яго калоны страцілі ўсякую боездольнасць. Але большэвікі заставаліся большэвікамі. Брэдзіс заставаўся Брэдзісам. Убачыўшы імклівасць, з якою значная частка самалётаў праціўніка пакінула праследваць яго і пайшла ў бок, Брэдзіс зразумеў, што яна атрымала нейкае экстранае і важнае заданне. Праз некалькі хвілін ён звязаўся з дэсантнай дывізіяй, якая накіроўвалася да штаба Фіша. Гэта супадала з тым кірункам, у якім знікла частка імперцаў. Брэдзіс больш не вагаўся. Ён забыў пра недахоп гаручага, пра стомленасць экіпажаў, пра недахоп агнепрыпасаў.

Ледзь заўважна набіраючы вышыню, СБД перабудаваліся ў баявыя парадкі і імкліва пайшлі ўгару на збліжэнне з ашаломленым праціўнікам. Завязаўся бой, якога цяпер хацелі ўнікнуць імперцы, якіх было меней. Але Брэдзіс павінен быў яго навязаць ворагу. Ён быў цяпер мацнейшым. Ён хацеў, каб вораг адкаснуўся ад яго. Камбрыгу патрэбна была свабода дзеянняў.

Імперцы не даліся на спалох. Яны ўпарта адбіваліся ад СБД, карыстаючыся тым, што большэвікі вымушаны былі абыходзіцца

мінімальнымі манеўрамі і самым эканомным выдаткаваннем зарадаў.

Але бой ужо не мог перашкодзіць Брэдзісу змяніць курс. Ён пайшоў у тым кірунку, дзе павінен быў быць штаб фельдмаршала Фіш.

Пасля гадзіннага палёта з няспынным манеўраным боем, Брэдзіс убачыў незвычайнае відовішча. Усё неба на паўночным усходзе, увесь гарызонт, уся зямля былі ўсеяны белымі адуванчыкамі парашутаў. Усё новыя і новыя кветкі ўзнікалі ў прасторы.

Вышэй, над ДТ, якія скідвалі авангард дэсанта, ішоў бой аховы з знішчальнікамі імперцаў. У бой ужо ўступілі часці, якія незадоўга перад гэтым пакінулі Брэдзіса. Гэта магло прывесці да таго, што цяжкія дэсантныя самалёты другога эшалона не здолеюць зрабіць высадку сваіх механізаваных часцей. Авангард парашутыстаў акажацца вымушаным абараняцца на зямлі сваімі сіламі.

Не было над чым раздумваць, не было чаго хістацца. Асобы корпус умяшаўся ў бой.

Праз паўтары гадзіны, г. зн. да 4 гадзін 19 жніўня, лёс бойкі, а з ёю і ўсёй аперацыі Фіша, якая падрыхтоўвалася, а таксама контр-удара Міхальчука быў вырашаны. Штаб Фіша страціў сувязь з сваімі часцямі. Шляхі зносін з фронтам былі перарэзаны.

Пазбаўленыя аперацыйнага кіраўніцтва і падтрымання бронесіл, часці ўдарнай групы фельдмаршала адыходзілі ўсё больш паспешна. У іх на карку, не даючы часу апамятацца, рухаліся танкі Міхальчука. Хутка адступленне імперцаў ператварылася ва ўцякацтва. У прарыў накіраваліся чырвоная конніца і матарызаваная пяхота. Сам Міхальчук у самалёце пераляцеў у Сігізмундопаль, дзе яшчэ ішла перастрэлка з рэшткамі аховы штаба Фіша.

Багульны, які за некалькі хвілін да гэтага заняў Сігізмундопаль, атрымаў па радыё запытанне Брэдзіса: ці нельга яго часцям зрабіць пасадку на аэрадромах вузла Фіша, каб аднавіць запас гаручага. Без гэтага Асобы корпус не мае магчымасці вярнуцца ў сваё размяшчэнне.

У распараджэнні Багульнага меліся ўжо тры аэрадромы. Ён адразу-ж размеркаваў час пасадкі корпуса так, каб той не перашкаджаў разгортванню аперацый дэсантнай дывізіі і даў радыё Брэдзісу.

Адначасова з самалётам Міхальчука на штабны аэрадром сеў СБД 1. Ён меў вельмі непрэзентабельны выгляд. Абшыўка шмат дзе была задрана асколкамі знарадаў. Вострыя краі элерона тырчэлі, як клоччы падранай паперы. Аднаго вінта зусім не было. Насавая гармата, якая страціла экран, сумна павісла з вежы, гатовая вось-вось адарвацца.

Па лесвічцы з самалёта сышоў камандзір у падраным і закураным скураным камбінезоне. Гэта быў капітан Асобага паветранага корпуса Александр Касых. Ён увайшоў у габінет фельдмаршала Фіш, дзе сядзеў цяпер камандарм другога рангу Міхальчук. Касых далажыў камандарму:

— Калі калона корпуса ўступіла ў бой з сіламі, якія спрабавалі атакаваць вашу дэсантную дывізію, самалёт СБД 1 атрымаў

нападанне чаргі знарадаў у насавую частку. Там знаходзіўся нараненьі камкор Халюцін і абодвы флагманскія спецыялісты.

— Халюцін?— Міхальчук не дагаварыў.

— Ранены другі раз двума асколкамі ў жывот.

Міхальчук павярнуўся да Багульнага.

— Таварыш камдыў, у вас тут ёсць дактары. Загадайце зрабіць усё магчымае, каб параненыя людзі корпуса былі адразу-ж эвакуяваны ў наша размяшчэнне. Халюціна хутчэй сюды, можа патрэбна аперацыя...

Багульны і Касых выйшлі з габінета.

— Алеся тут?—запытаў Касых.

— Хутка вернецца. Паехала забраць параненага. Ох і дзяўчына! Проста на плячах імперцаў улезла ў акалотак іхнага штаба. Цяпер у яе там цэлая гаспадарка.

Касых перапыніў:

— Тарас... Сафар загінуў.

Касых бачыў як змяніўся з твару Багульны:

— Сафар? Дзяўчына мая... Аленка...

У хуткім часе да капітана Касых прыбег даручэнец з штаба:

— Таварыш Касых, да камбрыга Брэдзіс.

— Што здарылася?

— У тылу праціўніка—вялікае паўстанне.

— Дзе?

— Ва ўсім раёне Форта.

— Знаёмыя месцы.

— Паўсталі рабочыя ваенных заводаў.

— Вось малайцы,—вырвалася ў Касых.

— Паўстаўшыя маюць вялікі запас зброі, але праціўнік пэўна будзе імкнуцца задушыць паўстанне раней, чым рабочыя паспеюць арганізаваць свае сілы.

— Дык трэба-ж іх падтрымаць.

— Пра гэта і гаворка. Здаецца задача ўскладаецца на ваш корпус.

Касых з сумненнем паківаў галавой:

— Мы вельмі растрапаныя.

Даручэнец пацісвуў плячыма:

— Брэдзіс бярэцца.

Уваходзячы ў штаб, Касых убачыў Брэдзіса, які сядзеў перад камандзірам і ўлавіў канец яго фразы:

— Не сумняваюся ні хвіліны—зробім.

— Спачатку трэба туды прабіцца. Палёт будзе адбывацца днём. Улічыце.

— Таварыш камандарм,—Брэдзіс узняўся.—Дазвольце лічыць пытанне вырашаным. З такімі людзьмі і на такіх машынах можна прабіцца к месяцу, не тое што к Форту. Туды мы дарогу ўжо ведаем.

З канапы ў баку пачуўся слабы голас Халюціна:

— Правільна, Брэдзіс!

У габінет увайшоў Багульны:

— Машыны Асобага корпуса запраўлены з трафейных запасаў.

Баяпрыпасы даў свае. Мой першы полк сцягнуты і гатовы да пасадкі ў самалёты.

Міхальчук зірнуў на гадзіннік:

— Менш за гадзіну? Не дрэнна спраўляецеся, таварыш Багульны.

— Гаспадарка наладжаная, таварыш камандарм.

— Кожнаму з вашых байцоў давядзецца там зрабіцца камандзірам.

— Хоць палкавым. Хлопцы, што трэба.

— Таварыш камандарм,—перапыніў Багульнага Брэдзіс.—Дазволіце адпраўляцца?

— Як толькі ваш асабісты склад заправіцца і крыху адпачне.

Брэдзіс павярнуўся да выхаду. Яго паклікаў да сябе Халюцін:

— Нагніся, Ян.

Калі брытая галава камбрыга параўнялася з яго тварам, Халюцін дакрануўся губамі да яго ілба:

— Беражы людзей, Ян. Вайна толькі пачынаецца.

Гадзіннік адлічыў пяць. 5 гадзін 19 жніўня. Першыя дванаццаць гадзін вайны.

*Пераклад з рускай мовы Я. Ш.*

*Алесь Жаўрук*

## КРЫВЁЮ СЭРЦА

*(Гвадаррамская аповесць)*

Гренада, гренада,
Гренада, моя!
*Міх. Святлоў.*

Цвілі акацыі. Завесай
Пялёсткаў
лiўняў
i стрыжоў
Кіпучы чэрвень на Одэсу
З узмор'я цёплага ішоў.
І ў люкі чорных параходаў,
У пыл партовай мятусні
З начы ўрываўся церпкі водар
Мядзвяных траў.
У тыя дні
Па свежаку, па хмельным улонні
Блукаў над самаю вадой
Шыракаплечы каталонец
Барталамео Гільярдо.
Як сына роднага, Одэса
Спаткала ветла марака.
Стары заслужаны прафесар
Яго лячыў.
Ужо рука
Не ныла. Толькі пальцы нешта
Ўсё не сціскаліся ў кулак.
І ўсё чакаў, чакаў марак,
Калі прафесар,
Зняўшы ўрэшце
З рукі павязкі ўсе свае,
Пацісне дужую яе.
Ўсё чакаў, калі гранату,
І стрэльбу верную калі
Яна узніме зноў на катаў
Яго далёкае зямлі.

Мы падружыліся. Па-руску
Мой сябра ведаў сорак слоў,
А я свой леташні французскі
Залік
Не ўжарт прыгадваў зноў.
Калі-ж рэсурсы ўсе знікалі—
Звычайных сродкаў, апрача,
Мы карысталіся рукамі
І разумелі па вачах.
Шумелі хвалі. Брыз прахладны
Студзіў нам твар сваім руном.
Ён частаваў мяне заядлым
Сваім матроскім тутуном;
Узбегшы лёгка на прыгорак,
Ён аглядаў прасцяг далін
І прагна дыхаў, быццам хворы,
Паветрам нашае зямлі;
Ды слухаў, як грукочуць краны,
Як васьмікласніцы пяюць,
І ўсё расказваў, усхваляваны,
Мне пра Іспанію сваю.

Так пад крылом блакітнай ночы,
Калі ля ног шумеў прыбой,
Аповесць сумную аднойчы
Мне расказаў таварыш мой.

---

Год пяць назад пад Овіеда
Ў капальні,
Ў час абвалу шахт
Забіты быў праходчык Ньето,
Суровы, не любіўшы кветак
Шахцёр, ўдавец другое лета,
Калісьці зух і весяльчак.
Калі асеннім мутным раннем
Сябра хавалі гарнякі,
Дачцы яго старэйшай Франі
Было ўсяго, лічы, якіх
Пятнаццаць год.
Сіротам выпаў
Сіроцкі лёс, усё часцей,
Пасля прыдушаных усхліпаў
Перапалоханых дзяцей,
Ўсё безвыходней, як навала,
Усё трывожней з таго дня,
У шахцёрскай хаце навісла
Безрадасная цішыня.
Тады аднойчы, на світанні,
Сабраўшы ў клунак і вядро

Усё шахцёрскае дабро,
З двума малодшымі братамі
(У кішэні некалькі пезет)
Пайшла Франсіска ў белы свет,
Як у капейку,—
за пасёлкі,
За гушчы восеньскіх імжак...
І лівень сек,
і вецер золкі
Расхрыстваў бацькаўскі пінжак...
Вакзал. Цягнік. Далёкі шлях.

У Мадрыдзе, дзесьці на Алвара,
Радня якаясьці жыла...
Жыла калісьці, толькі зараз
Франсіска цёткі не знайшла.
Дзяўчыну на ўласным хлебе
Узяла мадыстка („будзе толк!“)
Дзесь пад страхой, на сёмым небе
Адгарадзілі ёй куток,
І не пакінулі хвіліны
Для суму—вечна на нагах.
І хай за крок, за ўздых адзіны
Патронша біла па шчаках—
Быў хлеб уласны у дзяўчыны
І пад асеннім небам—дах.

Ішлі гады. Даўно ўжо тройчы
Вясна мінула за вясной,
І вось ураніцы аднойчы
Па-над Сэрвантэса зямлёй
Праплыў
Узняты чорным збродам
Берлінскай ночы жудкі цень:
Крыві іспанскага народа
Драпежнік хіжы захацеў.
Але з усіх бакоў рашуча
Краўцы, матросы, гарнякі,
Філосафы і пастухі
Насустрач „фюрэру“ і „дучэ“
Узнялі гнеўныя штыхі.
Нязломныя адзінаверцы
Яны пайшлі на процьму зграй
Штыхом,
агнём,
крывёю сэрца
Адстойваць сонечны свой край.

У той дзень ізноў,
Мадрыдскіх ўскраін

Перашагнуўшы рубяжы,
Угары прайшлі „фіатаў“ зграі,
Як свасцік чорныя Крыжы...
...Гурбою вучні йшлі з заняткаў
З лемантарамі у руках,
Малых дзяцей купалі маткі
У эмаліраваных тазах.

Спавітыя ў платанаў зелень,
У вэлюм даўняй цішыні,
Краіны лепшыя музеі—
Славутай гонар старыны—
Узнёсшы лёгка к высям светлым
Уступы строгіх стромкіх веж,
Бялелі мірна. Вецер ветлы
Шасцеў між сонных лоз-мярэж...

І раптам—
Выбух нечуваны,
Ў шматкі парваўшы цішыню,
Як пяруном тым гураганным
Усё аглушыў і ўсхамянуў.
І потым новы,
дзесьці блізка,
Над самай дзесьці галавой...
І вось ў паветра, быццам пыркі,
Ляцяць карцін Гойя абгрызкі,
Муры, дзіцячыя калыскі
І дзёран з леташняй травой.
Амаль губляючы прытомнасць,
Зусім не помнячы сябе,
Не заўважаючы утомы,
Франсіска бегла...
На трубе
Вадаправоднай, каля даху,
Угары матляліся шматкі
Знаёмай коўдры.
Кроў ад жаху
Пахаладзела: „хлапчукі,
Луіс і Пэдро...“
Столь нібыта
Над ёй хіснулася,
пайшла...
Сцяной разбуранай забіты,
Ляжаў малодшы ля стала.
І тут-жа большы, каля Пэдро,
Будзіў яго...
„Браты, браты“...
Знадворку, пад страхой, на ветры
Два абарваныя драты
У фортку білі, як папала...

Тады-ж увечары,
калі
Франсіска не знайшла запалак,
Каб лямпу ў хаце запаліць,—
Луіс ёй крыкнуў, шапку ўзяўшы:
— „Я за запалкамі, чакай!“—
І ў лоб сястру пацалаваўшы,
Ён выбег з хаты.
Хлапчука
Больш і не бачылі. Ні ўночы,
Ні ўранні не вярнуўся ён—
Пайшоў напэўна да рабочых
І папрасіўся ў батальён.
Ён ім адпомсціць, лютым катам,—
(З ім поруч тысячы ўстаюць!)
За гэты жудкі дзень, за брата
За ўсю Іспанію сваю...
Ўсю ноч праседзела Франсіска,
Без слёз, ў пустэчы няжывой.
Над дахам хмары беглі нізка,
Над самай беглі галавой.
Ціш спавіла асфальт Алкала,
І толькі нейдзе там, над ім,
Па стрэхах бляха скрыгатала
Галодным скрогатам сваім.
Калі-ж назаўтра гулкім раннем
Па хісткіх сходках „Дома мод“
Узбег Хозэ, каханы Франі,
Прад выступленнем у паход—
Яна сама была гатова
Туды,
Дзе дол зямлі дымеў.
Ён па вачах яе, без слова,
Як і заўсёды, зразумеў.

І з таго часу, скрозь нязменна
Разбітай стужкаю дарог
У сініх вопратках ваенных
Плячо ў плячо прайшлі удвох—
Басконскіх гонар футбалістаў
Высокі з „Хаімэ“ матрос
І з ім маленькая мадыстка
З хлапечай пасмаю валос.
У батальёне ўсе іх зналі,
Далі-ж яны панам турбот:
Штодня фашысты праклінালі
Іх няўтомны кулямёт.
Па дымных сцежках Гвадаррамы
Да горнай вёскі Сэнт-Ала
Пад ўсімі чатырма вятрамі

Іх дружба поруч правяла.
І толькі там, прад самай ноччу,
Атак спыняючы паток,
Зарыўся тварам кулямётчык
У дарожны пыл, сухі пясок.
Смерць губы смаглыя скавала
І толькі па дрыжэнню іх
Дзяўчына з жахам прачытала:
— „Цяпер змагайся за дваіх!
Няўжо-ж паводка куль густая
Не спыніць крок варожых зграй?—
Не падпускай іх, залатая,
Трымай, каханая, трымай,
Пакуль сябры назад, за ўзгорак,
Праб'юцца куляй і штыхом,
Пакуль шрапнелі загавораць
Над інтэрвентскім гарадком".
І вось, бляднеючы, Франсіска
Крычыць праз гул сама сабе:
— „Цяпер, мадрыдская мадыстка,
Усе надзеі на цябе!"
Проставалосая,
Худая,
Яна не чуе даўніх ран,—
Да кулямёта прыпадае
Сухой шчакой:
— „Но пасаран!
Віва рэспубліка!"—
І градам
Свінцовым стрэты ланцугі
— „Віва рэспубліка!"—
і радам
Адзін кладзецца за другім.
Яшчэ скупое намаганне
Прайсці пякельны гэты град,
І з дзікім ровам ў замяшанні
Лавіна коціцца назад.
Спыні яе рукою спрытнай,
Не дай драпежніку хады,
А не—ён зноўку, ненасытны,
Як пошасць, вернецца сюды!
Хутчэй, хутчэй!—
і цеме пластам
Фашыстаў зноў яе агонь.
Гарачай жылкай часта, часта
Пад чорнай пасмай б'ецца скронь.
— „Но пасаран!
Не, тут сустрэнецца
Свой час астатні, люты зброд!"...
Але канец апошняй ленце,

І моўкне верны кулямёт.
І пустата, як ноч, глухая,
І жудасная цішыня
Франсіску раптам абступае
З усіх бакоў.
Глядзіць яна:
Патроны вышлі ўсе да шчэнту,
Пустыя гільзы на шляху.
Яшчэ-б адну, здаецца, ленту,
Адну-б кароткую чаргу.
Пакуль сяброўскіх кулямётаў
З-за скал загутарыць свінец,
Пакуль ўзаўюцца самалёты—
Яшчэ-б патрон...
Але—канец.
А ворага ланцуг,
узняты
Нядобрай гэтай цішынёй,
Імчыцца зноўку,
і гранаты
Іраўцца дзесь над галавой...
Ды толькі смерць пужае хіба
(Рука, ад зморы не дрыжы!)
Ужо сябры за перагібам
Свае мацуюць рубяжы.
Яны назад ўсёроўна прыдуць,
І дрогне чорная сцяна.
Ты ўсё зрабіла для Мадрыда,
І зараз не твая віна.
Дарма, што зноў Франко найміты
Лавінай рушаць на цябе—
Шчэ' браўнінг ёсць:
Сем куль бандытам,
І потым восьмую сабе.
Пакуль лядком не студзіць скроні,
Пакуль ўзнімаецца рука—
Спаткай на славу „макароні",*)
Мадрыда верная дачка!
І вось, прышчурыўшыся ледзьве,
Яна намацвае курок,
І грузна рушыцца пярэдні,
І кіпцямі скрабе пясок.
І зноўку стрэл...
Агнёвай стромай
Глушы драпежны зброд...
Але
Хвіліна—і з васьмі патронаў
Адзін апошні ў ствале.

*) Пагардлівая мянушка на італьянскіх інтэрвентаў у Іспаніі.

Цяпер хутчэй, марудзіць досыць
„Хозэ, ты чуеш, мой сакол;—
Віва рэспубліка!“—
падносіць
Яна да сэрца чорны ствол.
„Каб два было—я-б два без жалю
Жыцці Мадрыду аддала...
Цяпер дарма, што ў дзікім шале
Паводка блізка падышла.
Памерці—шчэ не пакарыцца!
Смялей курок спускай цяпер“...
— „Жывою дзеўку ўзяць, арыйцы!“—
Раве пярэдні афіцэр.
Хутчэй, хутчэй—адно збавенне;
Спяшайся, дужая пакуль.
Вось ён на крок—
яшчэ імгненне—
І позна—хопіць за руку.
Спускай курок, і подых спынен...
Хозэ, бывай! Бывай, Мадрыд!
... Але няўжо ён жыць павінен,
Агідны вораг і бандыт?
Не, не,
Вількомэн,* Смоўж пракляты,
Не пашкадуюць сотні куль
Мне ашуканыя салдаты—
Прымай-жа гэтую пакуль!“
І, не зрабіўшы ўперад крока,
Як бег, шалёным вяпруком,
Вялікі, потны, вірлавокі,
Ён грымнуў вобземлю нічком.
І, покуль брала боска сіла
Яго ў нябесныя шляхі,—
Наперад крок яна зрабіла
І кінулася на штыхі
Заклятых ворагаў радзімы.
Дыміўся дол...
... І хто-б чакаў:
Не прагучэў ні стрэл адзіны,
Ні штых насустрач не устаў.
Стаіць яна і ў зморы стыне,
Узнімае сонна галаву—
Над ёю хмаркі залатыя
З Мадрыда роднага плывуць.
Яны пра полк яе пыталі—
Яна маўчала—
ёй тады
Круцілі рукі, жылы рвалі,

*) „Добро пожаловать“ (нямецк.).

Давалі піць, зноў катавалі,
Ізноў падносілі вады—
І зноў маўчала сцяўшы зубы,
Хоць чула—моцы не стае.
Дык вось чаму кароткай згубы
Пашкадавалі для яе!
А потым знікла ўсё кудысьці,
Усё правалілася у муць.
Адно запомнілася: ў высі
Хмурынкі лёгкія плывуць.
Адно здалося: кулямёты
Сустрэлі ворага з гары.
І больш ніякія турботы
Не хвалявалі.
... Усе сябры
Здалося, пелі „По долинам..."
Здалося, йшлі ў апошні бой.
Жанчына з поглядам арліным
Вяла калону за сабой.
Хістаў штандары подых ўзмор'я,
І над усёй зямлёй адна,
Узняўшы светлае сузор'е
Плыла зубчастая сцяна.
(Зямля мая,
З багны і глуму
Ты ўстала людзям, як мая,—
Цябе інакшай не прыдумаць,
Інакшай не ўявіць ніяк.
І хто-б не быў мой брат па справе
І па крыві гарачай брат:
Арктычны лётчык ў снежнай лаве,
Ці пагранічнік на заставе,
Ці Пятага палка салдат—
Заўжды, зямля,
Праз шал нягоды,
Праз посвіст куль
і даляў бель—
Табе яго апошні подых,
Як думка першая—табе.)
Чаму-ж няма з Франсіскай поплеч
Яе вясёлага Хозэ?
Вось людзі ў вопратках святочных
Ей рукі ціснуць па чарзе.
І з імі той,
Хто іх ад здзекаў,
Ад мук—прывёў да светлых дзён.
На смуглым твары чалавека
Усмешка цёплая. Вось ён
Таксама моцна паціскае
Франсіскі дужую руку...

І слёзы шчасця падступаюць
К вачам. Няхай яны цякуць.
Няхай гараць! Цярпела? Годзе!
Ты іх спыні цяпер вазьмі!—
Па ўсіх дарогах свету пройдзе
Дзяўчына з гэтымі слязьмі.
Ёй гэтак лёгка...
Твар дзяўчыны
Ледзь ўздрыгнуў і прасвятлеў...
З шклянымі мутнымі вачыма,
З расою ліпкай на чале
Яна, замучаная стыла
Над чорнай згойсанай травой.

Высока хмаркі залатыя
Плылі над самай галавой.

У тую-ж ноч,
Прад самым ранкам,
Казалі потым патрулі
Ушасцярых з акопаў Франко
Салдаты хмурыя прышлі.
Свае нямецкія вінтоўкі
Яны паклалі прад сабой,
Яны прасіліся, каб зноўку,
Але адсюль, вялі іх ў бой
Ад іх,
Прапахшых кіслым потам,
Сурова сцяўшых кулакі,
Ад іх даведаліся потым
Рэспубліканскія палкі,
Якою смерцю памірала
За лёс краіны маладзы
Мадыстка з вуліцы Алкала—
Франсіска Ньето,
як тады
Яна бязгучна
ссохлым ротам,
Што ледзь пачула мо' трава,
Сказала: „Даларэс“
і потым
Амаль нечутнае „Масква“.

На урачыстым карауле,
Высока ўстаўшы на гару,
Сябры на зброі прысягнулі
Адпомсціць катам за сястру.
Няхай аб тым іспанскіх ветраў
Раскажа гоман малады,
Як танкі ворага ў паветры
Адменна лёталі тады,
Як спраўна падалі на скалы

„Фіатаў“ чорныя крыжы,
Як крок за крокам мацавалі
Сябры на захад рубяжы.
Ім не забыць сяброўкі.
Морам,
Бурлячым морам гнеў ўстае.
Матросы, вучні і шахцёры
Співаюць песню пра яе.
А песню тую, што дарогі
Усёй рэспублікі прайшла,
У лазарэце склаў бязногі
Студэнт Дыего з Сэнт-Ала.

---

Матрос маўчаў. Застылі медзю
Нацятых сківаў жаўлакі,
І толькі часам ўздрыгваў ледзьве
Пергамент жоўтае шчакі.
Мы моўчкі крочылі.
На ранак
Ўжо занімаўся край нябёс:
Над портам грукацелі краны,
З узмор'я свежы брыз прынёс
Чмяліныя матораў гуды,
Пах свежай рыбнае лускі,
І гоман хваль,
І шум глухі...

Не, я ніколі не забуду
Яго шурпатае рукі.
Не пакарыць агню і смерці
Іспанскай сонечнай зямлі.
„Буэна,—крыкнуў я,—суэрце!“
Свайму таварышу.
Плылі
На ветразях лагодных яхты,
Як лебядзіны цуг вясной,
Ангары, фабрыкі і шахты
Стаялі дужыя за мной.
Ўжо днела...
Дзень вялікі, новы—
Я знаў—без меж і берагоў
Устане з кіпені барвовай
Над залатой маёй Кардовай,
Як ўстаў над Прэсняю яго.
Бо над шляхамі ўсіх прастораў,
Наўсцяж ад мора і да мора,
Як лёс зямлі, ўзышла яна—
Узняўшая паходняй зоры
Крамля зубчатая сцяна.

1937 г.

*Усевалад Краўчанка*

# ДРУЖБА ДАВЯЛА

У сяле Новая Слабада не было больш багамольнага старога, чым дзед Анупрэй. Свята якога-б самага маленькага святога не здаралася на яго жыццёвай дарозе, Анупрэй усёроўна адзначаў яго па ўсіх строгасцях рэлігійных уставаў. Маліўся ён шчыра, у царкве, бывала, паклоны біў заўсёды на пярэднім плане, на вачах у сухога, падобнага на высушанага тарана, бацюшкі. Пастоў прытрымліваўся Анупрэй цярпліва, хаця нельга сказаць, каб ён быў дурань паласавацца скаромным. Кажу каротка, дзед Анупрэй уяўляў сабой чалавека, апутанага з ног да галавы рэлігійным дурманам.

Ну, але жыццё не стаіць на адным месцы, здарылася так, што ў Новай Слабадзе царква была абвешчана клубам і ў клубе пачалі арудваць комсамольцы. Спачатку дзед Анупрэй абсалютна байкатаваў клуб, ні нагой туды не ступаў, але прайшоў час, у жыцці дзеда адбыліся сякія-такія падзеі (аб іх памянем пазней), якія, трэба праўду сказаць, пахіснулі былі яго цвёрдую веру, пасеялі ў яго старэчай галаве зерня сумнення. Зерня неўзабаве пусціла парасткі, доўга чакаць не прышлося, а тут яшчэ—і гэта самае галоўнае—з дзедам пачалі весці справы комсамольцы, ну а гэта, як вядома, народ жвавы, хутка з дзеда зрабілі тое, што ім хацелася.

Толькі трэба сказаць, што змены гэтыя з Анупрэем хаця і адбыліся на вачах усёй вёскі, але ведалі аб іх толькі ягоныя дружбакі комсамольцы—нічым не любіў выхваляцца дзед—і тое, што здарылася з дзедам аднойчы ў клубе, прагучэла таму для ўсёй вёскі нечаканасцю. Добрых з паўтары гады апавяданне пра здарэнне ў клубе з Анупрэем было любімейшым успамінам новаслабодцаў, ды яшчэ і цяпер, сабраўшыся надвячоркам на прызьбе, ахвотна яны пасмяюцца, абы хто напамянуў ім аб гэтым здарэнні.

А было гэта вось як. У адзін нядзельны вечар комсамольцы Новай Слабады ставілі ў клубе нейкую п'есу. У клуб сабралася ўсё сяло, ад малага да вялікага. Пярэднія рады занялі старэйшыя калгаснікі з сваімі жонкамі, члены праўлення калгаса, вясковая інтэлігенцыя—фельчар з жонкаю, рахункавод і дзве маладыя настаўніцы. Ззаду сядзела моладзь, а ў праходах каля сцэны і з бакоў таўклася дзетвара. Усе з вялікай нецярплівасцю чакалі пачатку спектакля. Толькі адна фельчарава жонка пазлядала на заслону пагардліва, з такім выглядам, нібы хацела сказаць: „ну, што вы тут людскага пакажаце, вось мы былі ў Акадэмічным, у

Маскве“. Каля яе ў нецярплівасці круціўся барадаты шчупленькі дзядзька, і відаць, ён прытрымліваўся іншага погляду, чым фельчарава жонка.

— Хадзем дадому, тут курацъ,—звярнулася фельчарава палавіна да мужа і азірнулася на дзядзьку. А ў таго і дапраўды з люлечкі пёр дым, як з паравознага коміна. Але ён, калі ўбачыў, што прычыняе непрыемнасці суседзям, жвава выбіў люлечку аб пазногець і схаваў яе ў кішэні.

Ззаду ў поўголаса дзяўчаты спявалі частушкі, пілікаў гармонік. Каля сцэны стаяў стол, за якім заядлыя даміністы рэзаліся ў даміно датуль, пакуль аж не пачуўся са сцэны трэці званок у чыгуначную рэйку.

Урэшце ў зале патушылі святло. Перастаў іграць гармонік. Усе сціхлі, пачаўся спектакль. Спачатку ўсё ішло добра, але ў першай жа з'яве здарыўся канфуз. Адна дзеючая асоба (конюх Грышка, ён упершыню выступаў на сцэне) не дачула суфлёра, хаця той і „шаптаў“ такім голасам, што яго добра чуў нават тугі на вушы Сапрон, які сядзеў каля самай задняй сцяны клуба. Недачуўшы суфлёра, Грышка прылажыў нешта ад сябе, праўда мусіць не зусім удала. Суфлёр у адчаі амаль пракрычаў: „Не так, чорт“, але на гэты раз Грышка пачуў і з усёй сілай закрычаў свайму збянтэжанаму партнёру: „Не так, чорт.“

Але на такія дробныя непаладкі зала не звяртала ўвагі. І спектакль ішоў з поспехам далей. У канцы першага акта на сцэну вышаў добра загрыміраваны з кіёчкам у руках, з вялікай сівою барадою дзядок, які па п'есе зваўся Цімахом. Але як толькі гэты „Цімох“ вышаў з-за хісткіх дэкарацый, уся зала захвалявалася, а дзеці ў захапленні закрычалі:

— Змітрок, Змітрок!—Усе гледачы адразу пазналі ў гэтым дзядку камсамольца Змітрака. Публіка хутчэй здагадалася, чым пазнала, што гэта быў менавіта Змітрок, таму што вечнае змітракова амплуа ў п'есах—дзед, самы звычайны дзядок, з кавенечкай у руках, з прывязанай барадой, бурклівы, але добры, хітры, і аматар паразважаць. Колькі-б не ставіла п'ес комсамольская моладзь вёскі Змітрок заўсёды іграў там адну і тую-ж ролю. Да гэтага даўно прызвычаіліся артысты і гледачы. Усе вясковыя дзеці ведалі і пазнавалі яго і пад барадой і з намалёванымі маршчынкамі. А з захапленнем яго сустракалі таму, што ён для жартаў, заўсёды падрабляў свой твар, свае гэсты, паходку і голас пад якога-небудзь добра вядомага ўсім вясковага дзеда. І так гэта ў яго ўдала атрымлівалася, што яго і сустракалі і праводзілі заўсёды з апладысментамі. Ён, як ніхто, умеў улавіць і дасціпна перадаць характарную драбніцу ў паводзінах якога-небудзь вясковага старога.

Вось і сёння ён іграе „Цімаха“, не абы як проста, а падрабіўшыся пад калгаснага пастуха дзеда Анупрэя (цяпер дзед Анупрэй вырашыў пасвіць калгасны статак. Праўда ў іх было некаторае разыходжанне ў адзенні. „Цімох“ у лапцях, а Анупрэю, як галоўнаму пастуху, калгас справіў боты. Але лапці патрабуюцца па п'есе, а супроць гэтага не пойдзеш. А так у астатнім, Змітрок, як здавалася гледачам, перадаваў Анупрэя беспадобна. Той і гэст, тая і ўсмешка,

голас, постаць,—усё ён улавіў. І калі пасля першага акта зачынілася заслона, то ўсе пачалі дзяліцца ўражаннямі аб змітраковай ігры.

— Анупрэй, ну чысты Анупрэй! Што не?—горача паварачваўся фельчараў сусед з люлечкай направа і налева.

— Так, Анупрэя, ён перадаў нармальна,—замыславата зазначыў фельчар.

Жонка яго не магла нічога сказаць, бо такога яна не бачыла нават у акадэмічным.

— Га-га-га,—рагатаў, седзячы на лаве, тугі на вушы Сапрон,—вось сукін сын... Вось прахваціў.

Дзеці збіраліся ў групкі і, перабіваючы адзін аднаго, абмяркоўвалі кожны крок Змітрака і захлёбваліся ад радасці.

— Ага, а я што казаў, ага? Цяпер Анупрэя схваціў. Ага?!—крычаў адзін з іх шустры, чорненькі з упартым віхорчыкам валос на галаве.

Нібы на злосць, у другім акце, як і ў першым, здарылася няўдача. Па ходу дзеі трэба было зрабіць стрэл. Яго дамоўлена было зрабіць з дапамогаю дошкі, якою за кулісамі галоўны рэжысёр павінен быў ляснуць аб падлогу. І вось надышоў патрэбны момант. На сцэне Грышка дрыжачай рукою накіраваў на належную асобу пугач. Ён непрыкметна махнуў рукою, зрабіў выгляд, што націснуў спуск. Але раптам прыціхшая зала, замест стрэлу, пачула нейкі глухі стук.

Але гэтыя зрывы кампенсаваліся і публіка даравала артыстам усё, калі на сцэну зноў вышаў „Цімох“, калі гэты Цімох пунктуальны, як дзед Анупрэй, кашлянуў, паціснуў плячыма, прайшоўся. Мала хто сачыў за ходам дзеі, за перажываннямі герояў п‘есы. Публіка знаходзілася ў экстазе захаплення толькі адным—ігрою Цімаха. І да таго, што ён гаварыў, і як гаварыў, амаль ніхто не прыслухоўваўся—усе пазіралі толькі на тое, як ён нязграбна тупаў па сцэне, як, лоўка прыкідваючыся, ён у нейкім замяшанні торгаў сваю бараду.

— Змітрок, ты пакажы, як Анупрэй ад нячысцікаў уцякаў,—параіў фельчараў сусед, які ўвесь ззяў ад здавальнення.

— Пакажы, пакажы,—падтрымалі з усіх бакоў гэтую просьбу Усе чакалі, што „Цімох“ зараз-жа перадасць вядомы на ўсю вёску выпадак, які здарыўся гады два таму назад з Анупрэям. Аднойчы ўлетку той нечага пасварыўся з бабай і пашоў спаць у гумно. Памаліўшыся, ён распрануўся і лёг у салому... Але тут-жа ўсхапіўся, нібы з гарачай патэльні, і, спалоханы да поўсмерці, у адных падштаніках прыбег дахаты. Што такое? У чым справа?

— Нячысцік, ах, божа, нячысцік!—крычаў Анупрэй, — адчыняй хутчэй, баба, хату.

Назаўтра, узброены сякерай, Анупрэй пазваў з сабой людзей і пайшоў у гумно. Аказваецца на саломе побач з адзежаю Анупрэя адпачывала сям‘я вожыкаў, і ён, распрануты, у пацёмку лёг на іх.

— Пакажы!—крычалі ў зале.

Але „Цімох“ адмовіўся выканаць просьбу гледачоў. Дзед Анупрэй вельмі не любіў, калі яму ўспаміналі гэты выпадак. І „Цімох“, ці то так па п‘есе яму патрэбна было, ці то так чаго, нездаволены нечым, накінуў сцэну.

Але публіка ўжо не хацела нават звяртаць увагі на другіх герояў.

— Змітрака, Змітрака,—чулася адусюль.

У гэты час па невядомай прычыне закрылася заслона. За заслонай сумятліва бегалі артысты. Публіка не супакойвалася, ляскала ў ладкі, стукала нагамі аб падлогу.

— Змі-тр-ра-ка!

Раптам заслона зноў адчынілася. Публіка ўсё яшчэ настойліва гукала Змітрака, але тут здарылася такое, чаго не прадугледжваў і не чакаў ні адзін чалавек у зале. На сцэну вышаў комсамолец Змітрок, той што ўмеў іграць на сцэне дзядоў, самы сапраўдны Змітрок, у звычайным сваім адзенні, і ён вёў за сабою „Цімаха“ у лапціках, з барадою, з кавенечкаю...

— Таварышы,—прабачальна сказаў Змітрок. Зала ў замяшанні прыціхла.—Вышаў, можна сказаць, падман зроку. Я, гэта значыць я, а „Цімаха“ іграў сапраўды дзед Анупрэй, наш калгасны пастух, без ніякай маны. Так што, значыць, я тут ні пры чым...

— Якая тут можа быць фальш?—строга сказаў Анупрэй.

Некаторы маленькі адрэзак часу ў залі панавала абсалютная цішыня.

— Ну, вось, я так і ведала. Адзін падман,—горда адвярнуўшыся заявіла фельчарава жонка. Але канца яе „умозаключительной реплики“ ужо не было чуваць. Уся зала, пачынаючы ад першых радоў і канчаючы Сапронам, які сядзеў каля задняй сцяны, патанула ў дружным здаровым рогаце.

Вось да чаго давяла дружба багамольнага калісьці Анупрэя з комсамольцамі.

(в. Міхалкі—1937 г.)

*А. Гурло*

# ЛЕНІНГРАД

Ты сэрцам быў пролетарыята
Ва ўсе вякі свайго жыцця.
Красой і веліччу багаты,
Ты нёс адважна волі сцяг.

Плывуць на памяць успаміны,
Усё перажытае ўстае,
Як вобраз любае дзяўчыны,
Як палкі бляск вачэй яе.

Узняўся ўвысь ты над прасторам
Шырокіх вуліц і пляцоў,
Глядзішся ў люстранае мора,
Імкнешся ў цэнтр з усіх канцоў.

У тваіх садах, бульварах, скверах,
На выспах, ў сплеціве алей
Калісь гуляў я, поўны веры,
І сэрцам рваўся ўсё далей,

Далей ішоў я сцежкай свежай
Да сёняшніх шчаслівых дзён,
Шукаў прыволля і бязмежжа
Праз мару і салодкі сон.

Бываў не раз я на улонні
Нявы шырокай ў чаўнаку
І цалаваў сваёй ўлюблёнай
Цішком і шчокі і руку.

Шаптаў пяшчотныя ёй словы
І кляўся ў шчырасці не раз
І вёў сур'ёзныя размовы
На беразе у ночны час.

Шагамі я цябе абмераў,
Аб'ездзіў ўпоперак і ўдоўж,
На барыкады ішоў з верай
Пад куль свінцовых спорны дождж.

Я штурмам браў палац і крэпасць,
Ламаў сцяну вінтовак, пік
І нібы шкуматы, атрэп‘е
Нізаў я юнкераў на штык.

Я дань прынёс, хоць і малую...
Прымі яе, жыві, красуй!
Я сцяг чырвоны пацалую
І ў даль адважна панясу.

Астаўся памятным на векі
Вялікі дзень вялікіх дзей,
Калі знішчаў прыгнёт і здзек я
І сведкам быў усіх падзей,

Даступных чалавечай волі.
Тады я прысягаў табе,
Я кляўся не здраджаць ніколі
І быць заўзятым ў барацьбе.

І вернасці стрымаў я слова,
Я поспехам краіны рад.
З жыццём цяпер вітаю новым,
Шчаслівы, горды Ленінград!

*М. Цэлеш*

# АБАВЯЗАК

У шпіталь Ваню прывезлі пад вечар. Раніцою-ж, калі ён высунуў галаву з-пад коўдры, на яго пазірала пара блакітных, ласкавых вачэй з ложка, што стаяў побач яго. Яны пераглянуліся. Блакітныя вочы падміргнулі, нібы гаворачы: „Будзем сябрамі!“ І тады з-пад коўдры высунулася ўся галава з жаўтаватымі валасамі, якія тырчэлі ва ўсе бакі.

Чалавек скінуў коўдру з плячэй і хуткім парывістым рухам сеў на ложку. Быў ён яшчэ зусім малады, гадоў пад дзевятнаццаць не больш. Твар яго быў вельмі веснушкаваты. Я памятаю, мы ў дзяцінстве такіх звалі „кнігай“. Кароткі, задзірысты нос быў паднят кверху.

Калі ён сеў, сарочка на грудзях расхінулася і Ваня ўбачыў на левым плячы, трохі вышэй сэрца, белую перавязку.

— Ну, як?—спытаў малады чалавек весела, яшчэ раз падміргнуўшы блакітнымі вачамі.—Як спалася на новым месцы?

Ваня падзякаваў за ўвагу і адказаў:

— Так, нічога сабе! Добра. На фронце... дзе папала ляжаш... пад дажджом, на мёрзлай зямлі...

Ваня не дагаварыў, зморшчыўся ад болю ў параненай назе. Яму захацелася выпрастаць яе. Ён заварушыўся. Малады чалавек хутка скочыў з ложка, падбег да Вані, пачаў яму дапамагаць:

— Чакай, чакай! Вось так! Вось так,—гаварыў ён, падкладаючы пад Ваню руку.

Рана Ванінай нагі, па сутнасці, была пусцяковая, але пакуль ён дабраўся да шпіталя, яна закарэла і ўспухла.

Калі боль сціх, Ваня сказаў:

— Ты-ж таксама паранены?

— Так! Вось,—ён паказаў на перавязанае плячо.—Але мне надакучыла тут!—Ён уздыхнуў.—Хутчэй бы на фронт!

Змоўклі. У палаце больш нікога не было. Стаялі яшчэ тры пустыя ложкі. Было чуваць, як цікае гадзіннік. У калідоры, ды з суседняй палаты чуліся стогны цяжка параненых. Малады чалавек павёў рукой па сваіх рыжых валасах, прапускаючы іх паміж даўгіх, худых пальцаў. Ваня ляжаў, закінуўшы галаву ўгору, з адкрытымі вачамі.

— Я табе не перашкаджаю?

— Не, не! Калі ласка,—адказаў Ваня, не кратаючыся.

— Мяне завуць—Пецька,—сказаў раптам малады чалавек.—Пётра Сокалаў!—А цябе?

Ваня павярнуў галаву, яшчэ раз зірнуў на таварыша і назваў сваё імя і прозвішча.

— Чыркоў, значыць, Ваня! Добра.—І потым, неяк у задуменні:— Чыркоў?! Чакай! Чыркоў!? Нешта знаёмае. Ты якой часці?

Ваня назваў сваю часць.

— Тфу ты! Дык мы-ж з аднаго палка! Госпадзі!—Пеця з радасцю пазіраў на Ваню.—Ты даўно з фронта? Ну, як там, гавары! Дзянікінцаў не адкінулі?

— Не, браце! Справа дрэнь. Вось, дні тры таму, пашлі ў наступленне, а нас з тылу нейкая сволач на кулямёт... Калі не выявяць здраднікаў, справа дрэнь! Орол аддалі...

— Орол аддалі?!—раптам крыкнуў Пеця. І потым працяжна, у задуменні:—Аддалі Орол! О, госпадзі!

Вясёлы бляск яго вачэй патух. Твар зрабіўся белым. Рухі амярцвелі. Ён бездапаможна асунуўся на падушку...

Палату зноў агарнула цішыня. Ваню здалося, што Пеця, накрыўшыся з галавой шорсткай коўдрай, плача. Ён ляжаў не варушачыся і пазіраў угору. Зноў—ціканне гадзінніка, стогны з палаты цяжка параненых, толькі што дастаўленых з фронта.

Прайшло некалькі хвілін.

— А тут спрачаюцца: не возьмуць, не возьмуць!—пачуў Ваня ціхі голас.—А ў мяне бацька, і матка, і сястрычка там...—Зноў ціха—ціканне гадзінніка, стогны. Раптам:—Не! Я не магу! Не магу! На фронт!..

Ваня памалу павярнуў галаву. Пеця з заблытанымі валасамі, ухапіўшыся абедзвюма рукамі за сарочку на грудзях, нібы жадаючы вырваць сэрца, з бліскучымі, страшэннымі вачамі, зноў сядзеў на ложку. Зараз ён не падобен быў на бесклапотнага, вясёлага юнака. Яго твар быў зморшчаны і выяўляў непераможны ўнутраны боль. Бровы нахмураны. Ён быў падобен на чалавека, які вырываецца з жалезных пут, якія да крыві рэжуць яго цела. Па твары яго кацілася светлая сляза...

* * *

Назаўтра Пецю, з выгляду, стала зусім дрэнна. Пасля абеда, учора, ён накінуў на плечы халат, усунуў ногі ў пантофлі і, нікому нічога не сказаўшы, пашоў у клуб. Там вісела карта з абазначэннем лініі фронта. Ён доўга стаяў перад гэтай картай, усё глядзеў, вывучаў. Потым доўга корпаўся ў старых газетах, шукаючы зводак з фронту. Потым вярнуўся, лёг на ложак і закрыўся коўдрай з галавой.

Калі прышоў на абход доктар, ён высунуў галаву з-пад коўдры і папрасіў:

— Доктар, выпішыце мяне, калі ласка? Ну, што я буду тут валяцца?..

Доктар зірнуў яму ў вочы і сказаў:

— Ээ, аднак, я бачу, вам сёння горш!

Ён узяўся за руку Пеці і пачаў слухаць пульс.—Пульс учашчаны!

— Не! Гэта я так,—наеўся многа кашы—пад сэрца падпірае...

— Ну-ну! Вы мне не выдумляйце,—жартам, але сурова, паківаў пальцам доктар.

Пад вечар Пецю стала яшчэ горш. Паднялася тэмпература. Пеця не паказваўся з-пад коўдры. Меркавалася, што ён прастудзіўся.

Назаўтра тая-ж просьба да доктара:

— Выпішыце, калі ласка!

— Што вы? Што вы?—закрычаў доктар.—Вам горш, значна горш, а вы—на фронт! Паспееце.

— Ды гэта ад таго, доктар, што я тут, доктар. Далі бог, доктар! Мой абавязак, доктар, вы разумееце, доктар... Орол!.. бацька, матка, сястра...

І ён не дагаварыў, і адвярнуўся ад усіх і хутчэй закрыўся коўдрай. Доктар ласкава сказаў:

— Трэба паляжаць, галубок! Папраўішся, галубок, тады паедзеш дахаты, адпачнеш...

* * *

Пасля камісіі Ваня, у кампаніі з другімі чырвонаармейцамі, выпісанымі з шпіталя, ехалі на фронт. Ваня меркаваў, што пры развітанні Пеця засумуе. Выйшла наадварот. Ён сёння ўстаў і падбадзёрыўся.—Што-б гэта азначала?—падумаў Ваня.

Пасадка была марудная. У дзвярах кожнага вагона стаяў ўзброены чалавек, які правяраў не толькі білеты, але і дакументы, куды і чаго пасажыр едзе. Раз'язджаць попусту не хапала месца.

Была зіма і з вагонаў праз аддушыны валіла пара. Мяцеліца свістала ў рэйках...

У вагоне было цесна, душна. Куфэркі, мяшкі, пакункі—усё гэта ехала разам, у багаж нічога не здавалася. З верхніх полак звісалі ногі.

Ваня з кампаніяй знайшлі вольную верхнюю полку і пачалі размяшчацца. Толькі што яны скінулі шынелі, каб заслаць полкі, як перад імі з'явіўся Пеця.

— Божа! Што я бачу?.. Ці не сплю я?—сказаў Ваня, здзіўлена пазіраючы на Пецю.—Каб гром вот зараз ударыў, хутчэй бы паверыў... Якім чынам?!

— От...—Пеця весела ўсміхаўся.— Адна ўмова—калі прыдуць правяраць, схавайце мяне дзе-небудзь на верхняй полцы!..

Хвілін некалькі ехалі моўчкі.

— А якім чынам ты трапіў у вагон?

Пеця расказаў, што ў той час, калі чырвонаармейцы адыходзілі з шпіталя, ён надумаў уцячы. Падгаварыўшы сястру, што яму трэба схадзіць у горад, ён загадзя атрымаў сваё абмундзіраванне. Як толькі чырвонаармейцы пашлі, ён сеў на трамвай, і прыехаў на станцыю. У вагон, праўда, не пускалі. Пеця прыдумаў такі план: схавацца дзе-небудзь за дзвярамі, пры выхадзе к вакзалу, схаваўшы загадзя шапку ў кішэню шынеля. Другіх рэчаў у яго ніякіх не было. Адтуль ён сачыў за пасадкай і бачыў, у які вагон селі таварышы. Як толькі поезд крануўся, ён, раптам, вырваўся з сваёй

засады і кінуўся да вагонаў. Ухапіўшыся за ручку вагона, у якім былі яго таварышы, ён ускочыў (без шапкі) на ступеньку. Часавы сурова запытаў:

— Ты што?

— Адстаю!—крыкнуў праз дзверы Пеця.—Адчыніце хутчэй! Там рэчы.

Часавы зірнуў на голую Пеціну галаву. І дзверы перад ім адчыніліся...

Як толькі кандуктар заглядаў у вагон, чырвонаармейцы хавалі Пецю на самай задняй верхняй полцы і закладалі яго чамаданамі, мяшкамі і пакункамі пасажыраў.

* * *

Усю дарогу Пеця быў шчаслівы і радасны. Ад яго хваробы нібы нічога і не заставалася. Ён выдумліваў, смяшыў таварышоў і сам смяяўся. Толькі калі-не-калі ён задумаецца, уздыхне і запытае:

— А ці могуць дзянікінцы прайсці вёрст шэсцьдзесят за адны суткі?

На гэтай адлегласці ад Орла жылі яго бацькі. Праз суткі чырвонаармейцы павінны былі быць у сваёй часці. Пецю ўвесь час здавалася, што як толькі ён прыедзе ў полк, наступленне ворага будзе спынена.

Але, нечакана, поезд павярнуў з вузлавой станцыі на Орол. Атрымаўшы весткі, што дзянікінцаў разбілі і пагналі далёка, за Орол, Пеця аж падскочыў угору. Ён трос над галавою газетай і крычаў:

— Даёш фронт!

У штабе палка ад'ютант, прымаючы дакументы ад таварышоў, пытаў:

— Ну, а ты, таварыш Сокалаў?! Што-ж мне з табой рабіць?

— На фронт, таварыш ад'ютант!

— А назад у шпіталь зараз не хочаш?

— На фронт...

Ад'ютант падумаў:

— Не, пачакай! Перавязку ты яшчэ не скінуў. У мяне тут ёсць вакансія: мне патрабуецца добрапісьменны і надзейны чалавек. Як раз табе гэта падыходзіць! Заставайся пры штабе для асобых даручэнняў!

Пеця выцягнуўся перад ад'ютантам і сказаў:

— Я павінен быць там, таварыш ад'ютант, дзе я больш патрэбен. Калі...я...

Голас яго задрыжэў і асекся. Веснушкаваты твар заліўся чырванню і на ілбу выступіў пот.

А'дютант сказаў:

— Так, ты зараз больш патрэбен тут!

Пеця выконваў свой абавязак сумленна і акуратна да канца вайны.

1937 г.

*Ів. Грамовіч*

# ШАВЕЦ ВУЛЬФ

Вестка пра Грышку Шумігая, які некалі год шаснаццаць з гакам таму назад у самую калатню выкарабкаўся ад смерці, астаўся жыць і тады-ж назаўтра ў грукотным свеце бясследна кануў па сёнешні дзень, глыбока кранула Вульфа. Ён калісьці больш чым хто турбаваўся па гэтым хлапчуку і нават пасля, страціўшы аб ім чуткі, усёроўна, як бацька па сыну, успамінаў яго на працягу доўгіх год. Стары Вульф не мог забыць яго, таму што наогул чалавек не можа выпусціць з памяці самых найгоршых і самых найлепшых часін пражытага. З імям Шумігая пераплецены ўспаміны першыя, а што датычыцца другіх, то аб гэтым гутарка ідзе ніжэй.

Вульф яшчэ ад вясны збіраўся паехаць у горад, дачку адведаць і зяця, унука паглядзець, але ўсё неяк не выпадала і не ўдавалася. Дабрацца туды яму, такому калеку, які не мог паварухнуцца—каштавала многа здароўя. Яму, як хвораму, мала спрыяла ў паездцы. Яго мясцовасць была ў баку ад прамых шляхоў: кілометраў трыццаць ад чыгункі, балоцістая і спаласаваная грэблямі. Калі ехаць на станцыю ад мястэчка таго, дзе ён жыў, то адлегласць і затрата часу амаль такія-ж самыя, як і ў горад. Прытым, не вельмі радавала Вульфа язда падводай. Ён толькі ў зімнюю пару саннай дарогай згаджаўся ехаць, бо тады не так трэсла і падкідала яго скалечанае цела. Ехаць зараз падводаю, калі глядзець на час, блізкі к новаму году, то праўда—можна было-б, але як на тое сёлета снегу выпала мала, зямля ўсюды голая, грэбля чорная, мёрзлая, грыміць пад коламі, як жалезны мост. Такой дарогай выбрацца, за блізкі свет-то не прыехаць. Яго падвозілі калясмі ў жніва, дык ён адхварэў гэта. Пасля такога падарожжа ламала косці, гнула ў дугу, вострым болем праціналa нутро. Ён тады стагнаў, прасіў дапамагчы перавярнуцца і, калі ў хаце нікога не было, сам памаленьку, войкаючы, пераварачваўся на другі бок.

У старога такой хвілінай набягалі кроўю вочы, ён лаяўся на сваё гора і праклінаў мінулае.

З чаго яму так у здароўі сталася—аб гэтым усе тутэйшыя ведалі. Яшчэ даўней ён быў дужы, здаровы чалавек, вядомы майстар шылца і малатка. Памяталі, як ён папраўляў неданоскі, прынесеныя людзьмі. Поўная хата яго была завалена кажурынамі, а дзеці капаліся ў іх і самі былі падобны да гэтых абрэзкаў. Нерухавая была шаўцова спецыяльнасць. Бяднейшым папраўляць абутак мала даводзілася, яны больш лапці насілі, а таму часта сядзеў шавец з вольнымі рукамі ў сваёй ні-то будцы, ні-то паветцы ад дажджу

(пазалетась яе калгас знёс і агарод пасеяў), і чакаў працы, як чакае ветра ў полі, распасцёршы крылле, ветраны млын. Запрацаваны-ж кавалак хлеба трэба было дзяліць між малымі дзяцьмі і хворай жонкай. Так каціласся жыццё яго, дзе скокам, дзе бокам. Асабліва вясной адной цяжкое становішча спасцігнула яго: дзеці ад голаду пачалі пухнуць. Шавец ахвяраваў апошнія сухія скарынкі хлеба галоднай сям'і, а сам з торбай капылоў за плячыма пайшоў па ваколіцы. Дзе ў бяднейшых перадыхне з дарогі, дзе вады нап'ецца ад смагі, ды ўсё далей шукаць хутароў—заработку. Як не стараўся ён прыпыніцца на працу ў той дзень, перапытаў не аднаго спатканага чалавека—праца не здаралася. Да змроку ён зайшоў далёка на ўсход ад свайго мястэчка, апынуўся ў лясістай мясцовасці, знямогся: лёгкая зранку торба з інструментам, цяпер гнула шаўца да зямлі, зморанасць касіла ногі, мутнела ў вачах і парнае вячэрняе паветра палесся апякала спацелы твар.

Начаваў шавец у лясніка. Гэта людзі былі добрыя, ён—мужчына пажылых гадоў, з паходкай сяўца, гаваркі, і яго жонка—ветлівая кабета, гасцінна прыняла падарожніка. У сям'і яшчэ былі дзяўчына-дачка і два хлопчыкі меншых. Перакусіўшы раз за ўвесь дзень, Вульф перад сном расказаў аб усім сваім жыцці, якое прымусіла яго вандраваць па свеце. Ляснікі паспачувалі беднаму чалавеку і ляглі спаць. А поўначы шавец пачаў кідацца на пасцелі і застагнаў, яму здавалася, што нехта ўзваліў велізарны мех з малаткамі і капыламі і хоча яго задушыць. Ляснічыха гэта пачула, запаліла агонь, намачыла кампрэс і да самай раніцы пільнавала хворага. Назаўтра ляснікоў сын занёс у мястэчка шаўцовай сям'і два вяслы сушаных грыбоў. Як прыказаў ляснік, так і перадаў хлапчук сям'і, што іх бацька працуе на вёсцы, не турбуйцеся— здароў і прыслаў свой першы заработак. На самай-жа справе шавец праляжаў у лясніка цэлы тыдзень. Добрая ляснічыха гатавала лякарствы з лясных траў, даглядала, так што па гэтым часе, шавец устаў бледны і высушаны хваробай, але трывалы на нагах і мог пайсці ў дарогу. Вульф не ведаў, як аддзякаваць на развітанні. Ён прасіў прабачэння за клопат, абяцаў за гэта пашыць хоць што, у любы момант, заўсёды, без ніякіх плат. Ляснік яшчэ на дарогу даў гасцінца дзецям—жывую дзікую качку, што той дзень злавіў у лесе, і правёў шаўца на бальшак.

Хоць Вульф паабяцаў аддзякаваць лясніку чым-небудзь, але гэта выканаць яму не прышлося. Шавец пасля заўсёды, у той лясістай старане бываючы, заходзіў начаваць, але ніякай працы ў лясніка не траплялася. Наогул, праца шаўцу магла быць толькі ў багацейшых. Аднойчы яна здарылася ў Барановіча (быў такі на вёсцы гаспадар). Вульф у яго зрасходваў тры валовыя скуры. Час быў у канцы вайны, палякі адступалі. Ці не думаў тады Барановіч разам з імі ехаць. Хто яго ведае, бо ў апошнія дні, як дачуўся, што хутка большэвікі прыдуць, дык пачаў усёй сям'ёй таропка збірацца і клумкі вязаць, а пасля наваліўся на шаўца, каб той хутчэй упраўляўся (відаць гатовы абутак з сабой хацеў забраць). Работа ляжала вялізная, днямі і начамі сядзеў Вульф, нарабіў гаспадару, думаў дарэмна не абыйдзецца. Такі поспех вочы заліваў

потам—неяк цэліў у цвік, а папаў малатком па пальцы. Адкусіўшы зубамі акрываўлены збіты ногаць, шавец, не гледзячы на боль, выбіваючыся з сіл, спяшаўся. Калі працы блізіўся канец, і яшчэ заставалася ў адным боце капыл выдраць, гэтымі часамі наехалі польскія легіёны.

Казалі, што іх у ляску партызанскі атрад затрымаў, а з усходу націснулі чырвоныя войскі, іншага шляху, як сялом, не было, так што і загрузлі белапалякі на грэблі. Як восы раздражненыя ўваліліся пасля прарыву на вёску; ведама, партызанаў гурток быў, колькі меў сілы, столькі і супраціўляўся. Усё-ж атаман (малады местачковы яўрэй кіраваў) уцёк з рэшткай таварышоў, не злавілі ў лесе. Даведаўшыся аб гэтым, афіцэр загадаў... усіх яўрэяў на сяле перарэзаць.

Таксама была кароткая расправа і з тымі, хто меў дачыненні да партызан. Пад гэту расправу трапіў і ляснік, што выратаваў галоднага шаўца. Легіёны дачуліся, што ў лясніка партызаны начавалі, што ён іх вадзіў лесам па невядомых нікому сцежках што ён дапамог уцячы атаману партызанскага атрада. Ляснік за гэта быў прыгавораны к растрэлу, лясьнічыха і адзін сын—укінуты ў агонь падпаленай хаты азвярэлымі пазнанцамі. Дачку лясніка афіцэры ў сяле замучылі, да прыходу чырвоных яе цела валялася ў канцы вуліцы ля плоту ў крапіве—пахаваць труп было недазволена. Адзін хто астаўся жыць з сям'і ляснікоў—гэта Грышка. Ён знік з дому перад расправай і таму не заўважыла яго варожае вока. Малое дзіця назаўсёды прапала ў лесе. На гэтым было ўсё, што ведалі людзі пра апошнія хвіліны жыцця лясніка, прозвішча якога было Шумігай.

Барановічава парабчанка перадала Вульфу аб тым, што пачула на вёсцы. Яна раіла Вульфу ўцякаць праз акно. Толькі было позна—звон шпор пачуўся ў барановічавых сенцах.

— Хто жыве тут?—закрычаў жаўнер.

— Паночак!—выпала з рук шылца ў Вульфа,—каго вам патрэбна? Тут свае.

З працягнутымі наперад рукамі вышаў на хату Барановіч:

— Вітаю вас з прыходам, панове...

Шавец стаяў акамянелы і ў вачах яго паблісквала невыразная надзея. Барановічавы перагаворы адцягнулі ўвагу жаўнераў на прысутнасць Вульфа. Падазронасць на яго была невялікая, ды і размаўляў Вульф чыстай беларускай мовай, магчыма закончылася-б усё спакойна, каб не Барановічыха, якая не хацела плаціць за працу і за гэта выдала шаўца.

З бізуном п'яны афіцэр вярнуўся ў хату:

— ?

— Не-е! Паночкі, я не яўрэй. Што вы?—з прыдушанай усмешкай і перапалоханым тварам, наўмысна ласкава здзівіўся Вульф. Яму тады здалося, што ў гэтым слове наліта ўсё нявартае на свеце, самае агіднае, немаючае права жыць,—я не яўрэй. Панок! За што мяне?

Афіцэр выхапіў з рук Вульфа бот з капылом і важка ўдарыў па галаве шаўца. Шавец узмахнуў рукамі і тут-жа асунуўся на

кучу капылоў. Ачуняўшы, ён папоўз у ногі афіцэру. Просячы жыцця, ён стараўся не вымавіць слоў на роднай мове; яны яго страшылі, як страшыць чалавека атрута, што трапіла на язык. Просьбы не дапамаглі, яго выцягнулі з хаты і з высокага барановічавага ганку кінулі галавой уніз. Нешта хропнула ў спіне шаўца, яму засланіла свет, ён страціў прытомнасць.

Толькі ў чалавека, што прывык многа цярпець і трываць гора, не лёгка адабраць жыццё. Ён астаўся жыць, яго сагнула ў крук, на спіне горб вырас, быццам капыл стырчма выперла той, што Вульф не паспеў выняць з Барановічавага бота.

Адышліся гады ад гэтага здарэння. Вульф пра яго, бывала, расказваў і тутэйшыя выразней памяталі здаровага працавітага шаўца. Ён пасля многа хвараў, пастарэў, відавочна здароўе стала слабое. У дажджлівыя хмурныя дні ён скардзіўся на ламату ў суставах касцей. Хадзіць далёка не мог. Усе далёкія дарогі старому сталі недаступны, ён адчуваў сябе, як у клетцы, загарожу ў якой паставіла само жыццё. Гэту загарадку ён пералезці не мог, нават зараз, калі надыходзіў новы год. Як на тое, дарога добрая не клалася, марозы стаялі сіверныя і сухія,—усё нібы супярэчыла яго жаданню паехаць у госці да дачкі. А гэта жаданне яшчэ больш узрасло тады, калі Вульф дачуўся пра Грышку Шумігая. Вестка яму даляцела вось пасля чаго:

Тое скалечанне многае адняло ў жыцці шаўца, але яно пакінула яму ахвоту да працы. Часамі, як шаўцу здаровілася, ён тады, па старой звыкласці, журыўся па малатку і шылцу.

Аднойчы гарбаты шавец ціханька падкраўся ў калгасную майстэрню і паўдня любаваўся з сваёй даўнейшай спецыяльнасці. Ён пакапаўся ў шавецкіх прыладах вялікай гаспадаркі, пагутарыў доўга з рымарамі, паказаў маладым як шыць і вечарам пашоў. Назаўтрае ён не вытрываў, яму сталяры змайстравалі адмысловае крэсла сядзець, і з гэтага дня Вульф пачаў мала-па-малу набываць ранейшую вядомасць.

Нешта ўвосень калгас пасылаў у Чырвоную армію гадаванца-жарабца. Усё лета даглядалі, як дамоўлена было, пачалі рыхтавацца пасылаць падарунак. Конь быў такі жвавы, стаіць як лялька, галаву трымае, як свечку, чырвоны, грыва львіная,—проста не наглядзецца ўсім было. Неяк вялі ад вадапою яго, дык Вульф разагнуўся, абапёрся рукой аб бярозу і правёў па вуліцы ўсцешаным паглядам. Потым спаткаўшы старшыню калгаса, шавец прапанаваў пашыць на каня вупраж. Працу браў на сябе. Старшыня ахвоча згадзіўся.

Дні чатыры Вульфа ўсе бачылі ад відна да цямна ў калгаснай майстэрні. Да яго разы тры на дзень заходзіў старшыня і гэта яго падбадзёрвала. Збруя ўдалася якраз да каня, нібы ён у ёй гадаваўся. На сядле зоркі, нібы дзяўчына вышыла, гузікі свяцяцца пазалотай, аброць з кутасамі. У вызначаны дзень, цэлым гуртам калгаснікі праводзілі працэсію за сяло ў горад.

У горадзе тым часам была ўрачыстасць. Прыехаў нарком з Масквы і прымаў парад ваенных часцей. Калгаснікі таксама паказалі баявую гатоўнасць. Доўгай шарэнгай стаялі буланыя коні

на іпадроме ў горадзе. Казалі, сам Будзённы пра жарабца з вульфавага калгаса сказаў:

— О, гэта конь! Такія мне ў конніцу і патрэбны!

Узяў за павады каня, паглядзеў на вышыванае сядло, усміхнуўся ў пышны вус, сеў і, як птушка, кажа, праляцеў па іпадроме.

Назаўтрае Вульф, праціраючы светлыя вочы, углядаўся на фатаграфію ў газеце, прынесеную старшынёй. Стары радасным сэрцам адчуваў сваю вартасць і неяк па старэчаму ганарыўся сабой.

Пасля ўсяго гэтага вядомасць пра Вульфа разыйшлася яшчэ больш. Як пахаладнела, з калгаса далі валёнкі, далі яму цёплы кажух. Пабрыўся быў шавец і нібы памаладзеў.

Восенскімі вечарамі, калі за акном па мёрзлай зямлі вецер шастаў сухім лісцем, збіраліся ў яго і гутарылі, успаміналі мінулае. Навіна аб тым, што сын нябожчыка лясніка быццам-бы жывы і знаходзіцца ў горадзе, заняла гаворкай увесь вечар. Асабліва нахвалявала гэта скалечанага шаўца.

— Мужчыны, гэта можа другі які,—казаў ён.—Ці мала Шумігаяў на свеце? Тады-ж Туманіха казала, што назаўтрае хадзіла на папялішча лясніковай сялібы і знайшла абвугленае цела Грышкі.

— Пэўна, гэта быў большы іх, Юзік,—паправіў Даніла.

Вульф сумаваў:

— Няшчасны Шумігай, я-ж яго так блізка ведаў. А яна, такая добрая кабета, гэтак клапацілася, як я быў хворы. Бедныя дзеці, не пабачылі свету, пагінулі без пары, як і бацькі. Помню Грышачку, такі вёрткі хлапчучок быў. Ляжу я на пасцелі, а ён: „Дзед, вады можа падаць?“ От нядоля спасцігнула іх, але скажыце, мужчыны, усю сям‘ю? Не-е, гэта другі Шумігай. Столькі год прайшло, не чуваць было голасу, ды раптам з‘явіўся? Ніколі не паверу. Калі не загінуў у пажары ён, то можа ў тую навальніцу адпоўз ад хаты, як мышанё ад раскіданага гнязда на полі, ды і прапаў у такім-то свеце.

Адыходзілі мужчыны; Вульф чуў, як за акном свістаў сівер, які і без таго студзіў балючае сэрца, агорнутае ўспамінамі. Заныла спачатку ў баку, пасля закалола ў скалечаную спіну— Вульф лёг у пасцель. Гэту ўсю ноч сон не падступаў да яго.

Аднойчы зайшоў да шаўца старшыня калгаса. Вульф толькі што вярнуўся з майстэрні.

— Дзеду далёка хадзіць на працу,—сказаў ён.

— Я гэта і сам, братачка, думаў,—грэў рукі пры печы шавец.—Каб мяхі два якіх прычындалаў перанесці з майстэрні да мяне ў хату, то я-б на месцы ўпраўляўся.

— Не гэта я хацеў сказаць,—усміхнуўся старшыня.—Дзед, работы ўсёй не пераробіш. Шануй здароўе свае, а таму я кажу— у майстэрню, пакуль холадна, не ідзі.

Шавец запратэставаў, але старшыня перапыніў.

— Едзем, дзед, заўтра ў горад? Ты мне, здаецца, гаварыў што хочаш паехаць.

Гарбаты адступіўся ад печы, удзячна паглядзеў у вочы старшыні і махнуў ненадзейна рукою.

— Сапраўды!—усур'ёз гаварыў старшыня,—сядзем са мною ў аўтамабіль і паедзем.

— У аўтамабіль?—пачасаў бараду шавец,—а другі горб на спіне не вырасце?

— Не палохайся, ехаць не кепска будзе, збірайся!

Праўда, ехаць было не кепска. Мякка і лёгка аўтамабіль каціўся па шашы. На здзіўленне старога на ўсім шляху ніякіх землятрасенняў не адбывалася, ён ляжаў як у падушках.

Гэты дзень праходзіў у Вульфа, як ніколі. Дачка бязмерна радавалася бацькаваму прыезду. Вечарам яны сабраліся ўсёй сям'ёй і наладзілі банкет. Ёлка зіхацела. Дзеці кружыліся навокал яе і спявалі. За акном свяцілася гарадская, навагодняя ноч. Відаць былі пазалочаныя контуры Дому Урада, нібы край неба ўзыходзячага сонца.

Тым-жа вечарам даіх пастукаўся нехта ў дзверы. Юнак, сярэдняга росту, з партфелям прышоў і паведаміў, што ён будзе шчотчык па перапісу насельніцтва.

— Калі ласка, сядайце!—прапанавала маладая з твару жанчына, Вульфава дачка.

— Дзякую! Ваш дом апошні ў нашым перапісным участку, але па мяне павінен зайсці таварыш мой, дык я завіхаюся...

— Нічога, яшчэ не так позна,—казала гаспадыня.

Шчотчык быў падатлівы да размовы. Прысеўшы запоўніць перапісныя бланкі, ён расказаў, што сам студэнт аднаго інстытута і, што яму і яго таварышу, які павінен зайсці сюды, даручылі перапісаць увесь гэты квартал горада.

Калі запаўняў бланку пра нетутэйшага Вульфа, ён зазначыў:

— Я вашу мясцовасць чуў. Мой таварыш родам адтуль. Як дзеда па нацыянальнасці запісаць?

— А хто такі?—зацікавіўся Вульф, нібы не чуў запытання.

— Шумігай! Можа сустракалі?

— Грышка! Шумігай!!—усхапіўся аглушаны Вульф,—дык ён жыў? Дзе давялося бачыць яго?

— Мы жывём разам у інстытуце. У яго бацькоў няма.

— Ведаю, дзеткі! Дзе-ж ён жыў дасюль?

— Казаў, што ў войску быў пасля смерці бацькі. Яго чырвонаармейцы на дарозе паднялі. Ён скора зайдзе сюды, у суседнім доме.

— Ці праўда? А можа не прыдзе? Можа гэта не ён? Пакліч, дзеткі.

Дзед так расхадзіўся па хаце, што бланку дакончыць не было як. Шчотчык казаў пра свайго таварыша, а шавец два разы перабіў: Ціха! ідзе! Яму здавалася, але нікога не было.

Шумігай прышоў пачакаўшы. Адразу з дзвярэй ён акінуў ветлівымі, як у бацькі, вачыма пакой:

— Добры вечар!

— Грышка! Сынок!—кінуўся дзед насустрач.—Гэтакі вырас без бацькі?!.

Малады Шумігай здзівіўся:

— Адкуль, дзед, майго бацьку ведаеш?

Было не распазнаць, ці шавец плакаў, ці то гаварыў:

— Як не ведаць, дзяціна... Два вяслы сушаных грыбоў... мой сынок...

Шумігай, мабыць, не разумеў старога, ён толькі бачыў, як па яго сівым твары каціліся слёзы радасці. Па просьбе сям'і ён занатаваў тут, а шчотчык перапісны ліст дапісаў назаўтра раніцай.

— Я, дзеткі, яўрэй,—сказаў Вульф, нібы ўпершыню выказаў нешта пэўнае і роўнапраўнае.—І запішы, сынок, што я шчаслівы чалавек, дарма, што на спіне маю горб.

Люты, 1937 г. Ждановічы.

*Янка Непачаловіч*

## СТАРЫ САДОЎНІК

Дзед мой быў да размоў скупаваты,
А заўсёды казаў мне калісь:
„Нешчаслівая, ўнук, наша хата.
Бо стаіць на заклятай зямлі...“

Смутак той за плячамі гадоў знік—
З дзедам радасць у дружбе жыве:
Ён цяпер у калгасе садоўнік—
Паважаны людзьмі чалавек.

Як прыходзіць пшанічнае лета—
Сонца сее агністую медзь—
Я з дзядулем іду праз палетак
У сад мічурынскіх дрэў паглядзець.

Там раяцца руплівыя пчолы,
І румяныя звіслі плады;
Там заўсёды адчуеш вясёласць
У мяккім шуме ігруш маладых.

Серабрацца у поўдзень ад спёкі
Шырачэзныя яблынь лісты.
Вішні спелыя, поўныя соку,
Палымнеюць па садзе густым.

Калектыўнай пашанай сагрэты,
Дбайна сад даглядае мой дзед.
Дрэва кожнае цэніць ён гэтак,
Як выдатную песню паэт.

Дзед згубіў да размоў скупаватасць,
Стаў зусім не такі, як калісь:
Бо стаіць наша светлая хата
На багатай калгаснай зямлі!

1937 г.

*П. Рунец*

# РАСПЛАТА

У начным баі палякі былі разбіты. Адступаючы, яны спалілі мост цераз раку. Думалі, што гэтым перашкодзяць імкліваму наступу чырвоных войск і выратуюцца ад праследвання. Ажно тут яны дапусцілі непапраўную памылку—пакінулі мост каля млына. Млын стаяў уніз па рацэ, на поўкілометра ад тракта, на астраўку, які ўтварыўся ад раздваення ракі. Каля млына яшчэ перад вайною млынар Есель збудаваў новы мост, праз другую-ж рачулку быў перакінут невялікі лядашчы мосцік, а далей ішло балота. Палякі нацэліліся спаліць і млын і масты, але не паспелі. І як толькі палякі пакінулі вёску, сяляне кінуліся будаваць праз балота ад тракта к млыну грэблю. Дарослым памагалі дзеці: цягалі бярэзнік, алешнік, лазняк. Пакуль падыйшлі перадавыя часці чырвоных, грэбля была гатова, і ўранні авангард урачыста ўвайшоў у вёску. Вольна і лёгка ўздыхнула вёска Азярцы. Азярцоўцы ад малога да старога высыпалі на вуліцу вітаць чырвонаармейскую часць. Мужчыны цалаваліся з байцамі, ціснулі ў абдымках і плакалі ад радасці, а жанчыны неслі мяса, сала, яйкі, квашанае малако—усё, што мелася ў хаце.

Нічога не шкадавалі для дарагіх гасцей. Дзяўчаты закідалі чырвонаармейцаў кветкамі. Дзеці шнырalі між павозак, коней, людзей, любаваліся пяціканцовымі зоркамі на шапках і прасілі ў чырвонаармейцаў патрымаць у руках „сапраўдную вінтоўку“.

Кожны па-свойму выражаў сваю радасць. Вуліца была поўна воклічаў, конскага іржання, смеху, бязмежнай весялосці, апавяданняў, рознастайных гукаў. Ва ўсім гэтым звінела як уздымная пераможная песня, бязмерная любоў да тых, хто вызваліў ад здзекаў, рабункаў, пакут, смерці і прынёс сапраўдную свабоду.

Сеньку доўганосы чырвонаармеец з вясёлым дабрадушным тварам даў замусолены кавалачак цукру. Сенька насіў яго, як нешта дарагое, неацэннае, паказваў бацькам, суседзям, таварышам і ўздымна казаў, што гэта яму даў вунь той „салдат“, а потым пабег у сад і ў аддзяку налупіў поўную кішэнь яшчэ зялёных яблыкаў і прынёс доўганосаму. Чырвонаармеец расчуліўся і любоўна пагладзіў Сеньку па віхрастай галаве. Седзячы ў чырвонаармейца на каленях, Сенька з зайздрасцю пaглядаў на старую жаўтаватую вінтоўку.

— Ах, каб мне такую,—думаў ён.

Яму карцела ўзяць яе і панасіць на плячах. І ўсё-ж не адважыўся.

— Дзядзя, вазьміце мяне з сабою,—раптам папрасіў ён.

Доўганосы сур'ёзна глянуў у яго блакітныя наіўныя вочкі.

— А што-ж ты будзеш у нас рабіць?

— Палякаў біць,—хуценька выпаліў Сенька і, не чакаючы, што скажа чырвонаармеец, дадаў:—яны маму білі і забралі апошняга парсючка.

Чырвонаармеец зразумеў, што ў словах Сенькі—набалеўшая злосць і нянавісць усяго працоўнага сялянства да звяроў-белапалякаў, жаданне адпомсціць за здзекі. Ён прыцісnуў яго да сваіх грудзей і растлумачыў, што Сенька яшчэ малы для такіх спраў, а „за здзекі над мамай ёсць каму адплаціць“, і ён паказаў рукою на чырвонаармейскую масу.

Адказ не задаволіў Сеньку. Яму дванаццаць год. Які-ж ён малы? Але свайго нездавальнення не выдаў, а толькі асцярожна сказаў, што ён не такі ўжо малы і мае, нават, самадзелкавую стрэльбачку. Сябры яго таксама маюць стрэльбачкі, і яны часта гуляюць „у вайну“. І ён заўсёды бывае атаманам у „чырвоных“. І „страляць“ умее. Ён ужо меўся расказаць, як аднойчы суседскаму хлопчыку Дзімку выбіла вока, але ў гэты час падбег яго шчыры сябра Вацік і таемна шапнуў: „Справа важная ёсць“. Сенька неахвотна расстаўся з другам-чырвонаармейцам. Адышоўшы ў бок, Вацік „па сакрэту“ паведаміў, што Сідараў Антоська ў кустах знайшоў затвор ад вінтоўкі. Сенька гэтаму, бадай, і не паверыў-бы, але Вацік падняў палу сарочкі і пераможна сказаў: „Глядзі“. З кішэні тырчэла галоўка курка. „Купіў“,—паясніў ён.

— Недзе павінна быць і сама стрэльба. Уцякаючы, паляк, відаць, кінуў затвор у адзін бок, а стрэльбу ў другі,—горача выказваў свае меркаванні Вацік.

— Ну, дык што?—зацікавіўся Сенька.

— А тое, што пайсці трэба і пашукаць. Тады ў нас будзе сапраўдная зброя.

Сенька, які дагэтуль з халадком адносіўся да размовы, раптам ажывіўся. У яго маленькіх зеленаватых вочках успыхнулі нецярплівыя агеньчыкі. Вацікава прапанова пачынала яму падабацца. Сапраўды, ці мала стрэльбаў пакідалі палякі пры адступленні? І знайсці можна. Варта толькі пашукаць. З'явілася непераможная ўпэўненасць, што стрэльбу знойдзе іменна ён. Сенька ўявіў, як здзівяцца ўсе ў Азерцах, калі ён будзе ісці з сапраўднай вінтоўкай на плячах. А якімі вачамі будуць пазіраць на яго таварышы! Хвалько Толік лопне ад зайздрасці. Ад прывабных мар Сенька аж заёрзаў на месцы.

— Чаго-ж стаяць? Бяжым хутчэй...

Яны гукнулі яшчэ некалькі хлапцоў і гуртам скочылі ў нечыя вароты, прабеглі агароды і выскачылі на поплаў. Воддаль (кіламетр хады) віднеліся кусты, у якіх знаходзіліся польскія акопы. Правей, на ўзгорку, была размешчана іхняя батарэя. Тут і адбываўся бой. Сюды і накіраваліся дзеці.

У кустах рассыпаліся па аднаму, як мурашкі. Сенька ішоў не спяшаючыся. Лёгкі вецярок гойдаў верхавінкі алешніку, шамацеў лісцём. Звінелі жучкі і мошкі, у траве ігралі нястомныя музыканты-цвіркуны. Каля ракі спявала невядомая птушка. Але для Сенькі нічога не існавала. Ён увесь ператварыўся ў зрок. Уважліва аглядаў кожны куст, кожную купіну, вырытую знарадам яму. Хаця-б

не прапусціць! У адным альховым кусце ён убачыў нешта накшталт вінтовачнай рулі. Сэрца яго ліхаманкава затрапяталася, і кроў ударыла ў твар. Як ачмурэлы кінуўся к кусту—ног пад сабою не чуў. Глянуў і расчараваўся: замест жаданай вінтоўкі тырчэў сухі альховы пяньчук. Настрой сапсаваўся. Гасла, як згарэўшая сярнічка, надзея на знаходку; адпадала ахвота бадзяцца. І неўзаметкі яго апанавала абыякавасць. Неўзабаве ён апынуўся каля ракі. Недалёка ад берага ў вочы кінуўся густы пышны куст лазняку. Да яго падбягала ледзь прыметная вузенькая сцежачка. Сенька спыніўся і прыгледзеўся. Трава была нахілена ў бок куста. Стваралася ўражанне, што тут нешта паўзло ў куст. Сенька зацікавіўся. Ён падышоў да куста, злёгку расхінуў гібкую лазу і асцярожна ступіў наперад. Ад нечаканасці ён уздрыгануўся, як кляновы лісток, і застыў на месцы. Перад ім стаяў высокі чалавек у шынелі і без шапкі. Твар яго быў шырокі, як дошка, бледны і нязлосны. Вострыя рыжыя вусы тырчэлі як у таракана. Вочы вялікія і дапытлівыя. Ён часта міргаў, нібы збіраўся заплакаць. На правым плячы чарнела запекшаяся кроў.

Вайсковец палажыў здаровую руку на Сенькава плячо і ласкава па-руску сказаў:—Не бойся, мальчык.

Бачачы, што вайсковец нічога не збіраецца рабіць з ім кепскага, Сенька пасмялеў і супакоіўся. Хутка ён убачыў яшчэ аднаго чалавека, які ляжаў на правым баку, сагнуўшыся крукам. Твару яго Сенька не бачыў. Той ціха стагнаў.

— Ты азероўскі?—лагодна спытаў рыжавусы.

— Ага.

— Добра,—сам сабе сказаў рыжавусы і, паторгаўшы за бараду, загаварыў далей:—„Плаваць умееш?“

— Умею.

— Маладзец! А на лодцы ездзіш?

— Добра езджу.

— Та-ак... А лодка ў цябе ёсць?

— Няма. У нашага суседа Сідара ёсць. Я часта катаюся на ёй. Яна яшчэ новая.

— А дзе-ж яна стаіць?

— Каля млына. Там Сідар часта рыбу ловіць.

— Аг-га.—Рыжавусы задумаўся.—Дык, кажаш, ля млына. А ты можаш прыгнаць яе сюды?

— Чаму не, магу.

— Вось, добра!—узрадаваўся рыжавусы і, хлопнуўшы Сеньку па плячы, пахваліў:—Бравы ты, хлапчук, бравы!—Дык вось слухай: калі прыгоніш, дам табе грошай, або вось гэту цацку.—Ён паказаў пальцам у бок новенькай светла-жоўтай вінтоўкі, якая ляжала каля ног другога.

У зеленаватых вочках Сенькі заблішчэў зайздросны аганёк. Ад радасці ён ажно закалаціўся. Вось яна доўгачаканая красуня-вінтоўка. Ён шчаслівы. Яму пашанцавала як у казцы, як у сне. Гэтак лёгка авалодаць цудоўнай вінтоўкай. Вінтоўка ды яшчэ з патронамі. Гэта-ж цэлы скарб! З-за яе варта прыгнаць лодку не адзін, а сто разоў.

— Паставіш лодку каля таго вунь куста, у аеры. Бачыш? Ну і добра. Можаш ісці. Толькі не надта хваліся сябрам,—павучальна кажа рыжавусы ўслед Сеньку.

Адышоўшы крыху, Сенька задумаўся. Твар гэтага чалавека здаўся яму дужа знаёмы. Рыжыя вусы, буйны кірпаты нос... Але дзе ён сустракаўся з ім? Дзе? Пачаў упарта прыпамінаць. І память не здрадзіла Сеньку: з дзівоснай выразнасцю паўстаў цяжкі малюнак.

... Раніца. Рыжавусы (і яшчэ два палякі) з'явіўся ў хату і густым начальніцкім басам прапанаваў зараз-жа ўнесці сто рублёў штрафу за воз дроў, насечаных у панскім лесе пры большэвіках. Грошай маці не мела. Пазычыць не было ў каго—усе праштрафаваліся. Маці пачала плакаць і прасіцца, кажучы, што ў яе пры душы капейкі няма, не то што ста рублёў. Тады рыжавусы пагрозна тупнуў нагою:

— Плаці, пся крэў...—і брыдка вылаяўся. Перапалоханая на смерць маці як стаяла, так і бухнулася ў ногі рыжавусаму, абхапіла худымі рукамі бліскучыя наваксаваныя боты і пачала ўпрашваць:

— Паночак, даражэнькі, злітуйся! Удава я, дзеці малыя. Былі-б грошы, з дарагою душою аддала-б. Пашкадуй...

Рыжавусы пачырванеў, як рак, вусы натапырыліся і нагадвалі два невялікіх штыкі. Ён злосна таўхануў нагою. Маці не выпушчала. Тады рыжавусы моцна таўхануў яе ботам у грудзі і свіснуў нагайкай. Маці дзіка ўскрыкнула і рашчапіла рукі. На кашулі заблішчэў тоўсты крывавы шнур. Рыжавусы паспешна вышаў і загадаў забраць усю жывёлу.

Усё гэта цяпер так яскрава ўсплыло ў Сенькавай памяці, што ён аж затросся ад гневу і злосці на рыжавусага. І вось гэты вораг просіць яго выратаваць. Сенька пачынае здагадвацца, на што патрэбна рыжавусаму лодка. Ён пераедзе на той бок, перапаўзе луг і ў лес... І памінай, як звалі. Зноў будзе забіваць і здзеквацца з бедных людзей. Зноў будзе збіваць бізуном, сеяць плач, енкі, кроў. Ад такой думкі Сенька хваравіта ўздрыгануўся. О, не! Гэтаму не бываць! Сенька не дапусціць, каб гэты чалавек тварыў новыя жахі. А стрэльба? Бліскучая і прываблівая, яна недзе чакае яго. Тады-ж яе забяруць чырвонаармейцы, і яму не ўбачыць яе, як сваіх вушэй. Сенька задумаўся. І амаль без хістання ён вырашыў: не патрэбна яму вінтоўка ворага, не трэба, каб і гэты чалавек-звер заставаўся на волі. Так, ён расплаціцца з ім. Ад такога рашэння стала лёгка на сэрцы, цела налілося незвычайнай радасцю, бадзёрасцю і імпэтам і ён, як птушка, паімчаўся ў бок вёскі да чырвонаармейцаў.

М. Сяліба.

*Р. Ляпіч*

# ПЕСНІ БУДАЎНІЦТВА

I

Паслядоўная, арганічная і шчырая ідэёва-творчая перабудова Янкі Купалы пачалася на этапе соцыялістычнай рэканструкцыі.

Велізарныя, гістарычныя поспехі соцыялістычнага будаўніцтва, выключныя клопаты і ўвага партыі да літаратурнага руху абумовілі сабой і карэнны пералом у творчасці некаторых беларускіх пісьменнікаў, якія трапілі ў свой час у палон нацыяналістычнай ідэалогіі, рабілі буйныя палітычныя памылкі.

Гэтаму пералому значна спрыяў разгром беларускіх контррэволюцыйных нацыянал-дэмакратаў. Выкрыццё перад савецкай грамадскасцю брудных спраў, шпіёнска-дыверсанцкага твару гэтых агідных агентаў польскіх і нямецкіх фашыстаў дапамагло тым беларускім пісьменнікам, якія ў той або іншай ступені знаходзіліся пад уплывам нацыянал-дэмакратычнай ідэалогіі, зразумець контррэволюцыйную сутнасць нацдэмаўшчыны.

Пад уздзейнічаннем усяго гэтага, Я. Купала робіць рашучы перагляд сваіх ранейшых пазіцый, самакрытычна прабуе ўсвядоміць і ацаніць сутнасць сваіх былых заблуджэнняў і памылак, становячыся на шырокія і светлыя прасторы новай творчасці. Зроблена, як кажуць, пераацэнка каштоўнасцей. Смела і самакрытычна Купала гаворыць перад тварам савецкай грамадскасці аб шкодных яго ранейшых памылках у вядомым лісце ў рэдакцыю газеты „**Звязда**“.

Гэтая рашучая, смелая і мужная самакрытычная заява Купалы не засталася голай дэкларацыяй, яна была падмацавана практыкай паэта: як грамадскай яго дзейнасцю, так і мастацкай творчасцю. Усю сілу вялікага таленту Я. Купала з таго часу аддаў на службу працоўным, свае здольнасці паэта-грамадзяніна і лірыка накіраваў на апяванне соцыялістычнага будаўніцтва.

„Год вялікага пералому“ з'явіўся адначасова і годам, які прынёс з сабой пачатак рашучага пералому, пачатак шчырай ідэйна-мастацкай перабудовы і ў творчасці Я. Купалы. Гэта асабліва відаць на такіх яго вершах, як: „Сыходзіш, вёска, з яснай явы...“ (1929), „Дыктатура працы“ (1930), „Песня будаўніцтву“ (1931) і інш.

Найбольш паказальным у сэнсе значных зрухаў у творчай перабудове паэта з'яўляецца яго верш „Сыходзіш, вёска, з яснай явы...“ У гэтым вершы, які вызначаецца вялікай ідэёвай змястоўнасцю і значнай эмацыянальнай насычанасцю, Я. Купала ўпершыню бярэцца за мастацкі паказ калектывізацыі вёскі.

У ім мы маем удалую спробу аўтара асэнсаваць гэты вялікі, гістарычнай важнасці рух, усвядоміць яго гістарычную неўхільнасць

і абумоўленасць перамогамі соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны. Адначасова ў ім паэт імкнецца паказаць і на тыя цяжкасці, што стаялі на шляху масавага руху мільённых мас працоўнага сялянства да соцыялізма, у выглядзе кулацкага сабатажа і наогул падрыўной работы класавага ворага, у выглядзе захаваўшыхся яшчэ перажыткаў уласніцкіх інстынктаў, патрыярхальных звычаяў і забабонаў у свядомасці сялянства, гэтых „радзімых плям“ капіталізма.

Кампазіцыйная структура верша характарызуецца падкрэсленым прыёмам соцыяльнага кантраста, што выяўляецца праз яркае супроцьстаўленне старой дробна - таварнай, прыватна - уласніцкай вёсцы новай совецкай калгаснай вёскі. Змрочныя часы дарэволюцыйнага мінулага Беларусі ўспрыймаюцца паэтам „як сон маркотны, нежаданы“. Кашмар мінулага дарэволюцыйнай беларускай вёскі ўвасоблены паэтам у рэалістычных, патрасаючых сваёй жудаснасцю, глыбока праўдзівых, матэрыялізавана - канкрэтных вобразах: тут і „жабрацкія торбы“, як вынік дзікай эксплуатацыі, што „высмактвала грудзі“ працоўнага сялянства; і „кайданы“; і „сібірны шлях“, па якому ішоў „твой (сялянскі. Р. Л.) патомак... шукаць прытулку, як бяздомак“, і „гарбы тваіх нямых курганаў“, дзе знайшлі свой адвечны спакой ад гора-нядолі нявольнікі працы; тут і стогны, і енкі, што выліваліся праз „тваіх жалеек спеў гаротны“; і „твае трухлявыя калёсы“, „лучына і смалякі“, як паказчыкі прымітыўнай сельскагаспадарчай тэхнікі і жабрацкага існавання сялянства; тут і „твае сівыя забабоны“ з дзівотліва-містычнымі ценямі лесуноў, русалак і вадзянікаў. Такі трагічна-змрочны вобраз дарэволюцыйнай Беларусі, як калоніі царскай Расіі, такі жахлівы малюнак дарэволюцыйнай беларускай вёскі, рэалістычна - маляўніча і глыбока - пераканаўча створаны паэтам.

Гэтым змрочным вобразам старой вёскі Купала супроцьставіць светлыя вобразы новай калгаснай вёскі і яе „вернападданага народу“, які „ідзе ўжо скінуўшы кайданы, да новай долі, новай славы“.

На новую калгасна-індустрыялізаваную вёску паэт ускладае вялікія надзеі. Ён шчыра верыць, што ў ёй хутка ўсюды „заіскрыць электрыка ўладарна“; гэта вёска не старой прадзедаўскай тэхнікі, а вёска магутных трактароў, камбайнаў, высокай сельскагаспадарчай машыннай тэхнікі, „радыёвага гоману“, што з'яўляецца рэальнымі паказчыкамі вялікага эканамічнага і культурнага ўздыму і росту калгаснай вёскі. Паэт бачыць прамяністыя далі, заможную будучыню калгаснай вёскі, радаснае і шчаслівае жыццё калгасных мас, што з'яўляецца сёння ўжо рэальным фактам.

Звяртаючыся да будаўнікоў калгаснага ладу, паэт прадбачліва-перспектыўна, мужна, з пачуццём радасці і вялікага гонару совецкага паэта, гаворыць:

Твая дзяўчына пры кудзелі
Сляпіць не будзе ясных вочак:
З жалеза прасніца надзеліць
Сукном і шоўкавым кужэлем
Сваіх сялян, сваіх рабочых.

Замест ранейшых стогнаў і енкаў, сумных, жаласлівых спеваў жалейкі ды інш., на прасторах калгаснай Беларусі паэт чуе сталёвы гуд машын, трактароў, што ўтвараюць прывабную сімфонію калгаснай працы. „Звон збянтэжаных званіцаў“ заглушыць „гудка жывучая крыніца“. Купала прадбачыць, што новае калгаснае жыццё істотным чынам зменіць нават знешні выгляд вёскі з яе патрыярхальным вясковым пейзажам:

Над вежамі тваіх бажніцаў
Фабрычны комін возьме ўладу.

Купала парывае з старой дзедаўска-патрыярхальнай вёскай, з яе дзікасцю і „ідыятызмам вясковага жыцця“, з яе сівымі містычнымі забабонамі, з той вёскай, якую паэт часамі ідэалізаваў у сваёй, галоўным чынам, дарэволюцыйнай творчасці.

Верш напісаны паэтам у пачатку калектывізацыі, у час, калі сялянства пад кіраўніцтвам і пры дапамозе пролетарыята і яго партыі пачынала будаваць у шырокім маштабе шчаслівае і заможнае калгаснае жыццё. Верш гэты характэрны і цікавы менавіта ў плане пачатку рашучай перабудовы творчасці паэта, у плане таго, што ў ім Купала здолеў унутрана адчуць і ўбачыць новыя светлыя гарызонты, што адчыняліся перад совецкай вёскай і працоўнымі масамі калгаснага сялянства, з пераходам іх да новых калектыўных форм жыцця і грамадскай дзейнасці. Адсюль і агульны тонус верша—рэволюцыйна-аптымістычны, жыццесцвярджальны.

Верш „Сыходзіш, вёска, з яснай явы...“, з‘яўляючыся пачаткам грунтоўнай ідэёва-творчай перабудовы паэта, не пазбаўлен яшчэ некаторых стылевых недахопаў, недахопаў у слоўна-мастацкіх сродках выражэння ідэёвага яго зместа. Так, напрыклад, асобныя словы і выразы ў ім гучаць пэўным дысанансам у дачыненні да агульнай яго ідэёвай накіраванасці: замест слова эксплуатацыя, паэт ужывае такі архаічны тэрмін, як „вызыск“ („смактаць не будзе вызыск грудзі“). Сустракаюцца тут і такія не зусім трапныя выразы як „усмерціць“ („твае сівыя забабоны усмерціць радыёвы гоман“), такія вобразы, як „дзяды“, што з‘яўляюцца перажыткам старой абрадавасці, ў дачыненні да святкавання гадавін Вялікай Пролетарскай Рэволюцыі:

І будуць ладзіцца год кожны
На новы лад, на новы звычай
Дзяды Кастрычнікавы збожна...

Гэтыя асобныя „ценявыя“ бакі не могуць, аднак, затушаваць сабой усю глыбіню ідэёвага зместу верша, усю яго дзейсную функцыянальна-выхаваўчую, аптымістычна-сцвярджальную сілу.

Працэсы соцыялістычнага будаўніцтва, будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства перадаюцца паэтам у гістарычна-сінтэзуючай форме ў вершы „Песня будаўніцтву“. У суровых, простых і патэтычна-велічных паэтычных радках Купала гаворыць ад імя мудрага гісторыка, у хуткі прыход якога паэт шчыра верыць, і які „сказ дзіўны, праўдзівы ад зорак і да зорак аб нашых прасторах, аб падзеях, людзях павядзе“. Гэты свой „Дзіўны сказ“ мудры гіс-

торык будзе весці перад маладым, шчаслівым пакаленнем бескласавага соцыялістычнага грамадства аб недалёкім гістарычным мінулым, аб тым, „як з творчым імкненнем для народаў закон выдавала большэвіцкая праўда, сумленне, каб жыццё ўжо было без цярпенняў, і мінула прракляццяў навала“.

Гэты сказ—аб тым, як „знішчаліся цвёрдай рукою пролетару варожыя класы, як на фронтах ішоў бой за боем“, аб тым, „як ішла рэканструкцыя смела па заводах, па полі, па думках, перашкоды знішчаючы ўмела“, аб тым, „як мінулым спаганена праца... стала горда на век называцца справай гонару, славы, адвагі“.

„Песня будаўніцтву“—гэта натхнёны гімн соцыялістычнаму будаўніцтву, аб якім мудры гісторык:

Маладому свайму пакаленню
Ен апіша з палётам арлiным,
Як бліскотна з бетону, з камення,
З цэглы, з сталі, з жалеза, ў праменнях
Тут за гмахам рос гмах на руінах.

Верш гэты—натхнёны гімн соцыялістычным метадам працы—соцспаборніцтву і ўдарніцтву, дзякуючы якім гераічны совецкі народ „здабываў багацце краіне“, „гарады будаваў у пустынях“.

Песня будаўніцтву—гэта натхнёны гімн паэта мудрасці большэвіцкай партыі, якая:

Каб да тла зруйнаваць стары свет,
Барацьбою зацятай, упартай,
Сваю ставячы голаў на карту,
Дасягла недасяглых пабед.

Прастата слоўна-мастацкіх сродкаў выражэння, перададаная паэтам у арганічнай знітаванасці з глубокай думкай, з ідэёвым багаццем зместу, крыху ўзняты, усхваляваны, але разам з тым мужны рытм, багацце і маляўнічасць мастацкіх сродкаў, што перадаюць бурлівую дынаміку нашай эпохі, сапраўдная народная прастата і мудрасць,—усё гэта робіць верш „Песня будаўніцтву“ надзвычайна эмацыянальным, пераканаўчым у сваёй гістарычнай праўдзівасці, захапляючым нас свежасцю паэтычных фарбаў.

Купала здолеў у ім адпаведнымі слоўна-мастацкімі сродкамі акцэнтаваць на палкай нянавісці да старога свету і яго абаронцаў, якія малююцца ім як „зброд ворагаў“, як „варожы табун адзічэлы“, што нашай соцыялістычнай рэканструкцыі „імшу пахавальную крумкаў“ і, адначасова, сваё ўсхваляванае захапленне новым светам—светам соцыялізма, светлыя гарызонты якога ён убачыў, адчуў, здолеў выказаць пераканаўча і хвалюючa. У гэтым вершы заключана шмат дынамікі, руху, барацьбы, ён скрозь прасякнут рэволюцыйна-аптымістычным сцверджаннем новага соцыялістычнага ладу, без эксплуатацыі чалавека чалавекам.

Рост соцыялістычнага будаўніцтва, рост і магутнасць Совецкай Беларусі, рост дабрабыту працоўных адлюстроўваецца паэтам і ў вершы „Працай дружнай, калектыўнай“ (1930), прысвечаным Першай Усебеларускай выстаўцы сельскай гаспадаркі і прамысловасці.

Ужо тады Я. Купала адчуваў усю тытанічную сілу і моц калектыўнай соцыялістычнай працы, творчую сілу пролетарскай рэволюцыі.

Працай дружнай, калектыўнай,
Пераможна, безупынна
Свет будуе, свет нячутны
Пролетарый ўсемагутны

У ім паэт у бурліва-імклівым рытме выяўляе сваё правільнае разуменне шпаркіх, нечуваных у гісторыі тэмпаў нашага росту, бачачы абумоўленасць і залежнасць іх ад жыватворчай крыніцы ўдарнай працы, што „забурлілася ўладарна“, у тым творчым шляху, што адчынены перад працоўнымі Совецкай Беларусі Вялікай Пролетарскай Рэволюцыяй.

Ураджай дзесяцігоддзя *)
За сто іншых год пяройдзе...
Той не бача, хто не хоча
Ці на век згубіў хто вочы.

Яшчэ больш моцны і эмацыянальны верш „А ў Віслe плавае тапелец“ (1931). Тэматычна верш адлюстроўвае жыццё працоўных і эксплуататараў у фашысцкай панскай Польшчы, прычым, гэты свой паказ Я. Купала вядзе ў плане рэзкіх соцыяльных кантрастаў, што, па-першае, адпавядае сапраўднасці, а, па-другое, дае магчымасць паэту акцэнтаваць на найбольш істотных фактах, адлюстроўваючых становішча спраў у панскай Польшчы. У ім паэт маляўнічымі мастацкімі фарбамі і моцнымі, патрасаючымі сваёй драматычнай праўдзівасцю вобразамі і сітуацыямі перадае раскошу і багацце, зывёльнае, абжорскае існаванне кучкі капіталістычных трутняў і паразітаў на агульным змрочным фоне жабрацтва, галечы, голада і беспрацоўя працоўных мас. З аднаго боку „балюе панская Варшава“, а з другога—„Вісла пеніцца крывава, а ў Віслe плавае тапелец“. На адным соцыяльным плане:

Шасцяць мундзіры, аксаміты,
Агнямі зыркаюць палацы;

а на другім—

Крывёй работніцкай залітыя
Завулкі, вуліцы і плацы.

На адным полюсе:

Людскім жыццём набіты турмы,
Бунтуе ў турмах роспач мсціва...

а на другім—

А ў Бельведэры выюць гурмам:
„Нех жые польска дэфензіва!“

Не менш яскрава і праўдзіва паказаны ў гэтым вершы інтэрвенцыяністскія планы вайны супроць СССР польскіх фашыстаў, планы аб тым, „як СССР распяць на крыжы“, у хаўры з сусветнымі імперыялістамі—падпальшчыкамі новай крывавай вайны.

---

*) Г. зн. перыяда 1920-1930 г. г. *Р. Л.*

Шалёны белы тэрор і крывавая так званая „пацыфікацыя“ „усходніх крэсаў“, падрыхтоўка вайны супроць краіны советаў, раскоша і сытае існаванне кучкі эксплуататараў, жабрацтва і галеча мільёнаў працоўных—вось агульны соцыяльна-палітычны фон сучаснай фашысцкай Польшчы.

Пры абмалёўцы панскай Польшчы Я. Купала выяўляе палкую класавую нянавісць да ворагаў працоўнага народу; паэтычныя радкі гэтага верша напоўнены магутным пратэстам, нянавісцю да класавых ворагаў і шчырай, вялікай, чалавечай усхваляванай любоўю да працоўных.

Балюе панская Варшава,
А для гуманнасці, прагрэса
Ідзе аблава за аблавай
На ўсходніх „вольных“ польскіх Крэсах.
Абрабаваных да кашулі,
Там беларуса і ўкраінца
Вядуць закованых патрулі
Па акрываўленым гасцінцы.

Гэтыя радкі, праўдзіва адлюстроўваючы соцыяльны драматызм жыцця працоўных у фашысцкай Польшчы, адначасова гучаць як суровы прыгавор на адрас фашысцкіх прыгнятальнікаў народу і інтэрвентаў.

Мы разглядзелі, такім чынам, некалькі найбольш паказальных вершаў Я. Купалы першых год яго рашучай, грунтоўнай і глыбокай ідэёва-творчай перабудовы на этапе соцыялістычнай рэканструкцыі, вершаў, напісаных ім да гістарычнай пастановы ЦК ВКП(б) „Аб перабудове літаратурных арганізацый“. На іх высокую функцыянальную сілу, на іх вялікае аб'ектыўна-пазнавальнае значэнне, на іх ідэйную важнасць мы паказалі ўжо; застаецца сказаць пра недахопы лірыкі Купалы гэтых год.

Першым і асноўным недахопам гэтай лірыкі з'яўляецца, на наш погляд, тое, што ў ёй паэт не заўсёды аднолькава вытрымлівае высокае, эмацыянальнае напружанне, што ў ёй часамі пераважае рацыяналістычнае, умазрыцельнае ўспрыманне рэчаіснасці. У ёй часамі адчуваецца схематызм, у наяўнасці элементы рытарычнасці; тут высокі рэволюцыйны пафас не заўсёды атрымлівае цёплае, хвалюючае, эмацыянальнае лірычнае выражэнне. Гэта заўважаецца ў розный ступені і прапорцыях на радзе яго нават лепшых вершаў, як: „Сыходзіш, вёска, з яснай явы“, „Дыктатура працы“, „Заўсёды наперад“, „Песня будаўніцтву“, „Ударніку“ і інш. Часткова мы паказалі ўжо на гэта на канкрэтных прыкладах. Возьмем яшчэ к прыкладу верш яго „Ударніку“ (1931), верш, які носіць на сабе сляды пэўнага схематызма, зрыфмаванай лазунгоўшчыны:

Рабочым і калгасным
Працоўным калектывам
Ад партыі і ўрада
Такая дырэктыва:
Па цэлым па Саюзе
Бяжыць хай пераклічка:
Ураўнілаўку руйнуйце,
Касуйце абязлічку!

Вядзіце працу здзельна
На фабрыцы, на полі,
Лятун каб і прагульнік
Там не гулялі болей.
Каб нашы прамфінпланы,
Кампаніі, наказы
Спаўняліся дакладна,
Як вока мірг, адразу.

Элементамі рамантычнай абстрактнасці, агульнасці і схематызма адзначаны і верш „Заўсёды наперад“, напісаны ўвогуле ў аптымістычных бадзёрых танох, у плане радаснага сцверджання новага жыцця.

Ты слухай, паслухай
Таварыш і брат:
Заўсёды наперад!
Ніколі назад!

Глядзі—во імчыцца—
Жыццю напралом—
Па полі, па пушчы
Віхор-буралом.

У лірыцы Я. Купалы гэтага часу мы падчас наглядаем пэўную дыспрапорцыю між яе ідэёвай мэтанакіраванасцю, ідэалагічным напрамкам, тым што можна назваць, карыстаючыся тэрміналогіяй Г. В. Плеханава, „Соцыялагічным эквівалентам“ і слоўна-мастацкай, вобразнай сістэмай выражэння.

II

Гістарычная пастанова ЦК ВКП(б) „Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый“ ад 23 красавіка 1932 г., прынятая па ініцыятыве тав. Сталіна, з'явілася велізарным палітычным дакументам, які вызначыў сабою новы творчы ўздым сярод совецкіх пісьменнікаў. З гэтага часу значна актывізуецца і творчасць Я. Купалы, пры чым гэтая актывізацыя ідзе як па лініі колькаснай, так і асабліва—якаснай.

У гэты час Я. Купала стварае вялікае ліра-эпічнае палатно—паэму „Над ракою Арэсай“.

Паэма Купалы прысвечана паказу беларускага Палесся нашых дзён. Палессе з яго своеадменнай прыродай, і своеасаблівым побытам насельніцтва не раз прыцягвала да сябе ўвагу мастакоў слова. Яшчэ Тургенеў у сваім апавяданні *„Поездка в Полесье“* даў нам малюнак палескага бору, велічнага ў сваёй незакранутасці рукой чалавека. Але перад тварам гэтага бору Тургенеў лішні раз адчуў нікчэмнасць чалавека. Другі рускі пісьменнік *Караленка* ў шумных гуках палескага бору адчуваў маркотныя песні, якія цвердзілі аб трагічнасці жыцця, аб яго нібы-та адвечных і безвыходных калізіях. Але асабліва ўлюбёнай тэмай Палессе з'яўлялася для беларускіх нацыянал-дэмакратаў: адтуль яны выкапвалі розных сівых дзядоў і бабулек, утвараючы з гэтых народніцка-стылізаваных нацыянал-рамантычных вобразаў мёртвую кунсткамеру беларускай „самабытнасці“.

Упершыню новае мастацкае слова аб беларускім Палессі сказалі народныя паэты БССР—Якуб Колас і Янка Купала. Колас у

сваёй аповесці „Дрыгва" паказаў нам, як „самабытныя" палешукі гераічна змагаліся за Кастрычнік, паказаў, што Вялікая Пралетарская Рэвалюцыя для гэтых палешукоў не ёсць „вецер з усходу", а кроўная, родная справа. Янка Купала ў паэме „Над ракою Арэсай" прадоўжвае тое, на чым спыніўся Колас—ён паказаў вынікі перамогі пролетарыята: сучаснаеператварэнне Палесся ў новы соцыялістычны край. Совецкія пісьменнікі Колас і Купала, такім чынам, гэтымі сваімі творамі сцвярджаюць не аб нікчэмнасці чалавека, а аб яго велічы і сіле, аб моцы працоўнага калектыва; у іх творах замест трагізма выступае героіка барацьбы, замест нацыяналістычнай архаікі наша соцыялістычная сучаснасць.

У паэме Купалы перакрыжоўваецца некалькі тэматычных ліній: паказ Палесся ў мінулым, апісанне меліарацыі ў совецкія часы, гісторыя сельска-гаспадарчай комуны, што ўзнікла на Мар'інскім балоце, малюнак соўгаса. Гэта тыя тэматычныя адзінкі, з якіх складваецца мастацкае цэлае паэмы. У паказе мінулага Палесся Купала дасягае вялікай маляўнічасці і мастацкай канкрэтнасці: як жывая ўстае перад намі дзікая, незакранутая рукой і розумам чалавека прырода, палескае сялянства з яго „упалымі грудзьмі", з яго цемрай і забабонамі.

Пейзаж дарэволюцыйнага Палесся паданы Я. Купалай—адпаведна сапраўднасці—у цяжкіх, змрочных фарбах. Старое Палессе—гэта дзікая, неакультураная прырода з багнамі-балотамі, лясамі-барамі, што „засмоктавалі з душою" працоўных сялян-паляшукоў.

Адзіным светлым эпізодам у яго жыцці з'яўлялася жыватворчая вясна, калі „Палессе ўскрэсне", калі „свой спеў салавейка ў галлі адшчабеча", калі „скукуе зязюля адвечнае ку-ку". Аднак і гэта ажыўленне, толькі відавочнае, бо і яно ахутана ў паэта ў сумныя матывы аб цяжкасці чалавечага жыцця ў старых умовах. Разам з „спевам салавейкі" мы адчуем, як „аб шчасці жалейка гаротна ад'енча" і як-бы ў адказ на зязюлькіна „адвечнае ку-ку"—„паліча бабуля ці шмат яшчэ мукаў".

Незаўважна, „як вока мірг" пройдзе „вясна—ясна",

> А там зноў магілай
> Палессе замоўкла,
> Зноў спіць яго сіла
> Пад багнай пажоўклай.

Ужо ў абрысоўцы меліарацыйных мерапрыемстваў совецкай улады Купала паказвае пачатакператварэння Палесся,—меліарацыя парушыла першабытную дзікасць краіны, унесла ў яе пачаткі новай культуры:

> Рыюць людзі топкі торф
> У вадзе па пахі,
> А у жылах бурліць кроў,—
> Багна ім не ў страхі.
>
> Яны знаюць, што ўжо так
> Не быць, як калісьці,
> Што пакінуць яны знак
> Вялікай карысці.

За канавай—як струна—
Новая канава,—
Усе падобны, як адна,
І злева і справа.

Але сапраўднае красаванне Палесся пачалося ў перыяд соцыялістычнай рэканструкцыі—малюнкі комуны і соўгаса, шырока разгорнутыя Купалам, даюць нам навочнае ўяўленне аб тым, што старое Палессе адышло ў нябыт, што яго жыццё ў корані перабудавана на новы соцыялістычны лад. У паказе працэсаў соцыялістычнага будаўніцтва Купала далёкі ад прыкрашвання рэчаіснасці: ён раскрывае цяжкасці барацьбы з перажыткамі дробна-буржуазнага індывідуалізма ў свядомасці людзей (гісторыя пяці чонгарцаў) і цяжкасці барацьбы чалавека з прыродай, ахвярай якой (барацьбы) робіцца комунар Барысенка, што без пары трагічна загінуў.

Шырокаму ахопу рэчаіснасці, якая ўзята ў двух аспектах—мінулага і сучаснага, адпавядае шырокая вобразная тканіна паэмы. Перад намі ў творы ажываюць, як далёкія здані мінулага, вобразы старых палешукоў, якія плятуць сабе лапці, каб з торбай пайсці жабраваць, розум якіх спавіт дзікімі забабонамі. Гэтым смутным вобразам старых палешукоў Янка Купала супроцьставіць новага чалавека з яго палкім энтузіязмам, з яго гераізмам, з яго ўзнятасцю і бадзёрасцю. Паказваючы нам масы, з'яднанасць калектыва, Купала спыняецца на абрысоўцы паасобных комунараў. Перад намі праходзіць рашучы і разважлівы Модзін, які карыстаецца аўтарытэтам сярод масы комунараў, Адзярыха, гэты інжынер-самавука, які без „спецаў" пабудаваў чыгунку і інш. Але і новую рэчаіснасць Купала бярэ ў яе супярэчнасцях: ён паказвае нам шкурнікаў—пяцярых чонгарцаў, якія нават пасяліліся асобна ад грамады і якія спалохаліся цяжкасцей будаўніцтва комуны, шукаючы сабе больш лёгкіх заробкаў.

Вобразнае багацце паэмы спалучаецца з вялікай ідэёвай яе змястоўнасцю. Як і аповесць „Дрыгва", твор Купалы, па-першае, развенчвае гнілую нацыяналістычную рамантыку мінулага. Гэтай рамантыцы Купала супроцьставіць здаровую рэволюйную рамантыку гераічнай барацьбы за соцыялізм. Асноўная ідэя твора—усведамленне соцыялізма, як вялікай непераможнай сілы, ператвараючай і прыроду і свядомасць чалавека.

Буржуазная літаратура ведае толькі вобраз драпежніка-індывідуаліста, які ў барацьбе з прыродай праследуе толькі вузка-эгаістычныя мэты. Совецкі пісьменнік паказвае сілу мас, сілу калектыва, натхнёнага вялікімі ідэямі соцыялізма. Такая сіла непераможна: яна падпарадкуе сабе сляпыя стыхіі прыроды, у яе хаос яна ўносіць разумнасць, край дзікі, адсталы ператварае ў квітнеючы край соцыялізма. Купала мастацкі паказвае нам ператвараючую свет большэвіцкую энергію, якая не ведае перашкод, якая змяняе твар былога Палесся.

Балота, забалаць балот,
Як там не называй,
Але ступіў тут большэвік—
Ён зменіць гэты край.

І паэт дае шырока разгорнуты малюнак новага соцыялістычнага Палесся:

У комуне школа,
Электрычнасць, яслі,
Дымныя лучыны
Назаўсёды згаслі.

У комуне ў сотні
Кароў бродзяць стады,
Ірзуць рэзва коні,
Растуць буйна грады.

Ідэёва-насычаная паэма Купалы мае вялікія мастацкія вартасці. Яна вызначаецца стройнай пабудовай. Усе часткі яе арганічна зліты паміж сабой, ствараючы пэўнае адзінства. Апавяданні аб гераічных учынках комунараў паэтам будуюцца на шырокім ужыванні прыёмаў фальклорнага сказа: у яго сустракаюцца фальклорныя паўторы: напрыклад у першым раздзеле „замест уступу“ паэт ужывае лірычны рэфрэн „А не чуў я песні“. Досыць часта ў паэме сустракаюцца звароты з тым-жа паўторам, напрыклад, „Сосны, мае сосны!“

Сосны, мае сосны!
Спрадвеку раслі вы,
Бачылі не мала
У век свой нешчаслівы!

Старую заўныўную заплачку Купала развенчвае глыбока прачуванай прамовай аб нябожчыку, якая вытрымана ў фальклорным духу:

— Спі, наш Барысенка,
Комунарскі сын!
У сям'і у нашай
Быў ты не адзін.

Арміі Чырвонай
Верны быў салдат,
Полк з цябе быў рады
І начальнік рад.

Ой, таварыш любы!
Рана, браце, згас,
Комуністам стойкім
Быў на варце ў нас.

— Спі, наш Барысенка,
Лёгкім будзь пясок!
Па табе застаўся
Твой малы сынок.

У паэме мы сустракаем надзвычайна цікавы прыём агалення фальклорнага сказа. Сам паэт зазначае:

Тут пачну я апісанне,
Як пішацца ў казках,
Бо іначай не выходзіць,—
Слухайце хто ласкаў.
За гарамі, за даламі,
Ў балатах пустынных,
Паўставала, вырастала
Новая краіна.

У гэтай паэме Купала часта працягвае развіваць, узнімаючы на якасна новую вышыню, лепшыя рэволюцыйна-дэмакратычныя элементы сваёй дарэволюцыйнай паэзіі—яе гераічны драматызаваны эпас, фальклорную прастату і народную лірычную песеннасць.

Паэма „Над ракою Арэсай“, такім чынам, вызначаецца адзінствам зместу і формы. Аб гераічных учынках комунараў апавядаецца тут у стылі фальклорнай песні; перад намі як-бы ажывае былінны эпас, але гэта новы эпас: паэт апавядае аб новых Іллях Мурамцах і Мікулах Селянінавічах, што выраслі не на глебе сялянскага індывідуалізма, а на глебе соцыялізма, на глебе калектыўных форм соцыялістычных метадаў працы.

Пры ўсіх буйных вартасцях паэма Купалы не пазбаўлена аднак і пэўных недахопаў. Сапраўды, ідэёвую і мастацкую вартасць паэмы значна зніжае тое, што паказ соцыялістычнага Палесся ў ёй дан некалькі ізалявана, не раскрыта яго сувязь з агульнымі працэсамі соцыялістычнага будаўніцтва. Заганай паэмы з'яўляецца таксама аднабаковы паказ мінулага Палесся: абмінута рэволюцыйная барацьба працоўнага сялянства ў мінулым.

Але не гледзячы на некаторыя недахопы паэма Купалы з'яўляецца буйнейшым творам сучаснай беларускай совецкай літаратуры.

## III

Тэматыка лірыкі Я. Купалы перыяда 1932—1935 г.г. вельмі багатая і рознастайная, аднак, найбольш шырокае, вядучае, вызначаючае месца займае у ёй тэма соцыялістычнага будаўніцтва, як у горадзе, так і ў вёсцы і выяўленне кіруючай ролі у ім партыі. Радасць шчаслівага і заможнага жыцця совецкага народу; поспехі індустрыяльнага будаўніцтва ў горадзе і калгаснага ў вёсцы; індустрыялізацыя і машынізацыя калгаснай вёскі; перамога соцыялістычных метадаў працы, што стала ў нас „справай гонару, справай славы, справай доблесці і геройства“ (Сталін); інтэрнацыянальная еднасць працоўных; сусветна-гістарычнае значэнне вялікай пролетарскай рэволюцыі і праблема сусветнай соцыялістычнай рэволюцыі; тэма змрочнага гістарычнага мінулага Беларусі, распрацаваная ў плане кантраснага супастаўлення з радасным і светлым сучасным; героіка грамадзянскай вайны, партызанскага руху; паказ жудасных вынікаў нямецкай і белапольскай акупацыі Беларусі; падрыхтоўка ваяўнічым фашызмам новай імперыялістычнай вайны і ўзброенага нападу на соцыялістычную бацькаўшчыну працоўных—СССР; тэма абароны соцыялістычнай радзімы, апяванне любві працоўных да сваёй роднай і кроўнай, непераможнай Чырвонай арміі; тэма маладосці, увасобленай у вобразы нашай гераічнай і самаадданай совецкай моладзі і яе перадавога атрада—Ленінскага Комсамола, як вернага памочніка партыі,—усё гэта знайшло сваё поўнакроўнае, рэалістычнае і хвалюючае адлюстраванне ў лірыцы Я. Купалы гэтага перыяду.

Творчасць паэта гэтых часоў вызначаецца шырокім ахопам соцыяльнай рэчаіснасці, адлюстраваннем істотных бакоў яе, вядучых тэндэнцый гістарычнага працэса—развіцця пролетарскай рэволюцыі. Гэтыя істотныя бакі соцыяльнай рэчаіснасці Я. Купала

ўмее падаць і амаль заўсёды падае ў тыповых абставінах, тыповых, поўнакроўных рэалістычна праўдзівых вобразах.

Адштурхоўваючыся ад абрысоўкі і выяўлення працэсаў разбурэння старога свету і загнівання капіталістычнага грамадства з яго разлагаючайся „культурай“ фашызма, расізма і аголенага заалагічнага нацыяналізма, ад паказу змрочнага кашмара дарэволюцыйнага мінулага,—Я. Купала канцэнтруе сваю асноўную ўвагу на ўсведамленні і мастацкім эдлюстраванні вядучых тэндэнцый нашай соцыялістычнай рэчаіснасці.

Разгортваючыся на аснове соцыялістычнага рэалізма, лірыка Я. Купалы гэтага часу пазбаўляецца, правільней кажучы траціць сваю былую правінцыяльна-вясковую абмежаванасць, тэматычную вузасць і пэўны вяскова-патрыярхальны штамп у вобразнай яе сістэме, выходзіць на шырокія прасторы тэматычнага багацця; яго паэтычная палітра пачынае квітнець рознакаляровымі фарбамі, новымі фалькдорна-песеннымі стылістычнымі і слоўна-мастацкімі сродкамі.

Тэматыка сусветнай прэлетарскай рэволюцыі і сусветна-гістарычнага значэння Вялікай Пролетарскай Рэволюцыі распрацоўваецца Я. Купалам у такіх яго вершах, як: „Дыктатура працы“ (1930), „Настане такая часіна“ (1932), „Вялікаму Кастрычніку“ (1932), „Май“ (1933), „Хвалююцца морскія хвалі“ (1934), „Нашай Канстытуцыі“ (1934) і інш.

Усе амаль гэтыя вершы вызначаюцца пераважна сінтэтычным характарам, у іх паэт у кандэнсаванай форме малюе асноўныя этапы заваёў і перамог соцыялістычнага будаўніцтва. Свае назіранні над сучасным жыццём і барацьбой працоўных, як у краіне Советаў, так і ў краінах капітала, свае вывады і абагульненні з гэтага, ён робіць у форме соцыяльна-філасофскіх сентэнцый. Адсюль, у гэтых вершах Я. Купалы на першы план выступае кантраснае супастаўленне, антытэза старога і новага.

Возьмем да прыкладу верш „Дыктатура працы“. Верш гэты кампазіцыйна пабудаваны па прынцыпу антытэзы двух соцыяльна-палітычных сістэм, двух фармацый: капіталістычнай і соцыялістычнай, пабудаваны ў плане кантраснага супастаўлення „свету рабаўласнікаў і турмаў“, „свету богахвальства, спекуляцый“ і дыктатуры працы, што збудуе „жыццё без цемры і цярпення... для ўсіх вякоў і пакаленняў“. У ім паэт ясна разумее, што „дыктатура працы“— гэта жалезная непераможная нікім сіла, на якую самой гісторыяй ускладзена пачэсная задача: дашчэнту зруйнаваць стары эксплуататарскі лад ва ўсіх частках свету „ад Скандынаваў да Сахары“. Купала выказвае ў ім цвёрдую упэўненасць, што дыктатура працы сваёй непераможнай хадой, „сярпом і молатам агністым“ зруйнуе „культуру хамства і далара, князёў і біскупаў палацы“, што яна спаліць „маланкай дызеляў віхурнай“ стары свет капіталізма, тых, „што звыкліся ў крыві купацца“.

Капіталістычны лад падаецца Я. Купалай рэалістычна ў плане паказу і выкрыцця гніючай, разлагаючайся „культуры“ хамства і далара, „культуры“, што нагадвае горшыя часы крыжовых пахо-

даў і іспанскай інквізіцыі, „культуры“ заалагічнага нацыяналізма, расізма.

Новы соцыялістычны лад усведамляецца паэтам, як панаванне распрыгоненай працы, дзе геранчымі намаганнямі працоўных пад геніяльным кіраўніцтвам партыі будуецца „жыццё без цемры і цярпення“, як панаванне дыктатуры працы, якая сваёй „рукой жалезнай, непакорнай“ напіша „закон і права ў долі роўнай для ўсіх народаў, для ўсіх нацый...“. Пры чым, сілы і панаванне дыктатуры працы паэт фіксуе ў двух планах, у двух аспектах: руйнаванне ўсяго эксплуататарскага, руйнаванне капіталістычнага ладу і будаўніцтва на яго руінах соцыялістычнага грамадства.

У гэтым вершы Я. Купала палка выявіў нянавісць совецкага паэта да капіталізма і яго бардаў і адначасова сваю ўсхвалявану замілаванасць да „дыктатуры працы“. У ім паэт зачараваны прывабнымі малюнкамі будучага грамадства, што „збудуе дыктатура працы“.

Яшчэ большай соцыяльна-гістарычнай перспектыўнай сінтэтычнасцю вызначаецца верш „Настане такая часіна“. У ім шмат класавай страснасці, урачыстай усхваляванасці, суровай упэўненасці, веры і перакананасці ў няўхільнай перамозе сусветнай соцыялістычнай рэволюцыі.

У гэтым вершы паэт суровымі паэтычнымі радкамі маляўніча рысуе нам шырокія перспектывы сусветнай соцыялістычнай рэволюцыі. Паэтычны голас Я. Купалы пры гэтым набывае мужны, цвёрды, баявы тон, яго ўпэўненыя прагнозы ў гістарычнае будучае гучаць як-бы грозным прысудам на адрас трухлеючага капіталістычна-эксплуататарскага ладу.

Паэт цвёрда верыць, што прыдзе час—а гэты час ужо недалёка— і „захлынуць паўстанняў народных пажары“...

> Пад Ленінскім сцягам
> пролетарыята
> Паўстане рваць путы—
> хто долі не ведаў,—
> Хто сохне без хлеба,
> хто гіне без хаты,
> Хто корміць сваім
> мазалём дармаедаў.

І тады:

> Развеюцца ў попел
> кароны і троны,
> Стэрлінгі і франкі,
> дукаты, далары...

Купала з выключным захапленнем, бадзёра і радасна прабуе нарысаваць гэтую светлую будучыню, калі:

> Рабочых грамады
> у свае возьмуць рукі
> Заводы і фабрыкі,
> шахты і домны.

Калі:

Хрыстоў, магаметаў,
егоўаў і будаў,
Бажніцы, капліцы
усіх вераў і нацый,
Як смецце на свеце,
як тухлыя груды
Змяце дыктатура
раскованай працы,

Калі:

Н'ю-Ёркі, Парыжы,
і Вільні, Берліны,
Шанхаі, Варшавы,
Жэневы, Такіі
Аздобяцца ў сцягі
чырвонасці дзіўнай...

Калі рабочых грамады

збудуюць палацы
сабе і для ўнукаў,
Дзе радасць і сонца
загосцяць век помна.

Пачатак і канцоўка гэтага верша становяць сабой як-бы пэўнае кампазіцыйнае кальцо, якое арганічна злітоўвае ў адзінае цэлае ўсе мастацкія асаблівасці лексікі, строфікі і наогул усіх яго мастацкіх кампанентаў.

Я веру—настане
такая часіна,
І руней совецкай
усквецяцца гоні
Дзе Віслы, дзе Сены
дзе Темзы даліны,
Дзе праца людзкая
сягоння ў прыгоне.

Верш „Настане такая часіна“ наскрозь прасякнут ідэяй пролетарскага інтэрнацыяналізма, у ім Я. Купала мастацкі апаэтызаваў братэрскую салідарнасць і еднасць працоўных усіх нацый і рас, у ім ён мужнымі, суровымі паэтычнымі радкамі выявіў веру ў канчатковую перамогу сусветнай соцыялістычнай рэволюцыі. Верш напісаны ў бадзёрых і радасных рэволюцыйна-аптымістычных тонах. Паэтычная сіла сцверджання новага свету соцыялізма ў Купалы прапарцыянальна сіле адмаўлення трухлеючага свету капіталізма, да якога паэт адносіцца з вялікай і страснай нянавісцю чалавека, які ўнутрана глыбока адчуў і ўсвядоміў яго няўхільную пагібель.

Тое-ж самае можна сказаць і ў дачыненні да верша „Вялікаму Кастрычніку“.

Вобраз „Расіі царскіх дзён“, узяты Я. Купалам у плане кантраснага супастаўлення з „вольнай краінай Советаў“, паданы адпаведна сапраўднасці, у змрочных, гнятучых фарбах, як краіны, дзе „душыў бязлітасны прыгон сялянаў і рабочых“, „дзе працоўным людам гандлявалі“, дзе „раслі магільныя капцы“, дзе „папы малебны завывалі“, як краіны „шыбеніц, астрогаў“, дзе „трыумфаваў каронны кат“ і г. д.

„Расія царскіх дзён“—гэта „турма народаў“ успрыймаецца паэтам, як цяжкая здань, як кашмарны сон аб недалёкім мінулым.

Верш гэты, як і іншыя яго вершы, напісаныя на гэту тэму, характарызуецца рэалістычна-праўдзівай зарысоўкай як кашмарнага мінулага, так і радаснай сучаснасці. Пры гэтым Я. Купала, як вялікі майстар паэтычнага слова, умее мабілізаваць, адпаведна матэрыялу, і пэўныя паэтычныя, слоўна-мастацкія сродкі: абрысоўка „Расіі царскіх дзён“ вядзецца паэтам у форме мужнага і грознага прысуду мінуламу Расіі, у плане зрывання ўсіх і ўсялякіх масак з гэтага агіднага мінулага—з аднаго боку, і з другога—у форме лірычнай усхваляванасці, суровай урачыстай узнятасці, з выяўленнем бязмежнай радасці совецкага паэта з тае прычыны, што „зарунеў на ўсе староны Саюз Рэспублікаў Совецкіх“, з выяўленнем шчырых высокіх чалавечых пачуццяў гордасці за „ядыную пакуль айчыну ўсіх працоўных ўсяго свету“.

У ім паэт выяўляе сваю цвёрдую веру, свае моцныя перакананні ў перамозе пролетарыята „пад сцягам Леніна“ у сусветным маштабе, на аснове інтэрнацыянальнай еднасці працоўных усіх частак свету, усіх матэрыкоў, усіх нацый і рас.

> Пролетарыят усіх краінаў
> Пад сцягам Леніна удумна
> Шляхі, я веру, працярэбе
> І да сусветнае Комуны.

У Вершы „Май“ Я. Купала баявое рэволюцыйнае свята працоўных усяго свету успрыймае як сімвал недалёкай канчатковай перамогі сусветнай соцыялістычнай рэволюцыі. Свята „першамай“—гэта рэволюцыйны кліч, які разносіцца па ўсяму свету і ўсіх „закаваных, спячых кліча ўстаць, збудзіцца...“. Для яго не існуе ніякіх межаў, перашкод, ён пранікае ў „нетры сутарэнняў, у курныя хаты“, „Май“ „патрасае грозна троны і кароны“, ад яго „заклікаў агністых“ „дрыжаць сатрапы, цары і царысты...“.

Штогадовае рэволюцыйна-традыцыйнае святкаванне першага мая ўспрыймаецца паэтам, як дзень гартавання і баявога яднання рэволюцыйных сіл пролетарыята і ўсіх працоўных. Май успрыймаецца ім праз канкрэтна адчувальны матэрыялізаваны вобраз арміі сусветнай соцыялістычнай рэволюцыі, як „многалюдны, буйны“.

Баявы, рэволюцыйна аптымістычны тонус верша найбольш трапна сказваецца ў тых яго радках, дзе Я. Купала кідае свой зоркі погляд у будучае:

> Возьмуць ва ўсім свеце—
> Возьмуць верх Советы...
> Чалавек не будзе
> Ужо над чалавекам
> Панаваць крывава,
> Як дасюль—спрадвекаў.

Лірычны рэфрэн—„ходзіць Май па свеце“—наглядна выяўляе сабой усю дынамічную напружанасць свята рэволюцыйнай еднасці працоўных, сымвалічна нагадваючы сабою „здань комунізма“.

Наш бурна-імклівы рост і рух наперад да бяскласавага соцыялістычнага грамадства, да сусветнай пролетарскай рэволюцыі надзвычай перакаланаўча, маляўніча, з вялікай сілай мастацкага рэалізма, адлюстраваны Я. Купалай у вершы „Хвалююцца морскія хвалі".

На фоне рэалістычных зарысовак працэсаў соцыялістычнага будаўніцтва, на аснове ўдала разгорнутай панарамы індустрыяльнай магутнасці краіны Советаў:

Будуем мартэны і домны,
Будуем гіганты—заводы,—

Я. Купала ў рэволюцыйна-аптымістычных, бадзёрых, узвышана-патэтычных, нябываючых глыбока сімвалічны характар, радках перадае гэты малюнак імклівага руху і росту наступным чынам:

А мы плывем далей і далей,
А мы ляцім вышай і вышай...

У ім Я. Купала адлюстраваў неперамажнасць нашай краіны, яе сілу і магутнасць, сілу і магутнасць советскага народу, будуючага соцыялізм, смела, мужна і адважна ахоўваючага межы вялікай краіны соцыялізма—бацькаўшчыны працоўных усяго свету.

Не ў страх нам пагрозаў замахі,
Не ў страх інтэрвенцкія шхуны,—
Ні стуль, дзе гадуюць манархаў,
Ні стуль, дзе бушуюць тайфуны.

Совецкі Саюз—краіна разняволенай вольнай працы вялікай сям'і 170-мільённага шчаслівага советскага народу ўспрыймаецца паэтам як светлы маяк, які сваімі бліскучымі праменнямі асвятляе шляхі рэволюцыйнай барацьбы працоўных капіталістычных краін і прыгнечаных каланіяльных народаў.

Большэвіцкая песня ў Я. Купалы—гэта рэволюцыйны буравеснік, які не ведае ніякіх межаў у сваім імклівым палёце.

На ўсход, захад, поўнач і поўдзень
Плыве большэвіцкая песня,
Плыве песня ў творчым паходзе—
Для светаў старых буравеснік.

Урачыстасць ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, брацкае супрацоўніцтва народаў Советскага Саюза, індустрыяльна-калгасны і культурны рост былых царскіх „акраін", неўміручасць і вечнасць „слаўных заветаў нашай Канстытуцыі", „мудрых законаў краіны Советаў", што „пісаны рукою рабочай, мазольнай...",—нашлі сваё высока-мастацкае адлюстраванне ў радзе вершаў Я. Купалы і асабліва ў вершы „Нашай Канстытуцыі".

Выказваючы бязмежную радасць советскага паэта, песняра свайго народу, за брацкую еднасць, распрыгоненых ад ярма эксплуатацыі і нацыянальнага прыгнёту, народаў Советскага Саюза,—

Братняй дапамогай.
Роўная між роўных
БССР красуе,
Нібы жыта летам;

Я. Купала адначасова напамінае і аб нашых інтэрнацыянальна-класавых абавязках да прыгнечаных капіталістычных краін.

„Мудрыя законы краіны Советаў“ не толькі спраўляюць урачыстасць на адной шостай зямнога шара, але яны сымвалічна:

...Зззяюць агняцветам,
Сонечна лунаюць
Зоркаю цудоўнай.
І над зарубежным
Канаючым светам,
Дзе йшчэ люд працоўны
Сёння паднявольны...

Шчаслівае, радаснае, творча-будаўнічае жыццё совецкага народу, яго інтэрнацыянальная еднасць і брацкае супрацоўніцтва маляўніча зарысоўваюцца паэтам у наступных бадзёрых і аптымістычных радках:

Увесь народ совецкі
Шуміць роем ройным
На нівах совецкіх
Квяцістых распетых...

## IV

Героіка грамадзянскай вайны, барацьба нашай, авеенай неўвядаемай славай, Чырвонай арміі, „пад чырвонаю зоркаю“ з царскімі генераламі, з „подлай інтэрвенцыяй“ і іншымі ворагамі совецкага народу глыбока ўзрушана, маляўніча паказана Я. Купалай у вершах „Пад чырвонай зоркаю“ (1932 г.), „Партызаны“ (1935 г.), і інш.

У вершы „Пад чырвонаю зоркаю“ паэт мужна і ўпэўнена заяўляе на адрас новых падпальшчыкаў вайны:

Інтэрвенцкім бандам
Не гуляці болей
Па совецкім буйным
Нязмераным полі.

Гэта паэтычная страфа гучыць грозным папярэджаннем, грозным прысудам над імперыялістычнымі планамі новых захопнікаў, рыхтуючых вайну супроць СССР.

Я. Купала, ведаючы гераізм совецкага народу, бязмежную адданасць яго соцыялістычнай радзіме, упэўнена заяўляе, што калі і выклічуць азвярэлыя фашысты новую вайну, то, як і ў незабыўныя гады 1917—1920:

Пад чырвонай зоркаю
Армія чырвоная
Пройдзе долы, горы
І лясы зялёныя...

Бязмежную любоў совецкага народу да сваёй соцыялістычнай радзімы, яго рашучасць грудзямі абараняць святасць і недатыкальнасць яе межаў, яго палкую любоў да чырвонай арміі, Я. Купалу ўдалося адлюстраваць у выразна-рэалістычных радках раду вершаў і ў прыватнасці ў вершы: „Выпраўляла маці сына“ (1934), часткова ў вершы „Старыя акопы“ (1935) і інш.

Верш „Выпраўляла маці сына“, па праву ўдастоены другой прэміі на Усесаюзным конкурсе на лепшую песню, арганізаваным „Праўдай“, напісаны паэтам у плане супрацьстаўлення пачуцця вялікай радасці савецкай маці, выпраўляючай свайго сына ў Чырвоную армію—мінорна-трагічным матывам фальклорных рэкруцкіх песень, у якія працоўны народ улажыў увесь свой паднявольны сум, усё сваё гора-гарамычнае, увесь свой жах перад службай у царскай арміі, усю сваю адчужанасць і варожасць да яе, як да арміі, абараняючай інтарэсы капіталістаў, памешчыкаў-эксплуататараў.

Бадзёры, радасна-аптымістычны настрой гэтага верша, праўдзіва рэалістычна перадаючы радасць працоўнай маці, выпраўляючай сваё роднае дзіця--сына на службу ў Чырвоную армію,— кантрасна гучыць з роспачна-слязлівым, мінорным настроем рэкруцкай песні.

У ім Я. Купалам любоўна апрацаваны вобраз савецкай жанчыны-маці—гордай усведамленнем таго, што выгадавала краіне сацыялізма вернага абаронцу яе межаў, добра разумеючай, што краіна будуючагася сацыялізма праяўляе не менш пяшчотных клопатаў да сваіх сыноў і дачок, чым іх родныя бацькі. Сталінскімі ўвагай і клопатамі акружаны дзеці савецкай краіны,—і гэта з выключнай пераканаўчасцю перадана Купалам вуснамі абаяльнага вобраза маці-калгасніцы.

Не ў салдатах быць пад царам,
Пад кнутом жандарскім,—
Служыць будзеш ты Саветам,
Справе пралетарскай.

. . . . . . . . . . . . . . .

Не зазнаеш там ты гора,—
Будуць паважаці,
Даглядаць цябе не горай,
Як родная маці.

Сапраўдная прастата і народнасць слоўна-мастацкіх сродкаў ва ўдалым спалучэнні з ідэёвай глыбінёю думак, зразумелых мільёнам працоўных, надаюць вершам Купалы высокую функцыянальную сілу ўздзейнічання на свядомасць працоўных мас.

Ідэі паэтычных твораў Я. Купалы, выходзячы ў сваёй аснове ад сацыяльна-класавай практыкі савецкага народу, прайшоўшы праз творчую лабараторыю паэта, дзе яны ўвасоблены ў поўнакроўныя, жывыя, прывабныя сваёй музычнасцю, па народнаму простыя і мудрыя мастацкія вобразы, робяць вялікі ўплыў на свядомасць працоўных, асвятляючы далейшыя шляхі барацьбы за сацыялізм.

Прастата мастацкіх сродкаў, іх народны характар, даступнасць і зразумеласць працоўнаму чытачу, ідуць у Я. Купалы ад лепшых элементаў фальклорна-песеннага народнага стылю.

Выпраўляла і казала:
— Мой сыночак мілы,
Ужо маеш ты нямала
Розуму і сілы.

У народных масах нашай краіны расце і мацнее магутнае пачуццё савецкага патрыятызма, любові да нашай квітнеючай радзімы. Савецкі патрыятызм знайшоў у вершах Я. Купалы вельмі яскравае выражэнне.

У вершы „Старыя акопы“ тэма ваеннай небяспекі, тэма падрыхтоўкі азвярэлымі фашыстамі новай вайны супроць краіны Саветаў дана паэтам на фоне жудаснай „спадчыны“ сусветнай імперыялістычнай вайны.

Гістэрычныя „віваты за паход на Ўсход“ страціўшых розум паноў Сапегаў і Радзівілаў у фашысцкай Польшчы, паноў Гітлераў і Герынгаў з Берліна, усіх тых, хто сваім фашысцка-жандарскім ботам знішчае „культуру, што кінулі вякі“, тых, хто „у божышча ўзвёўшы гільётыну на край савецкі точыць шаблі і штыхі“, выклікаюць у памяці паэта змрочныя цяжкія асацыяцыі з вобразамі старых, зарослых травой акопаў і бліндажоў, што „уздоўж Дняпра ляглі“.

Сваё правільнае разуменне прычын усякіх заваёўчых імперыялістычных войнаў, як войнаў, што знішчалі мільёны сыноў працоўнага народу, у прагных звярыных інтарэсах кучкі заплыўшых тлушчам эксплуататараў,—паэт укладае ў патрасаючыя па сваёй мастацка-асэнсаванай сіле радкі, напоўненыя глыбокай нянавісцю паэта да мінулых і сучасных запальшчыкаў імперыялістычных войн.

За рабаўласнікаў, за патрыярхаў,
За царадворцаў, за банкіраў, за цароў
Лілася кроў людзей, скаваных жахам,
Пад музыку гармат, званоў лілася кроў.

Закрыеш вочы і, здаецца, вочы
Перад сабою бачаць трупы-касцякі,
Здаецца, вушы чуюць, як скрыгочуць
Прадсмертным скрогатам ваякі, ланцугі.

Намаляваўшы такую жудасна-змрочную карціну імперыялістычнай вайны, што пахавана пад старымі акопамі і бліндажамі, паэт тут-жа пераходзіць да лірычна-мінорных, прачуваных радкоў, у якіх перакрыжоўваецца адначасова і жальба па загінуўшых на вайне мільёнах працоўных людзей і агіда і нянавісць паэта-грамадзяніна, песняра вольнага савецкага народа, да падпальшчыкаў новай вайны.

Канцоўка гэтага верша, вытрыманая ў аптымістычна-упэўненым тоне, перадае сілу і моц краіны Саветаў і яе ўсенароднай непераможнай арміі, мастацкі канкрэтызуе словы тав. Варашылава аб тым, што Чырвоная армія, калі нам імперыялісты навяжуць вайну, будзе біць ворага не на сваёй тэрыторыі, а на тэрыторыі той імперыялістычнай краіны, якая асмеліцца парушыць свяшчэнную недатыкальнасць нашых межаў. На фоне лірычна-пейзажнага малюнка, перадаючага спакойную працу ў краіне сацыялізма: „Плыве Дняпро, плыты плывуць памалу...“ і заспакойлівага ўпэўненага звароту паэта—„Спакойна спіце вы, акопы, бліндажы“,—мужна і смела гучыць заява паэта, якая з'яўляецца як-бы грозным папярэджаннем падпальшчыкам вайны:

На іхніх землях, з іхніх генералаў
Знімаць пагоны будзем, шаблі і крыжы.

У вершы „Барысаў“ (1934) Я. Купала прабуе асэнсаваць аднаіменную з вершам тэму ў рэтраспектыўным плане. Перад намі ўсплываюць, як жывыя, малюнкі разбурэння горада і здзекаў над працоўнымі ў тыя цяжкія часы, калі:

Княжылі тут князі,
Крулі крулявалі,
І цары царылі
У крывавай хвалі;

калі „турмы будавалі, кавалі кайданы“, калі „на народным целе сачыліся раны“. Барысаў у гісторыі свайго існавання бачыў шмат розных бітваў і войн, бачыў, як народныя „слёзы, кроў ліліся“, тут „шведа, Банапарта следы засталіся“, тут панавала і „Вільгельмава зграя“, тут і:

Генерал Шэптыцкі
Праклятае славы
Выпраўляў жалезам
Свой банкет крывавы.

Усе гэтыя „прыхільнікі“ беларускага краю пакінулі на Барысаве цяжкія раны, яны:

. . . прывіталі
Цябе, мой Барысаў,
Вісельняй і куляй.
І пажарным прыскам.

Яны, гэтыя „блізкія гітлеравы продкі“ не шкадуючы, дашчэнту „край абрабавалі“...

Грабілі культурна,
Не знаючы жалю,
І армяк апошні
З бедняка знімалі.

Але прайшлі цяжкія часы, паўстаў грознай лавінай беларускі працоўны народ і пры брацкай дапамозе народаў Саюза прагнаў усіх гэтых „найяснейшых паноў“, „жандарскі бот“ якіх ужо „болей тут не стане“, бо „моцная ўжо зброя ў вольных пролетараў“.

Багата насычаны соцыяльным зместам пейзажны малюнак р. Бярэзіны, на якой стаіць Барысаў, у форме народнага сказання перадае чытачу, перажытыя працоўнымі горада Барысава, цяжкія часы недалёкага, але жудаснага гістарычнага мінулага.

Панесла Бяроза
Кроў людскую ў мора,
А з крывёю разам
Вялікае гора

Павешаных сем'яў
Сіроцінаў кволых,

Спаленых пажарам
Гарадоў і сёлаў.

На месцы руін і папялішчаў спаленага акупантамі Барысава паўстаў індустрыялізаваным гігантам новы квітнеючы соцыялістычны

горад, які ўжо ганарыцца сваімі гігантамі-камбінатамі індустрыі „перад светам цэлым“. Купала ганарыцца совецкім „маладзецкім“ народам рабочым, які „знойдзеш толькі ў Саюзе Совецкім“, які „працуе ўдарна з вясёлым прыветам“, які цвёрда і непахісна стаіць пры станку, які „горды сваёй сілай, уладай сваёй горды“, які „сягоння багацце для краіны множыць“.

Гэты новы воблік совецкага рабочага—вынік мудрай палітыкі генія чалавецтва—Леніна, помнік якому „паўстаў гранітам... для вякоў патомных“ у Барысаўскім парку, пра будаўніцтва якога працоўныя г. Барысава:

. . . крупінку сэрца
Хацеў кожны ўнесці,
Каб ленінскай славы
Шлі йшчэ далей весці.

Канчае гэты верш Я. Купала глыбока асэнсаваным напамінкам аб пагрозе вайны, якую рыхтуюць удзень і ўночы фашысцкія клікі мілітарыстычных краін. Паэт заклікае працоўных быць заўсёды на варце, рыхтаваць з сябе вартых сыноў сваёй соцыялістычнай маці-бацькаўшчыны, смелых і мужных абаронцаў яе неабсяжных межаў.

Прамінула ліхалецце
Бураў, завірухаў,
Аднак ты, Барысаў новы,
Не драмі, а слухай.

Не паддайся снам спакойным
Пад шчаслівым небам:
Хітры вораг за мяжою
Набівае стрэльбы.

Нядаўняе цяжкое мінулае ўспамінаецца Я. Купалам і ў вершы „Здаецца-ж, было гэта ўчора“ (1935), як змрочны сон, як кашмар, што стагоддзямі душыў мільёны працоўных. У стылі, падобным да народных песень і былін, верш адбівае мінулае ва ўсёй яго непрыгляднасці і змрочнай жудаснасці, калі „каціласяг гора і слёзы“, калі для працоўных „было галаданне ў звычаю“, калі працоўны чалавек „стаяў перад будучым свечкай, якая згасае без следа“, калі „плыла слепата мутнай рэчкай да бацькі, да ўнука ад дзеда“, калі „у проціму ішлі мільёны“, у якіх „ад крыві ныла цела“, калі „нядоля, няволя гудзела“.

Лірычна-песенны рэфрэн: „здаецца-ж, было гэта ўчора“, мінорна гучыць у вершы як жаль, як смутак паэта па дарэмна загубленых гадах паэтычнай маладосці.

Другая частка верша, апрацаваная ў імкліва-дынамічных рытмах перадае шляхі перамог працоўных над іх ворагамі, як яны (працоўныя) адбіралі „свой ад ліхадзееў каравай“, як імі адваявана і пабудавана новае жыццё.

У вершы „Адзінаццаць месяцаў“ Я. Купала ўсхвалявана гаворыць аб тым недалёкім мінулым Беларусі, калі яе да тла рабавала польскае панства—гэтыя адвечныя ворагі беларускага народа—калі тут „адзінаццаць месяцаў кроў цурком цякла“, „адзінаццаць месяцаў вісельні скрыпелі“, калі беларускія „гарады, мястэчкі танулі ў пагромах“, аб часах панавання генералаў Шэптыцкіх, калі „адзінаццаць месяцаў БССР стагнала пад ботам пільсудчыны...“

Заключныя строфы гэтага верша, напоўненыя вялікай нянавісцю, вялікай чалавечай страсцю, гучаць грозным прысудам па адрасу новых падпальшчыкаў вайны:

Генерал Шэптыцкі
Праклінанай славы,
Ужо не справіш болей
Свой банкет крывавы,—

На край беларускі
Не ўскладзеш кайданаў:
Штых стальны совецкі
Моцна гартаваны.

У вершы „Украіна“ (1935) паэт з глыбока прачуванымі словамі звяртаецца да Украіны, якая любоўна параўноваецца ім з „цветам любым, чараўнічай сілы“, якая „сонцам гадавана“, якая ў мінулым была „краем няволі, курганаў, кайданаў“, як і Беларусь.

Украіна ў яе мінулым успрымаецца Купалам гістарычна праўдзіва, як краіна, дзе:

Панавалі, каталі
Гетманы, царыцы.
І паны тваёй крывёю
Не жалелі ўпіцца.

Знесла ты вайны сусветнай
Вялікае гора,
Кроў цякла тваіх людзінаў,
Як Дняпро у мора.

Але ўсё гэта—у мінулым. Яно прайшло як кашмарны сон, усё гэта перажыта, адпакутавана украінскім працоўным народам. Вялікі подых соцыялістычнай рэволюцыі абудзіў мільённыя масы працоўных Украіны, далучыў іх да актыўнай рэволюцыйнай барацьбы за пераўтварэнне былой панска-гетманскай, царскай Украіны ў Совецкую Украіну.

Рэволюцыя з Усхода
Цябе абудзіла.

Паўстаўшы шматгаротны і шматпакутлівы украінскі працоўны народ перамог пры брацкай дапамозе вялікага рускага народа войскі контррэволюцыі, усіх гэтых скарападскіх, пятлюраў, махно, дзянікінаў ды інш. душыцеляў народных мас, забяспечыў Украіне роўнае між роўных, вольнае і шчаслівае жыццё ў брацкай сям'і народаў СССР. Цяпер Совецкай Украіне не страшны ніякія ворагі:

Сцяг твой роўны паміж роўных
У Саюзе нашым.

Ты будуеш сабе шчасце
Пад сцягам чырвоным,
Як рэспублікі ўсе нашы,
З поспехам цудоўным.

Канцоўка гэтага верша выражае сілу і магутнасць савецкай краіны, гатоўнасць працоўных абараняць сваім жыццём свяшчэннасць і недатыкальнасць савецкіх рубяжоў.

Хто-ж памкнецца табе здрадзіць,
Зноў капаць магілу,
У Дняпры сваім патопіш
Варожыя сілы.

V

Значнае месца ў лірыцы Я. Купалы займаюць вершы, тэматычна прысвечаныя мастацкаму адлюстраванню працэсаў абуджэння працоўнай жанчыны ва ўмовах савецкай улады, паказу іх актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве. („Для тых, якіх люблю“, „Я—калгасніца“, „Як я молада была“, „Алеся“, „Лён“ і інш.)

Усёй гэтай групе вершаў Я. Купала прадпаслаў свой вядомы верш „Дзве сястры“, напісаны ім яшчэ ў 1924 г. Верш гэты адзначаецца вялікім соцыяльным сінтэзам. Тэма верша—класавая еднасць інтарэсаў работніцы-пролетаркі і працоўнай сялянкі ў наш савецкі час і аднолькавая доля-нядоля, аднолькава цяжкое, бяспраўнае, паднявольнае становішча іх у часы царызма. Вобразы жанчыны-труджаніцы апрацаваны паэтам з вялікай шчырасцю і любоўю, агорнуты задушэўным лірызмам, увасоблены ў паўнакроўныя паэтычныя фарбы, узятыя з жыватворчых крыніц народнай творчасці.

На тутэйшай зямлі
Дзве сястрыцы жылі,
Як забытыя ў лесе каліны;
Жыватворчых крыніц
Не было для сястрыц,—
Яны вялі і сохлі націнай.

Тут і лексіка, і стылістыка, характар слоўных сродкаў, мастацкія параўнанні ў гарманічным спалучэнні ўтвараюць песена-фальклорны стыль, тую народную прастату, што так уласціва фальклору.

Паэт стварае патрасаючыя малюнкі мінулага беспрасветнага жыцця працоўнай сялянкі і яе сястры-пролетаркі. З паэтычных радкоў перад намі паўстае ўвесь жудасны кашмар мінулага:

Як надыйдзе вясна,
Ў чыстым полі адна
Аж да восені сілы губляла;
А сцюдзёнай зімой
У хаціне курной
Кужаль прала, снавала і ткала.

А другой з года ў год
Выядаў, як той крот,
Дым фабрычны дзявочыя вочы;
А дзявочу красу,
Нібы тую расу,
Піў цагляны падвал цёмнай ночай.

Апошнія заключныя строфы гэтага верша гучаць палкім заклікам, з якім звяртаецца паэт да сялянкі і работніцы:

Ой, настаў ужо час
Пашукаць іншых крас,
Як дагэтуль вы мелі, сястрыцы!
Голас ваш малады,
Адчураўшысь нуды,
Забурліць хай бунтарскай крыніцай!

Годзе кіснуць, марнець,
Песні смутныя пець, —
Ладзіць новую час гаспадарку!
Казкі новыя ў свет,
Дум палаючых цвет
Кінь, сялянка, з сястрой пролетаркай!

Заклікаюча-трыбунны характар гэтага верша адзначаецца, між іншым, і мужнай рытмічнасцю, клічнай інтанацыйнасцю паэтычных радкоў і інш.

Тыя-ж, толькі крыху трансфармаваныя, вобразы пролетаркі і сястры яе—працоўнай сялянкі, зараз калгасніцы, праўда ў іншай сітуацыі, даны паэтам у вершы „Для тых, якіх люблю“.

Вобразы работніцы-пролетаркі і калгасніцы тут ужо індывідуалізаваны, названы паэтам уласнымі імёнамі. Ім паэт аддае ўсю сваю любоў паэта-грамадзяніна, совецкага паэта, ім ён гатоў віць вянкі з лілій-кветак, прыбіраць іх „у атласы і шоўк“.

Так люблю ад усхода да ўсхода
Чорнавоку Марусю з завода...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Так люблю за дзявочыя красы
Сінявоку Марысю з калгаса.
З лілій-кветак ёй віў-бы вянок,
Прыбіраў бы ў атласы і шоўк

У вершы шмат народных зваротаў, фальклорнай вобразнасці, шмат паэтычнай шчырасці, аўтарскай любві да сваіх гераінь:

Залатымі пяскамі пад ножкі
Пасыпаў-бы ім сцежкі-дарожкі,
Падсцілаў бы ім сонца святло,
Каб да вечнага шчасця вяло.

У лірычна-прачуваным, апрацаваным у форме народнай песні, вершы „Я—калгасніца“, паэт апаэтызаваў вясёлае і шчаслівае жыццё калгасніцы („жыву весела а ні дбаю“), „дзетачкі“ якой „позна рана і накормлены і прыбраны“ ў калгасных яслях і на дзіцячых пляцоўках. Вобраз працоўнай сялянкі, што ідзе на працу з калыскай за плячыма і дзіцем на руках, сялянкі акружанай да таго-ж карагодам падлеткаў, вобраз, які бытаваў—адпаведна мінулай соцыяльнай рэчаіснасці—у дарэволюцыйнай паэзіі Я. Купалы, вобраз сялянкі-пакутніцы адышоў назаўсёды ў нябыт. Зараз на змену гэтаму трагічнаму вобразу працоўнай сялянскай жанчыны ў творах Я. Купалы бытуе чароўны вобраз гордай, упэўненай у сабе совецкай калгасніцы.

У вершы „Лён“ інтымная тэма—кахання маладой калгасніцы з калгасным брыгадзірам—удала спалучаецца з асноўным ідэйным лейтматывам: праца ў калгасе—справа гонару, справа славы, справа доблесці і геройства. Адчуванне радасці вольнай, разняволенай працы ў калгасе, дапаўняецца радасным пачуццём кахання:

Сэрцу лёганька было,
Цэлы свет—вясёлы рай,
Хоць і восень, а святло
Так і льецца цераз край.

Верш напоўнены святлом, сонечнай цяплынёю, шчырасцю і мяккім інтымным лірызмам. У ім просты песенна-фальклорны склад. Заўважна адчуваецца непасрэдны ўплыў на фармальную структуру верша народных хора-танцавальных песень і ў прыватнасці такой, напрыклад, народнай песні, як—„Ой я сеяла, сеяла лянок“.

У ім шмат цудоўных, скульптурна-адчувальных вобразаў, параўнанняў, паэтычных зваротаў. Вось, прыклад:

Як адцвіў, ды як надзеў
Лён галоўкі на сябе...

Лірычны рэфрэн верша—„Ой, лянок, лянок мой чысты, валакністы, залацісты“ утварае прыемную рытмічную гармонію, мяккі лірызм, адзначаецца сапраўднай народнай, не стылізаванай прастатой.

У вершы Купала паказвае мастацкімі вобразамі вялікую сілу социялістычнай працы. „Лён“—гэта не толькі вынік адданай і добрасумленнай працы калгаснікаў, які павялічвае іх багацце, які забяспечвае матэрыяльную важкасць калгаснага працадня, але гэта адначасова і—натхнёная песня вольнай соцыялістычнай працы.

Багата насычаны лірычна-пейзажнымі вобразамі, песенна-фальклорнай стылістыкай, народнымі зваротамі, фальклорнай вобразнасцю і іншыя вершы Купалы і ў прыватнасці такі яго верш, як „Алеся“.

Кукавала зязюля
У зялёным лесе...

Гаманіў бор сасновы
Увечары і ранкі.

Спі, засні, мая дзетка,
Птушкі ўжо заснулі,
Спі, засні, мая кветка.
Люлі, люлі, люлі...

На фоне лірычна-апрацаванага пейзажнага малюнка Я. Купала разгортвае думы мацеры-сялянкі над калыскай аб будучым лёсе і шчасці сваёй дзяўчынкі—дачкі Алесі.

Кукавала зязюля
У зялёным лесе,
Гадавала матуля
Дачушку Алесю.

Гаманіу бор сасновы
Увечары і ранкі
Над калыскай ліповай
Пела калыханкі.

Аб якім-жа шчасці сваёй дачкі магла марыць у дарэвалюцыйны час працоўная гаротніца-сялянка? Гарызонты гэтых мараў не маглі ісці далей уласнай хацёнкі ў забітай, прыніжанай працоўнай жанчыны.

Будзеш кужаль ты прасці,
Будзеш ткаці кросны,
Выглядаці долі, шчасця
Ў маладыя вёсны.

Але „не згадала матуля, што выйдзе з Алесяй"... Замест ткання кроснаў Алеся „паляцела да сонца пералётнай птушкай"... „над шчаслівай краінай, над роднай старонкай". У палётах Алесі заключана паэтам рэволюцыйная імкнёнасць нашай совецкай моладзі, штурмуючай нябесныя прасторы.

Адчыняе вароты
Нябесным маршрутам,
Ці як ястраб з высотаў
Скача з парашутам.

І да сонца праз хвілю.
А ўсё вышай, вышай!
Самалётавым крыллям
Воблакі калыша.

Выходзячы з тых шырокіх рэальных магчымасцей і перспектыў, якія партыя адчыніла перад нашай совецкай моладдзю ва ўсіх галінах навукі і тэхнікі, паэт упэўнена і з пачуццём гонару за совецкую моладзь заяўляе:

Ужо к прасніцы дочка
Не зляціць з-пад сонца.

Паэтычная прастата, сапраўдны народны характар мастацкіх сродкаў, даходлівасць, блізасць і зразумеласць іх народным масам,—вось характэрныя рысы лірыкі соцыялістычнага рэалізма, у напрамку якога і разгортваецца паэтычная творчасць Я. Купалы апошніх год.

Лірычны рэфрэн (паўтор) у вершы „Вячарынка"—„А гармонік грае, грае" арганічна ўплецены ў агульны радасна-аптымістычны фон, на якім разгорнута паэтам багатая панарама калгаснага радасна-шчаслівага заможнага жыцця. Адзін з тыповых эпізодаў, апаэтызаваны ў гэтым вершы паэтам з жыцця калгаснікаў калгаса „Чырвоны араты", мае абагульняючае значэнне для ўсяго калгаснага заможнага жыцця.

Скварка плавае ў місе,
У шаўку скача Марыся,
А гармонія грае, грае.

Калгаснікі, як з радасцю заяўляе паэт, зараз „паны сабе самі", бо „час мінуў лапцюжны", яны жывуць і працуюць радасна, добра ведаючы, што ўся іх праца, усе іх здабыткі пойдуць:

Не так, як калісьці:
Не для панскай долі,
Для сваёй карысці.

*(Калгасу „Чырвоны баец" 1934 г.)*

Калгаснікі самі зараз заяўляюць:

Жывём заможнікамі ў самай справе,
Як трэслі, не трасём рыззём.

*(„Госці“—1935)*

## VI

Асобна неабходна выдзяліць такі верш Я. Купалы, як „Хлопчык і лётчык“ (1935). У ім дадзена паэтам надзвычай удалае, глыбока пераканаўчае—адпаведна дзіцячай псіхіцы і свядомасці—увасабленне жаданняў і мар падрастаючага савецкага пакалення. Верш напісаны ў стылі рэвалюцыйнай рамантыкі, у ім у наяўнасці ўдалае спалучэнне рамантычных элементаў з соцыялістычнай рэальнасцю нашых савецкіх будняў. Жаданне сямігадовага савецкага хлопчыка ляцець на самалёце разам з савецкім лётчыкам, пераканаўча гаворыць аб высокім інтэлектуальным развіцці савецкай дзетвары. У ім удала і праўдзіва, з пачуццём мастацкага густу занатавана псіхіка дзяцей, іх здаровыя, натуральныя парыванні да ўзбагачэння сваіх ведаў у галіне навукі і грамадскага жыцця.

Вазьмі-ж мяне, лётчык, хачу я
Пабыць у людзях, паглядзець,
Як месяц на небе начуе,
Як блукае у лесе мядзведзь.

Як свецяцца ночкаю зоры,
А днём не віцаць іх чаму,
Як рэчкі ў далёкія моры
Улетку плывуць і ўзіму.

На моры зірнуць хоць раз вокам,
Як ходзяць па іх караблі,
Ляцеці далёка, высока
Ды так набываць і ў Крамлі.

І там з-пад нябеснае далі
Грымнуць громка ўсімі грудзьмі:
— Дзень добры, таварыш наш Сталін!
Паклон з самалёта прымі!

Пададзены намі ўрывак захапляе перш за ўсё сваёй прастатой, непасрэднасцю і шчырасцю выказаных паэтам дзіцячых мараў, той шчырай і непадкупнай любоўю, якую выяўляе наша савецкая дзетвара да вялікага Сталіна, што сваім мудрым кіраўніцтвам забяспечыў шчаслівае дзяцінства савецкай дзетвары, поўнае задавальненне іх імкненняў да ведаў і інш.

Верш „Хлопчык і лётчык“—адзін з лепшых вершаў савецкай паэзіі на дзіцячую тэматыку: нездарма ён у надзвычай удалым перакладзе М. Галоднага быў надрукаваны,—як і рад іншых цудоўных вершаў Я. Купалы,—на старонках „Праўды“.

Тэма радаснага і шчаслівага жыцця ў краіне соцыялізма, светлых перспектыў, што адчынены перад савецкай моладдзю, якой забяспечаны вольны выбар прафесіі, вольны выбар таго ўчастка працы, на якім кожны малады савецкі патрыёт, адпаведна сваім

здольнасцям, хоча працаваць,—распрацоўваецца паэтам у радзе яго вершаў і асабліва поўна ў вершы—„Сыны“ (1935). Не гледзячы на пэўную шматпланавасць, якая сказываецца ў спалучэнні некалькіх тэматычных ліній, верш гэты прасякнуты здаровым, аптымістычным пачуццём: пачуццём гордасці і радасці паэта за савецкую моладзь, з якой вырастаюць дастойныя сыны соцыялістычнай радзімы.

Лейтматывам гэтага верша з'яўляецца пачуццё бязмежнай адданасці справе рэволюцыі, партыі, яе мудрым кіраўнікам, соцыялістычнай радзіме, жаданне жыць і тварыць на яе карысць, на карысць савецкага народа, жаданне сваё асабістае жыццё падпарадкаваць справе ўмацавання магутнасці краіны соцыялізма, павялічэння яе багаццяў, паскарэння тэмпаў яе росквіту, справе набыцця славы сваёй радзіме—бацькаўшчыне працоўных усяго свету.

Кампазіцыйна верш пабудаваны ў форме дыялага паміж бацькам, які „большэвік быў... пролетарый родам“ з сваімі шасцю сынамі, з увядзеннем у яго асобных аўтарскіх рэмарак.

Размова бацькі большэвіка з дастойнымі сваёй соцыялістычнай краіны сынамі, кожны з якіх стараўся быць „свайго бацькі годным“, дана паэтам ва ўрачыста-паважнай абстаноўцы.

Адказы сыноў на бацькава пытанне: „Кім з іх кожны быці хоча?“ выражаюць сабой тыя светлыя перспектывы, што адчынены перад савецкай моладдзю, тыя невычарпальныя магчымасці, што забяспечаны ёй партыяй большэвікоў.

Жаданне першага сына быць ударнікам соцыялістычных палёў, каб рунелі на іх „у рост чалавека жыта і пшаніца“, каб набываць славу сваёй соцыялістычнай радзіме.

Жаданне другога—быць ударнікам соцыялістычнай прамысловасці, „будаваць... домны і мартэны“.

Жаданне трэцяга з іх—быць адважным савецкім мараплаваццелям, даследчыкам суровай Арктыкі, жаданне плаваць там, дзе „Чэлюскін горда плаваў“.

Жаданне чацвертага—„лятаць птушкаю крылатай, мераць неба ў самалеце“, г. зн. быць „лётчыкам-героем“.

Жаданне пятага—быць „байцом чырвоным... сцерагчы граніцы—межы Краіны Советаў“.

> Каб наш вораг пры нападзе
> Сустрэнуў магілу.
> Байцом буду, каб з мяне быў
> Рад сам Варашылаў.

І, нарэшце, жаданне шостага з гэтай арлінай сям'і—„складаць песні... пра вялікія падзеі сталінскай эпохі“ пра тое, „як будуем, як ствараем казачнае шчасце“. Усе яны, гэтыя жаданні гордых маладых сокалаў савецкай зямлі, пературвараюцца ў рэчаіснасць.

Мары, надзеі, імкненні і жаданні, выказаныя „з гонарам юначым“ сынамі, дастойнымі свайго бацькі-большэвіка—гэта мастацка-абагулены сінтэз здаровых парыванняў, жаданняў, імкненняў і надзей нашай савецкай моладзі, гэта—мастацка абагулены, соцыяльнатыпізаваны вопыт і практыка гераічнай савецкай моладзі.

Фармальна верш нагадвае фальклорную песенна-казачную ліра-эпічную паэму, у якой лірычны элемент прысутнічае, як бы нябачна і падпарадкаваны эпічнай суровай форме дыялага, пада-нага ў некалькі ўзнятым і патэтычным плане. У моўных сродках верша мы маем шмат народных выразаў, словаўтварэнняў, увесь дыялаг вытрыманы паэтам у народна-казачным стылі.

Гераізм, мужнасць, бязмежная адданасць партыі і соцыялістыч-най радзіме адважнай каманды чэлюскінцаў і герояў-лётчыкаў знайшлі сваё мастацкае ўвасабленне ў вершы „То не шум баравы“ (1934), характэрнай кампазіцыйнай асаблівасцю якога з'яўляецца прыём псіхалагічнага паралелізма, што надае вершу рысы фаль-клорнай гераічнай песні.

То не шум баравы
Шуміць небывала
Ад марэй да Масквы
Нечуванай хваляй,—

Гэта едзе экспрэс
З чэлюскінскай славы,—
Яму сонца і лес
І людзі б'юць брава.

## VII

З фармальных асаблівасцей лірыкі Я. Купалы неабходна асаб-ліва вылучыць пейзажныя замалёўкі. Пейзаж не носіць самамэт-нага характару, не падаецца ў якасці механічных прывескаў, а заўсёды адыгрывае ў вершах паэта значную соцыяльна-мастацкую функцыю. У абрысоўцы прыроды Я. Купала выступае як паэт-рэаліст. Пейзаж заўсёды ў лірыцы паэта дапаўняе і выпук-ляе сабой асноўны ідэалагічны лейтматыў, акцэнтуючы на вяду-чай ідэі твора.

Мастацкі абрысаваўшы, напрыклад, перамогу партызанскага атрада („Партызаны“—1935), разграміўшага „табун варожы“, Я. Купала дапаўняе пачуццё радасці барацьбітоў-партызан пейзаж-ным малюнкам, напісаным у суровых, але разам з тым ігрыва-вясё-лых танах і рэалістычных фарбах:

Задымелі агні на начлезе,
Зашумеў кучаравы бярэзнік.

Калі-ж партызаны, з-за подлай здрады, панеслі часовае пара-жэнне, паэт, адпаведна настрою чытача, малюе трагічны пейзажны фон змрочнымі мастацкімі фарбамі.

Пайшоў гул па зялёных імшарах,
Паплылі небам чорныя хмары.

... А на вогнішчы попелу горсці,
А ў тым попеле чорныя косці...
Выюць ночкай ваўкі на палянцы
Касцякі даядаючы здрайцы.

І далей, як бы ў якасці пейзажнага кантраста, заключныя радкі верша гучаць ужо аптымістычна-радаснымі танамі, бліскацяць светлымі паэтычнымі фарбамі:

Як прышла перамога над панам,—
Ішлі з песняй з лясоў партызаны,—
Расступаліся долы і горы,
Шляхі значылі сонца і зоры.

Акрамя таго, у вершы шмат лексічнага матэрыялу, узятага паэтам з невычарпальных крыніц вуснай народнай творчасці.

Замест сумна-жаласлівых, трагічных малюнкаў пейзажа, якія бывалі пераважна ў дарэвалюцыйнай лірыцы Купалы: вузкіх, голых і неўрадлівых сялянскіх палосак, крыжоў і курганаў, што хавалі пад сабой адвечную сялянскую галечу і жабрацтва, сіратліва адзінокіх, пахіліўшыхся вербаў і бярозаў і іх сумна-трагічных спеваў, містычна-сімвалічнага гоману беларускіх лясоў, нізенькіх, курных, падслепаватых сялянскіх хацёнак ды інш.,—зараз пейзажы Я. Купалы набываюць зусім іншы каларыт, афарбаваны ў новыя свежыя паэтычныя фарбы, апрацаваны новымі адменнымі слоўна-мастацкімі сродкамі, у якіх мы яскрава адчуваем дынамічную пульсацыю совецкай рэчаіснасці.

Узяць хоць бы прыклад з невялічкай паэмы Купалы „Барысаў":

Сваёй вадою поіць шчыра *
Калгасы, фабрыкі, заводы,
І на плячах нясе між віраў
Плыты і лайбы й параходы...

Альбо вось падобны прыклад з верша „Украіна":

Па Дняпру тваім свабодным
У самае мора
Плывуць горда параходы,
Не знаючы гора.

Лірыка Я. Купалы аздоблена прыгожымі, радасна бадзёрымі малюнкамі калгасна-індустрыяльнага пейзажа, які арганічна ўнітаваны паэтам у прыгожыя панарамы вясковай рэчаіснасці. Так, напрыклад, у вершы „Госці" (1935), Купала, перадаючы сваю шчырую сяброўскую размову з прыйшоўшымі да паэта ў госці калгаснікамі, робіць наступнае лірычнае адступленне, у якім элементы тыповага вясковага пейзажа дадзены ў арганічнай злітасці з новым індустрыяльна-калгасным пейзажам:

І селі мы з павагай дзіўнай нейкай
За стол, дзе быў пірог, і лён, і мёд...
*За хатай заліваўся салавейка*
*Гудзеў над хатай гулкі самалёт.*

Такое-ж арганічнае перапляценне тыпова вясковага і індустрыяльнага пейзажа мы маем і ў вершы „Для тых, якіх люблю" (1934), у якім паэт гаворыць аб сваёй любві да работніцы і калгасніцы.

*Ці пабачу я комін фабрычны,*
*Ці пабачу палетак пшанічны,*
Лятуць думкі, заводзяць тульню
Ды ўсё з тымі, якіх я люблю.

* рака Бярова.

Узоры лірычнага пейзажа, замалёўка прыродных з'яў нязменна падаюцца паэтам не самадаўлеюча, не адарвана ад фактаў рэчаіснасці, а ў шчыльнай сувязі з імі. Восень, з яе асаблівасцямі, напрыклад, паэт успрымае як часціну года, што прынесла з сабой багаты ўраджай, шчодрую адплату калгаснікам і калгасніцам за іх сумленную і адданую працу. Калі раней, у дарэвалюцыйнай лірыцы, вобраз восені амаль заўсёды і нязменна падаваўся паэтам у змрочных фарбах, калі раней восень навявала паэту сумныя матывы аб халоднай і галоднай зіме для селяніна, як напрыклад:

Не гудзі так, восень,
Непагодай дзікай;
Не крываўся, сэрца,
З нядолі вялікай.

Цяжэнька марнеці
У жыцця паняверцы;
І восень на свеце
І восень на сэрцы.

(З „Васенніх напеваў")

то зараз у Купалы „па-новаму восень палеткі абходзіць, глядзіць гаспадарскі"...

Закаўкалі каўкі на ўзвышшы.
Затрэслася лісце ў гушчарні
Цапы на сяле заглушыўшы,
Бушуе камбайн-малатарня.

(„Новая восень"—1930)

Пейзажныя малюнкі напоўнены бадзёрасцю, гучаць радасна-мажорнай інтанацыяй, у іх адчуваецца паўната радаснага і шчаслівага жыцця („Сосны"—1935 г., „Новая восень"—1930г., „Госці"—1935 г., „Дарогі"—1935 г.)

У іх мы не заўважым ужо той сумнай жальбы і роспачы, тых мінорных таноў пры абмалёўцы беларускіх пейзажаў, што так яскрава адчуваліся ў дарэвалюцыйнай лірыцы паэта і што было абумоўлена тагочаснай рэчаіснасцю.

Мы не знаходзім зараз у Я. Купалы і тых нотак нацыяналістычнага апявання і любавання самабытнасцю беларускіх вясковых пейзажаў, што мела месца ў творчасці паэта часоў царскай рэакцыі, калі сам паэт знаходзіўся пад уплывам буржуазна-ліберальнай, нацыяналістычнай ідэалогіі. Зараз для Я. Купалы і беларускія „сосны выносныя, гордыя сосны", і сосны, што ўзвышаюцца сваімі гордымі верхавінамі „у сцюжнай Карэліі", і сосны, што „ахуталі крымскія горы", і „сосны далёкія", і „блізкія сосны" аднолькава:

Сэрцу вы любыя
З вёснаў да вёснаў.

(„Сосны")

Для Я. Купалы зараз нават сонца свеціць па-інакшаму, саграючы яго цяплынёй радаснага і шчаслівага жыцця савецкага народа. Вобраз сонца выклікае ў паэта цэлы скутак сумных успамінаў

з свайго бяэрадаснага дарэвалюцыйнага жыцця, у якім маладосць паэта „згібла ў самым расцвеце“, у якім ён „радасці не ведаў“. Раскрыўшы ў скупых, лаканічных радках верша „Сонцу“ (1935) змрочныя старонкі сваёй аўтабіяграфіі ў часы царызма, агорнутай у лірычна-мінорныя таны адчування горычы і жалю аб згубленых днях маладосці, Я. Купала здолеў намаляваць нам тыповыя ўмовы дарэвалюцыйнай рэчаіснасці, якая дзесяткамі, сотнямі і тысячамі душыла таленты працоўнага народа.

Прачуваны, з адценнямі жалю аб марна пражытай, згубленай маладосці, зварот паэта да сонца:

> Ой, ты, маё сонца,
> Як-жа свеціш ясна,
> Дзе-ж было раней ты,
> Як я быў няшчасны?

заключае ў сабе адначасова і бязмежную радасць паэта аб зной дзенай ім новай, шчаслівай і радаснай творчай маладосці.

Пейзажныя малюнкі адыгрываюць у лірыцы Я. Купалы зусім адменную, ў параўнанні з яго дарэвалюцыйнай лірыкай, функцыю: у сучасным, нават вясковым, пейзажы паэт адчувае подых індустрыяльна-калгаснага росту і магутнасці краіны. Па шасейных дарогах, што бягуць праз „поле ўраджайнае“, праз „тарфяныя балоты“, „праз пушчы векавечныя“, „машыны коцяцца“, „грузавікі з таварамі бягуць ва ўсе стораны“. Яны калгасную совецкую вёску „злучылі з гулкім горадам“, яны—паказчык нашага росту, паказчык сцірання грані між вёскай і горадам—усё гэта выражана паэтам ярка, сакавіта, вобразна, рэалістычна.

## VIII

Новая тэматыка соцыялістычнай рэчаіснасці патрабавала новых, адменных, свежых паэтычных фарбаў, новых слоўна-мастацкіх сродкаў выражэння ідэйнага зместу твораў. І гэтыя новыя фармальныя паэтычныя сродкі былі адшуканы паэтам у невычарпальных крыніцах вуснай народнай творчасці, у фальклоры. Праўда, гэта не адразу ўдалося паэту, тут быў прамежак „ужывання“ паэта ў фальклорную, цудоўную і маляўнічую вобразнасць, быў час паступовага авалодвання ім гэтай вобразнасцю, які адзначаецца слядамі пэўнай дэкларацыйнасці і нават некаторай рытарычнасці.

Вобразная структура і архітэктоніка новых вершаў Купалы адзначаецца і новымі мастацкімі сродкамі, яго мастацкая палітра бліскаціць багаццем рознакаляровых паэтычных фарбаў, адлюстроўваючых прыгожае і радаснае жыццё ў краіне соцыялізма. Я. Купала ўмее напоўніць кожны мастацкі вобраз, кожны паэтычны штрых, кожную мастацкую дэталь глыбокай думкай, пададзенай у рэалістычным плане.

Усё гэта, будучы ўвасобленым у поўнакроўныя, праўдзівыя, хвалюючыя мастацкія вобразы, у народныя слоўна мастацкія сродкі, будучы арганічна спалучаным і знітаваным становіць сабою асноўную адзнаку творчага метада Я. Купала нашага часу—метада

соцыялістычнага рэалізма. Элементы рэволюцыйнай рамантыкі выступаюць у лірыцы Я. Купалы, як прыватнае праяўленне соцыялістычнага рэалізма.

Чым характарызуецца лірыка Я. Купалы зборніка „Песня будаўніцтву"? Галоўнейшымі адзнакамі яе з'яўляюцца: рэволюцыйная мэтанакіраванасць, аптымістычнае сцвярджэнне радаснага і шчаслівага жыцця ў краіне советаў, соцыялістычнай праўды пролетарыята і яго партыі, савецкага гуманізма, савецкага патрыятызма, пролетарскі інтэрнацыяналізм, моцная вера ў гістарычную няўхільнасць сусветнай пролетарскай рэволюцыі.

Яго паэзія, створаная на аснове выказвання перадавых дум і ідэй савецкага народа, разгорнута на аснове ўдалага выкарыстання паэтам рэволюцыйна-дэмакратычных фальклорных элементаў паэзіі мінулага: песенна-мяккай задушэўнай лірычнасці, аптымістычнай упэўненасці, гераічнай мужнасці і інш.

Я. Купала добра разумее высокую функцыянальную ролю савецкай паўнакроўнай паэзіі ў справе мабілізацыі дум і пачуццяў савецкага народу на барацьбу за соцыялізм. У гэтым сэнсе характэрным з'яўляюцца такія вершы Я. Купалы, як, напр., „Маладым паэтам" (1931), „Якубу Коласу" (1932), „Трэба нам песень" (1934) і інш.

Бадзёра і радасна адчуваючы, што перад савецкімі пісьменнікамі партыяй „светлы шлях адкрыты", Я. Купала глыбока-ўсхвалявана, эмацыянальна заяўляе:

Час перажываем
Казачна-цудоўны...
Давай жа пець песні
З усёй грудзі поўнай!

А ў вершы „Трэба нам песень" Я. Купала разгортвае цэлую праграму практычных дзеянняў савецкіх паэтаў, цэлую праграму патрабаванняў, якія ставіць савецкі народ перад сваімі паэтамі. Песні савецкіх паэтаў павінны быць даходчывымі і зразумелымі народным масам, павінны быць любімы імі. Песні гэтыя павінны гучэць моцна, „як гром пяруновы", яны павінны быць бурнымі, „як тыя паводкі ў прадвесні", каб рэха гэтых песень „распаляла паўстанняў пажары ў нашых скаваных братоў зарубежных".

І паэт не толькі кідае агнявыя, шчырыя заклікі да савецкіх паэтаў даць краіне менавіта такія патрэбныя ёй песні, але ён глыбока пераконаны ў тым, што гэтыя песні вартыя нашай соцыялістычнай эпохі, песні і „тоны, што песням дае кампазітар—Сталін магутны і наша партыя" будуць складзены вялікай арміяй савецкіх паэтму пры актыўным і дзейным удзеле самога Я. Купалы.

*М. Нечкіна*

# А. Н. РАДЗІШЧЭЎ

*(Да 135-годдзя з дня смерці)*

Александр Нікалаевіч Радзішчэў нарадзіўся ў 1749 годзе, памёр у 1802 годзе, быў сучаснікам буржуазна-французскай рэволюцыі канца XVIII стагоддзя і выразнікам яе ідэй.

Радзішчэў смела кінуў выклік змрочнай прыгонніцкай Расіі Екацярыны II. Ён паказаў нічым не прыкрытае гнуснае самадзяржаўе, прыгоннае права, ён патрабаваў знішчыць і тое і другое.

„Самадзяржаўства ёсць найсупярэчны чалавечай прыродзе стан“, —пісаў ён.

У шырокавядомай кнізе „Падарожжа з Пецярбурга ў Маскву“ стаіць эпіграф: „Чудище обло, озорно, огромно, стозевно и лаяй“; пад „чудищем“ мелася на ўвазе самадзяржаўе.

„Скажы-ж у чыёй галаве можа быць больш недарэчнасцей, калі не ў царскай?“—іранічна пытаўся ён у чытача ў сваім „Падарожжы“.

Кніга Радзішчэва выйшла ў свет у 1790 г. без імя аўтара на вокладцы. Прачытаўшы кнігу, Екацярына II жахнулася. Яна нарабіла ў ёй заўваг, у якіх выказвала сваё абурэнне, і зрабіла вывад, што аўтар яе—„бунтаўшчык, горшы за Пугачова“, што Радзішчэў з'яўляецца тым чалавекам, каго „французская рэволюцыя вырашыла сабе вызначыць у Расіі першым змагаром“. Яна загадала адшукаць і арыштаваць аўтара. Радзішчэў трапіў на допыт у рукі найбольш спрактыкаванага екацярынінскага ката—Шэшкоўскага, таго самага, які некалькі год таму назад катаваў на допытах Пугачова. Радзішчэў быў асуджаны на смерць. Екацярына, баючыся еўрапейскай грамадскай думкі, замяніла яму кару смерцю дзесяцігадовай ссылкай у глухі сібірскі Ілімскі астрог. Радзішчэў прабыў у ссылцы шэсць год—хадайніцтва ўплывовага вяльможы Варанцова і смерць самой Екацярыны дапамаглі скараціць тэрмін.

Твор Радзішчэва меў вялікую выкрываючую сілу. Карціны прыгонніцкага прыгнечання сялянства, намаляваныя ім, назаўсёды ўвайшлі ў скарб рускай рэволюцыйнай літаратуры. Гэты скарб—неадлучная частка дарагой нам культурнай спадчыны.

Павольна ехаў падарожнік-аўтар ад станцыі да станцыі. Адна за другой разгортваліся перад ім карціны жахлівага жабрацтва і прыдушанасці прыгоннага сялянства.

У раздзеле, прысвечаным прыпынку ў Пешках, Радзішчэў апісаў сялянскую хату: „Чатыры сцяны да паловы пакрытыя, так як і ўся столь, сажаю; на падлозе ў шчылінах на вяршок, самае мала, нарасло гразі; печ без коміна, але лепшая абарона ад холаду, і дым кожную раніцу, і зімой і ўлетку, напаўняе хату; рамы, у якіх нацягнуты пузыр цмянае ў поўдзень прапускаў святло; гаршкі два або тры (шчаслівая хата, калі ў адным з іх штодня ёсць пустыя шчі!); дзеравяная чашка і кружкі талеркамі называемыя; стол сякераю зляпаны, які скобляць скрабком у святы. Карыта карміць свіней або цялят, будзе есці, спаць з імі разам, глытаючы паветра, у якім запаленая свечка нібы ў тумане або за заслонаю здаецца“.

Радзішчэў спыняецца з жахам на гэтай карціне. Вось аказваецца на якім жабрацтве, на якім разбурэнні расце „дабрабыт“ царскай імперыі прыгоннікаў. „Вось у чым лічыцца, па справядлівасці, вытока дзяржаўнага багацця, сілы, магутнасці, але тут-жа відаць слабасць, нястачы і злоўжыванні законаў і іх шорсткі, так сказаць, бок. Тут відаць і сквапнасць дваранства, грабеж, мучыцельства наша і безабаронны жабрацтва стан. Звяры сквапныя, п'яўкі ненасытныя, што селяніну мы пакідаем: тое чаго адабраць не можам, паветра. Так, адно паветра. Адбіраем часам у яго не токмо дар зямлі, хлеб і ваду, але і самае святло.—Закон забараняе адабраць у яго жыццё... Памешчык у дачыненні да селяніна ёсць законадаўца, суддзя, выканаўца свайго рашэння, і паводле жадання свайго, ісцец, супроць якога адказчык нічога сказаць не смее. Гэта лёс закаванага ў кайданы, гэта лёс зняволенага ў смярдзючай цямніцы, гэта лёс вала ў ярме“...

Убачыўшы ў Радзішчэва цукар, сялянка паслала да яго свайго маленькага сына „папрасіць кавалачак гэтай баярскай ежы“.

„— Чаму баярская?—сказаў я ёй, даючы дзіцяці рэштку майго цукру:—няўжо і ты яго ўжываць не можаш?

— Таму і баярская, што нам купіць яго няма за што, а баяры яго ўжываюць, таму што не самі здабываюць грошы. Праўда, што і бурмістр наш, калі ездзіць у Маскву, то яго купляе, але таксама на нашы слёзы.

— Хіба ты думаеш, што той, хто ўжывае цукар, прымушае вас плакаць?

— Не ўсе: але ўсе паны дваране. Ці не слёзы ты сялян сваіх п'еш, калі яны ядуць такі-ж хлеб, як і мы?

Кажучы гэта паказвала яна мне з чаго быў іх хлеб. Ён быў з трох чвэртак мякіны і адной часткі нясеянай мукі“.

Нельга забыць карцін прадажы прыгонных з малатка, намаляваных Радзішчэвым у „Падарожжы“. Ён апісаў, як памешчык, які ні то прайграў у карты, ні то пражыў свой маёнтак, з малатка прадаваў сваіх сялян. Цэлую сялянскую сям'ю прадавалі з публічнага торгу, як прадаюць жывёлу, мэблю, карэту... Пры стуку малатка назначалі цану за 75-гадовага старога, які калісьці вынес свайго раненага пана на сваіх плячах у часе „франкфурцкай баталіі“, і за сялянку—карміліцу маладога пана і за 18-гадовую „маладзіцу“, якая згвалчана панам і трымае на руках яго дзіця...

Як чума праходзіў па прыгонных вёсках рэкруцкі набор у цар-

скую армію. Селяніна ў часы Радзішчэва забіралі ў царскую армію пажыццёва, толькі пазней тэрмін абавязковай ваеннай службы быў „скарочаны“ да 25 гадоў. У арміі за найменшую непаслухмянасць каралі самымі жорсткімі цялеснымі карамі. Салдата, які ў чым-небудзь правінаваціўся, білі да смерці, праганяючы „скрозь строй“, даючы па некалькі тысяч удараў шпіцрутэнамі. Толькі цяжкая хвароба і глыбокая старасць варочалі прыгоннага салдата ў родную вёску.

У раздзеле „Гародня“ Радзішчэў расказвае пра рэкруцкі набор.

„Уязджаючы ў гэтую вёску, не вершаваным спяваннем слых мой быў уражаны, але пранізваючым сэрцы лямантам жонак, дзяцей і старых.

Падышоўшы да натоўпу, даведаўся я, што рэкруцкі набор быў прычынаю рыдання і слёз многіх прысутных. З многіх вёсак казённых і памешчыцкіх сышліся накіроўваемыя на аддачу рэкруты“.

Радзішчэў палае рэвалюцыйнай любоўю да сваёй прыніжанай, прыгнечанай і зняважанай прыгоннікамі радзімы і да рускага народа. Пад пяром Радзішчэва ўпершыню ў літаратуры ўзнікае сапраўдная характарыстыка рускага народа, напісаная з вялікай любоўю і вялікай павагаю. Працавітасць, пачуццё вартасці, гонар, незалежны розум, гатоўнасць да паўстання і гераічнай барацьбы супроць прыгнятальнікаў—усё гэта было адзначана Радзішчэвым у рускім народзе. Гэтая старана твораў Радзішчэва недастаткова спыняла на сабе ўвагу гісторыкаў. Упершыню ў рускай літаратуры рускі працоўны чалавек—прыгонны селянін—быў паказаны не як скаціна, не як бясславесны раб, а як чалавек ва ўсёй сваёй чалавечай вартасці.

Радзішчэў апісвае сцэну сустрэчы з сялянскай дзяўчынай Анютай, якая расказвае яму пра сваё каханне і мяркуемае замужаства. Радзішчэва дзівіць глыбіня і сіла яе пачуцця. Даведаўшыся, што хутка мае быць вяселле, ён хоча даць дзяўчыне грошай, але ні яна, ні жаніх, ні маці не бяруць падарунка з гордым усведамленнем сваёй вартасці: „У мяне, пан, ёсць дзве рукі, я імі гаспадарку і наладжу“ адказвае яму жаніх. „Я не мог надзівіцца, знайшоўшы столькі благародства ў думках вясковых жыхароў“,—піша Радзішчэў.

Народ—вырашальная сіла гісторыі,—гэта пераконанне пранізвае спачатку да канца ўсё „Падарожжа“ Радзішчэва. „Бурлак, які ідзе ў карчму, павесіўшы галаву і варочаецца акрываўлены ад аплявух, многае можа вырашыць дагэтуль нявырашанае ў гісторыі расійскай“,—гаворыць Радзішчэў.

Радзішчэў узнімаецца да простага заклiку да паўстання. „О! калі-б рабы цяжкімі кайданамі ацяжаныя, раз'ятраныя ў роспачы сваёй, разбілі жалезам, якое волі іхнай перашкаджае, галовы нашы, галовы бесчалавечных сваіх паноў, і кроўю нашаю палілі нівы свае! Што-б тым страціла дзяржава? Хутка-б з іхнага асяроддзя з'явіліся вялікія мужы для заступлення збітага племя; але былі-б яны іншых пра сябе думак і права прыгнечання пазбаўлены.—Не мара гэта, але пагляд пранізвае густую заслону часу, якая ад вачэй нашых будучыню хавае; я бачу скрозь цэлае стагоддзе“.

„Падарожжа“, як і іншыя творы Радзішчэва, поўнакроўнае, аптымістычнае, прасякнутае найглыбейшым гуманізмам. „Тут я задрыжэў у ярасці чалавецтва“,—пісаў Радзішчэў пра здзекі прыгоннікаў над працоўным народам. „Благароднае“ расійскае дваранства толькі што запісала ў сваёй „жалаванай грамаце“ (1785 год), што дваранін—чалавек „асаблівай пароды“, як Радзішчэў угневана адкінуў гэта, супроцьставіўшы гэтаму палажэнню сваё—пра роўнасць ад прыроды ўсіх людзей. „Чалавек родзіцца на свет роўным ва ўсім другому“,—гаварыў Радзішчэў. У сваёй шыракавядомай одзе „Вольнасць“ Радзішчэў клікаў на барацьбу з самадзяржаўем:

„О, дар небес благословенный,
Источник всех великих дел,
„О, вольность, вольность, дар бесценный!
Позволь, чтоб раб тебя воспел“.

Так пачынае Радзішчэў сваю оду. Ён высока цэніць Крамвеля за пакаранне смерцю англійскага караля Карла I і апявае пераможнага воіна Вашынгтона. „Твой вождь—свобода, Вашингтон!“—ускліквае ён.

У першапачатковым тэксце Пушкінскага вершу „Я памятник себе воздвиг нерукотворный“ стаялі словы: ...„вслед Радищеву восславил я свободу“. Пушкін лічыў сябе вольналюбівым паслядоўнікам Радзішчэва.

Лозунгі Радзішчэва натхнялі і дзекабрыстаў. Пушкінская „Вёска“, якая хадзіла па руках сярод членаў тайных таварыстваў дзекабрыстаў, была напоўнена радзішчэўскімі матывамі:

„Здесь барство дикое, без чувства, без закона,
Присвоило себе насильственной лозой
И труд, и собственность, и время земледельца.
С поникшею главой, покорствуя бичам,
Здесь рабство тощее влачится по браздам
Неумолимого владельца“.

Так пісаў Пушкін у „Вёсцы“.

Высока цаніў Радзішчэва Герцэн: „...Ён спачувае пакутам мас,—пісаў Герцэн пра Радзішчэва (IX т. 271).—Ён гаворыць з возчыкамі, дваровымі, з рэкрутамі і ва ўсякім слове яго мы знаходзім з нянавісцю да гвалту гучны пратэст супроць прыгоннага стану... І што-б ён ні пісаў, так і чуеш знаёмую струну, якую мы прывыклі чуць і ў першых вершах Пушкіна, і ў „Думах“ Рылеева, і ва ўласным нашым сэрцы“.

Ленін указваў, што мы павінны ганарыцца Радзішчэвым. „Ці чужое нам, вялікарускім свядомым пралетарыям, пачуццё нацыянальнай гордасці?“—пытаўся Ленін у сваёй працы „Пра нацыянальную гордасць вялікарусаў“,—і адказваў: „Вядома, не!.. Нам балючэй за ўсё бачыць і адчуваць, якім гвалтам прыгнёту і здзекам падвяргаюць нашу прыгожую радзіму царскія каты, дваране і капіталісты. Мы ганарымся тым, што гэтыя гвалты выклікалі адпор з нашага асяроддзя, з асяроддзя велікарусаў, што гэта асяроддзе высунула Радзішчэва, дзекабрыстаў...“

Адразу пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі Ленін узняў пытанне аб пастаноўцы помніка Радзішчэву. У XXI „Ленінскім зборніку“ апублікавана перапіска Леніна па гэтаму пытанню.

Нельга свядома ўдзельнічаць у будаўніцтве нашага радаснага соцыялістычнага сёння, не ведаючы змрочнага мінулага прыгнечанай царскай Расіі. Трэба ўсвядоміць сабе, што станавіла сабою панаванне расійскіх памешчыкаў.

Нашы калгаснікі збіраюць багаты ўраджай з замацаванай за імі навечна зямлі. Кіпіць творчая стаханаўская праца на нашых фабрыках і заводах. Радасна ідуць у армію прызыўнікі, гордыя гонарам, што выпаў на іхную долю, аберагаць спакой совецкай радзімы. Усё больш заможным робіцца жыццё працоўных самай вольнай, самай дэмакратычнай у свеце краіны—адзінай краіны, дзе знішчана эксплаатацыя чалавека чалавекам. Совецкі народ—наследнік багатай культуры чалавецтва, моцны веданнем свайго цяжкога мінулага, узбагачаны вопытам шматвяковай барацьбы,—шануе памяць рэволюцыянера і патрыёта А. Н. Радзішчэва.

# ХРОНІКА

## У ПРАЎЛЕННІ ССПБ

15-га верасня адбылося пасяджэнне праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР разам з пісьменніцкім актывам. Праўленне абмеркавала план работы Усесаюзнага праўлення ССП да канца бягучага года, выпрацавала план работы ССПБ на верасень-кастрычнік, а таксама разглядзела пытанне прыёму ў саюз.

Асноўнай задачай, якую ставіць план работы ССПБ, з'яўляецца падрыхтоўка да XX гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, падрыхтоўка да выбараў у Вярхоўны Совет, падрыхтоўка да 750 гадавіны з дня смерці вялікага грузінскага паэта Шота Руставелі.

Праўленне ССПБ вырашыла арганізаваць гурткі па вывучэнню палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР, а таксама па вывучэнню гісторыі СССР.

Зацверджан таксама склад габінэта маладога аўтара, які павінен арганізаваць літаратурную вучобу маладых пісьменнікаў.

◆ **На пасяджэнні паэтычнай секцыі ССПБ** абгаварвалася пытанне аб выданні юбілейнага зборніка Шота Руставелі. Вырашана выдаць у скарочаным выглядзе, у перакладзе на беларускую мову, геніяльную паэму вялікага грузінскага паэта „Віцязь у тыгравай скуры“.

Над перакладамі працуюць: Я. Купала, Я. Колас, П. Броўка, М. Хведаровіч, П. Глебка, А. Куляшоў і інш. Да паэмы будзе напісана прадмова.

Другім пытаннем на паэтычнай секцыі абмяркоўваўся план работы секцыі. Выпрацаван план паэтычнай секцыі на ўвесь час аж да 1938 г. За гэты час будуць разгледжаны і абгавораны новыя паэмы і зборнікі т. Броўкі, Глебкі, Гурло, Жаўрука і інш.

## ЮБІЛЕЙНЫЯ ФАЛЬКЛОРНЫЯ ВЫДАННІ

Да XX гадавіны Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі Дзяржлітвыдат выпускае шэраг паэтычных зборнікаў, прысвечаных фальклору і творчасці народных песняроў народаў СССР.

У серыі фальклорных выданняў найбольш манументальным укладам у юбілейную літаратуру з'явяцца выданні „Ленін і Сталін у паэзіі народаў СССР“ і „Сталінская Канстытуцыя ў паэзіі народаў СССР“.

Першае выданне ўключае два тамы вершаў, песень, народных казак і легенд, у якіх знайшлі паэтычнае выражэнне пачуцці совецкага народа да геніяльных правадыроў рэволюцыі.

Другая кніга „Сталінская Канстытуцыя ў паэзіі народаў СССР“ складаецца з 40 друкаваных аркушаў, у ёй сабраны паэтычныя водгукі на Сталінскую Канстытуцыю больш 25 народаў, пачынаючы ад народаў з тысячагадавой культурай і канчаючы народамі, якія атрымалі пісьменнасць толькі ў выніку Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі.

У бліжэйшыя часы з кніг юбілейнай фальклорнай серыі выходзяць у свет „Песні казахскіх акынаў аб Сталіне“. Кніга ўключае лепшыя песні казахскага народа, прысвечаныя правадыру народаў Сталіну.

## ВЫДАННІ „СОВЕТСКИЙ ПИСАТЕЛЬ“

◆ У выданні „Советский писатель“ выходзіць зборнік твораў Б. Лаўрэнева, прысвечаны да 25-гадавога юбілея яго літаратурнай дзейнасці. У зборнік увайшлі наступныя творы: „Ветер“, „Рассказ о простой вещи“, „Сорок первый“, „Седьмой спутник“, „Срочный фрахт“, „Разлом“ і друг.

◆ **„Добердо“ — раман Матэ Залка** аб імперыялістычнай вайне 1914-17 г. Галоўная дзейнічаючая асоба рамана—афіцэр аўстра-венгерска-італьянскага фронту, які прайшоў шлях ад добрасумленнага заблуканвя, ад „патрыятызма“ да свядомасці неабходнасці ператварэння імперыялістычнай вайны ў грамадзянскую.

## ЧУВАШСКІЯ КАЗКІ

У Дзяржлітвыдаце выйшлі ў свет чувашскія казкі—зборнік чувашскага фальклора, які пачалі запісваць толькі ў

XIX ст. У зборнік увайшлі казкі: міфалагічныя і валшэбныя, сатырычныя і бытавыя, гераічныя і авантурныя, казкі аб жывёлах і інш. Шэраг казак паказвае новае жыццё чувашоў і барацьбу за будаўніцтва соцыялізма! У гэтых казках знайшлі свой адбітак: шчаслівае жыццё народа ў соцыялістычнай краіне, любоў да радзімы і да большэвіцкай партыі, да вялікіх правадыроў Леніна і Сталіна.

## „ВІЦЯЗЬ У ТЫГРАВАЙ СКУРЫ"

Геніяльны твор грузінскага і сусветнага эпаса паэма Шота Руставелі „Віцязь у тыгравай скуры" выходзіць у выдавецтве Акадэміі навук СССР.

Выхад паэмы прысвечаны да 750-годдзя з дня нараджэння паэта, якое будзе святкавацца 11 снежня 1937 года.

„Віцязь у тыгравай скуры" ўбачыць свет у новым перакладзе паэта Петрэнка і грузінскага паэта Чычынадзе. Па сваіх мастацкіх якасцях і па набліжэнню да арыгінала гэты пераклад стаіць куды вышэй старога пераклада Бальманта.

Выданне праілюстравана мастаком С. Кобуладзе У гэтых ілюстрацыях шмат фантазіі, сілы і прыгажосці. Вельмі добра ўдаўся мастаку вобраз магутнага і гордага Тарыэля і дзівоснай прыгажуні Нестан Дарэджан.

Грузінская дэкаратыўнае мастацтва лягло ў аснову афармлення кнігі, выкананага мастаком Э. Керфельдам.

Выданне паэмы рэдагуе акадэмік І. А. Орбелі. Мастацкую рэдакцыю ажыццяўляе І. І. Лазарэўскі.

Кніга змяшчае каля 40 друкаваных аркушаў. Шрыфт, якім яна набрана, выкананы спецыяльна для гэтага выдання. Майстэрні Дзяржзнака працуюць над выкананнем ілюстрацый; папяровыя фабрыкі—над адмысловай паперай, на якой яны будуць надрукаваны.

## НАРОДНЫЯ ПЕСНІ ГРУЗІІ

Друкуецца зборнік народных песень Грузіі. Ен змяшчае да 400 запісаў, зробленых у Кахетыі, Імерэтыі, Мегрэліі, Сванетыі і іншых раёнах. Зборнік выйдзе на грузінскай, рускай і французскіх мовах. Спецыяльны раздзел прысвячаецца народным песням аб Леніне і Сталіне.

У зборнік уключаны артыкулы, каментарыі і слоўнік музычных тэрмінаў, а таксама весткі аб асобных народных музычных інструментах і фотаздымках.

## ІЛЬЯ ЧАЎЧАВАДЗЕ Ў ПЕРАКЛАДЗЕ НА РУСКУЮ МОВУ

Саюз совецкіх пісьменнікаў Грузіі арганізаваў абгаварэнне перакладаў вершаў Чаўчавадзе на рускай мове. Паэт Б. Серабракоў прачытаў у сваім перакладзе лірычныя творы І. Чаўчавадзе. У абгаварэнні перакладаў прынялі ўдзел С. Чыкавані, В. Гапрындашвілі, І. Цулукідзе.

◆ **Грузінскі філіял Акадэміі навук СССР** выпускае зборнік этнаграфічных артыкулаў Важа Пшавела. Артыкулы гэтыя даюць велізарны матэрыял для азнаямлення з жыццём і бытам пшава-хеўсурцаў у дарэволюцыйныя часы. Раскіданыя па розных часопісах, этнаграфічныя артыкулы Важа Пшавела ўпершыню сабраны і сістэматызаваны ў гэтым зборніку.

## ДУМЫ АБ РАДЗІМЕ І ПРАВАДЫРУ

Так называецца новая паэма Сулеймана Стальскага, прысвечаная ім XX-годдзю Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі. У гэтай паэме Сулейман Стальскі ў форме гутаркі з сваім другам расказвае аб цяжкім мінулым і светлым сучасным сваёй радзімы, і аб натхніцелю перамог правадыру сусветнага пролетарыята любімым Сталіне.

◆ **Маладыя кампазітары Дагестана** пераклалі на музыку „Слова аб Сталінскай Канстытуцыі" Сулеймана Стальскага.

## НОВЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ Ў АРХІВЕ А. М. ГОРКАГА

Архіў А. М. Горкага папоўніўся новымі каштоўнымі рукапіснымі матэрыяламі вялікага пісьменніка.

Рэдакцыя „Гісторыі грамадзянскай вайны" перадала рукапісы розных аўтароў з папраўкамі Аляксея Максімавіча. З 523 старонак рукапіснага матэрыялу не знойдзецца амаль ні адной, на якай не было-б вельмі ўважлівай папраўкі М. Горкага.

Е. П. Пешкова перадала зусім невядомы да гэтага часу аўтограф „У людзях". Трэба думаць, што гэта чарнавыя накіды першага варыянта „У людзях". З другіх рукапісаў Горкага, атрыманых ад Е. П. Пешковай, трэба адзначыць—„О вреде философии", „Савва Морозов", „Сторож", „Два купца", „Рассказ о беззаветной любви".

У матэрыялах Е. П. Пешковай маецца таксама ўрывак з „Мацвея Кажамякіна", які падрыхтаваны па ўказанню М. Горкага для дзіцячай хрэстаматыі.

Значна папоўніўся архіў матэрыяламі

камісіі па паляпшэнню быта вучоных, старшынёй якой быў А. М. Горкі.

Архіў атрымаў за апошні час звыш 100 пісем Горкага да розных асоб.

## ЗБОРНІК АРТЫКУЛАЎ АБ ГОРКІМ

Зборнік артыкулаў А. В. Луначарскага аб вялікім мастаку пролетарыята А. М.Горкім выходзіць у Дзяржлітвыдаце.

У зборнік увайшлі 14 найбольш цікавых артыкулаў, напісаных у перыяд 1905, 1906 і 1927—1933 г. г.

## РУКАПІСЫ ВЯДОМАГА УКРАІНСКАГА ПІСЬМЕННІКА І ВУЧОНАГА ІВАНА ФРАНКО

Пры разборцы фондаў аддзела рукапісаў Акадэміі навук УССР знойдзены цікавыя рукапісы—аўтографы вядомага украінскага пісьменніка і вучонага Івана Франко. Рукапісы ўяўляюць сабою кароткія рэфераты літаратуразнаўчых работ пісьменніка, напісаных для кіеўскага архіелагічнага з'езда 1899 года. Да рэфератаў прыкладзена пісьмо да кіеўскага прафесара гісторыка Антановіча, якому Франко паведамляе аб забароне яму паліцэйскімі ўладамі ўезда ў Кіеў для ўдзела ў работах з'езда.

◆ **15 верасня адбылося 30 год з дня смерці вядомага украінскага драматурга Карпенка-Карага.**

У рукапісным аддзеле бібліятэкі Акадэміі навук УССР захоўваюцца вельмі цікавыя пісьмы, напісанныя Карпенка-Карым у 1880—1897 гг.

У калектыўным пісьме, якое адрасавана Кастамараву, шэраг пісьменнікаў разам з Карпенка-Карым звяртаюцца з просьбаю ўзняць у Пецербурзе пытанне аб адмене цэнзурнага статута, які забараняў друкаванне кніг на украінскай мове.

◆ **Выдавецтва „Молодий більшовик,,** выпусціла ў перакладзе на украінскую мову аднатомнік Н. Остроўскага, у якім змешчаны раманы „Як гартавалася сталь„ і „Народжаныя бурай". Таксама выпушчаны выбраныя апавяданні М. Горкага, „Белеет парус одинокий" В. Катаева, „На востоке" П. Паўленка і „Мне двадцать лет" маладога парыжскага рабочага камсамольца Рожэ Беланжэ.

---

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*

РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, К. Чорны.*

АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 68. Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

# ЗМЕСТ


| | Стар. |
|---|---|
| **А. С. Пушкін**—Каменны госць | 3 |
| **Влад. Кандрацеия**—Каля граніцы (апавяданне) | 28 |
| **Абульгасем Лахуці**—Ленін жыве! (верш) | 36 |
| **Тыцыян Табідзе**—Эрнсту Тэльману (верш) | 39 |
| **Н. Шпанаў**—Дванаццаць гадзін вайны (раман, канец) | 41 |
| **А. Жаўрук**—Крывёю сэрца (паэма) | 99 |
| **Усевалод Краўчанка**—Дружба давяла (апавяданне) | 110 |
| **А. Гурло**—Ленінград (верш) | 114 |
| **М. Цэлеш**—Абавязак (апавяданне) | 116 |
| **Ів. Грамовіч**—Шавец Вульф (апавяданне) | 120 |
| **Я. Непачаловіч**—Стары садоўнік (верш) | 127 |
| **П. Рунец**—Расплата (апавяданне) | 128 |
| **Р. Ляпіч**—Песні будаўніцтва (артыкул) | 132 |
| **М. Нечкіна**—А. Н. Радзішчэў | 165 |
| **Хроніка** | 170 |

